АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа
Рэспубліканская тапанімічная камісія

# БЕЛАРУСКАЯ АНАМАСТЫКА




МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1992

ББК 81.2 Бел
Б 43

Исследуются причины и закономерности возникновения собственных географических названий и личных имен, особенности их функционирования в языке и обществе, а также лексико-семантический состав, нормы правописания.

Рассчитано на языковедов, историков, этнографов, географов, краеведов.

Рэдактар
д-р філал. навук В. П. Лемцюгова

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук |М. С. Васілеўскі|
канд. філал. навук В. Л. Вярэніч

Б $\frac{4602020100—129}{М 316(03)—92}$ 105—92

ISBN 5-343-00951-4

# ПРАДМОВА

Беларуская анамастыка перажывае перыяд прыкметнага ажыўлення. У кантэксце адраджэння беларускай моўнай і культурнай спадчыны вывучэнне ўласных імён мае важнае значэнне не толькі для мовазнаўчай навукі, але і для шырокага пазнання матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Ніводнае ўласнае імя не бывае выпадковым. Імёны дае грамадства. І, як любая грамадская з'ява, яны абумоўлены гістарычна, прадыктаваны ўзроўнем сацыяльна-эканамічнага развіцця сваіх творцаў.

Уключаныя ў зборнік працы закліканы садзейнічаць далейшаму развіццю і пашырэнню ў рэспубліцы так неабходных сёння анамастычных ведаў. У іх даследуюцца заканамернасці станаўлення і асаблівасці функцыянавання ўласных імён у мове і грамадстве, даецца параўнальная характарыстыка беларускіх і нямецкіх назваў паселішчаў. Аўтараў цікавіць лексіка-семантычны склад і словаўтваральная структура асабовых імён і геаграфічных назваў, іх паходжанне і правапісныя нормы. Асаблівая ўвага надаецца мікратапонімам (уласным назвам дробных геаграфічных аб'ектаў). Апошнім часам гэты своеасаблівы, бясцэнны ў навуковых адносінах, матэрыял надзвычай хутка і бясследна знікае ў выніку культурнай дзейнасці чалавека, таму ёсць пільная патрэба ў яго хутчэйшай фіксацыі і апрацоўцы.

Артыкулы напісаны на зусім новым, мясцовым і гістарычным матэрыяле і месцяць у сабе свежую, арыгінальную інфармацыю, новую навукова-метадычную думку. Упершыню трапілі ў навуковы зварот асабовыя імёны яўрэйскага насельніцтва Беларусі, імёны і прозвішчы паўночна-заходняй часткі Віцебшчыны, назвы асоб паводле месца жыхарства з Гомельшчыны, шматлікія назвы геаграфічных аб'ектаў зоны Беларускага Палесся і іншых раёнаў Беларусі.

Большасць артыкулаў пабудавана ў форме навуковага даследавання, але прызначаны яны для шырокага чытача, для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднай мовы і роднага краю.

Далейшае паглыбленне даследаванняў па анамастыцы не-

магчыма без выяўлення новага матэрыялу. Таму ў зборніку адводзіцца значнае месца мікратапанімічным матэрыялам, якія запісаны ад мясцовых старажылаў у самых розных кутках Беларусі.

Завяршае зборнік бібліяграфічны паказальнік новых анамастычных прац 1985—1991 гг., якія ў той ці іншай ступені датычаць беларускай анамастыкі.

# АНТРАПАНІМІЯ

*М. Н. КРЫУКО*

## З АНТРАПАНІМІІ ДЗІСЕНШЧЫНЫ

### ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫ АСПЕКТ

Сучасная беларуская антрапанімія, асабліва размоўна-бытавая і эмацыянальна-ацэначная, яшчэ мала сабрана і апісана. У найбольшай ступені гэта датычыцца Віцебшчыны, дзе пакуль што гэта работа толькі распачалася. А між тым мясцовая антрапанімія ўяўляе цікавасць не толькі для анамастыкі, але і для іншых галін мовазнаўства. Яна змяшчае каштоўны лексічны матэрыял, мае свае характэрныя словаўтваральныя сродкі і можа быць выкарыстана ў нарматыўных мэтах.

У гэтым артыкуле робіцца спроба паказаць сучасны іменаслоў Дзісеншчыны. Пад Дзісеншчынай разумеецца тэрыторыя ў пойме ракі Дзісны, прыкладна ад вусця р. Мнюты да вусця р. Дзісны (дзе Дзісна ўпадае ў Заходнюю Дзвіну). Дадзены рэгіён ахоплівае частку Шаркоўшчынскага, Глыбоцкага і амаль дзве трэція тэрыторыі Міёрскага раёна, яго паўднёва-ўсходнюю частку і прыкладна супадае з тэрыторыяй былога Дзісенскага раёна, які існаваў да 1959 г. Аўтар абмежаваўся аналізам уласных імён, пашыраных на тэрыторыі калгаса «Іскра» Міёрскага раёна, які прымыкае да горада Дзісна з паўднёвага ўсходу і аб'ядноўвае 16 вёсак (Атрошкава, Бухалава, Восцевічы, Загор'е, Залонецкія, Кавалёва, Калатушкава, Копцева II, Лонка I і II, Мазурына, Манякова, Мікалаева, Млынарова, Падзвінне, Янкава).

Аналізуюцца мужчынскія і жаночыя імёны. Спачатку даецца афіцыйная форма імя, затым у гняздзе прыводзяцца тыя яго варыянты, што ўжываюцца ў мясцовых гаворках. У дужках пасля афіцыйнай формы імя і пасля кожнай размоўна-бытавой яго формы паказана колькасць носьбітаў кожнага варыянта імені, як шырока яно ўжываецца, узрост носьбітаў. Калі афіцыйная форма не выкарыстоўваецца ў іменаслоўнай практыцы, яна заключаецца ў квадратныя дужкі. Прыводзяцца таксама мясцовыя памяншальна-ласкальныя формы імён і формы ветлівага звароту.

## Мужчынскія імёны

АДА'М. Імя было пашырана на гэтай тэрыторыі раней. Цяпер слова *ада́м* і яго вытворныя *ада́мачка, ада́мка, адаме́ц, адаме́нь* ужываюцца ў якасці агульнага слова і маюць значэнне 'скупы і люты чалавек'.

[АКІ'М]. *Якім.* Імя было пашырана раней (18 разоў у 7 н. п.). Цяпер яно поўнасцю выйшла з ужытку. Ад формы *Якім,* паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, утвараліся і знаходзіліся ва ўжытку наступныя памянш.-ласк. варыянты: *Якімачка, Якімка, Якімчык.*

АЛЕ'Г (2 разы ў 2 н. п., узрост 44 і 20 гадоў). Памянш.-ласк.: *Але́шачка, Але́шак, Але́шка.*

[АЛЯКСА'НДР]. На месцы бытуе ў формах: *Алякса́ндра* (13 разоў у 10 н. п., узрост ад 67 да 87 гадоў), *Са́нька* (1 раз, узрост 57 гадоў), *Са́ша* (12 разоў у 8 н. п., узрост ад 3 да 25 гадоў), *Са́шка* (3 разы ў 3 н. п., узрост 43, 20 і 13 гадоў), *Шу́рка* (10 разоў у 7 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 60 гадоў, астатнія — ад 25 да 44 гадоў), *Шурэ́цкі* (так зрэдку жартам могуць назваць любога чалавека па імені Шурка). Памянш.-ласк.: *Алякса́ндрачка, Са́нечка, Са́шанька, Са́шачка, Шу́ранька, Шу́рачка.* Формы ветлівага звароту: *Са́ша, Шу́ра.*

АЛЯКСЕ'Й (3 разы ў 3 н. п., узрост 65, 74 і 81 год), *Аляксе́йка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 59 і 58 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да *Аляксей), А́лік* (4 разы ў 3 н. п., узрост ад 15 да 40 гадоў), *Лёшка* (5 разоў у 3 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 70 гадоў, астатнія — ад 45 да 60 гадоў). Памянш.-ласк.: *Аляксе́йка, Аляксе́енька, Аляксе́ечка, А́лічак, А́лічка, А́лька, А́ля, Лёшанька, Лёшачка.* Форма ветлівага звароту: *Лёша.*

АМО'С (1 раз, узрост 78 гадоў). Памянш.-ласк.: *Амо́сачка, Амо́сечка, Амо́ска.*

[АНА'НІЙ]. На месцы бытуе ў форме *Ана́нька* (1 раз, узрост 62 гады). Памянш.-ласк.: *Ана́нечка.*

[АНАТО'ЛІЙ]. На месцы бытуе ў формах: *То́лік* (7 разоў у 5 н. п., узрост ад 25 да 50 гадоў), *То́ля* (11 разоў у 5 н. п., узрост ад 25 да 50 гадоў). Памянш.-ласк.: *То́ленька, То́лечак, То́лечка, То́лька.* Форма ветлівага звароту: *То́ля.*

АНДРЭ'Й (8 разоў у 7 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 60 да 97 гадоў і 4 чалавекі — ад 45 да 60 гадоў). Памянш.-ласк.: *Андрэ́енька, Андрэ́ечка, Андрэ́йка, Андрэ́йчык, Андру́ша, Андру́шанька, Андру́шачка, Андру́шка.*

АНІ'С (1 раз, узрост 84 гады). Памянш.-ласк.: *Ані́сачка, Ані́ска.*

АНТО'Н (3 разы ў 3 н. п., узрост 79, 78 і 69 гадоў), *Анто́сь*

(1 раз, узрост 78 гадоў). Памянш.-ласк.: *Антóначка, Антóнечка, Антóнька, Антóсенька, Антóсечка, Антóська.*

АПАНА′С (2 разы ў 2 н. п., узрост 86 і 73 гады). Памянш.-ласк.: *Апанáсачка, Апанáсечка, Апанáска, Апанáська.*

[АРКА′ДЗІЙ]. На месцы бытуе ў формах: *Аркáдзя* (7 разоў у 3 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 60 да 90 гадоў і 3 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў), *Аркадзю́к* (1 раз, узрост 58 гадоў). Памянш.-ласк.: *Аркáдзенька, Аркáдзечка, Аркáдзька, Аркадзючóк.*

[АРСЕ′НІЙ]. На месцы бытуе ў формах: *Арсéнь* (1 раз, узрост 48 гадоў), *А′рся* (1 раз, узрост 59 гадоў). Памянш.-ласк.: *Арсéнечка, Арсéнька, А′рсенька, А′рсечка.*

АРЦЁМ (1 раз, узрост 83 гады). Памянш.-ласк.: *Арцёманька, Арцёмачка, Арцёмка.*

АЎДЗЕ′Й. Імя зрэдку ўжывалася раней у гэтай мясцовасці. Памянш.-ласк.: *Аўдзéенька, Аўдзéечка, Аўдзéйка.*

БАРЫ′С. Імя зрэдку ўжывалася раней. Памянш.-ласк.: *Бары́санька, Бары́сачка, Бары́ска, Бóра, Бóранька, Бóрачка, Бóрка.*

[БРАНІСЛА′Ў]. *Брóнька* (1 раз, узрост 67 гадоў). Памянш.-ласк.: *Брóнечка.*

[ВАДЗІ′М]. На месцы бытуе ў формах: *Вáдзік* (2 разы ў 2 н. п., узрост 52 і 42 гады), *Вáдзя* (1 раз, узрост 46 гадоў; а таксама як форма ветлівага звароту да *Вадзік*). Памянш.-ласк.: *Вáдзенька, Вáдзечка, Вáдзічак, Вáдзька, Вадзю́к, Вадзю́та, Вадзю́танька, Вадзю́тачка, Вадзю́тка, Вадзючóк.*

[ВАЛЕ′НЦІЙ]. *Валéнцік* (1 раз, узрост 51 год). Памянш.-ласк.: *Валéнцічак.*

[ВАЛЕ′РЫЙ]. На месцы бытуе ў формах: *Валéрак* (4 разы ў 3 н. п., узрост ад 13 да 26 гадоў), *Валéрка* (6 разоў у 5 н. п., узрост ад 14 да 30 гадоў). Памянш.-ласк.: *Валéрачак, Валéрачка.* Форма ветлівага звароту: *Валéра.*

[ВАЛЯНЦІ′Н]. *Вáлік* (5 разоў у 3 н. п., узрост ад 7 да 25 гадоў). Памянш.-ласк.: *Вáлічак, Вáлічка, Вáля.*

[ВАСІ′ЛІЙ]. На месцы бытуе ў формах: *Васíль* (9 разоў у 8 н. п., з іх 8 чалавек — ад 65 да 95 гадоў і 1 чалавек — 31 год), *Васілёк* (2 разы ў 2 н. п., узрост 84 і 65 гадоў), *Вáська* (23 разы ў 9 н. п., з іх 13 чалавек — ад 50 да 70 гадоў і 10 чалавек — ад 25 да 50 гадоў), *Васю́та* (1 раз, узрост 78 гадоў), *Базы́ль* (1 раз, узрост 85 гадоў). Памянш.-ласк.: *Васíленька, Васíлечка, Васíлька, Васілёк, Васілёчак, Вáсенька, Вáсечка, Васю́танька, Васю́тачка, Васю́тка, Базы́ленька, Базы́лечка, Базылёк, Базылёчак, Базы́лька.* Форма ветлівага звароту: *Вáся.*

[ВА′ЦЛАЎ]. *Вáцак* (1 раз, узрост 58 гадоў). Памянш.-ласк.: *Вáцачак, Вáцачка.*

[ВЕНЬЯМІ′Н]. *Вéнька* (1 раз, узрост 30 гадоў), *Вíнька* (2

разы ў 2 н. п., узрост 59 і 42 гады). Памянш.-ласк.: *Ве́нечка, Ві́нечка.* Формы ветлівага звароту: *Ве́ня, Ві́ня.*

[ВІКЕ'НЦІЙ]. Імя было пашырана ў мінулым. На прылягаючай да калгаса тэрыторыі і ў г. Дзісна ёсць невялікая колькасць носьбітаў імя Вікенцій, якое бытуе ў форме *Віке́нця.* Памянш.-ласк.: *Віке́нценька, Віке́нцечка, Віке́нцік.*

[ВІ'КТАР]. На месцы бытуе ў формах: *Ві́кцік* (1 раз, узрост 34 гады), *Ві́цька* (17 разоў у 9 н. п., з іх 6 чалавек — ад 50 да 65 гадоў, 8 чалавек — ад 25 да 50 гадоў і 3 чалавекі — ад 15 да 25 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ві́кцічак, Ві́кцічка, Ві́ценька, Ві́цечка, Віцёк, Віцёчак, Віцю́к, Віцю́чак, Віцючо́к.* Форма ветлівага звароту: *Ві́ця.*

[ВІТА'ЛІЙ]. *Віта́лька, Віта́ля* (1 раз, узрост 19 гадоў). Памянш.-ласк.: *Віта́ленька, Віта́лечка, Віта́лік, Віта́лічак.*

ГАЎРЫ'ЛА. Носьбітаў гэтага імені ў дадзенай мясцовасці няма і ніхто не памятае, каб у недалёкім мінулым каго-небудзь называлі Гаўрылам. Жыве слова ў гаворках толькі як агульнае імя і мае значэнне 'дурань, бесталковы; разява'. Мясцовыя варыянты гэтага імя: *Гаўры́лачка, Гаўры́лка.*

Г'ВІДО'Н. Гэта імя раней ужывалася тут зрэдку. Цяпер поўнасцю выйшла з ужытку. Магчымыя мясцовыя варыянты: *Г'відо́начка, Г'відо́нечка, Г'відо́нчык, Г'відо́нька.*

[ГЕНА'ДЗІЙ]. *Г'е́нька* (20 разоў у 14 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 55 да 70 гадоў, 6 чалавек — ад 40 да 50 гадоў і 11 чалавек — ад 25 да 40 гадоў). Памянш.-ласк.: *Г'е́нечка, Г'яню́сенька, Г'яню́сечка, Г'яню́сь, Г'яню́ська, Г'енюсёк, Г'енюсёчак, Г'яня́ш* (мясц. вымаўленне — *Г'іня́ш*), *Г'яня́шанька* (мясц. *Г'іня́шанька*), *Г'яня́шачка* (мясц. *Г'іня́шачка*), *Г'яня́шка* (мясц. *Г'іня́шка*), *Г'еняшо́к, Г'еняшо́чак.* Форма ветлівага звароту: *Г'е́ня.*

[ГЕО'РГІЙ]. Усіх, хто афіцыйна запісаны Георгій, завуць звычайна *Ю'рка* або *Жо́ржык. Жо́ржык* (2 разы ў 2 н. п., узрост 48 і 47 гадоў), *Ю'рка* (4 разы ў 4 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 65 гадоў, 2 чалавекі — ад 30 да 50 гадоў і 1 чалавек — 33 гады), *Юрэ́цкі* (так зрэдку жартам могуць назваць любога чалавека па імені Юрка). Памянш.-ласк.: *Жо́ржанька, Жо́ржачка, Жо́ржычак, Ю'рачка.* Форма ветлівага звароту: *Ю'ра.*

ГЕРА'СІМ. На аналізуемай тэрыторыі імя цяпер не ўжываецца. У мінулым было пашырана. У суседнім калгасе гэта імя зараз носіць адзін 29-гадовы чалавек, якога звычайна клічуць *Г'е́рка, Г'е́ра.* Памянш.-ласк.: *Г'е́ранька, Г'е́рачка.* Магчымы наступныя варыянты імені Герасім у гэтых гаворках: *Гера́сімка, Гера́сімачка, Герасімо́к, Герасімо́чак.*

ДАВЫ'Д (1 раз, узрост 78 гадоў). Памянш.-ласк.: *Давы́дачка, Давы́дзька, Давы́дка.*

ДАНА'Т (2 разы ў 2 н. п., узрост 84 і 77 гадоў). Памянш.-ласк.: *Данатачка, Данатка, Донечка, Донька, Доня.*

[ДАНІ'Л]. На месцы бытуе ў формах: *Даніла* (1 раз, узрост 87 гадоў), *Данік* (1 раз, узрост 24 гады). Памянш.-ласк.: *Данілачка, Данілка, Данечка, Данічак, Данька, Даня, Ніля, Ніленька, Нілечка.*

ДАРАФЕ'Й. Было ўжывальнае раней у форме *Дарахвей* і — рэдка — *Дарафей.* Памянш.-ласк.: *Дарахвеечка, Дарафеечка, Дарахвейка, Дарафейка.*

[ДЗМІ'ТРЫЙ]. На месцы бытуе ў формах: *Дзімітра* (2 разы ў 2 н. п., узрост 82 і 57 гадоў), *Дзімка* (6 разоў у 5 н. п., з іх 1 чалавек — 48 гадоў і 5 чалавек — ад 8 да 25 гадоў), *Дзёмка* (1 раз, узрост 58 гадоў), *Змітрок* (гэта форма была пашырана раней, імя насіла 10 чалавек у 6 н. п.), *Мітра* (1 раз, узрост 79 гадоў), *Міцька* (4 разы ў 3 н. п., з іх 2 чалавекі — ад 65 да 70 гадоў, 1 чалавек — звыш 30 гадоў і 1 чалавек — 14 гадоў). Памянш.-ласк.: *Дзімітранька, Дзімітрачка, Дзіманька, Дзімачка, Дзімок, Дзімочак, Дзімук, Дзімучак, Дзімуленька, Дзімулечка, Дзімулька, Дзімуля, Дзёманька, Дзёмачка, Дзямеш, Дземяшок, Дземяшочак, Змітрачка, Змітрачок, Мітранька, Мітрачка, Міценька, Міцечка, Міцюк.* Формы ветлівага звароту: *Дзіма, Дзёма, Міця.*

ДЗЯМ'Я'Н (3 разы ў 1 н. п., узрост 68, 59 і 46 гадоў). Памянш.-ласк.: *Дзям'янанька, Дзям'яначка, Дзям'янка, Дзям'янчык, Дзямеш, Дземяшок, Дземяшочак.*

ДЗЯНІ'С. Імя выйшла з ужытку. Памянш.-ласк.: *Дзянісачка, Дзяніска.*

[ЕРАМЕ'Й]. *Ярома* (1 раз, узрост 36 гадоў). Памянш.-ласк.: *Яромачка, Яромка, Ярамчык.*

ЕЎДАКІ'М (3 разы ў 1 н. п., узрост 84, 79 і 66 гадоў). Памянш.-ласк.: *Еўдакімачка, Еўдакімка, Еўдакімчык, Аўдакімачка, Аўдакімка, Аўдакімчык.*

ЕЎСЦІГНЕ'Й. Раней зрэдку ўжывалася ў гэтых гаворках. Цяпер поўнасцю выйшла з ужытку. Памянш.-ласк.: *Еўсцігнеечка, Еўсцігнейка, Аўсцігнеечка, Аўсцігнейка.*

[ЗАХА'РЫЙ]. *Захарка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 96 і 76 гадоў). Памянш.-ласк.: *Захарачка.*

ІВА'Н (34 разы ў 11 н. п., з іх 16 чалавек — ад 75 да 95 гадоў, 11 чалавек — ад 60 да 75 гадоў, 2 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў, 2 чалавекі — ад 40 да 45 гадоў, 2 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў і 1 чалавек — 15 гадоў), *Іванька* (4 разы ў 3 н. п., з іх 2 чалавекі— ад 45 да 55 гадоў, 1 чалавек — 36 гадоў і1 чалавек — 15 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да *Іван*), *Іванюшка* (1 раз, узрост 78 гадоў), *Я'нак* (3 разы ў 3 н. п., узрост 72, 71 і 57 гадоў). Памянш.-ласк.: *Іванечка, Іванюшачка, Я'начак, Я'начка.*

І'ГАР (1 раз, узрост 15 гадоў). Памянш.-ласк.: *І'гарка, Ігарóк, Ігарóчак.*

[ІГНА'ЦІЙ]. На месцы бытуе ў формах: *Ігнáт* (1 раз, узрост 65 гадоў), *Іґнáля* (2 разы ў 2 н. п., узрост 77 і 74 гады). Памянш.-ласк.: *Ігнáтачка, Ігнáтка, Ігнатóк, Ігнатóчак, Іґнáленька, Іґнáлечка, Іґналёк, Іґналёчак, Іґнáлька.*

[ІЛЬЯ']. *Іллюк* (4 разы ў 4 н. п., з іх 1 чалавек — 85 гадоў, 2 чалавекі — па 67 гадоў і 1 чалавек — 48 гадоў). Памянш.-ласк.: *Іллючóк, Іллючóчак.*

[ІО'СІФ]. На месцы бытуе ў формах: *Ёсіп* (2 разы ў 2 н. п., узрост 86 і 82 гады), *Ёска* (1 раз, узрост 82 гады), *О'ська* і (радзей) *Ёська* (1 раз, узрост 57 гадоў), *Юзю́к* (1 раз, узрост 58 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ёсіпачка, Ёсіпка, Ёсачка, Ёсечка, О'сенька, О'сечка, Ёсенька, Юзючóк.*

[КАНДРА'ЦІЙ]. *Кандрáт* (2 разы ў 2 н. п., узрост 87 і 84 гады). Памянш.-ласк.: *Кандрáтачка, Кандрáтка, Кандрáцетка, Кандрáцечка.*

[КАНСТАНЦІ'Н]. На месцы бытуе ў формах: *Кастáн* (1 раз, узрост 77 гадоў), *Касцю́к* (1 раз, узрост 87 гадоў), *Кóсця* (2 разы ў 2 н. п., узрост 48 і 50 гадоў). Памянш.-ласк.: *Кастáначка, Кастáнечка, Кастанóк, Кастанóчак, Кастáнька, Касцючóк, Кóсценька, Кóсцечка, Кóсцік.*

КА'РЛА. Вельмі рэдка ўжывалася раней. Памянш.-ласк.: *Кáрлачка.*

[КАРП]. *Кáрпа* (1 раз, узрост 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Кáрпачка, Карпусёк, Карпусёчак, Карпýсь, Карпýська.*

[КІРЫ'Л]. *Куры́ла* (7 разоў у 5 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 84 да 88 гадоў, 2 чалавекі — ад 70 да 75 гадоў і 1 чалавек — 54 гады). Памянш.-ласк.: *Куры́лачка, Куры́лка, Кірýха, Кірýша, Кірýшачка, Кірýшка.*

КУЗЬМА' (2 разы ў 2 н. п., узрост 86 і 84 гады). Памянш.-ласк.: *Кузьмóк, Кузьмóчак.*

[ЛАЎРЭ'НЦІЙ]. *Лаўры́н* (1 раз, узрост 88 гадоў). Памянш.-ласк.: *Лаўры́начка, Лаўры́нка.*

[ЛЕАНІ'Д]. *Лёнька* (18 разоў у 11 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 54 да 60 гадоў, 8 чалавек — ад 30 да 50 гадоў, 6 чалавек — ад 20 да 30 гадоў і 1 чалавек — 14 гадоў), *Лявóн* (ужываецца часам з пагардлівым або жартаўлівым адценнем пры звароце да тых, каго звычайна завуць Лёнька). Памянш.-ласк.: *Лёнечка, Лявóначка, Лявóнечка, Лявóнка, Лявóнька.* Форма ветлівага звароту: *Лёня.*

[ЛЕЎ]. *Лёўка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 58 і 30 гадоў). Памянш.-ласк.: *Лёванька, Лёвачка.* Форма ветлівага звароту: *Лёва.*

[ЛУКА′, ЛУК'Я′Н]. *Лукáш* (1 раз, узрост 84 гады). Памянш.-ласк.: *Лукáшанька, Лукáшачка, Лукáшка, Лукашóк.*

ЛЯВО′Н. *Лёнька* (1 раз, узрост 55 гадоў). Памянш.-ласк.: *Лёнечка.* Форма ветлівага звароту: *Лёня.* Лявонам жа, наадварот, завуць зрэдку (з пагардлівым або жартаўлівым адценнем) тых, хто афіцыйна запісаны Леанід, а ў быту да яго звяртаюцца Лёнька.

МАКА′Р. Імя ўжывалася раней (2 чалавекі насілі гэта імя ў 2 н. п.). Памянш.-ласк.: *Макáрачка, Макáрка, Макарóчак.*

МАКСІ′М (1 раз, узрост 76 гадоў). Памянш.-ласк.: *Максíманька, Максíмачка, Максíмка.*

[МАРК]. У форме *Марка* імя ўжывалася зрэдку раней (1 чалавек насіў гэта імя). Памянш.-ласк.: *Мáрачка.*

МАЦВЕ′Й (2 разы ў 2 н. п., узрост 84 гады), *Мацéй* (1 раз, узрост 84 гады). Памянш-ласк.: *Мацвéенька, Мацвéечка, Мацвéйка, Мацéенька, Мацéечка, Мацéйка.*

МІКАЛА′Й (7 разоў у 5 н. п., узрост ад 57 да 83 гадоў), *Мікалýша, Мікалýшка* (1 раз, узрост 68 гадоў), *Мікóла* (4 разы ў 3 н. п., узрост ад 68 да 83 гадоў), *Кóля* (56 разоў у 15 н. п., з іх 4 чалавекі — звыш 60 гадоў, 11 чалавек — ад 50 да 60 гадоў, 24 чалавекі — ад 30 да 50 гадоў, 11 чалавек — ад 15 да 30 гадоў і 6 чалавек — ад 2 да 15 гадоў). Памянш.-ласк.: *Мікалáенька, Мікалáечка, Мікалáйка, Мікалáйчык, Мікалáша, Мікалáшанька, Мікалáшачка, Мікалáшка, Мікалýшанька, Мікалýшачка, Мікóлачка, Мікóлка, Калю́к, Калю́сенька, Калю́сечка, Калюсёк, Калюсёчак, Калю́сь, Калю́ська, Калючóк, Калючóчак, Калю́ша, Калю́шачка, Калю́шка, Калюшóк, Калюшóчак, Кóленька, Кóлечка, Кóлька.*

МІКІ′ТА (5 разоў у 4 н. п., узрост ад 62 да 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Мікíтачка, Мікíтка.*

МІРО′Н (1 раз, узрост 78 гадоў). Памянш.-ласк.: *Мірóначка, Мірóнька.*

МІХАІ′Л (6 разоў у 4 н. п., узрост ад 61 да 87 гадоў), *Міхалю́к* (2 разы ў 2 н. п., узрост 87 і 76 гадоў), *Міша* (2 разы ў 2 н. п., узрост абодвух 57 гадоў, а таксама як форма ветлівага звароту да ўсіх асоб, якіх звычайна завуць Мішка), *Мішка* (16 разоў у 12 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 70 гадоў, 7 чалавек — ад 50 да 70 гадоў, 2 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў, 5 чалавек — ад 30 да 40 гадоў і 1 чалавек — 9 гадоў). Памянш.-ласк.: *Міхаíлачка, Міхаíлка, Міхáлачка, Міхáлка, Міхалючóк, Міш́анька, Мішачка, Мішýк, Мішýленька, Мішýлька, Мішýля.*

[МЯЛЕ′ЦІЙ]. *Мілéцька, Мілéця* (6 разоў у 5 н. п., з іх 2 чалавекі — звыш 60 гадоў і 4 чалавекі — ад 25 да 40 гадоў). Памянш.-ласк.: *Мілéценька, Мілéцечка.*

[МЯФО'ДЗІЙ]. *Міхо́дзька, Міхо́дзя* (1 раз, узрост 39 гадоў). Памянш.-ласк.: *Міхадзю́к, Міхо́дзенька, Міхо́дзечка.*

НАВУ'М (3 разы ў 2 н. п., узрост 86, 84 і 68 гадоў). Памянш.-ласк.: *Наву́мачка, Наву́мка.*

НЕ'СЦЕР (1 раз, узрост 74 гады). Памянш.-ласк.: *Не́сцерачка, Не́сцерка.*

[НІКАДЗІ'М]. *Міхо́дзя, Міко́дзя, Міфо́дзя, Ніко́дзя* (1 раз, узрост 52 гады). Памянш.-ласк.: *Міхадзю́к, Мікадзю́к, Нікадзю́к, Міхо́дзенька, Міко́дзенька, Міфо́дзѐнька, Ніко́дзенька, Міко́дзечка, Міхо́дзечка, Міфо́дзечка, Ніко́дзечка, Міхо́дзька, Міко́дзька, Міфо́дзька, Ніко́дзька.*

[НІКА'НДР]. Ужывалася раней у форме *Ліка́ндра* (1 чалавек). Памянш.-ласк.: *Ліка́ндрачка.*

[НІКАНО'Р]. *Ліканóр* (1 раз, узрост 56 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ліканóрачка, Ліканóрка.*

[НІЛ]. *Мілка, Міле́ця, Міле́цька, Нілка* (1 раз, узрост 60 гадоў). Памянш.-ласк.: *Мілачка, Міле́ценька, Міле́цечка, Нілачка.*

[НІЧЫ'ПАР]. *Мікіпар* (3 разы ў 3 н. п., узрост ад 65 да 90 гадоў). Памянш.-ласк.: *Мікіпарачка, Мікіпарка, Мікіпарчык.*

[ПА'ВЕЛ]. На месцы бытуе ў формах: *Па́ўла* (20 разоў у 11 н. п., з іх 6 чалавек — ад 70 да 85 гадоў, 11 чалавек — ад 50 да 70 гадоў, 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў), *Па́ўлік* (2 разы ў 1 н. п., узрост 44 і 35 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да асоб, якіх завуць Паўла), *Паўлу́ша* (2 разы ў 2 н. п., узрост 53 і 47 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да *Паўла), Па́ўка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 89 гадоў), *Па́шка* (4 разы ў 2 н. п., узрост ад 50 да 60 гадоў). Памянш.-ласк.: *Па́ўлачка, Паўлю́к, Паўлючо́к, Па́ўлічак, Па́ўлічка, Паўлу́шанька, Паўлу́шачка, Паўлу́шка, Па́вачка, Па́шанька, Па́шачка.* Форма ветлівага звароту: *Па́ша.*

ПАНКРА'Т (1 раз, узрост 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Панкра́тачка, Панкра́тка.*

[ПАНЦЯЛЕ'Й]. *Па́нця* (1 раз, узрост 30 гадоў). Памянш.-ласк.: *Па́нцечка, Па́нцік.*

[ПЁТР]. На месцы бытуе ў формах: *Пётра* (2 разы ў 1 н. п., узрост 86 і 68 гадоў), *Петрачо́к* (6 разоў у 4 н. п., узрост ад 55 да 80 гадоў), *Пе́цька* (13 разоў у 9 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 60 да 75 гадоў, 4 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў, 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў і 3 чалавекі — ад 15 да 30 гадоў), *Пятро́к* (10 разоў у 9 н. п., узрост ад 60 да 85 гадоў). Памянш.-ласк.: *Пётрачка, Петрачо́чак, Пе́ценька, Пе́цечка, Пятро́чак, Пятру́ша, Пятру́шанька, Пятру́шачка, Пятру́шка.* Форма ветлівага звароту: *Пе́ця.*

ПІЛІ'П (4 разы ў 3 н. п., узрост: 87, 76, 62 і 43 гады), *Пілю́сь* (1 раз, узрост 86 гадоў). Памянш.-ласк.: *Пілі́пачка, Пілі́пка, Пілі́пчык, Пілю́сечка, Пілюсёк, Пілюсёчак, Пілю́ська.*

ПЛАТО'Н. У суседнім калгасе адно ўжыванне (узрост 57 гадоў). Памянш.-ласк.: *Платóначка, Платóнечка, Платóнька.*

ПРАКО'П. Імя ўжывалася зрэдку раней. Памянш.-ласк.: *Пракóпачка, Пракóпка.*

РАМА'Н (2 разы ў 2 н. п., узрост 87 і 54 гады). Памянш.-ласк.: *Раманéц, Ramáнечка, Ramáнька, Рóмка, Рóмачка.*

[РАСЦІСЛА'Ў]. *Рóсця* (3 разы ў 3 н. п., узрост 42, 20 і 18 гадоў). Памянш.-ласк.: *Рóсценька, Рóсцечка, Рóсцік, Рóсцічак.*

[РЫГО'Р]. На месцы бытуе ў формах: *Грыгóр* (2 разы ў 1 н. п., узрост 99 і 86 гадоў), *Грышачка* (1 раз, узрост 87 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да ўсіх асоб, якіх завуць Грышка), *Грышка* (3 разы ў 3 н. п., узрост 88, 57 і 42 гады). Памянш.-ласк.: *Грыгóрачка, Грыгóрка, Грыгóрчык, Грыгóрчычак, Грышанька, Грышýленька, Грышýлечка, Грышýлька, Грышýля, Грышýта, Грышýтанька, Грышýтачка, Грышýтка.* Форма ветлівага звароту: *Грыша.*

[СІЛЬВЕ'СТР]. *Сілівэ́йстра* (1 раз, узрост 68 гадоў). Памянш.-ласк.: *Сілівэ́йстрачка, Сільвýк, Сільвýта, Сільвýтачка, Сільвýтка, Сільвучóк.*

СЦЯПА'Н (7 разоў у 5 н. п., узрост ад 75 да 90 гадоў), *Сцепанóк* (1 раз, узрост 78 гадоў), *Сцёпка* (2 разы ў 1 н. п., узрост 54 і 42 гады), *Сцяпáнька* (1 раз, узрост 87 гадоў), *Стапáн* (2 разы ў 1 н. п., узрост 62 і 58 гадоў). Памянш.-ласк.: *Сцяпáначка, Сцяпáнечка, Сцяпáнька, Сцепанóчак, Сцёпанька, Сцёпачка, Стапáначка, Стапáнька.* Форма ветлівага звароту: *Сцёпа.*

СЯМЁН (3 разы ў 3 н. п., узрост 78, 76 і 59 гадоў), *Сéнька* (2 разы ў 2 н. п., узрост 48 і 39 гадоў), *Сымóн* (2 разы ў 2 н. п., узрост 87 і 85 гадоў). Памянш.-ласк.: *Сямёнечка, Сямёнька, Сéнечка, Сыманéц, Сымóначка, Сымóнька.* Форма ветлівага звароту: *Сéня.*

СЯРГЕ'Й (24 разы ў 11 н. п., з іх 1 чалавек — 85 гадоў, 3 чалавекі — ад 50 да 70 гадоў, 4 чалавекі — ад 45 да 50 гадоў, 2 чалавекі — звыш 30 гадоў, 1 чалавек — звыш 20 гадоў і 13 чалавек — ад 3 да 15 гадоў). Памянш.-ласк.: *Сяргéенька, Сяргéечка, Сяргéйка, Сярóжанька, Сярóжачка, Сярóжка.* Форма ветлівага звароту: *Сярóжа.*

[УЛАДЗІ'МІР]. *Уладзімір* (3 разы ў 3 н. п., узрост 79, 76 і 63 гады), *Ладзíмір* (тое, што і Уладзімір; бытуе сярод пажылых людзей), *Валóдзька* (30 разоў у 13 н. п., з іх 5 чалавек — ад 60 да 75 гадоў, 6 чалавек — ад 50 да 60 гадоў, 5 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 3 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў, 7 чалавек — ад 15 да 30 гадоў і 4 чалавекі — ад 6 да 15 гадоў), *Вóўка* (6 разоў у 4 н. п., узрост ад 15 да 35 гадоў), *Лáдзька* (1 раз, узрост 82 гады). Памянш.-ласк.: *Уладзíмірачка, Уладзíмірка, Ладзíмірачка, Ладзі-*

*мірка, Валоdзенька, Валоdзечка, Вованька, Вовачка, Ладзенька, Ладзечка.* Формы ветлівага звароту: *Валодзя, Вова, Ладзя.*

[УЛА'С]. *Айлас* (1 раз, узрост 86 гадоў). Памянш.-ласк.: *Айласачка, Айласка.*

[УСЕ'ВАЛАД]. *Сейка* (1 раз, узрост 30 гадоў). Памянш.-ласк. :*Севанька, Севачка, Севік, Севічак, Сявок, Сявочак.* Форма ветлівага звароту: *Сева.*

ФАДЗЕ'Й (1 раз у 1 н. п., узрост 49 гадоў). Гэтага ж чалавека яшчэ завуць: *Вадзім, Вадзік, Вадзя.* Памянш.-ласк.: *Фадзеенька, Фадзеечка, Фадзейка, Вадзенька, Вадзечка, Вадзічак, Вадзька, Вадзюк, Вадзюта, Вадзютанька, Вадзютачка, Вадзютка, Вадзючок.*

[ФАМА']. На месцы бытуе ў формах: *Тумаш* (1 раз, узрост 85 гадоў), *Фомка* (1 раз, узрост 50 гадоў). Памянш.-ласк.: *Тумашка, Тумашок, Тумашочак, Фамок, Фамочак, Фомачка.* Форма ветлівага звароту: *Фома.*

[ФЕАФА'Н]. *Фанька* (1 раз, узрост 34 гады). Памянш.-ласк.: *Фанечка.* Форма ветлівага звароту: *Фаня.*

[ФЁДАР]. На месцы бытуе ў формах: *Федар* (1 раз, узрост 62 гады; форма ўжываецца рэдка), *Федзька* (4 разы ў 3 н. п., з іх 2 чалавекі — звыш 65 гадоў, 1 чалавек — 49 гадоў і 1 чалавек — 8 гадоў), *Федзя* (8 разоў у 7 н. п., узрост ад 30 да 45 гадоў), *Хведар* (3 разы ў 3 н. п., узрост 84, 76 і 62 гады). Памянш.-ласк.: *Федарачка, Федарка, Федзенька, Федзечка, Фядос, Фядосачка, Фядусенька, Фядусечка, Фядусь, Фядуська, Фядуся, Хведарачка, Хведарка.* У мове старых людзей усе прыведзеныя вышэй варыянты імя Фёдар вымаўляюцца са спалучэннем гукаў *хв: Хведзька, Хведзя, Хведзенька* і г. д.

[ФЛОР]. *Хлёрка* (1 раз, узрост 76 гадоў). Памянш.-ласк.: *Хлёранька, Хлёрачка.*

[ФО'ЦІЙ]. *Фоця* (1 раз, узрост 85 гадоў). Памянш.-ласк.: *Фоценька, Фоцечка.*

[ЦІМАФЕ'Й]. На месцы бытуе ў формах: *Цімахвей* (3 разы ў 3 н. п., узрост 86, 78 і 76 гадоў), *Цімка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 54 і 48 гадоў), *Цімоха* (1 раз, узрост 82 гады), *Цімошка* (1 раз, узрост 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Цімахвеенька, Цімахвеечка, Цімахвейка, Цімачка, Цімошачка.* Форма ветлівага звароту: *Ціма.*

ЦІ'ХАН (1 раз, узрост 83 гады), *Цішка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 56 і 50 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ціханачка, Ціханка, Ціхоначка, Ціхонечка, Ціхоня, Цішанька, Цішачка.* Форма ветлівага звароту: *Ціша.*

[ЦЯРЭ'НЦІЙ]. *Цярэшка* (1 раз, узрост 86 гадоў). Памянш.-ласк.: *Цярэшачка.*

[ЭДУА'РД]. *Э'дзік* (1 раз, узрост 48 гадоў). Памянш.-ласк.: *Э'дзічак, Э'дзічка, Э'дзька.* Форма ветлівага звароту: *Э'дзя.*

[ЮЛЬЯ'Н]. *Юля́сь* (2 разы ў 1 н. п., узрост 79 і 39 гадоў). Памянш.-ласк.: *Юля́сенька, Юля́сечак, Юля́сечка, Юлясёк, Юлясёчак, Юля́ська.*

[Ю'РЫЙ]. *Ю'рка, Ю'ра* (1 раз, узрост 17 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ю'рачка.*

ЯГО'Р (4 разы ў 4 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 80 да 90 гадоў і 1 чалавек — 47 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ягóрачка, Ягóрка, Ягóрчык.*

[Я'КАЎ]. *Якýб* (4 разы ў 4 н. п., узрост ад 65 да 90 гадоў). Памянш.-ласк.: *Якýбачка, Якýбка, Якýбчык.*

[ЯФІ'М] *гл.* Акім.

## Жаночыя імёны

АГ'А'ТА (2 разы ў 2 н. п., узрост 82 і 79 гадоў), *Г'áша, Г'áшка* (1 раз, узрост 57 гадоў). Памянш.-ласк.: *Аґáтачка, Аґáтка, Г'áшанька, Г'áшачка.*

[АГРЫПІ'НА]. *Рыпíна* (1 раз, узрост 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Рыпíначка, Рыпíнка.*

А'ДА (3 разы ў 3 н. п., узрост 48, 36 і 28 гадоў). Памянш.-ласк.: *А'дачка, А'дка, Адýленька, Адýлечка, Адýлька, Адýля, Адýсенька, Адýсечка, Адýська, Адýся, Адэ́ленька, Адэ́лечка, Адэ́лька, Адэ́ля.*

[АКСІ'ННЯ]. *Аксíня* (1 раз, узрост 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Аксíнечка, Аксíнька.*

[АКУЛІ'НА]. *Кулíна* (2 разы ў 2 н. п., узрост 89 і 87 гадоў). Памянш.-ласк.: *Кулíначка, Кулíнка.*

А'ЛА (2 разы ў 2 н. п., узрост 58 і 24 гады), *А'лка* (1 раз, узрост 25 гадоў). Памянш.-ласк.: *А'лачка.* Форма ветлівага звароту: *А'ла.*

АЛЕКСАНДРЫ'НА (4 разы ў 4 н. п., узрост ад 75 да 85 гадоў). Памянш.-ласк.: *Александры́начка, Александры́нка.*

[АЛЕ'НА]. На месцы бытуе ў формах: *Гілéна* (9 разоў у 9 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 70 да 80 гадоў, 2 чалавекі — звыш 60 гадоў, 1 чалавек — 45 гадоў), *Лéнка* (13 разоў у 10 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў, 4 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў, 2 чалавекі — ад 20 да 30 гадоў і 4 чалавекі — ад 4 да 15 гадоў). Памянш.-ласк.: *Гілéначка, Гілéнка, Гілю́сенька, Гілю́сечка, Гілю́ська, Гілю́ся, Гілю́та, Гілю́тачка, Гілю́тка, Лéначка.* Форма ветлівага звароту: *Лéна.*

АЛІ'НА. Звычайна бытуе ў форме *Алíнка* (7 разоў у 7 н. п., узрост ад 20 да 40 гадоў), а найменне *Алíна* часцей ужываецца

ў якасці формы ветлівага звароту. Памянш.-ласк.: *Аліначка, А'лечка, Алюська, Алюся.* Форма ветлівага звароту: *А'ля.*

[АЛЯКСА'НДРА]. На месцы бытуе ў формах: *Са́шка* (3 разы ў 3 н. п., узрост 75, 66 і 56 гадоў), *Шу́рка* (4 разы ў 4 н. п., узрост ад 25 да 50 гадоў). Памянш.-ласк.: *Са́шанька, Са́шачка, Шу́ранька, Шу́рачка.* Форма ветлівага звароту: *Са́ша, Шу́ра.*

АНГ'ЕЛІ'НА (2 разы ў 1 н. п., узрост 43 і 27 гадоў). Памянш.-ласк.: *Анґеліначка, Анґелінка.*

[АНТАНІ'НА]. На месцы бытуе ў формах: *Антуніна* (1 раз, узрост 86 гадоў), *То́нька* (4 разы ў 2 н. п., з іх 1 чалавек — 50 гадоў і 3 чалавекі — ад 20 да 30 гадоў). Памянш.-ласк.: *Антуніначка, Антунінка, То́нечка.* Форма ветлівага звароту: *То́ня.*

БІРУ'ТА (1 раз, узрост 36 гадоў). Памянш.-ласк.: *Біру́танька, Біру́тачка, Біру́тка.*

[ВАЛЯНЦІ'НА]. *Ва́лька* (35 разоў у 13 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 50 да 65 гадоў, 8 чалавек — ад 40 да 50, 2 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў, 13 чалавек — ад 20 да 30 гадоў і 8 чалавек — ад 3 да 15 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ва́ленька, Ва́лечка, Валюсёк, Валюсёчак, Валюсёчка, Валю́ська, Валю́ся.* Форма ветлівага звароту: *Ва́ля.*

[ВАРВА'РА]. *Варо́ся* (1 раз, узрост 77 гадоў). Памянш.-ласк.: *Варо́сенька, Варо́сечка, Варо́ська.*

[ВЕ'РА]. *Ве́рка* (20 разоў у 9 н. п., з іх 5 чалавек — ад 70 да 90 гадоў, 7 чалавек — ад 50 да 60 гадоў, 4 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў і 2 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ве́рачка, Верусёк, Верусёчак, Верушо́к, Верушо́чак, Вяру́сенька, Вяру́сечка, Вяру́ська, Вяру́ся, Вяру́ша, Вяру́шанька, Вяру́шачка, Вяру́шка.* Форма ветлівага звароту: *Ве́ра.*

ВО'ЛЬГА (20 разоў у 11 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 80 да 85 гадоў, 13 чалавек — ад 70 да 80 гадоў, 1 чалавек — 65 гадоў, 1 чалавек — каля 50 гадоў і 1 чалавек — 22 гады), *О'ля* (2 разы ў 2 н. п., узрост 47 і 33 гады). Памянш.-ласк. *Во́льґачка, Во́лечка, О'ленька, О'лечка.* Форма ветлівага звароту: *О'ля.*

Г'АЛІ'НА (6 разоў у 6 н. п., узрост ад 35 да 50 гадоў), *Г'а́ля* (6 разоў у 4 н. п., з іх 1 чалавек — 60 гадоў, 1 чалавек — каля 50 гадоў, 3 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў і 1 чалавек — 25 гадоў). Памянш.-ласк.: *Г'аліначка, Г'алінка, Г'а́лька, Г'а́лечка, Г'алю́сечка, Г'алюсёк, Г'алюсёчак, Г'алю́ська, Г'алю́ся.* Форма ветлівага звароту: *Г'а́ля.*

[ГА'ННА]. На месцы бытуе ў формах: *А'нна* (1 раз, узрост 73 гады), *А'ннушка* (1 раз, узрост 75 гадоў), *А'нька* (4 разы ў 3 н. п., узрост ад 20 да 35 гадоў), *А'нця* (1 раз, узрост 46 гадоў), *Анэ́та* (1 раз, узрост 76 гадоў), *Анюта* (15 разоў у 12 н. п., узрост ад 60 да 85 гадоў), *Га́нка* (1 раз, узрост 86 гадоў), *Гану́лька*

(1 раз, узрост 65 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да *Гануля*), *Нюшка* (8 разоў у 6 н. п., з іх 1 чалавек — каля 65 гадоў, 6 чалавек — ад 50 да 60 гадоў і 1 чалавек—46 гадоў). Памянш.-ласк.: *А'ннaчка, А'нечка, А'нцечка, Анэ́тачка, Анэ́тка, Аню́тачка, Аню́тка, Га́начка, Гану́лечка, Ганулісечка, Гануліська, Гануліся, Гануліца, Гануліцачка, Нюшанька, Нюшачка.* Формы ветлівага звароту: *А'ня, Нюша.*

[ГЛАФІ'РА]. *Г'ла́шка* (5 разоў у 5 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 45 да 50 гадоў і 2 чалавекі — ад 35 да 40 гадоў). Памянш.-ласк.: *Г'ла́шанька, Г'ла́шачка.* Форма ветлівага звароту: *Г'ла́ша.*

[ДА'Р'Я]. Імя выйшла з ужытку. Раней бытавалі наступныя варыянты гэтага імя: *Да́рка, Даро́та, Да́шка.* Памянш.-ласк.: *Да́рачка, Даро́тачка, Даро́тка, Да́шачка.*

ДЗІ'НА (1 раз, узрост 20 гадоў). Памянш.-ласк.: *Дзі́начка, Дзі́нка.*

[ДО'МНА]. *Даміні́ся* (1 раз, узрост 86 гадоў). Памянш.-ласк.: *Дамінісечка, Даміні́ська, До́мка, До́мачка.*

[Е'ВА]. *Е'ўка* (1 раз, узрост 78 гадоў). Памянш.-ласк.: *Е'вачка.*

[ЕЎДАКІ'Я]. На месцы бытуе ў формах: *Аўдакéя* (3 разы ў 3 н. п., узрост 74, 72 і 61 гады), *Аўдо́ля* (1 раз, узрост 74 гады), *Аўдо́ся* (1 раз, узрост 87 гадоў), *Ду́нька* (3 разы ў 2 н. п., узрост 76, 74 і 65 гадоў), *Ду́ня* (2 разы ў 2 н. п., узрост 75 і 43 гады, а таксама як форма ветлівага звароту да *Дунька*), *Ду́ська* (1 раз, узрост 72 гады). Памянш.-ласк.: *Аўдакéечка, Аўдакéйка, Аўдо́ленька, Аўдо́лечка, Аўдо́лька, Аўдуліца, Аўдулі́чка, Аўдо́сенька, Аўдо́сечка, Аўдо́ська, Ду́нечка, Дуня́ша, Дуня́шачка, Дуня́шка, Ду́сенька, Ду́сечка.* Формы ветлівага звароту: *Ду́ня, Ду́ся* (апошняя таксама і з іроніяй).

[ЕФРАСІ'ННЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Про́ска* (1 раз, узрост 76 гадоў), *Про́ська, Про́ся* (1 раз, узрост 53 гады). Памянш.-ласк.: *Про́сачка, Про́сенька, Про́сечка.*

[ЗІНАІ'ДА]. На месцы бытуе ў формах: *Зі́начка* (1 раз, узрост 81 год), *Зі́нка* (25 разоў у 13 н. п., з іх 1 чалавек — 70 гадоў, 7 чалавек — ад 50 да 60 гадоў, 6 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 7 чалавек — ад 30 да 40 гадоў і 4 чалавекі — ад 20 да 30 гадоў). Памянш.-ласк.: *Зі́начка, Зіну́ленька, Зіну́лечка, Зіну́лька, Зіну́ля, Зіну́ша, Зіну́шанька, Зіну́шачка, Зіну́шка.* Форма ветлівага звароту: *Зі́на.*

ЗО'Я. *Зо́йка* (16 разоў у 10 н. п., з іх 1 чалавек — 50 гадоў, 7 чалавек — ад 30 да 40 гадоў, 4 чалавекі — ад 25 да 30 гадоў і 4 чалавекі — ад 3 да 15 гадоў). Памянш-ласк.: *Зо́енька, Зо́ечка.* Форма ветлівага звароту: *Зо́я.*

І'НА. *І'нка* (1 раз, узрост 24 гады). Памянш.-ласк.: *І'начка.* Форма ветлівага звароту: *І'на.*

[ІРЫ'НА]. *І'рка* (18 разоў у 11 н. п., з іх 4 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў, 6 чалавек — ад 30 да 40 гадоў, 3 чалавекі — ад 20 да 30 гадоў і 5 чалавек — ад 10 да 20 гадоў). Памянш.-ласк.: *І'рачка, Іру́сечка, Іру́ська, Іру́ся, Іры́начка, Іры́нка.* Форма ветлівага звароту: *І'ра.*

І'Я. *І'йка* (9 разоў у 8 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 60 гадоў, 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў, 4 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў і 1 чалавек — каля 30 гадоў. Памянш.-ласк.: *І'ечка, Іюсенька, Іюсечка, Іюська, Іюся.* Форма ветлівага звароту: *І'я.*

КАРАЛІ'НА (1 раз, узрост 88 гадоў). Памянш.-ласк.: *Каралі́начка, Каралі́нка.*

КАЦЯРЫ'НА (2 разы ў 2 н. п., узрост 87 і 83 гады), *Катары́на* (жартоўна да любой жанчыны з гэтым імем), *Ка́ця* (7 разоў у 6 н. п., з іх 2 чалавекі — ад 80 да 85 гадоў, 4 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў і 1 чалавек — 30 гадоў). Памянш.-ласк.: *Кацяры́начка, Кацяры́нка, Катары́начка, Катары́нка, Ка́ценька, Ка́цечка, Кацёля, Ка́цька, Кацю́ша.*

КІ'РА (2 разы ў 2 н. п., узрост 38 і 23 гады). Памянш.-ласк.: *Кі́рачка, Кі́рка.*

[КЛА'ЎДЗІЯ]. *Кла́ўдзя* (3 разы ў 3 н. п., узрост 56, 54 і 53 гады). Памянш.-ласк.: *Кла́вачка, Кла́ўдзенька, Кла́ўдзечка, Кла́ўка.*

[КЛЕАПА'ТРА]. *Клёнька, Клёня* (1 раз, узрост 31 год). Памянш.-ласк.: *Клёнечка.*

ЛАРЫ'СА (3 разы ў 2 н. п., узрост 55, 54 і 23 гады). Памянш.-ласк.: *Лары́санька, Лары́сачка, Лары́ска.*

[ЛЕАКА'ДЗІЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Лёдзя* (1 раз, узрост 46 гадоў), *Люка́да* (1 раз, узрост 94 гады). Памянш.-ласк.: *Лёдзенька, Лёдзечка, Лёдзька, Люка́дачка, Люка́дка.*

[ЛЕАНІ'ДА]. *Лёня* (1 раз, узрост 39 гадоў). Памянш.-ласк.: *Лёнечка, Лёнька.*

[ЛІ'ДЗІЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Лі́да* (3 разы ў 3 н. п., узрост 42, 33 і 20 гадоў), *Лі́дзя* (11 разоў у 8 н. п., узрост ад 50 да 60 гадоў), *Лі́дка* (3 разы ў 3 н. п., узрост 48, 33 і 20 гадоў), *Ліду́ся* (1 раз, узрост 57 гадоў). Памянш.-ласк.: *Лі́дачка, Лі́дзенька, Лі́дзечка, Ліду́сенька, Ліду́сечка, Ліду́ська.*

[ЛІЗАВЕ'ТА]. На месцы бытуе ў формах: *Лі́за* (2 разы ў 2 н. п., узрост 63 і 60 гадоў), *Лісавэ́та* (1 раз, узрост 84 гады). Памянш.-ласк.: *Лі́занька, Лі́зачка, Лі́зка, Лісавэ́танька, Лісавэ́тачка, Лісавэ́тка.*

[ЛІ'ЛІЯ]. *Лі́лька* (18 разоў у 8 н. п., з іх 7 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 6 чалавек — ад 30 да 40 гадоў і 5 чалавек — ад 20

да 30 гадоў). Памянш.-ласк. *Лілечка.* Форма ветлівага звароту: *Ліля.*

ЛІ'НА. *Лінка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 45 і 31 год). Памянш.-ласк.: *Ліначка.* Форма ветлівага звароту: *Ліна.*

[ЛУКЕ'Р'Я]. *Люкера* (1 раз, узрост 60 гадоў). Памянш.-ласк.: *Люкерачка, Люкерка.*

[ЛЮБО'Ў]. На месцы бытуе ў формах: *Люба* (3 разы ў 2 н. п., узрост 70, 53 і 22 гады), *Любачка* (3 разы ў 3 н. п., узрост 53, 48 і 43 гады, а таксама як памянш.-ласк. да *Люба, Любка), Любка* (22 разы ў 8 н. п., з іх 7 чалавек — ад 60 да 80 гадоў, 8 чалавек — ад 50 да 60 гадоў, 5 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 1 чалавек — ад 35 да 40 гадоў і 1 чалавек — ад 20 да 25 гадоў). Форма ветлівага звароту: *Люба.*

[ЛЮДМІ'ЛА]. *Люда* (13 разоў у 7 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 50 гадоў, 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў, 1 чалавек — ад 25 да 40 гадоў, 2 чалавекі — ад 20 да 30 гадоў, 2 чалавекі — ад 10 да 20 гадоў і 4 чалавекі — ад 3 да 10 гадоў). Памянш.-ласк.: *Людачка, Людка.*

МАГ'ДАЛЕ'НА. У формах *Магдалена, Магда* ўжывалася зрэдку раней. Памянш.-ласк.: *Магдаленачка, Магдаленка, Магдачка, Магдуленька, Магдулечка, Магдулька, Магдуля, Магдусенька, Магдусечка, Магдуська, Магдуся, Магдэсенька, Магдэсечка, Магдэська, Магдэся.*

[МАЛГАЖА'ТА]. У форме *Малгося* ўжывалася зрэдку раней. Ужываецца слова *малгося* як агульнае імя ў значэнні 'бесталковая і адначасова неакуратная, непрыгожа апранутая асоба'. Памянш.-ласк.: *Малгосенька, Малгосечка, Малгоська.*

МА'РТА (1 раз, узрост 84 гады). Памянш.-ласк.: *Мартачка, Мартусенька, Мартусечка, Мартуська, Мартуся.*

МА'РФА (4 разы ў 4 н. п., узрост ад 45 да 65 гадоў). Памянш.-ласк.: *Марфачка, Марфуша, Марфушачка, Марфушка.*

МАРЫ'Я (1 раз, узрост 50 гадоў), *Манечка* (4 разы ў 4 н. п., з іх 2 чалавекі — ад 75 да 80 гадоў, 1 чалавек — 65 гадоў і 1 чалавек — 46 гадоў), *Манька* (20 разоў у 10 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 60 да 70 гадоў, 11 чалавек — ад 50 да 60 гадоў, 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў, 2 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў і 1 чалавек — 18 гадоў), *Маня* (3 разы ў 2 н. п., узрост 59, 43 і 18 гадоў), *Маруся* (14 разоў у 10 н. п., з іх 2 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў, 6 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 4 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў, 1 чалавек — 26 гадоў і 1 чалавек — 6 гадоў), *Марыля* (15 разоў у 10 н. п., узрост ад 65 да 89 гадоў), *Марыся* (імя ў гэтай форме ўжывалася раней, цяпер слова *марыся* ўжываецца ў якасці агульнага назоўніка са значэннем 'дурная, бесталковая асоба'), *Мар'юта* (2 разы ў 2 н. п., узрост 87 і 85 гадоў), *Машка* (2 разы

ў 2 н. п., узрост 70 і 66 гадоў). Памянш.-ласк.: *Марыечка, Марыйка, Манечка, Манюсенька, Манюсечка, Манюсёк, Манюсёчак, Манюська, Манюся, Манюша, Манюшанька, Манюшачка, Манюшка, Манюшок, Манюшочак, Маняша, Маняшанька, Маняшачка, Маняшка, Марусенька, Марусечка, Марусёк, Марусёчак, Маруська, Марылечка, Марылька, Марысенька, Марысечка, Марыська, Мар'ютачка, Мар'ютка, Машанька, Машачка.* Формы ветлівага звароту: *Маня, Маша.*

[МАТРО'НА]. Імя было зрэдку ўжывальнае раней у форме *Матруна.* Памянш.-ласк.: *Матруначка, Матрунка.*

[НАДЗЕ'Я]. На месцы бытуе ў формах: *Надзька* (11 разоў у 5 н. п., з іх 1 чалавек — звыш 80 гадоў, 2 чалавекі — ад 70 да 80 гадоў, 2 чалавекі — ад 55 да 60 гадоў, 1 чалавек — ад 45 да 50 гадоў і 5 чалавек — ад 25 да 40 гадоў), *Надзюта* (1 раз, узрост 72 гады), *Надзя* (10 разоў у 6 н. п., з іх 3 чалавекі — ад 60 да 70 гадоў, 2 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў, 3 чалавекі — ад 40 да 50 гадоў і 2 чалавекі — ад 30 да 40 гадоў). Памянш.-ласк.: *Надзютанька, Надзютачка, Надзютка, Надзенька, Надзечка, Надзюша, Надзюшанька, Надзюшачка, Надзюшка.*

[НАСТА'ССЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Настася* (12 разоў у 9 н. п., узрост ад 60 да 85 гадоў), *Насця* (1 раз, узрост 58 гадоў). Памянш.-ласк.: *Настасенька, Настасечка, Настаська, Насценька, Насцечка.*

[НАТА'ЛЛЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Наталка* (2 разы ў 2 н. п., узрост 86 і 79 гадоў), *Наташа* (3 разы ў 2 н. п., узрост 22, 11 і 9 гадоў), *Наташка* (7 разоў у 5 н. п., з іх 1 чалавек — 76 гадоў, 4 чалавекі — ад 60 да 70 гадоў, 1 чалавек — 22 гады і 1 чалавек — 10 гадоў). Памянш.-ласк.: *Наталачка, Наташанька, Наташачка.*

НІ'НА (1 раз, узрост 58 гадоў), *Нінка* (28 разоў у 14 н. п., з іх 17 чалавек — ад 50 да 65 гадоў, 5 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 3 чалавекі — ад 6 да 22 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ніначка.*

НЭ'ЛА. *Нэлка* (1 раз, узрост 35 гадоў). Памянш.-ласк.: *Нэлачка.* Форма ветлівага звароту: *Нэла.*

[ПАЛІ'НА]. На месцы бытуе ў формах: *Палюта* (1 раз, узрост 53 гады), *Пашка* (1 раз, узрост 83 гады). Памянш.-ласк.: *Палютанька, Палютачка, Палютка, Пашанька, Пашачка.* Форма ветлівага звароту: *Паша.*

[ПЕЛАГЕ'Я]. На месцы бытуе ў формах: *Палаґея* (2 разы ў 2 н. п., узрост 76 і 66 гадоў), *Полька* (4 разы ў 2 н. п., узрост ад 84 да 95 гадоў). Памянш.-ласк.: *Палаґеенька, Палаґеечка, Поленька, Полечка.* Форма ветлівага звароту: *Поля.*

ПРАКСЭ'ДА. Імя зрэдку ўжывалася раней. Памянш.-ласк.: *Праксэданька, Праксэдачка, Праксэдка.*

[ПРАСКО'ЎЯ]. *Параска* (1 раз, узрост 89 гадоў). Памянш.-ласк.: *Парасачка, Парасуленька, Парасулечка, Парасулька, Парасуля, Парасута, Парасутанька, Парасутачка, Парасутка* і (жарт.-іран.) *Параскева.*

[РАІ'СА]. *Райка* (12 разоў у 8 н. п., з іх 2 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў і 10 чалавек — ад 25 да 45 гадоў). Памянш.-ласк.: *Раенька, Раечка, Раёк, Раёчак, Раюсенька, Раюсечка, Раюсёк, Раюсёчак, Раюська, Раюся, Раюша, Раюшанька, Раюшачка, Раюшка, Раюшок, Раюшочак.* Форма ветлівага звароту: *Рая.*

[РЭГІ'НА]. На месцы бытуе ў формах: *Рэнка* (1 раз, узрост 36 гадоў), *Рэнька* (5 разоў у 5 н. п., узрост ад 40 да 50 гадоў). Памянш.-ласк.: *Рэначка, Рэнечка.* Формы ветлівага звароту: *Рэна, Рэня.*

[СВЯТЛА'НА]. *Света, Светка* (1 раз, узрост 12 гадоў). Памянш.-ласк.: *Светачка, Свецік.*

[СО'ФІЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Зоська* (1 раз, узрост 58 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да ўсіх, каго завуць Зося), *Зося* (5 разоў у 5 н. п., узрост — ад 60 да 85 гадоў), *Зуся* (іранічна ў адносінах да любой жанчыны, да якой звычайна звяртаюцца Зося), *Сонька* (8 разоў у 6 н. п., з іх 2 чалавекі — ад 50 да 60 гадоў, 4 чалавекі — ад 45 да 50 гадоў і 2 чалавекі — ад 20 да 25 гадоў). Памянш.-ласк.: *Зосенька, Зосечка, Сонечка.* Форма ветлівага звароту: *Соня.*

[СЦЕПАНІ'ДА]. На месцы бытуе ў формах: *Стэпка* (7 разоў у 5 н. п., узрост ад 76 да 86 гадоў), *Стэпачка* (1 раз, узрост 86 гадоў, а таксама як памянш.-ласк. да *Стэпка).*

ТАІ'СА (6 разоў у 5 н. п., узрост ад 40 да 56 гадоў). Памянш.-ласк.: *Таісанька, Таісачка, Таіска.*

ТАМА'РА (14 разоў у 9 н. п., узрост ад 30 да 57 гадоў), *Тамарка* (9 разоў у 6 н. п., узрост ад 30 да 52 гадоў). Памянш.-ласк.: *Тамарачка, Тома, Томачка, Томка.* Форма ветлівага звароту: *Тамара.*

[ТАЦЦЯ'НА]. На месцы бытуе ў формах: *Тацяна* (1 раз, узрост 87 гадоў), *Танька* (14 разоў у 10 н. п., з іх 5 чалавек — ад 50 да 65 гадоў, 1 чалавек — ад 40 да 50 гадоў, 4 чалавекі — ад 20 да 30 гадоў і 4 чалавекі — ад 6 да 20 гадоў), *Танюша* (2 разы ў 2 н. п., узрост 40 і 28 гадоў, а таксама як форма ветлівага звароту да асоб, якіх звычайна завуць Танька). Памянш.-ласк.: *Тацяначка, Тацянка, Танюшанька, Танюшачка, Танюшка, Танюшок, Танюшочак, Танечка, Танюся, Танюсенька, Танюсечка, Танюська, Танюсёк, Танюсёчак.*

[УСЦІ'ННЯ]. *Ю'ста* (1 раз, узрост 85 гадоў). Памянш.-ласк.: *Ю'станька, Ю'стачка.*

ФАІ́НА (1 раз, узрост 43 гады). Памянш.-ласк.: *Фаі́начка, Фаі́нка.*

[ФАЦІ́НА]. *Фа́ця* (1 раз, узрост 46 гадоў). Памянш.-ласк.: *Фа́ценька, Фа́цечка.*

[ФЁКЛА]. На месцы бытуе ў формах: *Тэ́кля* (4 разы ў 4 н. п., узрост ад 77 да 84 гадоў), *Фе́нька* (10 разоў у 6 н. п., з іх 6 чалавек — ад 55 да 67 гадоў, 3 чалавекі — каля 50 гадоў і 1 чалавек — 30 гадоў), *Фе́ня* (1 раз, узрост — 68 гадоў, а таксама як форма ветлівага звароту да *Фенька*). Памянш.-ласк.: *Тэ́кленька, Тэ́клечка, Таклю́сенька, Таклю́сечка, Таклю́ська, Таклю́ся, Фе́нечка.* У мове старых людзей ужываюцца формы *Хве́нька, Хве́ня, Хве́нечка.*

[ХРЫСЦІ́НА]. *Крысты́на* (1 раз, узрост 74 гады). Памянш.-ласк.: *Крысты́начка, Крысты́нка.*

[Э́ЛА]. *Э́ля, Э́лька* (1 раз, узрост 41 год). Памянш.-ласк.: *Э́ленька, Э́лечка.*

[Ю́ЛІЯ]. *Ю́лька* (3 разы ў 3 н. п., узрост 78, 75 і 74 гады). Памянш.-ласк.: *Ю́ленька, Ю́лечка.* Форма ветлівага звароту: *Ю́ля.*

[ЯЎГЕ́НІЯ]. На месцы бытуе ў формах: *Жэ́нька* (5 разоў у 3 н. п., узрост — ад 35 да 55 гадоў), *Яґне́шка* (1 раз, узрост 86 гадоў). Памянш.-ласк: *Жэ́нечка, Яґне́шачка.* Форма ветлівага звароту: *Жэ́ня.*

У выніку праведзенага аналізу на даследуемай тэрыторыі выяўлена 108 мужчынскіх і 77 жаночых уласных імён.

Па ўжывальнасці імёны займаюць неаднолькавае месца ў гэтых гаворках.

Адышло ў мінулае каля 20 мужчынскіх і 5 жаночых імён, якімі раней называлі людзей у дадзенай мясцовасці: *Адам, Акім (Якім), Аўдзей, Барыс, Вікенцій, Гвідон, Герасім, Дарафей (Дарахве́й), Дзяніс, Еўсцігней, Кандрат, Карла, Макар, Марка, Нікандр, Пракоп; Дар'я, Магдалена (Ма́ґда), Малгажата (Малґо́ся), Матрона (Матру́на), Праксэ́да.*

Каля 60 мужчынскіх і каля 20 жаночых імён знаходзяцца на стадыі знікнення: *Амос, Ананій, Аніс, Апанас, Арцём, Браніслаў, Валенцій, Вацлаў, Веньямін, Віталій, Давыд, Данат, Даніла, Дзям'ян, Ерамей, Еўдакім, Захарый, Ігнацій, Канстанцін, Карп (Ка́рпа), Кузьма, Лаўрэнцій (Лаўры́н), Леў, Лука, Лукя́н, Лявон, Максім, Мацвей (Маце́й), Мікіта, Мірон, Мяфодзій, Навум, Несцер, Нікадзім, Нікаор (Ліканó́р), Ніл, Нічыпар (Мікі́пар), Панкрат, Панцялей, Пiлiп, Платон, Раман, Сільвестр (Сілівэ́йстра), Улас (Аўла́с), Фадзей, Фама (Тума́ш), Феафан (Фа́нька), Флор (Хлёрка), Фоцій (Фо́ця), Цімафей (Цімахве́й), Ціхан, Цярэнцій (Цярэ́шка), Эдуард (Э́дзік), Юльян, Ягор, Якаў (Яку́б);*

*Агата, Агрыпіна (Рыпіна), Аксіння, Акуліна (Куліна), Варвара (Варо́ся), Домна (Даміні́ся), Ева, Ефрасіння (Про́ска, Про́ська, Про́ся), Караліна, Лізавета, Лукер'я, Марта, Паліна, Пелагея (Палаге́я), Праскоўя, Сцепаніда, Усціння, Фаціна, Хрысціна (Крысты́на).*

Пасіўнымі ці малаўжывальнымі ў гаворках Дзісеншчыны цяпер з'яўляюцца мужчынскія імёны: *Антон, Арсеній, Вадзім, Валянцін, Ігар, Ілья, Іосіф, Сямён, Юрый;* жаночыя — *Ада, Ангеліна, Антаніна, Бірута, Глафіра, Дзіна, Іна, Кіра, Клаўдзія, Клеапатра, Ларыса, Леакадзія, Леаніда, Ліна, Марфа, Нэла, Святлана, Эла, Юлія.*

Залатую сярэдзіну ва ўжывальнасці займаюць у гэтых гаворках мужчынскія імёны: *Алег, Аляксей, Андрэй, Аркадзій, Валерый, Георгій* (у формах *Ю'рка, Жо́ржык*), *Дзмітрый* (у сваіх шматлікіх варыянтах), *Кірыл (Куры́ла), Мялецій, Рыгор* (у формах *Грыго́р, Гры́шка), Сцяпан;* жаночыя — *Аляксандра* (у формах *Са́шка, Шу́рка), Ія, Кацярына* (у формах *Кацяры́на, Ка́ця), Людміла* (у форме *Лю́да), Настасся, Рэгіна, Софія* (у формах *Зо́ся, Со́нька), Таіса, Фёкла* (у формах *Тэ́кля, Фе́нька), Яўгенія* (у форме *Жэ́нька*).

У актыўным ужытку знаходзяцца цяпер мужчынскія імёны: *Аляксандр* (у формах *Са́ша, Са́шка, Шу́ра, Шу́рка*), *Анатолій* (у формах *То́лік, То́ля*), *Васілій* (пераважна ў форме *Ва́ська*, а таксама *Васілёк, Васю́та, Базы́ль*), *Віктар* (у формах *Ві́цька, Віця, Ві́кцік), Генадзій* (у асноўным у форме *Г'е́нька*), *Іван* (у формах *Іва́н, Іва́нька, Іваню́шка, Я'нак*), *Леанід* (у форме *Лёнька*), *Мікалай* (у формах *Мікала́й, Мікалу́ша, Ко́ля), Міхаіл* (у формах *Міхаі́л, Міхалю́к, Мі́шка*), *Павел* (у формах *Па́ўла, Па́ўлік, Паўлу́ша, Па́ўка), Пётр* (у формах *Пётра, Пятро́к, Пе́цька, Петрачо́к*), *Сяргей, Уладзімір* (у формах *Ўладзі́мір, Вало́дзька*), *Фёдар* (у формах *Фе́дзька, Хве́дар*).

Актыўна ўжываюцца ў гэтых гаворках жаночыя імёны: *Алена* (у формах *Гіле́на, Ле́нка*), *Валянціна* (у форме *Ва́лька*), *Вера* (у форме *Ве́рка*), *Вольга* (у формах *Во́льґа, О'ля*), *Галіна* (у формах *Г'алі́на, Г'а́ля*), *Ганна* (у формах *А'нна, А'нця, Аню́та, А'нька, Гану́ля, Ню́шка), Еўдакія* (у формах *Аўдаке́я, Аўдо́ля, Аўдо́ся, Ду́нька, Ду́ня, Ду́ська, Ду́ся*), *Зінаіда* (у форме *Зі́нка*), *Зоя* (у асноўным у форме *Зо́йка*), *Ірына* (у форме *І'рка*), *Лідзія* (у формах *Лі́да, Лі́дзя, Лі́дка, Лідý́ся*), *Лілія* (у форме *Лі́лька*), *Любоў* (у формах *Лю́ба, Лю́бка*), *Марыя* (у формах *Мары́я, Мары́ля, Мар'ю́та, Мару́ся, Ма́нечка, Ма́нька, Ма́ня, Ма́шка*), *Надзея* (у формах *На́дзька, На́дзя, Надзю́та*), *Настасся* (у формах *Наста́ся, На́сця*), *Ніна* (у форме *Ні́нка*), *Раіса* (у форме

*Ра́йка), Тамара* (у формах *Тама́ра, Тама́рка*), *Таццяна* (у формах *Тацця́на, Та́нька, Та́ня, Таню́ша*).

Самае пашыранае цяпер імя ў мужчын — *Мікалай* (67 носьбітаў), у жанчын — *Марыя* (звыш 60 носьбітаў).

Поўныя афіцыйныя формы імён выкарыстоўваюцца даволі рэдка. Асабліва гэта датычыцца актыўнаўжывальных імён. Іх носьбітамі звычайна з'яўляюцца людзі старэйшага пакалення. Некаторыя афіцыйныя імёны набылі на Дзісеншчыне некалькі іншае аблічча. Напрыклад, *Аляксандр* мае форму *Аляксандра, Аркадзій — Аркадзя, Вікенцій — Вікенця, Карп — Карпа, Павел — Паўла, Пётр — Пётра.*

Пераважную большасць сярод вытворных ад асноў афіцыйных і размоўна-бытавых імён у гаворках Дзісеншчыны займаюць эмацыянальна-ацэначныя формы. Сярод апошніх значную групу складаюць формы на *-а/-я*. Засведчана 54 формы мужчынскіх імён тыпу *А'ля, Вале́ра, Віця, Г'е́ня, Ціша* і 63 формы жаночых імён тыпу *А'нця, А'ня, І'ра, Ліля, Ю'ста.* Адны з гэтых форм (*Ва́дзя, Віта́ля, Ко́ля, Ро́сця; А'нця, Зо́ся, Ка́ця, Кла́ўдзя, Люке́ра, Тэ́кля* і г. д.) ужываюцца часта і ўспрымаюцца як размоўна-бытавыя, другія (*Ва́ля, Віня, Во́ва, Па́ша, Се́ня; А'ня, Жэ́ня, І'ра, Ліля, Фе́ня*) — выкарыстоўваюцца ў рэдкіх моўных сітуацыях у якасці формы ветлівага звароту або з іранічнай афарбоўкай. Звычайна ж апошніх завуць *Ва́лік, Вінька, Во́ўка, Па́шка, Се́нька; А'нька, Жэ́нька, І'рка, Лілька, Фе́нька* і г. д. Трэція формы (*Ва́дзя, Міша; Г'а́ля, Лю́ба, Ма́ня, На́дзя* і інш.) для адных асоб з'яўляюцца размоўна-бытавымі, для другіх — формамі ветлівага звароту. Чацвёртыя (*Аліна, І'я, Ліна*) з'яўляюцца адначасова і афіцыйнымі формамі ўласнага імя і формамі ветлівага звароту, а ў якасці размоўна-бытавых выкарыстоўваюцца формы з суфіксам *-к-а* (*Алінка, І'йка, Лінка*). Некаторыя з форм на *-а/-я* (*Тацця́на*) служаць адначасова і афіцыйнымі і размоўна-бытавымі формамі ўласнага імя. А такое імя, як *Тамара,* з'яўляючыся афіцыйнай формай імя, а таксама размоўна-бытавой, ужываецца і ў якасці формы ветлівага звароту для асоб, для якіх размоўна-бытавой формай служыць форма *Тама́рка.*

Акрамя ўсяго сказанага, неабходна адзначыць, што большасць форм на *-а/-я* служыць размоўна-бытавымі формамі імён маленькіх дзяцей. Для намінацыі ж большых дзяцей ужываюцца звычайна формы імён з суфіксамі *-ік/-ык* і *-к-а* для хлопчыкаў і юнакоў (*Г'е́ня — Г'е́нька; Віця — Вікцік, Віцька; То́ля — То́лік*) і з суфіксам *-к-а* для дзяўчатак і дзяўчат (*Со́ня — Со́нька, Та́ня — Та́нька, А'ня — А'нька*) або афіцыйныя формы імён (*Сяргей, Васіль, Галіна*). Праўда, у некаторых выпадках фармант *-ік/-ык,* далучаючыся да асновы імя на *-а/-я,* прыдае імю значэн-

не памяншальнасці і ласкальнасці, а не даросласці, напр.: *Сéва — Сéвік, Рóсця — Рóсцік, Вітáля — Вітáлік.*

У гаворках Дзісеншчыны формы ўласных імён дыферэнцыруюцца таксама ў залежнасці ад узросту іх носьбітаў. Так, адны імёны *(Міхаíл, Александры́на, Гілéна, Вóльґа, Тэ́кля)* носяць жыхары старэйшага пакалення, а іх формы на *-к-а (Мíшка, Лéнка, А'нька, Фéнька)* — асобы сярэдняга і малодшага ўзросту. Для намінацыі дзяцей ужываюцца формы *Сáша, Шýра, Вáля, Пáўлік, Надзю́та, Мáнечка,* а тры апошнія таксама і ў якасці памяншальна-ласкальных форм імён. Аднак часта форма імя не залежыць ад узросту яго носьбіта, а памяншальная форма страчвае памяншальнасць. Так, для некаторых асоб размоўнабытавымі формамі імён з'яўляюцца: *Аркадзю́к, Васю́та, Касцю́к, Мікалýша, Паўлýша, Міша, Грышачка, Сцепанóк, Сцяпáнька, Кáця, Мáнечка, Надзю́та, Зóська, Стэ́пачка.* Узрост іх носьбітаў ад 60 да 90 гадоў.

Найбольшая колькасць форм утворана ад мужчынскіх афіцыйных імён *Мікалай* (33 формы) і *Дзмітрый* (34 формы). Ад 10 да 20 форм утворана ад асноў афіцыйных імён *Данііл, Ігнацій, Канстанцін, Віктар, Іосіф, Сцяпан, Пётр, Генадзій, Уладзімір, Грыгорый, Павел, Фёдар, Васілій, Нікадзім.* Сярод жаночых імён па колькасці ўтвораных форм на першым месцы стаіць імя *Марыя* (42 формы). Затым ідуць *Ганна* (28), *Еўдакія* (23), *Тацяна, Раіса* (18), *Магдалена* (17), *Вера* (15). Ад 10 да 15 форм маюць імёны *Галіна, Лідзія, Фёкла, Зінаіда, Кацярына, Праскоўя, Надзея, Гілена.*

Назіраецца такая заканамернасць: найбольшая колькасць форм утвараецца ад найбольш пашыраных імён. Праўда, ёсць і выключэнні. Напрыклад, ад асновы актыўна ўжывальнага імя *Іван* утворана толькі 7 дэрыватаў, а ад асновы імя *Магдалена,* якое поўнасцю выйшла з ужытку, утворана 17 форм.

Ад асноў 108 мужчынскіх і 77 жаночых імён утвораны і ўжываюцца 1173 варыянты бытавых імён, эмацыянальна-ацэначныя формы і формы ветлівага звароту імён, у тым ліку: 655 форм — ад мужчынскіх і 518 форм — ад жаночых уласных імён.

Сярод вытворных асноўнае месца займаюць эмацыянальна-ацэначныя формы ўласных імён. Для іх утварэння ў гаворках Дзісеншчыны выкарыстоўваюцца разнастайныя дэрывацыйныя сродкі, аналізу якіх будзе прысвечаны асобны артыкул.

*І. А. ШУМСКАЯ*

# ПРА АДЗІН ТЫП АНТРАПОНІМАЎ

Сярод разнастайных тыпаў антрапонімаў на Брэстчыне шырока ўжываюцца найменні, утвораныя ад прозвішчаў. Неафіцыйнае прозвішча — гэта другое, бытавое прозвішча, якое існуе паралельна з афіцыйным, толькі не замацоўваецца ў дакументах. Адны даследчыкі адносяць іх да мянушак [1], другія вылучаюць у асобную групу. Так, О. Н. Аляксандрава імёны тыпу *Куба (Якубава), Ціхоня (Ціханаў)* не адносіць да мянушак, а вылучае ў асобную групу «фактических» імён, якія выконваюць кантактную функцыю, дапамагаюць устанаўліваць кантакт «паміж сваімі» [2]. З. П. Нікуліна адпрозвішчныя дэрываты адносіць да мянушак, але заўважае, што ў семантычным плане яны «немаркіраваныя» і характарызуюцца нулявой унутранай формай: *Дуб (Дубаў)*. Адзначаючы своеасаблівы лексіка-семантычны характар адпрозвішчных мянушак, яна падкрэслівае, што іх функцыя выключна намінатыўная, яны нічога не могуць характарызаваць, з'яўляюцца асемантычнымі [3]. І сапраўды, адпрозвішчныя мянушкі ў адрозненне ад ацэначна-характарыстычных не заўсёды паказваюць на пэўныя прыкметы і ўласцівасці чалавека, але цалкам пагадзіцца, што яны ніяк не характарызуюць чалавека, мусіць, нельга. Бо ўсякая мянушка ёсць моўны знак, і ён, як і іншыя словы-знакі, мае багатую гаму адценняў. Таму і адпрозвішчныя мянушкі не могуць быць асемантычнымі, гэта супярэчыла б іх прызначэнню. У адной вёсцы, напрыклад, ад прозвішча

---

[1] Гл.: Антошин А. Н. Прозвища жителей с. Молохова // Ономастика Поволжья. Горький, 1971. № 2; Чайко Т. Н. О принципах номинации в народных прозвищах: На материале говоров Кировской области // Вопросы топономастики. Свердловск, 1974. № 5; Никулина З. П. К вопросу о классификации индивидуальных прозвищ // Вопросы лексики и грамматики русского языка. Кемерово, 1974. № 1.

[2] Гл.: Александрова О. Н. Неофициальные личные имена в частной переписке и дневниковых записях конца XIX — начала XX в. // Ономастика Поволжья. Уфа, 1973. № 3. С. 130.

[3] Гл.: Никулина З. П. Лексико-семантические и структурные особенности отфамильных детских прозвищ // Материалы межвузовской научной конференции, посвященной 50-летию образования СССР // Лингвистика. Томск, 1972. С. 63—64.

*Баранаў* утворана дзве мянушкі — *Баран* і *Баранчык,* ад прозвішча *Сцепанюк* — *Сцепанючка* і *Сцепанючыха, Гайдучышка* і *Гайдучка* — ад *Гайдук.* Няцяжка заўважыць розніцу ў семантычных адценнях гэтых слоў. Тут інфарматыўная характарыстыка звязана не з апелятывам, як у ацэначных мянушках, а выражаецца пры дапамозе розных экспрэсіўна-эмацыянальных суфіксаў.

Мянушкі — гэта не статычная катэгорыя, яны разнародныя па сваёй сутнасці, па спосабах утварэння, нельга бачыць у іх толькі негатыўныя рысы. Напрыклад, у адной з вёсак Пружанскага раёна ёсць дзве сястры па прозвішчу *Кімок.* Адна з іх мае мянушку *Кімочыха,* другая — *Прыгажуня.*

У працэсе ўжывання звычайна паяўляецца новая матывацыя мянушкі, якая ўзаемадзейнічае з асноўнай, але асацыіруецца з ёю ўжо па іншых прыкметах, звязаных з характарам чалавека, яго паводзінамі, яго знешнім выглядам і інш. Напрыклад: *Баран* — адпрозвішчная мянушка ад *Бараноўскі,* але носьбіта мянушкі называюць так і таму, што ён упарты, не зусім кемлівы чалавек. Тое ж самае назіраем і ў іншых прыкладах. *Рапуха* — адпрозвішчная мянушка ад *Рапута,* дадатковая матывацыя: малады, але тоўсты хлопец; *Малышка* — мянушка ад прозвішча *Малышчыц,* асацыіруецца яшчэ з ростам жанчыны; *Ліса* — адпрозвішчная мянушка ад *Лісіцкая,* акрамя таго, хітраватая жанчына. І чым шырэйшае кола тых, хто выкарыстоўвае такія найменні, тым больш магчымасцей для ўдакладнення першапачатковай матывацыі.

Некаторыя назвы-мянушкі ўзніклі ў выніку пераасэнсавання прозвішча на аснове аманімічнасці з апелятывам і нясуць дадатковую семантычную нагрузку. Так, прозвішча *Дубіна* вядзе свой пачатак ад апелятыва, спачатку на яго аснове ўзнікла мянушка, затым прозвішча, а зараз яно паслужыла базай для ўтварэння прозвішча-мянушкі. Такім жа шляхам ўзніклі прозвішчы-мянушкі *Сарока* (Бяр.), *Блаха, Манішка* (Жаб.), *Шчотка* (Лун.). Адбыўся адваротны працэс: прозвішча ўзнікла з мянушкі і ператварылася зноў у мянушку.

Спецыфічнай асаблівасцю адпрозвішчных мянушак, на думку некаторых даследчыкаў, з'яўляецца тое, што яны не выклікаюць негатыўных эмоцый, рэакцый, што на іх адгукаюцца, як на імя ці прозвішча. Сапраўды, ёсць такія формы, якія не выклікаюць непрыемных эмоцый: *Бобкава (Бобка), Гайдучок (Гайдук), Дроздзік (Дрозд).* А такія мянушкі, як *Сава (Савіцкая), Торба (Тарабанскі), Халуй (Хала)* выклікаць станоўчай рэакцыі не могуць, бо ў мове існуюць амонімы да іх з адмоўнай экспрэсіяй.

Утвараюцца адпрозвішчныя мянушкі рознымі спосабамі. Асноўным з іх з'яўляецца марфалагічны, суфіксальны. Адрозніваюцца жаночыя і мужчынскія мянушкі.

Пераважная большасць жаночых адпрозвішчных найменняў утварылася пры дапамозе суфіксаў *-іха (-ыха)*. У шасці раёнах Брэсцкай вобласці (Брэсцкім, Столінскім, Драгічынскім, Івацэвіцкім, Лунінецкім, Пінскім) выяўлена звыш 100 мянушак гэтага тыпу. Прывядзём некаторыя з іх у алфавітным парадку: *Басачыха<Басавец* (Стол.), *Баярчыха<Баярчук, Баркуныха<Баркун* (Пін.), *Гаруніха<Гарун, Заньчыха<Занько* (Бр.), *Качаніха<Качан* (Лун.), *Котыха<Кот, Кулешыха<Кулеш* (Пін.), *Ключыха<Ключко* (Драг.), *Лапчыха<Лапец, Лашчыха<Лашко, Малінчыха<Малінчык, Марозіха<Мароз* (Івац.), *Мулярчыха<Мулярчык* (Драг.), *Поўшыха<Поўх* (Лун.), *Рачыха<Рак, Рэдчыха<Радзько* (Івац.), *Рэмчыха<Рэмко* (Драг.), *Самулічыха<Самулік* (Пін.), *Стыпанючыха<Сцепанюк* (Бр.), *Сухарэвічыха<Сухарэвіч* (Драг.), *Турочыха<Турок* (Бр.), *Чопайлыха<Чапайла* (Драг.), *Чэчуніха<Чачун* (Пін.), *Шыбуніха<Шабун* (Івац.), *Шумічыха<Шумік* (Драг.). Антрапонімы з суфіксамі *-іха(-ыха)* шырокаўжывальныя. Яны ўтвараюцца не толькі ад прозвішчаў, але і ад імён мужа, бацькі, маці, дзеда і інш. І ствараюць новы тып найменняў, якія прынята называць генесіянімічнымі, бо паказваюць яны на адносіны да іншай асобы.

Ад прозвішчаў часта ўтвараюцца на Брэстчыне жаночыя назвы і пры дапамозе ацэначнага суфікса *-ка: Остапучка<Астапук, Байдучка<Байдук* (Драг.), *Белка<Бяляўская* (Івац.), *Быльчучка<Бяльчук* (Бр.), *Гуцэвічка<Гуцэвіч* (Кам.), *Грыцучка<Грыцук, Дорошчучка<Дарашчук* (Бр.), *Жучко<Жук* (Стол.), *Ковальчучка<Кавальчук* (Бр.), *Кавроська<Каўрось* (Мал.), *Кіслячка<Кісляк* (Кам.), *Ляшучка<Ляшук, Музылька<Мазоль* (Бр.), *Мазурка<Мазурэвіч* (Стол.), *Мартысючка<Мартысюк* (Кам.), *Мерончучка<Меранчук* (Бр.), *Пташка<Пташнік* (Кобр.), *Сайка<Сай* (Мал.), *Стыпанючка<Сцепанюк, Ткачучка<Ткачук* (Бр.), *Такаючка<Такаюк* (Кам.) і інш. Трэба зазначыць, што ўжывальнасць дэрыватаў з суфіксам *-ка* на Брэстчыне не аднолькавая. Найбольш ўжывальныя яны ў Брэсцкім, Драгічынскім, Камянецкім, Маларыцкім раёнах. Спарадычна ўжываюцца ў Бярозаўскім, Івацэвіцкім, Кобрынскім, Лунінецкім, Столінскім і інш. Дэрываты тыпу *Грыцучка, Ляшучка* маюць зневажальнае значэнне. Пры ўтварэнні мянушак выкарыстоўваюцца і некаторыя іншыя суфіксы:

*-ішка (-ышка), -ушка: Бандарчышка<Бандарэц, Баранішка<Баран, Гайдучышка<Гайдук, Каньчышка<Канько* (Пруж.);

*Коволышка*<*Коваль, Шылышка*<*Шыла* (Іван.), *Янчушка*<*Янчук* (Мал.) і інш. Звычайна суфікс *-іха (-ыха)* — паказчык назваў дарослых жанчын, *-ішка (-ышка)* — дзяўчат і дзяўчатак: маці *Бараніха,* дачка — *Баранішка.*

*-на, -ыня: Королевна*<*Каралевіч, Марчыня*<*Марчук* (Кобр.);

*-ок: Грыбок*<*Грыб* (Івац.);

*-яка: Капузяка*<*Капуза* (Драг.);

*-уля: Грыбуля*<*Грыбок* (Бар.);

*-ча: Джыгунча*<*Джыгун* (Івац.), *Козлейча*<*Казлей* (Кобр.), *Стрыхарча*<*Стрыхар* (Лях.);

*-ша: Караваша*<*Каравай* (Івац.).

Сустрэлася некалькі адпрозвішчных імён-мянушак бязафікснага ўтварэння: *Цімошка*<*Цімашок, Пляшка*<*Пляшко* (Лях.). У некаторых выпадках адбылося скарачэнне асновы: *Вoйк*<*Вайчок, Брына*<*Брынка*<*Брынковіч, Каза*<*Казека* (Бяр.), *Крыса*<*Крысюк* (Івац.), *Ліса*<*Лісіцкая* (Іван.), *Ліска*<*Лісковіч* (Іван.), *Рыба*<*Рыбакова* (Кам.), *Сава*<*Савіцкая* (Івац.), *Скіба*<*Скібінская* (Бяр.), *Шуня*<*Шунькіна* (Бр).

Даволі шырока ўжываюцца на Брэстчыне адпрозвішчныя жаночыя найменні ў форме прыметнікаў, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ова(-ёва), -іна(-ына): Баварчукова*<*Баварчук* (Іван.), *Борысюкова*<*Барысюк* (Кобр.), *Бабкова*<*Бобка* (Стол.), *Прынькова*<*Прынько* (Івац.), *Власкова*<*Власко, Гулява*<*Гуль* (Бяр.), *Жылкова*<*Жылко* (Пін.), *Лянчукова*<*Лянчук, Музалёва*<*Мазоль* (Стол.), *Прадунова*<*Прадун* (Іван.), *Грыбішчына*<*Грыбок* (Івац.), *Калядзіна*<*Каляда* (Стол.), *Савчукова*<*Саўчук* (Кобр.) і інш.

Сродкі ўтварэння мужчынскіх назваў-мянушак больш разнастайныя. Сярод іх пераважаюць суфіксальныя ўтварэнні. Найбольш характэрныя суфіксы *-ік(-ык), -чык, -ок, -онак(-ёнак), -ка, -ачка* і інш. Суфіксы *-ік(-ык), -чык* — ацэначныя, эмацыянальна-экспрэсіўныя, разам з тым яны паказваюць на ўзрост носьбітаў гэтых імён, на дзяцей: *Бурык*<*Бура, Брыштэлык*<*Брышцель* (Кобр.), *Гупік*<*Гупола, Козлік*<*Казлоў* (Іван.), *Кузнечык*<*Кузняцоў* (Лях.), *Мурзік*<*Мурза* (Кобр.), *Швэдзік*<*Швед* (Пруж.), *Шлютык*<*Шлюц* (Бр.), *Шылік*<*Шыла* (Драг.), *Баранчык*<*Баранаў* (Лун.), *Варывончык*<*Ларыёнец* (Кобр.), *Бакульчык*<*Бакульманаў* (Івац.), *Звонык*<*Звонка* (Драг.), *Мазолік*<*Мазоль* (Стол.), *Пытрончык*<*Пятручык* (Драг.), *Чыжык*<*Чыжэўскі* (Пін.), *Харытончык*<*Харытановіч* (Лун.). За некаторымі жыхарамі такія мянушкі замацоўваюцца на ўсё жыццё. Такое ж значэнне маюць суфіксы *-ок(-ёк): Гайдучок*<*Гайдук* (Пруж.), *Раёк*<*Раеўскі, Сабалёк*<*Собалеў* (Лун.), *Марзючок*<*Морза* (Ганц.). Суфіксы *-онак(-ёнак),*

*-ук (-юк)* — патранімічныя: *Дарочонок<Дарачук* (Кам.), *Карпучонак<Карпук, Мозолёнак<Мазоль, Мерончонок<Меранчук, Страчонок<Страчук* (Бр.), *Калядзюк<Каляда* (Пруж.). Дымінутыўныя суфіксы *-ка, -очка* змяшчаюць значэнне памяншальнасці: *Калінка<Калінічаў* (Бар.), *Каўроська<Каўрось* (Івац.), *Мартышка<Мартысевіч* (Бяр.), *Сенютка<Сенюта* (Івац.), *Кундачка<Кунда, Копачка<Капанько* (Івац.), *Шчэрбачка<Шчэрба* (Пруж.).

Дэрываты з суфіксамі *-ар, -уль, -ун, -уй, -ла* маюць зневажальнае значэнне: *Глухар<Глухоўскі, Сухар<Сухарэвіч* (Бр., Драг.), *Баўтун<Боўцік* (Івац.), *Халун, Халуй<Хала* (Іван.), *Корзуль<Корзун* (Пін.), *Скрыпала<Скрыпнік* (Стол.).

Другую групу складаюць адпрозвішчныя мянушкі, утвораныя бязафіксным спосабам. Па семантыцы гэтыя ўтварэнні разнастайныя, як і разнастайныя ўтваральныя асновы прозвішчаў. Вызначаюцца наступныя семантычныя групы: мянушкі, у аснове якіх ляжаць назвы жывёл: *Баран<Баранаў, Бараноўскі* (Лун., Івац.), *Казёл<Козік* (Івац.), *Кузёл<Казлоўскі, Казловіч* (Бяр., Кобр.), *Вовк<Ваўчок, Мыдведь<Мядзведзеў* (Бр.), *Быця<Бык* (Бяр.), *Заяц<Зайко* (Пін.), *Ліс<Лісок* (Лях).

Назвы грызуноў: *Бабёр<Бабрук* (Бяр.), *Бобэр<Баброўнік* (Стол.), *Крот<Кротаў* (Бр.), *Крыса<Крысюк* (Івац.), *Суслік<Суслікаў* (Івац.), *Шчур<Шчурко* (Бяр.).

Назвы птушак, насякомых, рыб: *Голуб<Галубко* (Бар.), *Гусь<Гусеў* (Кам.), *Жук<Жукаў* (Бяр.), *Камар<Комар* (Кам.), *Крук<Круковіч* (Бяр.), *Лешч<Ляшчук* (Івац.), *Лінь<Лінавіцкі* (Кам.).

Этнічныя назвы, назвы асоб па прафесіі: *Лях<Ляховіч* (Івац.), *Паляк<Палякоў* (Пін.), *Плужнік<Плужнікаў* (Пруж.), *Поп<Папоў* (Кам.), *Козак<Казакевіч* (Іван.), *Лытвын<Літвінец* (Драг.).

Назвы іншых прадметаў: *Бубен<Бубноў* (Ганц.), *Банцік<Банцікаў* (Пруж.), *Дым<Дымковіч* (Бяр.), *Колысо<Калеснік* (Драг.), *Ліпа<Ліпскі* (Бяр.), *Сайка<Сайкоўскі* (Лях.), *Таўкач<Таўкачоў* (Стол.), *Торба<Тарабанскі* (Мал.), *Цэбрык<Цабрук* (Пруж.) і інш.

Асобную групу складаюць мянушкі-імёны, утвораныя ад прозвішчаў: *Антон<Антонаў* (Бр.), *Борыс, Борысік, Борка<Барысюк* (Бр., Кобр.), *Марко<Марковіч* (Мал.), *Мыкіта<Нікіцюк* (Кам.), *Пашко<Пашкевіч* (Бяр.), *Гардзей<Гардзіевіч* (Лун.), *Гера<Герасімаў, Герун* (Бяр., Іван.), *Герман<Германовіч* (Лун.), *Лывон<Леванюк* (Кобр.), *Улас<Уласаў* (Драг.), *Філька<Філюта* (Бяр.), *Франэк<Франчук* (Кам.), *Харытон<Харытановіч* (Лун.), *Яраш<Ярашук* (Івац., Пруж.) і інш.

Пашыраны на Брэстчыне адпрозвішчныя найменні ў форме прыметнікаў на *-аў, -оў (-ёў), -ін (-ын): Бобкаў<Бабко* (Стол.), *Бобров<Бобрык* (Драг.), *Гулёў<Гуль* (Бяр.), *Зайцаў<Зайко* (Івац.), *Кацерынічаў<Кацярыніч* (Кобр.), *Ракаў<Рак* (Стол.), *Чачуноў<Чачун* (Пін.), *Калядзін<Каляда* (Стол.), *Кніжын<Кніга* (Пруж.) і інш. У гэтай падгрупе назіраецца нарашчэнне антрапанімічных асноў, відаць, па аналогіі з прозвішчамі на *-аў, -оў (-ёў)* тыпу *Бялоў, Вараб'ёў.*

Адпрозвішчныя мянушкі лёгка спалучаюцца з рознымі формамі імён і ўтвараюць двухслоўныя найменні: *Нюра Брычыкава, Волька Брычыха, Коля Брычык<Брыч* (Драг.), *Вова Кудачын, Ала Кудачына<Кудака* (Бяр.), *Адара Грыбішчына<Грыб* (Івац.), *Вера Борысюкова<Барысюк* (Кобр.), *Гэля Шаркотава<Шаркота* (Пруж.) і інш.

Сярод адпрозвішчных мянушак немарфалагічнага ўтварэння цяжка вызначыць пэўныя тыпы. Адны з іх утвараюцца па прынцыпу антанімічнасці з прозвішчам: *Мяккая<Цвёрдая* (Кам.), *Мароз<Папека* (Івац.), другія — на аснове сінанімічнасці: *Клёцка<Галушкін<Галушка* (Бяр.), *Поцера<Утрата* (Драг.), трэція ўзнікаюць у залежнасці ад разнастайных асацыяцый, звязаных з прозвішчам: *Бабовы<Гарох* (Івац.), *Блыхасты<Кот, Вішынька<Сліўко* (Бр.), *Белабока<Сарока, Малінка<Калінка* (Івац.), *Курыця<Крачка* (Кобр.). Некаторыя мянушкі з'явіліся ў выніку дзіцячых каламбураў: *Апалонік<Апановіч, Балалайка<Лабай* (Кобр.), *Гладыш<Гладкі* (Бар.), *Лапша<Ляўшня, Кадушка<Калдушка, Зажыгалка<Жыгар* (Івац.).

Адпрозвішчныя мянушкі складаюць прадуктыўны клас неафіцыйных імён. Яны шырока ўжываюцца ва ўсіх раёнах Брэстчыны. Характэрнай лексіка-семантычнай асаблівасцю іх з'яўляецца сувязь з прозвішчам. Яны індывідуальныя па сваім ўтварэнні, узнікаюць у выніку самых розных адступленняў ад прынятых норм маўлення. Па характары яны, як і ўсе тыпы мянушак, карпарацыйныя, ужываюцца ў пэўным асяроддзі, абмежаваным пэўнай групай людзей (вёска, школьны клас і інш.). Акрамя асноўнай анамастычнай функцыі — намінатыўнай, яны выконваюць інфарматыўную і кантактную функцыі.

### ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Бар. — Баранавіцкі
Бр. — Брэсцкі
Бяр. — Бярозаўскі
Ганц. — Ганцавіцкі
Драг. — Драгічынскі
Жаб. — Жабінкаўскі
Іван. — Іванаўскі
Івац. — Івацэвіцкі
Кам. — Камянецкі
Кобр. — Кобрынскі
Лун. — Лунінецкі
Лях. — Ляхавіцкі
Мал. — Маларыцкі
Пін. — Пінскі
Пруж.— Пружанскі
Стол. — Столінскі

*А. М. ФІРАНЧУК*

# МУЖЧЫНСКІЯ УЛАСНЫЯ ІМЁНЫ ЯЎРЭЙСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ Ў XVI—XVIII стст.

У дадзеным артыкуле разглядаецца лексіка-семантычны састаў, этымалогія і асаблівасці ўтварэння памяншальных форм уласных імён яўрэйскага насельніцтва Беларусі ў XVI—XVIII стст. і імёны, якія былі кананізаваны хрысціянскай царквой і выкарыстоўваліся карэнным насельніцтвам Беларусі ў перыяд, які разглядаецца. Карэннае насельніцтва часта звярталася да агульных варыянтаў імён, якія былі выпрацаваны ў працэсе сумеснага жыцця беларускага і яўрэйскага насельніцтва.

З гэтай мэтай у артыкуле прааналізаваны і абагульнены вынікі даследавання фактычнага матэрыялу з помнікаў беларускай пісьменнасці XVI—XVIII стст.

Сярод засведчаных помнікамі беларускай пісьменнасці XVI—XVIII стст. [1] уласных асабовых мужчынскіх імён яўрэйскага насельніцтва Беларусі адзначаюцца старажытныя яўрэйскія ўласныя асабовыя імёны, а таксама імёны германскага, грэчаскага і лацінскага паходжання.

Старажытнаяўрэйскія імёны дзеляцца на дзве групы: імёны, якія ўжываліся толькі ў яўрэяў; імёны, якія былі кананізаваны хрысціянскай царквой і выкарыстоўваліся славянскім насельніцтвам Беларусі. Да імён першай групы належаць наступныя:

ААРОН (іўрыт — ahron, ідыш — ahrin), адзначана 19 разоў у варыянтах *Аарон* (2), *Арон* (14), *Агрон* (1), *Огрон* (1) і ў памяншальнай форме *Грони* (1).

АВЕЛЬ (іўрыт — evel, ідыш — avel), 5 разоў у варыянтах *Абель* (2), *Аблем* (1), *Евель* (1), *Гевель* (1).

АВИГДОР (іўрыт — avikdar, ідыш — avikdar), 6 разоў у варыянтах *Вигдер* (4), *Вигдор* (1), *Викдор* (1).

АКИВА (іўрыт — akiva, ідыш — kive), адзін раз.

АНШЕЛЬ (іўрыт — antshel, ідыш — anshel), адзін раз у варыянце *Аншель*.

АШЕР (Ушер) (іўрыт — osher, ідыш — usher), 10 разоў у варыянтах *Ашор* (2), *Ошер* (2); *Зелик* (2), *Зела* (1) і ў памян-

---

[1] Матэрыял артыкула выбраны з публікацыі: Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Вильна, 1865—1915. Т. I—XXXIX.

шальных формах *Зелько* (1), *Залько* (1), *Залкін* (1). Варыянт *Зелик* — з нямецкага selig 'шчаслівы'— адпавядае іўрытнаму *Ошер* — 'шчаслівы'. Ён узнік у яўрэяў, якія жылі на тэрыторыі Германіі.

БАРУХ (іўрыт — baruch, ідыш — burich), 8 разоў у варыянце *Борух.*

БЕРАХЬЯ (Бейрах) (іўрыт — berachja, ідыш — berachje), 4 разы ў варыянтах *Бейрах* (1), *Бейрех* (2), *Берех* (1).

ГЕРШОН (іўрыт — gershon, ідыш — gershen), 6 разоў у варыянтах *Гершон* (3), *Гиршон* (3).

ГИЛЛЕЛЬ (іўрыт — hilel, ідыш — gilel), адзін раз.

ЕЛКЕ (іўрыт — elchanan, ідыш — elkune), адзін раз у варыянце *Елькон.*

ИЗРАИЛЬ (Израель) (іўрыт — israeil, ідыш — isruel), 29 разоў у варыянтах *Израиль* (1), *Израель* (28).

КАДОШ (іўрыт — kadosh, ідыш — kadish), адзін раз у варыянце *Кадыш.*

КАСРИЭЛЬ (іўрыт — kasriil, ідыш — kasriil), адзін раз у варыянце *Касрел.*

МЕИР (Меер) (іўрыт — meir, ідыш — meer), 13 разоў у варыянтах *Меер* (11), *Меир* (1), *Майер* (1).

МЕНАХЕМ (іўрыт — menachem, ідыш — menachem), 4 разы ў эмацыянальна-ацэначных формах *Менка* (3), *Менко* (1).

МОРДЕХАЙ (іўрыт — mordechaj, ідыш — mordche), 11 разоў у варыянтах *Мордухай* (2), *Мордух* (8), *Мурдук* (1).

НАТАН (іўрыт — natan, ідыш — nute), 5 разоў у варыянце *Натан* (3), у скарочанай форме *Нота* (1), у памяншальнай *Нотко* (1).

НАФТАЛИ (іўрыт — naftali, ідыш — naftula), адзін раз у форме *Нафтель.*

НАХМАН (іўрыт — nojacham, ідыш — nojacham), 3 разы ў варыянце *Нахман.*

НИСАН (іўрыт — nisan, ідыш — nusan), 9 разоў у варыянтах *Нисан* (1), *Нисон* (1), *Носон* (1), *Носан* (1), *Мисан* (3), *Мисон* (1), *Мизан* (1).

НОЙ (іўрыт — noach, ідыш — noech), 2 разы ў варыянтах *Новах* (1), *Навах* (1).

ПЕЙСАХ (Петахья) (іўрыт — pejsach, ідыш — pejsach), 13 разоў у варыянтах *Песах* (8), *Пейсах* (4) і ў скарочанай форме *Песа* (1).

ПИНХАС (Пини) (іўрыт — pinchas, ідыш — pinches), 8 разоў у варыянце *Пинкас.*

ПЕРЕЦ (Парец) (іўрыт — perets, ідыш — perets), 5 разоў ў варыянтах *Перец* (2), *Перце* (2), *Перхтурц* (1).

САУЛ (іўрыт — sheil, ідыш — sheel), 6 разоў у варыянтах *Саул* (3), *Шевель* (1), *Шавель* (2).

ТАНХЕМ (Танхум) (іўрыт — tanchum, ідыш — ?), 2 разы ў варыянтах *Таўкен* (1), *Танхем* (1).

ТОБИЯ (Товия) (іўрыт — tof, ідыш — tojve), 2 разы ў варыянце *Тобияш*. Варыянт *Тобияш* выкарыстоўваўся пад уплывам польскай мовы.

УРИЯ (Уриило) (іўрыт — uriel, ідыш — uril), 5 разоў у варыянце *Уриаш*.

ХАИМ (іўрыт — chaim, ідыш — chaem), 16 разоў у варыянце *Хаим*.

ХЕНОН (іўрыт — jochanan, ідыш — joichanan), 4 разы ў варыянтах *Ханон* (2), *Конук* (1), *Канюк* (1).

ХАЦКЕЛЬ (іўрыт — jicheskel, ідыш — chaskel), 16 разоў у варыянтах *Хацкель* (4), *Хацкел* (4), у скарочаных формах *Хацко* (4), *Хацка* (4).

ЦЕДАК (?), толькі адзін раз.

ШАБТАЙ (іўрыт — shebse, ідыш — shebsi), 2 разы ў варыянце *Шажай* і ў эмацыянальна-ацэначнай форме *Шефтель* (1).

Найбольш ужывальнымі ўласнымі асабовымі іменамі, як сведчыць прыведзены матэрыял, былі *Аарон, Хаим, Хацкель, Пейсак, Мордехай, Меир, Нисан*. Рэдкаці нават спарадычна выкарыстоўваліся наступныя імёны: *Нахман, Ханон, Аншель, Ашор, Ной, Танхем, Тобия, Акива, Гиллель, Елке, Кадош, Касриэль, Нафтали, Целак, Шабтай*.

З ліку старажытнаяўрэйскіх уласных асабовых імён, кананізаваных хрысціянскай царквою, якімі называліся прадстаўнікі яўрэйскага насельніцтва:

АВРААМ (іўрыт — avraham, ідыш — avruhim) 48 разоў у варыянтах *Авраам* (1), *Аврам* (6), *Абрам* (27), *Абраам* (1), *Абрахам* (12) і ў памяншальнай форме *Аврашка* (1). Славянскае насельніцтва Беларусі гэтае імя выкарыстоўвала толькі ў форме *Абрам* (57) [2].

ВЕНИАМИН (іўрыт — benjumin, ідыш — benjamin), 8 разоў у варыянтах *Вениамин* (1), *Бениамин* (3), *Бениомин* (1), *Бениаш* (1) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Беня* (1), *Бани* (1). Беларусы імя *Вениамин* не ўжывалі.

ГАВРИИЛ (іўрыт — gavriil, ідыш — gavriil), 10 разоў у варыянтах *Габриэль* (3), *Гавша* (1) і ў памяншальных формах *Гошко* (2), *Гошка* (1), *Гонко* (2), *Госка* (1). У беларускага на-

---

[2] Тут і далей звесткі аб форме імён і колькасці іх фіксацыі ў помніках беларускай пісьменнасці XVI—XVIII стст. даюцца па: Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1966.

сельніцтва імя выкарыстана 90 разоў у варыянтах *Гавриил* (1), *Гаврило* (64), *Гавруло* (1), *Гаврело* (6), *Габриял* (2), *Кгабриал, Кгабриял* (9), *Кгобрияло* (1), у эмацыянальна-ацэначных формах *Гаврилко* (1), *Гаврис* (3), *Гаврас* (1), *Гаврук* (1). Формы *Габриэль* і *Кгабриал, Кгабриял* у беларусаў выкарыстоўваліся пад уплывам польскай мовы.

ДАВЫД (іўрыт — david, ідыш — duvid), 37 разоў у варыянтах *Давид* (36), *Давыд* (1). У беларускага насельніцтва імя выкарыстана 29 разоў у варыянтах *Давид* (11), *Давыд* (18). Карэннае насельніцтва Беларусі часцей звярталася да варыянта *Давыд,* дзе *в* магло зацвярдзець на глебе паўднёва-беларускіх дыялектаў ці запазычана з польскай мовы.

ЕФРОИМ (іўрыт — efraim, ідыш — efrojim), 2 разы ў варыянце *Ефроим.* У беларусаў імя зафіксавана 20 разоў у варыянтах *Охрем* (9), *Ахрем* (7), *Охромей* (3), *Охрим* (1).

ИАКОВ (іўрыт — jakov, ідыш — jankev), 44 разы ў варыянтах *Яков* (6), *Якуш* (1), *Якуб* (23), *Якоб* (3), *Янкель* (7), *Янхель* (4). У прадстаўнікоў беларускага насельніцтва імя выкарыстана 202 разы ў варыянтах *Яков* (61), *Якуб* (141).

Супастаўляючы ўжыванне варыянтаў імені *Иаков* для абазначэння яўрэяў і беларусаў на тэрыторыі Беларусі, неабходна адзначыць, што яно ў адным і ў другім выпадку звычайна ўжывалася ў агульных варыянтах *Якуб* і *Яков.* Славянскае насельніцтва не звярталася да варыянтаў *Якоб* і *Якуш.*

ИЛИЯ (іўрыт — eljahu, ідыш — eljuhi), 29 разоў у варыянтах *Илья* (6), *Илия* (6), *Илли* (1), *Иле* (3), *Елияш* (2), *Елиаш* (7), *Ельяш* (1), *Еля* (1), *Гелаш* (1), *Гелиаш* (1). У беларусаў імя выкарыстана 46 разоў у варыянтах *Илья* (2), *Илле, Иле* (33), *Ильяш* (5), *Иляш* (1), *Гелиаш* (1) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Илко* (1), *Илюшка* (1), *Ильяшец* (1), *Илко* (1). І ў беларусаў, і ў яўрэяў ужываліся агульныя варыянты *Илья, Иля, Гелиаш.* Апошні з польскай мовы.

ИОАНН (іўрыт — jechochanan, ідыш — jochanan), 2 разы ў варыянтах *Янко* (1), *Яцко* (1). У славянскага насельніцтва імя ўжыта 1200 разоў у варыянтах *Иван* (696), *Ян* (404) і ў памяншальных формах *Иванко* (8), *Иванок* (1), *Иванец* (3), *Иваш* (1), *Ивашко* (51), *Ивахно* (2), *Янко* (16), *Янук* (7), *Януш* (3), *Янушко* (2), *Янцук* (1), *Янелис* (1), *Янель* (1), *Янута* (1), *Януть (1), Яска* (1). Гэта імя было самым папулярным у беларускага насельніцтва. Агульнай для яўрэяў і беларусаў была эмацыянальна-ацэначная форма *Янко.*

ИОНА (іўрыт — jona, ідыш — jojne), 2 разы ў варыянтах *Иона* (1), *Ионас* (1). У беларусаў імя не зафіксавана, але на

аснове сучасных беларускіх прозвішчаў *Іонін, Іонінка* можна рэканструяваць імя *Иона.*

ИОСИФ (іўрыт — josejf, ідыш — josif), 68 разоў у варыянтах *Иосиф* (1), *Юзеф* (7), *Езеф* (13), *Исип* (1), *Иозеф* (14), *Есель* (6) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Еско* (24), *Еско* (1), *Есюк* (1). У славянскага насельніцтва імя зафіксавана 93 разы ў варыянтах *Иосиф* (1), *Осип* (21), *Асип* (24), *Ёсиф* (3), *Ёсип* (6), *Ёзоф* (5), *Езуп* (1), *Юзеф* (1), *Юзаф* (5) і ў памяншальных формах *Еско* (24), *Есько* (1), *Есюк* (1). Афіцыйна-традыцыйная форма *Иосиф* і ў яўрэяў і ў беларусаў ужывалася рэдка. Характэрным варыянтам для яўрэйскага насельніцтва былі формы *Юзеф* і *Ёзеф,* якія выкарыстоўваліся ў польскай мове. Не адзначаны ў беларусаў варыянты *Исип* і *Иесель.*

ИСААК (іўрыт — itschak, ідыш — itschok), 52 разы ў варыянтах *Исаак* (2), *Изак* (13), *Изаак* (6), *Ицко* (20), *Гицко* (2), *Ицхак* (1) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Ицханко* (2), *Ицик* (1), *Изель* (1), *Айзик* (4). У беларусаў імя адзначана 18 разоў у формах *Исакей* (1), *Исак* (16), *Изак* (1). *Исаак* з'яўляецца адным з самых папулярных імён у яўрэйскага насельніцтва. Зыходная форма *Исаак* рэдка сустракаецца ў яўрэяў.

ИСАЙЯ (іўрыт — isajja, ідыш — shaja), 9 разоў у варыянтах *Исайя* (1), *Иосай* (1), *Езыяш* (2), *Шая* (5). У беларускага насельніцтва імя зафіксавана 12 разоў у формах *Исай* (9), *Изаяш* (1), *Езайяш* (1), *Заяш* (1). Для яўрэйскага насельніцтва найбольш ужывальным быў варыянт *Шая,* а для славянскага — *Исай.* Формы *Изаяш, Езайеш, Езыяш, Заяш* — з польскай мовы.

ИГУДА (Иегуда) (іўрыт — jihuda, ідыш — egude), 25 разоў у варыянтах *Иуда* (1), *Игуда* (1), *Юда* (7), *Юде* (1), *Йдель* (1), *Юдель* (6) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Юдка* (5), *Юдке* (2), *Игудка* (1). Для абазначэння асоб славянскага паходжання імя адзначана адзін раз у форме *Юда.*

МИХАИЛ (іўрыт — michail, ідыш — michuil), 15 разоў у варыянтах *Михаил* (6), *Михель* (7), у памяншальных формах *Майко* (1) і *Мишко* (1). У беларусаў імя выкарыстана 228 разоў у варыянтах *Михаил* (12), *Михайло* (10), *Михайла* (92), *Михало* (1), *Михал* (32), *Михаль* (1) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Михалка, Михалко* (3), *Мишко* (20), *Миско* (8), *Михно* (33), *Мишура* (1), *Мись* (10), *Мисько* (4), *Мисюля* (1). Супастаўляючы ўжыванне варыянтаў імені *Михаил* у яўрэяў і ў беларусаў, можна адзначыць, што імя ўжывалася ў агульным варыянце *Михаил* і ў памяншальнай форме *Мишко.*

МОИСЕЙ (іўрыт — moshe, ідыш — mojshe), 96 разоў у варыянтах *Моисей* (1), *Мойжеш* (38), *Мойзеш* (9), *Мовша* (29), *Мойша* (1), *Мовшо* (1), у скарочанай форме *Моша* (2) і ў памяншальных формах *Мошка* (3), *Мошко* (12). У беларусаў імя зафіксавана 38 разоў у варыянтах *Моисей* (5), *Мойсей* (26), *Мосей* (7). Імя *Моисей* у яўрэйскага насельніцтва даволі папулярнае. На тэрыторыі Беларусі ўжывалася традыцыйна-царкоўная форма ў варыянтах *Мойсей, Мосей,* якія ўтварыліся ў выніку фанетычнага асваення традыцыйна-царкоўнай формы — спрашчэння груп галосных *ои.* Імя *Моисей* было шырока вядома ва ўсходняй частцы Беларусі аж да першых дзесяцігоддзяў XX ст. Зараз яно не ўжываецца.

НАУМ (іўрыт — nachum, ідыш — nuchim), 10 разоў у варыянтах *Нахим* (6), *Нохим* (4). Для абазначэння асоб славянскага насельніцтва імя выкарыстана 10 разоў у варыянце *Наум.*

РАФАИЛ (іўрыт — rifael, ідыш — rifuil), 3 разы ў варыянце *Рафаэль* і ў скарочанай форме *Рафал* (2). У беларусаў імя адзначана 6 разоў у формах *Рафал* (4) і *Рахвал* (2). Імя *Рафаил* як у яўрэйскага, так і ў беларускага насельніцтва ўжывалася даволі рэдка.

САМУИЛ (іўрыт — shimuel, ідыш — shmil), 24 разы ў варыянтах *Самуил* (1), *Самуель* (8), *Шмойло* (7), *Шмуйло* (6), у скарочанай форме *Шмая* (1). У славянскага насельніцтва імя адзначана 10 разоў у варыянтах *Самуил* (1), *Самуйло* (3), *Самуель* (6).

САМСОН (іўрыт — shimshon, ідыш — shimshin), адзін раз у варыянце *Самсон.* У беларускага насельніцтва імя *Самсон* выкарыстана 3 разы ў варыянце *Самсон* (3). Як у адным, так і ў другім выпадку імя *Самсон* было не папулярным.

СИМЕОН (іўрыт — shimion, ідыш — shimin), 10 разоў у варыянтах *Сымон* (5), *Шимон* (4) і ў памяншальнай форме *Шмонко* (1). Для абазначэння асоб беларускага насельніцтва імя зафіксавана 316 разоў у варыянтах *Семен* (205) і ў эмацыянальна-ацэначных формах *Семка* (21), *Семенка* (1), *Семашко* (8), *Сенъ* (8), *Сенка* (14), *Сенько* (37), *Сенчило* (1), *Сенюта* (1).

СОЛОМОН (іўрыт — shloma, ідыш — shlojma), 43 разы ў варыянтах *Шлома* (4), *Шлёма* (1), *Шломо* (2), *Шлема* (1), *Саломон* (11), *Соломон* (1), *Саламон* (3), *Салимон* (1), *Сельмон* (1), *Салиомон* (1), *Зельман* (17). У беларусаў імя *Соломон* не адзначана, але на аснове сучасных беларускіх прозвішчаў *Саламонаў, Саламонік, Саламыкін, Сельмановіч* можна рэканструяваць чатыры формы імені *Саламон, Саламоник, Саламыка, Сельмак.*

ЭЛИЕЗЕР (Элеазар) (іўрыт — eliejzer, ідыш — leizer), 28 разоў у варыянтах *Лейзер* (9), *Лайзер* (1), *Лейзар* (2), *Лейзор* (1), *Лазар* (15). Для абазначэння асоб яўрэйскага насельніцтва імя *Элиезер* ужывалася галоўным чынам у дэфармаваных формах *Лазар* і *Лейзер*. У беларусаў імя выкарыстана 8 разоў у варыянтах *Елиозар* (1), *Олизар* (6), *Озар* (1). Агульны варыянт імені не быў выпрацаваны.

Уласныя асабовыя імёны германскага паходжання: *Берко* (17) — *Берко* (14), *Берк* (2), *Беро* (1); *Вольф* (24) — *Вильф* (2), *Вольф* (2), *Ульф* (8), *Ольф* (1), *Вульф* (11); *Гирш* (31) — *Гирш* (18), *Ирша* (2), *Ирш* (11); *Зиссе* (*Зисель*) — *Зисель; Фалек* — *Фалица; Фишиль* (3) — *Фишиль* (1), *Фишель* (2).

Імёны германскага паходжання былі завезены яўрэямі на ўсходнеславянскую тэрыторыю з германскіх зямель. Яны ўвайшлі ў антрапанімічную аснову і працягвалі ўжывацца. Гэтыя імёны з'яўляюцца перакладам старажытнаяўрэйскіх назваў жывёл і птушак: Bar (*Дов* «мядзведзь»); Wolf (*Зеев* «воўк»); Girsch (*Цви* «алень»); Falk (*Фалк* «сокал»); Fisch (*Фишиль* «рыба»).

Імёны грэчаскага і лацінскага паходжання: *Аляксандр* (3); *Марк* (30) (лац. *Маркус*) — *Марко* (28), *Марок* (1), *Марек* (1); *Феодор* (3) — *Тодрис* (2), *Едрис* (1); *Файвиш* (12) (грэч. *Фебус*) — *Файбиш* (4), *Файвиш* (3), *Фавиш* (3), *Фабиш* (1), *Фаши* (1). Адной з прычын выкарыстання імён грэчаскага і лацінскага паходжання яўрэйскім насельніцтвам былі цесныя сувязі са славянскім насельніцтвам, у якога яно запазычыла частку гэтых імён. Другая прычына — традыцыя, якая склалася з часоў рымскага панавання ў Іудзеі, якое пакінула свае сляды і на ўласных імёнах яўрэяў.

У помніках беларускай пісьменнасці XV—XVIII стст. уласныя асабовыя імёны выкарыстоўваліся ў поўнай і памяншальнай формах. Поўная форма імені мае нейтральнае значэнне, служыць толькі сродкам адрознівання адной асобы ад другой, не ўказваючы на адносіны да асобы, якая з'яўляецца носьбітам поўнага імені. Памяншальныя формы імені з'яўляюцца эмацыянальна-ацэначнымі: разам з абазначэннем канкрэтнай асобы яны адначасова перадаюць і некаторыя дадатковыя звесткі суб'ектыўна-ацэначнага характару, адлюстроўваюць становішча названай асобы ў сям'і ці ў грамадстве.

Адзначаны наступныя памяншальныя формы ўласных асабовых імён з суфіксамі *-ко, -ка: Гонко, Гошко, Гошка, Госко<Гавриил, Игудка, Юдка<Иуда, Ицханко<Исаак. Майко, Мишко<Михаил. Мошко, Мошка<Моисей. Шломка<Соломон. Шмон-*

*ко<Симеон; -ашко: Оврашко* — ад усечанай асновы імені *Авраам; -ик: Ицик, Айзик<Исаак.*

Памяншальная форма імені *Беня* ўтворана ад усечанай асновы імені *Бениамин<Вениамин,* а форма *Бани* — усечаная форма поўнага імені без дадатковай суфіксацыі.

Такім чынам, на аснове разгледжанага матэрыялу можна канстатаваць, што ў працэсе сумеснага жыцця яўрэйскага і беларускага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі на аснове часткі старажытнаяўрэйскіх імён, кананізаваных хрысціянскай царквою, былі выпрацаваны і выкарыстоўваліся агульныя варыянты імені, а яўрэйскае насельніцтва выкарыстоўвала яшчэ і варыянты, утвораныя на глебе ідыш. Імёны ў варыянце, ідэнтычным іўрыту, ужываліся рэдка: *Берахья, Елке, Кадош, Касриэль, Менахем, Мордехай, Танхем, Тобия.*

Некаторыя варыянты абумоўлены фанетычнымі зменамі, якія адбыліся ў старажытнаяўрэйскіх імёнах пад уплывам беларускай мовы: спрашчэнне груп галосных — *аа* у *а* — *Аарон: Арон, Исаак: Исак, Авраам: Аврам;* ужыванне зычнага *б* адпаведна зычнаму *в* — *Авель: Абель, Авигдор: Абигдор, Вениамин: Бениамин;* ужыванне зычнага *м* адпаведна зычнаму *н* — *Нисан: Мисан, Мисон, Мизан;* дабаўленне канцавога *о* да імён, якія заканчваюцца зычным гукам — *Марк: Марко;* адсутнасць галоснага *и* у сярэдзіне слова — *Михаил: Михал.*

Для ўтварэння памяншальных форм імён выкарыстоўваліся толькі славянскія суфіксы *-ко, -ка, -ашко, -ик,* а з суфіксамі ідыш памяншальныя формы не адзначаны.

*Г. К. УСЦІНОВІЧ*

# АНТРАПАНІМІЯ Ў «СЛОВАРЕ БЕЛОРУССКОГО НАРЕЧИЯ» І. І. НАСОВІЧА

Нязвязанасць і несуаднесенасць са значэннем прадметнасці абмяжоўвала і выключала ўласныя імёны з тлумачальных слоўнікаў, у якіх раскрываецца семантыка слоў, выдзяляюцца іх значэнні і адценні.

Уласныя імёны перастаюць існаваць у мове ў якасці навуковых тэрмінаў або агульнаўжывальных слоў у тым выпадку, калі ў працэсе зносін, пры выкарыстанні іх для абазначэння агульных прадметаў ці адцягненых паняццяў, яны страчваюць намінатыўна-дыферэнцыруючую функцыю. Але гэты працэс — працэс дэантрапанімізацыі часткі ўласнай лексікі — не вядзе да шырокага адмірання катэгорыі ўласных імён.

Мы не знаходзім уласных імён ні ў Слоўніку 1847 г.[1], ні ў Слоўніку Я. К. Грота — А. А. Шахматава[2], ні ў тых слоўніках, якія выходзілі ў XIX ст. прыкладна ў той жа час, што і Слоўнік І. І. Насовіча[3].

Вядома, што другая частка «Лексікона» П. Бярынды (1627) спецыяльна прысвечана ўласным асабовым імёнам, тлумачэнню іх паходжання і значэння. У 1853 г. П. Шпілеўскім складзены «Словарь белорусского наречия»[4], які мае дадатак пад назвай «Список имён мужских и женских, несходных с именами русского языка». У ім прыведзены ў алфавітным парадку 82 уласныя мужчынскія і жаночыя імёны, ужывальныя ў той час на тэрыторыі Беларусі сярод простых людзей. Імёны пададзены ў поўнай і памяншальнай форме, да кожнага з іх прыведзены рускі адпаведнік.

Да нашых дзён не страціў сваёй навуковай вартасці «Славянский именослов, или собрание славянских личных имён в алфавитном порядке», складзены М. Марошкіным (Спб., 1867).

---

[1] Словарь церковнославянского и русского языка. Спб., 1847.

[2] Словарь русского языка / Под ред. Я. К. Грота, А. А. Шахматова. 1891—1895—1930. Т. I—IX.

[3] Носович И. И. Словарь белорусского наречия. Спб., 1970.

[4] Шпилевский П. Словарь белорусского наречия [рукапіс] // Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук у Санкт-Пецярбурзе.

Нават пры агульным знаёмстве са слоўнікам І. І. Насовіча ўзнікае шмат пытанняў адносна лексічнага складу і прынцыпаў адбору слоў. Пры спецыяльным жа аналізе антрапанімічнага характару паўстаюць пытанні наступнага зместу: наколькі поўна пададзены іменаслоў у Слоўніку? Калі ён не поўны, то паводле якога прынцыпу адбіраліся імёны? Якая форма імён цікавіла І. І. Насовіча — афіцыйная ці гутарковая? Як прадстаўлена варыянтнасць гутарковых форм імён? Наколькі можна меркаваць пра тэрыторыю бытавання ўласных асабовых імён, засведчаных у Слоўніку? Наколькі гэты Слоўнік можа служыць крыніцай для высвятлення гісторыі беларускай іменалагічнай сістэмы?

І, нарэшце, вельмі важнае пытанне пра структурна-марфалагічную характарыстыку іменаслова І. І. Насовіча, а таксама асаблівасці словаўтваральных фармантаў асабовых імён.

Мяркуючы па тым, што ў Слоўніку І. І. Насовіча прадстаўлена ўсяго каля 30 тысяч слоў беларускай мовы другой паловы XIX ст., сабраных з гаворак Беларусі, можна думаць, што аўтар не ставіў за мэту адлюстраваць поўны склад мужчынскіх і жаночых імён, бытаваўшых у той перыяд на гэтай тэрыторыі. Адначасова высвятляецца і другое пытанне — пытанне аб тым, што І. І. Насовіч кіраваўся сваёй уласнай ідэяй — стварыць усеабдымны ў сэнсе ахопу разрадаў слоў слоўнік жывой народнай мовы. Вось чаму ў яго Слоўніку мы сустракаем не толькі нейтральную лексіку шырокага ўжывання, але і антрапонімы, якія ў лексічнай сістэме мовы займаюць асобнае месца, у пэўнай ступені супрацьпастаўляючыся ўсёй астатняй лексіцы, што абумоўлена спецыфікай іх функцыі, адсутнасцю семантычнай напоўненасці, спецыялізацыяй словаўтваральных сродкаў.

Зыходзячы з аб'ёму Слоўніка, можна зрабіць вывад, што ў ім знайшлі месца толькі імёны, якія найбольш пашыраныя і часта сустракаюцца, але тады чаму ў Слоўніку не засведчаны такія імёны, як *Іван, Васіль, Андрэй, Павел, Ганна* і інш., якія нават у календары паўтараліся ад 13 да 66 разоў за год (*Іван* — 66, *Васіль* — 24, *Андрэй* — 13, *Павел* — 23, *Ганна* — 18)? Гэтаму можна пярэчыць — аўтара Слоўніка цікавіла размоўна-бытавая форма імён, а не афіцыйная. А наяўнасць кананічных імён каталіцкага календара *Ян, Базыль, Бартламей* і інш. хутчэй схіляе да думкі, што ў Слоўніку зарэгістраваны імёны і формы не толькі пашыраныя, але і свае, спецыфічна беларускія, якія адрозніваліся ад рускіх.

Так, з 55 мужчынскіх імён, адзначаных у Слоўніку, для 35 пададзена поўная форма імені, кананічная і размоўна-бытавая, якая ўтварылася на аснове першай у выніку фанетыка-марфа-

лагічных змен. Для 12 імён аўтар адзначыў ацэначную форму, якая замацавалася ў якасці нейтральнай, а для імён *Стахій, Адам, Максім* — толькі памяншальную форму.

Аналагічнае становішча і з жаночымі іменамі. 18 імён пададзена ў размоўна-бытавой форме, адно імя *(Мария)* — у памяншальнай *(Маръечка)*, а *Аксюта, Балька, Варка, Галичка, Галька, Гапка, Гапочка, Марша, Маршечка, Настулька, Стаська, Юсточка* па ўтварэнні з'яўляюцца ацэначнымі, але замацаваліся як нейтральныя, таму так і засведчаны ў Слоўніку.

Поўныя размоўна-бытавыя формы і варыянты імён утвараліся ў выніку фанетыка-марфалагічных працэсаў на аснове кананічных імён. Звычайна ад аднаго імені ўзнікала па некалькі размоўных форм і варыянтаў, што і адлюстравана ў Слоўніку. Так, ад імені *Феодосий* утварылася дзве формы — *Хадос* і *Хведос* у выніку адпадзення канцавога *ий* і спрашчэння групы галосных *ео* да *е* і *ео* да *о*, а таксама замены *ф* на *хв*. Ад імені *Софроний* узнікла 2 формы: *Сапрон* і *Сопрон,* якія з'яўляюцца фанетычнымі варыянтамі, імя *Бартломей* прадстаўлена адным варыянтам *(Бавтромей)* і 2 формамі *(Бавтрук, Бартлок)* і інш. Формы імён, як правіла, утвараліся ў выніку марфалагічных змен: адпадзення канцавога *ий, ия;* замены *иа* на *ей;* дабаўлення *ий, ей, о* ці *а* да імён, якія заканчваліся на зычны. Варыянты ж з'яўляліся пасля мінімальных фанетычных адхіленняў у структуры самога імені: спрашчэнне груп галосных *ео*, замена *ф* гукамі *п, х, хв, н* на *м,* пачатковых *е* на *а*.

Слоўнік сведчыць, што некаторыя варыянты сустракаліся вельмі часта і замацаваліся з цягам часу ў якасці асноўнай формы імені, напрыклад, *Микита, Матруна, Катерина, Пилип* і інш.

Калі ж гаварыць пра прынцыпы падачы антрапанімічнага матэрыялу, то яны зводзяцца да наступнага.

Пры падачы за зыходную форму як для мужчынскіх, так і для жаночых імён узята размоўна-бытавая або традыцыйна-царкоўная, што замацавалася ў нязменным выглядзе. Пасля гэтага даецца граматычная характарыстыка імені, што дае магчымасць устанавіць не толькі сувязь размоўна-бытавых форм імён з традыцыйнымі, але і прасачыць тыя змены, у выніку якіх утваралася тая ці іншая форма. Памяншальныя ж формы падаюцца або з указаннем на тую форму, ад якой утвораны *(Змитрик, -а,* с. м. умен. слова *Змитрок; Васюта, -ы,* с. м. умен. имени от крещения *Василий)* або праз своеасаблівую форму тлумачэння «тое ж» са спасылкай на другую памяншальную форму *(Павлючок, -чка,* с. м. То же, что *Павлик. Павлик, -а,* с. м. умен. собственного имени *Павел, Павлуша)*. Пасля ўказання, ад якой формы ўтворана разглядаемая, прыводзіцца другая памяншаль-

ная форма (*Ясюта, -ы,* с. м. умен. ласк. слова *Ясь. Ванюша*).

Каб уваходзіць у лексічны склад той ці іншай мовы, антрапонімы павінны адпавядаць унутраным законам гэтай мовы, валодаць уласцівымі ёй фанетыка-марфалагічнымі якасцямі, падпарадкоўвацца яе вымаўленча-акцэнталагічным нормам. А калі так, то і ўласныя імёны, засведчаныя ў Слоўніку І. І. Насовіча, у пэўнай ступені адлюстроўваюць фанетыка-марфалагічныя асаблівасці беларускай мовы. Разам з гэтым антрапонімы, сабраныя аўтарам Слоўніка з розных абласцей Беларусі, нясуць на сабе і адбітак мясцовых дыялектных асаблівасцей. Так, напрыклад, наяўнасць прыстаўной галоснай *а* ў імені *Влас*>*Власий* сведчыць аб прыналежнасці формы *Авлас* тэрыторыі Магілёўшчыны і Міншчыны; падаўжэнне зычных *ц, с* (*Авдоцця*>*Евдокия, Хадосся*>*Феодосия*) і перадача пачатковага ненаціскнога *е* праз *а* (*Автух, Автушок*>*Евтихий, Авхим*>*Ефимий*) — Магілёўшчыне. Прысутнасць жа форм імён, утвораных пры дапамозе суфікса *-сь* (*Міхась, Самусь*) і формы *Мікола,* якая ўзнікла ў выніку адпадзення канцавога *-й* у традыцыйна-царкоўным імені (*Николай*), характэрна не толькі для Магілёўшчыны, але і Віцебшчыны.

Высветлена, што ў Слоўніку побач з поўнымі размоўна-бытавымі формамі шырока прадстаўлены і ацэначныя, якія ўтварыліся пазней у працэсе паралельнага ўжывання з нейтральнымі. Ацэначныя формы ўзніклі ў сувязі з неабходнасцю выказаць свае адносіны да другой асобы або звярнуцца да пэўнай узроставай катэгорыі людзей — дзяцей, падлеткаў, а затым паступова замацаваліся як нейтральныя. Суфіксацыя — адзін з самых прадуктыўных словаўтваральных сродкаў славянскай антрапаніміі. Як вядома, асноўнай функцыяй суфіксаў пры ўтварэнні назоўнікаў з'яўляецца, па В. Дарашэўскаму [5],— структурная, г. зн. утварэнне назоўнікаў ад іншых часцін мовы. У галіне ж антрапаніміі гэта азначае ўтварэнне своеасаблівых назоўнікаў, у якіх антрапанімічны суфікс не заўсёды мае семантычную нагрузку. Семантычная нагрузка павялічваецца, калі антрапонім утвараецца пры дапамозе суфікса другога антрапоніма [6]. Так, адны формы імён з суфіксамі *-усь, -юк, -ак, -ся, -ша, -а, -ох* пададзены ў Слоўніку як нейтральныя, другія — з суфіксамі *-чик, -уша, -ута (-юта), -уха, -шка, -ец, -ючок, -очок, -уля, -улька, -ичка, -очка, -ля, -енька* засведчаны як памяншальныя,

---

[5] Doroszewski W. Kategorie słowotwórce // Studia i szkice językoznawcze. Warszawa, 1962. S 107.

[6] Железняк И. М. Очерк сербохорватского антропонимического словообразования. Киев, 1969. С. 10.

а імёны з суфіксамі *-ка, -ік, -ок, -сь* — як памяншальныя, так і нейтральныя. Формы імён са спецыфічна антрапанімічным фармантам — *-ута (-юта)* адзначаны толькі як памяншальныя.

Як паказваюць назіранні над імёнамі, што ўвайшлі ў Слоўнік, большасць эмацыянальна-ацэначных форм утворана ад размоўна-бытавых імён. Трэба заўважыць, што яны ўтварыліся і ад усечаных форм, якія былі больш пашыранымі ў гутарковай мове. Паказальным з пункту гледжання словаўтварэння з'яўляецца той факт, што частка імён з цягам часу страчвала значэнне дэмінутыўнасці, замацоўваючыся ў якасці самастойных нейтральных імён, якія выкарыстоўваліся для адрознівання асоб з адным і тым жа каляндарным іменем. Для ўсіх ацэначных па структуры імён даецца тлумачэнне, часам спасылка на каляндарнае імя. Напрыклад: *Адаська, -и,* с. м. ум. собств. имени отъ крещенія *Адам. Самусь, -я,* с. м. Имя отъ крещенія *Самуилъ.*

У Слоўніку засведчаны ацэначныя формы, утвораныя суфіксамі *-ка, -чик, -ик, -юк, -ок, -очка, -ечка, -сь, -ся, -ута (-юта), -енька, -ичка, -уля, -усь, -ак, -ючок, -уша, -ец, -шка, -уха, -очок, -улька, -ох, -ля, -ша, -а,* прычым назіраецца неаднолькавая іх прадуктыўнасць. Найбольшая колькасць гэтых форм імён прыпадае на суфіксы *-ка* (30), *-чик* (7), *-ик* (5), *-юк* (4), *-ок* (4), *-очка* (4), *-сь* (4), *-ута (-юта)* (4), *-ечка* (3), *-ся* (3), *-енька* (3), *-ичка* (2), *-уля* (2). Трэба заўважыць, што формы імён з суфіксамі *-усь, -ак, -ючок, -уша, -ец, -шка, -уха, -очок, -улька, -ох, -ля, -ша, -а* сустракаюцца ў Слоўніку толькі па аднаму разу.

Цікава яшчэ і тое, што ў Слоўніку пададзены ацэначныя формы ад некаторых імён, размоўна-бытавыя ці кананічныя формы якіх не прыводзяцца, напрыклад: *Иванец, Ивашка, Вархлом, Вархлуша, Васюта.* Гэта дае падставы думаць, што аўтар Слоўніка імкнуўся паказаць не толькі паўнату іменаслова, але і ўсю разнастайнасць ацэначных форм, бытаваўшых у мове ў нейтральным значэнні.

Прыкметным момантам у мове з'яўляецца частковае аслабленне адных суфіксаў і ўзнікненне ці актывізацыя другіх — паралельных. Супастаўляючы структурныя элементы антрапонімаў розных перыядаў на аснове слоўнікаў, можна прасачыць дынаміку словаўтваральных сродкаў, вызначыць ступень і характар змен і засцерагчыся ад таго, каб не паставіць у адну плоскасць рознinfrastructure часовыя з'явы[7]. Так, прадуктыўны ў XV—XVII стст. суфікс *-ец,* як паказваюць матэрыялы пісьмовых

---

[7] Sławski F. Stan i zadanie słowotwórstwa prasłowianskiego // Biuletyn Polskiego towarzystwa językoznawczego. 1962, XXI. S. 168.

помнікаў Гродзеншчыны, Брэстчыны[8] і другіх раёнаў Беларусі[9], у XIX ст. у Слоўніку I. I. Насовіча прадстаўлены толькі адной памяншальнай формай *Иванец*. Форм з суфіксам *-ец* няма ні ў слоўніку Шпілеўскага[10], ні ў Мядзведзкага[11], ні ў А. Ярушэвіча[12], ні ў Бялькевіча[13], які зафіксаваў формы, бытаваўшыя ў мове амаль на стагоддзе пазней.

У сувязі з тым што з суфіксам *-ок* засведчана адна ацэначная форма — *Пятрок* і тры — з *-ик* у пісьмовых матэрыялах Гродзеншчыны і Брэстчыны XV—XVIII стст.[14], а таксама ў іншых даследаваннях[15], былі ўсе падставы меркаваць, што дадзеныя фарманты ў сферы антрапаніміі ў гэты перыяд не атрымалі пашырэння. Аднак у XIX ст., як фіксуе I. I. Насовіч, бытавалі 4 формы з *-ок* (*Автушок, Базылек, Змитрок, Пятрок*) і 5 форм з *-ик* (*Гаврик, Змитрик, Павлик, Петрик, Гобрик*). Прычым некаторыя з гэтых форм, страціўшы сваю дэмінутыўнасць, замацаваліся як нейтральныя (*Змитрок, Петрок, Гобрик*). Формы імён з такімі суфіксамі засведчаны і слоўнікам I. Бялькевіча (*Васілёк, Косьціk, Пятрок*).

Ацэначныя формы з суфіксам *-ка* засведчаны ў помніках беларускай пісьменнасці XV—XVIII стст. на ўсёй тэрыторыі Беларусі[16]. Сярод старажытнейшых фармантаў суфікс *-ка* з'яўляецца найбольш прадуктыўным.

Большасць асабовых імён у Слоўніку ўтворана пры дапамозе суфікса *-ка* ад поўнай формы імені (*Ахрэмка, Якубка, Осипка, Пилипка* і інш.). В. Ташыцкі лічыць, што мужчынскія формы імён з суфіксамі *-ка* ў час свайго ўзнікнення прызначаліся выключна для дзяцей[17]. Беларускі ж антрапанімічны матэрыял схіляе да думкі, што суфікс *-ка* мае дэмінутыўна-гіпакарыстычнае значэнне. Гіпакарыстычнае значэнне суфікса *-ка* ў актавых

---

[8] Устинович А. К. Антропонимия Гродненщины и Брестчины XIV—XVIII вв. АКД. Мн., 1970. С. 9.

[9] Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1966.

[10] Шпилевский П. Словарь белорусского наречия [рукапіс].

[11] Медведский С. И. Белорусский словарь [рукапіс]. Толочино, 1910 (Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук у Санкт-Пецярбурзе).

[12] Ярушевич А. И. Русско-белорусский словарь [рукапіс]. ЦДЛА Беларусі (Мінск).

[13] Бялькевіч I. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970.

[14] Устинович А. К. Антропонимия Гродненщины и Брестчины XIV—XVIII вв. С. 10.

[15] Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія.

[16] Устинович А. К. Антропонимия Гродненщины и Брестчины XIV—XVIII вв. С. 8—9.

[17] Taszycki W. Najdawniejsze polskie imiona osobowo // Rozprawy i studia polonistyczne, I (Onomastyka). Wroclaw; Kraków, 1958. S. 80.

запісах XV—XVIII стст.[18] не адчувалася, відаць, таму, што адна і тая ж асоба называлася поўным і ацэначным імёнамі без якога-небудзь эмацыянальнага або стылявога адцення. І. Бадуэн дэ Куртэнэ адзначаў, што гіпакарыстычнасць форм на *-ка* другасная і развілася «з больш частага ўжывання, абыдзенасці, у процілегласць афіцыйнасці»[19]. Прадуктыўнасць суфікса *-ка* ў беларускай мове захоўваецца і ў наш час, прычым як дэмінутыўнасць, так і гіпакарыстычнасць такіх утварэнняў відавочная.

Ацэначныя формы жаночых уласных імён утвораны суфіксамі, характэрнымі і для мужчынскіх імён: *-ка (Авгинка), -очка (Адарочка), -ечка (Зосечка), -ся (Кася), -ичка (Галичка), -уля (Авдуля), -улька (Авдулька), -ша (Марша), -а (Юста).* Найбольш прадуктыўным быў суфікс *-ка,* пры дапамозе якога ўтворана 11 форм.

Слоўнік І. І. Насовіча не страціў свайго значэння і ў наш час. Багацце выяўленага, сабранага і пададзенага антрапанімічнага матэрыялу, наяўнасць развітай сістэмы форм і варыянтаў імён у ім служаць надзейнай крыніцай дадзеных, неабходных не толькі для даследавання дынамікі словаўтваральных сродкаў, але і для тлумачэння некаторых з'яў у беларускай антрапаніміі наогул.

[18] Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія; Устинович А. К. Антропонимия Гродненщины и Брестчины XIV—XVIII вв.

[19] Бодуэн де Куртенэ И. О древнепольском языке до XIV столетия. Лейпциг, 1870. С. 93.

*Т. М. ШЧУР*

# ТЫПАЛОГІЯ НАЗВАЎ АСОБ ЖЫХАРОЎ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

Лексіка-семантычны разрад назваў асоб паводле месца жыхарства папаўняецца ўжо шмат стагоддзяў і складае неад'емную частку моўнай культуры і духоўнай спадчыны народа. Такія імёны з'яўляюцца равеснікамі саміх назваў населеных пунктаў. Аднак не ўсе вусныя намінацыі адначасова замацоўваліся ў пісьмовых крыніцах. Працэс утварэння назваў жыхароў па назвах населеных пунктаў паступова набываў усеагульны характар.

Такая традыцыя дайшла і да нашага часу, яна ўстойліва бытуе ў сучаснай народнай гутарковай практыцы. Адтапанімічныя вытворныя (катайконімы) выкарыстоўваюцца таксама ў перыядычным друку, афіцыйных дакументах і мастацкай літаратуры. Дасканалае веданне такой лексікі дапаможа глыбей пранікнуць у гісторыю і сучасны стан беларускай мовы, зразумець многія пытанні развіцця яе лексічнай, форма- і словаўтваральнай сістэм у розныя гістарычныя перыяды. Вывучэнне назваў жыхароў мае таксама і вялікае практычнае значэнне.

За апошні час з'явілася некалькі распрацовак, прысвечаных паасобным пытанням гэтай тэмы ў дыялектнай і сучаснай беларускай мове [1].

Праблема вывучэння тыпалагічных асаблівасцей назваў асоб расцэньваецца як важны аспект іх лінгвістычнага даследавання, у працэсе якога можна паўней раскрыць не толькі лінгвістычныя, але і сацыяльна-гістарычныя, бытавыя, псіхалагічныя і іншыя фактары, якія вызначаюць станаўленне і развіццё асабовых намінацый у сучаснай беларускай мове.

У залежнасці ад характару словаўтварэння ў сістэме назваў

[1] Гуліцкая В. А. З назіранняў над традыцыйнай адайканімічнай лексікай // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратуры і фальклоры: Тэзісы дакладаў. Гомель, 1980. С. 31—32; Піскун У. Ц. Асабовыя адтапанімічныя намінацыі ў беларускай мове // Там жа. С. 30—31; Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў // Беларуская анамастыка. Мн., 1977. С. 64—73; Прышчэпчык А. М. Назвы жыхароў населеных пунктаў Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці // Беларуская анамастыка. Мн., 1981. С. 28—40.

асоб паводле месца жыхарства выразна выдзяляюцца катайконімы, утвораныя ад уласных і агульных імён. Асноўнымі выступаюць намінацыі, якія структурна і семантычна ўзыходзяць да тапонімаў — афіцыйных і неафіцыйных назваў населеных пунктаў.

Найбольш распаўсюджаны назвы жыхароў, якія ўзыходзяць да слоўных асноў тапонімаў (2373). Аднак існуюць населеныя пункты і са складанымі назвамі (305), ад якіх нерэгулярна ўтвараюцца або зусім не ўтвараюцца асабовыя намінацыі. У такіх выпадках у народных гаворках замацоўваюцца назвы, утвораныя ад аднаго з кампанентаў састаўной тапанімічнай асновы: а) толькі ад назоўнікаў (*дубровенцы, дубровенец* — п. Зялёная Дуброва, *руднічанцы, руднічанец, руднічанка* — в. Рудня-Кашалёўская (Б.-К.), *млынкоўцы, млынковец* — в. Верхні Млынок, Ніжні Млынок (М.), Сіманіцкі Млынок (Лельч.)); б) толькі ад прыметнікаў (*бярозаўцы, бярозавец* — п. Бярозавая Рошча (Б.-К.), *ператрутаўцы, ператрутавец* — в. Ператрутаўскі Варатын (К.), *пустаўцы, пуставец* — в. Пустая Гара (Л.)); в) паралельна ад назоўнікаў і ад прыметнікаў (*буднікі, буднік, буднічка* і *казіміраўцы, казіміравец* — в. Буда Казіміраўская (М.), *вятчынцы, вятчынец* і *руднянцы, руднікі* — в. Вятчынская Рудня (Ж.); *косельцы* і *прудкоўцы* — в. Косельскі Прудок (Карм.)); г) паралельна ад аднаго з кампанентаў састаўной тапанімічнай асновы і ўсёй назвы (*бараўцы, борцы* і *велікаборцы* — в. Вялікі Бор (Св.), *гутнянцы, гутнікі* і *навагутаўцы* — в. Новая Гута (Ч.), *людзвінаўцы* і *малалюдзвінаўцы* — в. Малая Людзвінаўка (Св.)); д) ад складаных утваральных асноў тапонімаў (*аднапольцы, аднаполец* — в. Аднаполле (В.), *казялужцы* — в. Казялужжа (Х.), *старасельцы, стараселец* — в. Стараселле (М.)); е) ад састаўных тапанімічных асноў (*ваўчагорцы, ваўчагорац* — в. Воўчая Гара (Рэч.), *новасцепаноўцы* — в. Новы Сцепаноў (Бр.), *старазалючанцы* — в. Старыя Залюцічы (Ж.)).

Ад некаторых назваў населеных пунктаў адтапанімічныя аднакарэнныя асабовыя намінацыі не ўтвараюцца з-за груваcткасці іх марфалагічнай структуры ці аманіміі форм. У такім выпадку назвы жыхароў падаюцца ў форме апісальных выразаў тыпу (*жыхар, жыхарка рыбгаса «Чырвоная Зорка»* (Ж.), *цэнтральнай сядзібы саўгаса «Мормаль»* (Жл.) або ў форме прыметнікаў (*вольскія, вольскі, вольская* — в. Вольск (Ч.)), а таксама пры дапамозе назоўнікаў толькі множнага ліку (*валнянцы* — в. Вална (Д.), *зялёнадалінцы* — в. Зялёная Даліна (Жл.)).

У асноўным назвы жыхароў утвараюцца ад тапонімаў любой

марфаналагічнай структуры, якія можна аб'яднаць у наступныя структурна-семантычныя групы:

1. Катайконімы паводле афіцыйнай назвы населенага пункта. Словы гэтай лексіка-семантычнай групы ўтвараюцца ад назваў гарадоў (*мазырцы, мазыране, мазыранін, мазыранка, мазырскія* — Мазыр), гарадскіх, рабочых і сельскіх пасёлкаў (*камарынцы, камарынец, камарынскія* — Камарын (Бр.), *касцюкоўцы, касцюкоўскія* — Касцюкоўка (Г.), *лазараўцы, лазараўка, лазаравец, лазараўскія* — Лазараў (В.)). Часцей яны ўжываюцца ў множным ліку, радзей — у адзіночным мужчынскага роду або — у жаночым родзе, а таксама ў форме прыметнікаў.

2. Катайконімы паводле новай назвы населенага пункта. Новымі сталі назвы жыхароў, якія дэрывацыйна суадносяцца з нядаўна перайменаванымі тапонімамі. Ад большасці новых назваў населеных пунктаў утварыліся і асабовыя намінацыі, якія набылі шырокае распаўсюджанне ў сучаснай беларускай мове. Напрыклад, жыхароў в. Чкалава (да 20 красавіка 1939 г. Кукуевічы (Св.)) называюць толькі *чкалаўцы,* адпаведна: *калінаўцы, калінавец, калінаўскія* — в. Калінаўка (раней Зладзееўка (Ж.)), *ленінцы* — в. Леніна (да 25 кастрычніка 1922 г. Папоўка (Д.)).

3. Катайконімы паводле ранейшай назвы населенага пункта. Пасля афіцыйнага перайменавання некаторых геаграфічных назваў жыхароў па-ранейшаму называюць па былой назве населенага пункта (*купчане, купчанцы, купчанскія* — пас. Новы Свет (раней Купча (Б.-К.)), *майданцы, майданец, майданка, майданскія* — пас. Хваенск (раней Майдан (Ж.)). Гэта сведчанне адлюстравання гісторыі, сацыяльна-эканамічных і духоўных традыцый народа, што вельмі важна для захавання ў яго памяці папярэдняй этнаграфічнай і культурнай традыцыі.

Пасля аб'яднання некалькіх населеных пунктаў у адзін апошні афіцыйна набывае новую назву, а ў народна-гутарковай мове яго функцыю выконвае былая геаграфічная назва і адпаведная ёй аднакарэнная асабовая намінацыя. Так, жыхароў былых хутароў Капліца і Свірынаўка, якія перасяліліся ў в. Браніслаў Жыткавіцкага раёна, і цяпер называюць *капліčанцы* і *свірынаўцы.*

4. Катайконімы паводле назвы калгаса, саўгаса. Жыхароў вялікіх населеных пунктаў, асабліва цэнтральных сядзіб, называюць па назве калгаса (*пераможцы* — «Перамога» (Карм.), *бальшавікі* — «Прамень Кастрычніка» (раней «Бальшавік» (М.)), саўгаса (*арэсаўцы* — «Арэса» (Акц.), *буйнаўцы* — «Буйнавічы» (Лельч.)).

5. Катайконімы паводле назвы вуліц, мікрараёнаў, а таксама

былых хутароў (*фесцівальцы, закутайцы, свістоўцы* — в. Навілаўка (вул. Фесцівальная), *галяпуны, куляшы, бабічоўцы, сівакоўцы* — в. Калінаўка (да 1948 г. хутары Куляшоў, Галяпуноў, Бабічаў, Сівакоў (Лельч.)), *зарачанцы* і *пхоўцы* — мікраraён «Зарэчны», пас. Пхоў (К.).

Акрамя назваў жыхароў па геаграфічных аб'ектах, у народна-гутарковай мове вядомы назвы і ад агульных імён. Нягледзячы на іх вузкую лакалізацыю, яны, як сцвярджаюць многія даследчыкі, з'яўляюцца адным з цікавых, але маладаследаваных разрадаў лексікі [2]. Гэта выказванне ў поўнай меры адносіцца і да назваў жыхароў Гомельшчыны.

Характэрнай асаблівасцю такіх назваў з'яўляецца тое, што яны не называюць канкрэтнае месца жыхарства, а толькі ўказваюць на пэўныя прыметы жыхароў дадзенай мясцовасці, напр.: *крушнічане, крушнічанін* — афіцыйная назва жыхароў в. Крушнікі (М.) і *шляхайцы, шляхавец, шляхайскія* — іх неафіцыйныя назвы (вёска размешчана ўздоўж аўтамагістралі, якая называецца шляхам). Агульным для адтапанімічных вытворных і мясцовых назваў выступае слова «жыхары»: *буразьцы, буразяне* — жыхары в. Буразь і *заранцы, заранец, заранка* 'працалюбівыя людзі, устаюць на золку' — таксама жыхары в. Буразь (Ж.). Такія рэгіянальныя найменні ствараюцца не іх носьбітамі, а навакольным насельніцтвам. Часцей за ўсё імі карыстаюцца суседзі, ствараючы своеасаблівыя лексічныя пары (*кукі* і *дорды, нарыцы* і *лямцы, навалокі* і *местачкоўцы*). Аналіз неафіцыйных назваў дазваляе выдзеліць наступныя лексіка-семантычныя групы:

1. Намінацыі па назвах тапанімічных арыенціраў. У семантычным плане яны найбольш разнастайныя і складаюць некалькі асобных падгруп:

а) назвы жыхароў па цэнтральнай частцы населенага пункта (*гарадчане, канторайцы* — в. Вотар (Ч.), *сялоўцы, саўхозцы* — в. Дабрагошча (Жл.), *старасельцы* — в. Насовічы (Д.), *серадавінцы* — в. Навілаўка (В.), *сярдзейцы* — в. Тонеж (Лельч.)); яго ўскраіне (*акалічане, акалічанец, акалічанка* — в. Рудакоў (К.), *бакайцы, бакавец* — в. Чэрнічы (Ж.), *завулкайцы, закутайцы* — в. Лаўстыкі (Акц.), *кулапоўцы, кулаповец* — в. Галы (Б.-К.), *пасынкоўцы, пасынковец* 'адносіны да нягродных дзяцей' — в. Беразіна (Ж.), *адшчапенцы* 'жывуць воддаль ад ас-

---

[2] Ухмылина Е. В. Названия и прозвища русского населения Горьковской области // Этнонимы. М., 1970. С. 254—263; Никонов В. А. Этнонимия // Там же. С. 6—8; Тагунова В. И. Наименования жителей некоторых селений Владимирской и Горьковской областей // Ономастика Поволжья. Ульяновск, 1969. С. 246—250.

ноўнай часткі' — в. Бабчын (Х.), *глушакі* 'жывуць у тупіку' — в. Залессе (П.), *хутаране, хутаранін, хутаранка* — в. Скароднае (Ел.));

б) назвы жыхароў па рэльефна-ландшафтных асаблівасцях і суседніх аб'ектах (*альсоўцы, альсовец, альсоўка* 'жывуць каля балота' — в. Глініца (М.), *выганцы* 'жыхары, якія жывуць каля адгоннай пашы для жывёлы' — в. Гадзілавічы (Р.), *вуганцы* — в. Замошша (Лельч.), *заднепцы* 'жывуць за ракой Днепр' — в. Есяні (Бр.), *пясчанцы, пяшчанец* 'жыхары, якія жывуць на неўрадлівых землях' — в. Дзедаўка (Ж.)).

2. Асобную групу складаюць намінацыі ў залежнасці ад асноўнага занятку жыхароў (*бульбаўцы* 'жыхары, якія займаюцца вырошчваннем бульбы' — в. Пянчын (Б.-К.), *песняры* 'удзельнікі мастацкай самадзейнасці' — в. Козенкі (М.), *чыгуначнікі* 'жыхары, якія працуюць на чыгунцы' — в. Салтанаўка (Жл.)).

3. У такой жа меры ўтвараюцца назвы па асаблівасцях быту і спосабе жыцця (*барсукі, барсук, барсучыха* 'усё жыццё працуюць на зямлі' — в. Лагвошчы (Ж.), *куркулі, куркуль, куркуліха* 'жадныя людзі' — в. Сырод (К.), *прастакі* 'даверлівыя людзі' — в. Веляцін (Х.), *тарбэшнікі, тарбэшніца* 'той, хто носіць кашалі ў посцілках за плячамі' — в. Дразды (М.)).

4. Вядомы таксама намінацыі паводле ранейшага месца жыхарства (*амурцы, амурац, амурка* 'перасяленцы з Амурскай вобласці' — в. Пагост (Ж.), *ляхаўцы, ляхавец, ляхаўка* 'перасяленцы з Ляхавіцкага раёна' — в. Бечы (Ж.), *разанцы, разанец, разанка* 'перасяленцы з Разані' — в. Іпалітаўка (Ч.), *чэхаўцы* 'жыхары, якія пераехалі з Чэха-Славакіі' — в. Гарохаў (К.)). Часта жыхароў, якія пераехалі з іншых населеных пунктаў, называюць абагульнена, без канкрэтызацыі, з якой іменна вёскі, горада, пасёлка яны прыехалі (*наводныя* — в. Рудакоў (Х.), *набрыдні* — в. Крывін (Л.), *перасяленцы* — в. Недайка, в. Пянчын (Б.-К.)). Мясцовых жыхароў называюць *местачкоўцы, местачковец, местачкоўка* — Чачэрск, *тубольцы* — в. Юравічы (К.).

5. Асобныя назвы бытуюць у залежнасці ад характару паводзін іх носьбітаў (*нарыцы, нарыца* 'упартыя, наравістыя людзі' — в. Гурыны (М.), *таўкачы* 'ціхія, непаваротлівыя людзі' — в. Шарэйкі (К.), *чарнаротыя* 'той, хто громка гаворыць, без прычыны сварыцца' — в. Сіманічы (Лельч.), *шэршні* 'злыя, незадаволеныя людзі' — в. Каробка (Ч.)). У асноўным такія назвы носяць рэзка выражаны адмоўны характар.

6. Нарэшце, існуюць намінацыі, звязаныя з рэлігійнымі поглядамі жыхароў (*бязбожнікі, бязбожнік, бязбожніца* 'тыя, хто

не верыць у бога' — в. Браніслаў (Ж.) *веруючыя* 'рэлігіёзныя людзі' — в. Захарполле (Ч.), *каталікі, каталік, каталічка* — в. Булаўкі (К.), Усаў (Лельч.), *праваслаўныя* — в. Высокі Хутар (Д.), *стараверы* — в. Корсунь (Карм.)). Назвы гэтай групы адносяцца да разраду ўстарэлай лексікі, якая захавалася сярод некаторых сельскіх жыхароў старэйшага ўзросту.

Такім чынам, разгледжаныя асабовыя намінацыі сведчаць аб іх сістэмнасці, развітай сінаніміі і разнастайнасці структурна-семантычных адносін з утваральнымі асновамі-тапонімамі, а таксама з агульнымі імёнамі, якія даюць дадатковыя звесткі пра чалавека — жыхара таго або іншага населенага пункта.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Акц. — Акцябрскі
Бр. — Брагінскі
Б.-К. — Буда-Кашалёўскі
В. — Веткаўскі
Г. — Гомельскі
Д. — Добрушскі
Ел. — Ельскі
Жл. — Жлобінскі
Ж. — Жыткавіцкі
К. — Калінкавіцкі
Карм. — Кармянскі
Лельч. — Лельчыцкі
Л. — Лоеўскі
М. — Мазырскі
Н. — Нараўлянскі
П. — Петрыкаўскі
Р. — Рагачоўскі
Рэч. — Рэчыцкі
Св. — Светлагорскі
Х. — Хойніцкі
Ч. — Чачэрскі

# ТАПАНІМІЯ

П. С. БУДЗЬКО

## ТЫПАЛОГІЯ ФЛЕКСІЙНЫХ АЙКОНІМАЎ

### НА МАТЭРЫЯЛЕ БЕЛАРУСКАЙ І НЯМЕЦКАЙ МОЎ

У сучаснай мове назвы населеных пунктаў ужываюцца ў адзіночным і множным ліках. Плюральным айконімам прысвечаны асобныя даследаванні [1]. У беларускай айканіміі вылучаюць два тыпы такіх назваў: флексійныя і суфіксальна-флексійныя [2]. Першыя з іх ужываюцца выключна ў форме множнага ліку назоўнага склону. Флексійныя айконімы характэрны для любой мовы. Яны з'яўляюцца прадметам нашага даследавання і адначасна працягам сінхроннага структурна-словаўтваральнага супастаўлення айканімічных сістэм няроднасных моў — беларускай і нямецкай [3]. Матэрыялам для супастаўлення паслужылі флексійныя айконімы двух вялікіх тапанімічных рэгіёнаў — Мінскай вобласці на Беларусі і Цюрынгіі ў Германіі.

У флексійных айконімаў паказчык множнага ліку з'яўляецца сродкам айканімізацыі апелятываў, антрапонімаў і гідронімаў: *Авіны, Адамы, Грамніцы, Hütten, Öchsen*. У шэрагу назваўканчаткі множнага ліку *-і(-ы), -а/-(е)n, -еr* далучаюцца да ўскладненай суфіксам ці складанай асноў. У такіх айконімах суфіксы выконваюць свае функцыі на ўзроўні апелятываў і антрапонімаў: *Азяркі (азяркі), Андрэйчыкі (Андрэй-чык-і)*. Айконімы *Навасады, Waldhäuser, Pahnstangen* — вынік флексійнай дэрывацыі складаных апелятываў.

Удзельная вага флексійных айконімаў у абедзвюх мовах розная: у айканіміі Міншчыны яны складаюць 20% (990 н. п. з 5000), у Цюрынгіі толькі 1,2% (51 н. п. з 3500). Айконімы Plu-

---

[1] Болотов В. И. Множественное число имени собственного и апеллятива // Имя нарицательное и имя собственное. М., 1978. С. 99—106; Никонов В. А. Две волны в топонимии Полесья // Полесье. М., 1968. С. 193—205; Sperber W. Die Bedeutung des Plurals bei sorbischen Flurnamen // ZfSl. Bd. III. H. 2—4. Berlin, 1958. S. 310—322.

[2] Лемцюгова В. П. Беларуская айканімія. Мн., 1970. С. 124—143.

[3] Будзько П. С. Тыпалогія састаўных айконімаў: На матэрыяле беларускай і нямецкай моў // Беларуская анамастыка. Мн., 1985. С. 52—68.

ralia tantum падзяляюцца на айконімы-назоўнікі і айконімы-прыметнікі.

*Айконімы-назоўнікі.* У залежнасці ад лексічнай суадноснасці асновы флексійныя айконімы-назоўнікі можна падзяліць на тры групы: айконімы, утвораныя ад апелятываў; айконімы, утвораныя ад антрапонімаў, і айконімы, утвораныя ад гідронімаў.

I. Айконімы, утвораныя ад апелятываў. Найбольш распаўсюджаныя сярод іх назвы, якія ўзыходзяць да мясцовых фізіка-геаграфічных тэрмінаў і абазначаюць:

а) прыродна-геаграфічныя асаблівасці аб'екта: *Азяркі, Бярозкі, Горы* і інш. (На Міншчыне 71 айконім); *Badelachen* (ahd. *bad*+*lahha* 'лужына'), *Bremen* (ahd. *brēm* 'край, балоцісты бераг'), *Clinger* (ahd. *chlinga,* mhd. *klinge* 'ручай, які звініць'), *Greußen* (ahd. *grioz* 'пясок, жвір'), *Heuthen* (ahd. *haubit, haupit* 'вяршыня, галава'), *Ketten (die Bergkette* 'горная града'), *Linden, Mosen* (ahd. mhd. *mos* 'мох'), *Reiser* (ahd. *(h)ris* — мн. лік *hrisir* 'вецце дрэў') — у Цюрынгіі выяўлена 9 айконімаў;

б) зямельныя ўчасткі: *Абдзелкі, Аполіны, Атрубы* і інш. (52 айконімы — 132 н. п.); *Gehren* (ahd. *gēre,* mhd. *gēre* 'клін, палетак у форме кліна'), *Singen* (mhd. *sinc* 'выпалены ўчастак зямлі'), *Stelzen* (2) (ahd. *stelza,* mhd. *stelze* 'поле завостранай формы'), *Wangen* (ahd., *asä. wang* 'поле, луг'), *Weiden* — 5 айконімаў (6 н. п.);

в) тыпы паселішчаў: *Замкі, Навасады, Навасёлкі* (4) і інш. (10 айконімаў — 14 н. п.); *Stedten* (3) (ahd. *stat, stati* 'месца паселішча ля дарогі, ракі, перавала'), *Stödten* (гл. ahd. *stat, stati)* — 2 айконімы (5 н. п.);

г) будынкі, збудаванні гаспадарчага прызначэння: *Авіны, Азяроды, Бакшты* і інш. (26 айконімаў — 36 н. п.); *Beuren* (ahd., asä. *būri* 'жыллёвая пабудова'), *Brücken, Hausen* (3), *Hämmern (das Hammerwerk* 'кузня'), *Hütten, Pahnstangen (die Bahnstange* 'дарожны знак'), *Pforten* (лац. *porta* 'дзверы, вароты'), *Schleifreisen* (ahd. *slīfen* 'вастрыць'+ahd. *rīse* 'драўляны жолаб для сцёку вады'), *Schmieden, Stöben* (mhd. *stuve,* ahd. *Stüve* 'калода, пень'), *Zimmern* (3) (ahd. *zimbar* 'драўляны лом, хаціна'), *Waldhäuser* — 12 айконімаў (16 н. п.) [4].

Безумоўна, у многіх з гэтых назваў форма множнага ліку

---

[4] Этымалогія нямецкіх айконімаў узята з наступных крыніц: Bahlow H. Deutschlands geographische Namenwelt. Etymol. Lexikon d. Fluß- und Ortsnamen alteurop. Herkunft. Frankfurt a. M., 1965; Förstemann E. Die deutschen Ortsnamen. Nordhausen, 1863; Rosenkranz H. Ortsnamen des Bezirkes Gera. Greiz, 1982; Schröder E. Deutsche Namenkunde. Göttingen, 1938; Walther H. Namenkundliche Beiträge zur Siedlungsgeschichte cles Saale- und Mittelelbegebietes bis zum Ende des 9. Jahrhunderts. DS N 26. Berlin, 1971.

была напачатку паказчыкам рэальнага мноства: *Горы, Канцы, Gehren, Heuthen.* Аднак ужо ў XVI ст. словаўтваральная мадэль Pluralia tantum была адной з самых пашыраных у беларускай айканіміі і ў выніку частага ўжывання паступова ператварылася ў шэрагу выпадкаў у чыста айканімічны паказчык, які страціў сваю першапачатковую лексіка-семантычную функцыю. Тапанімічнасць узмацняецца, калі ў адным айконіме спалучаюцца два фарманты (суфікс і канчатак). Гэтым тлумачыцца значная колькасць у беларускай айканіміі плюральных назваў у дэмінутыўнай форме: *Баркі, Беражкі, Вішанькі* і інш. (на Міншчыне 78 н. п.).

Гэтая адметнасць функцыі формы Pluralia tantum ужо даўно адзначана даследчыкамі. Так, А. В. Суперанская [5] слушна падкрэслівае, што словы тыпу *Барсуки, Грязи* ў большасці апытаных людзей асацыіруюцца з назвамі населеных пунктаў.

Айконімы гэтага тыпу ў сучаснай нямецкай мове таксама ўжываюцца ў форме назоўнага склону множнага ліку: *Linden, Waldhäuser.* Аднак генетычна большасць з іх паходзіць ад лакатыўнага давальнага склону множнага ліку: *Hausen (bī den hūsun), Weiden (bī den wīden).* Асобныя айконімы ўжываліся напачатку ў адзіночным ліку і толькі з цягам часу набылі форму множнага: *Bremen (Brema,* 795; *Bremun,* 937) [6], што таксама сведчыць пра наданне флексіі функцыі айканімічнага паказчыка.

Асобную падгрупу складаюць айконімы, утвораныя ад апелятыўных назваў калектыву людзей. Яны абазначаюць:

а) прафесію, род заняткаў калектыву: *Агароднікі, Леснікі* і інш.;

б) фізіка-геаграфічныя асаблівасці месца жыхарства калектыву: *Забалотнікі, Забалотцы, Прылепцы* і інш. [7];

в) сацыяльнае становішча: *Баяры, Манахі, Халопы* і інш; *München* (ahd., mhd. *munich* ’манах’);

г) этнічную прыналежнасць: *Ляхі, Татары* і інш.; *Franken, Schwaben.*

Адметнае становішча займаюць таксама айконімы, якія фіксуюць разнастайныя назвы фауны: *Вайкі, Карасі, Яршы* і інш.

---

[5] Суперанская А. В. Общая теория имени собственного. Мн., 1973. С. 122.

[6] Die deutsche Sprache. Kleine Enzyklopädie. Bd. II. Leipzig, 1969. S. 689.

[7] Семантычна адпавядаюць беларускім і маюць форму множнага ліку цюрынгскія айконімы: *Töpfer (topfarun* ’ганчары’), *Bergern* (*bergāre* ’жыхары гор’) і інш. Гэта старажытны айканімічны тып (V—VII стст.), шырока распаўсюджаны ў тапаніміі: *Fischern (vischaren, Vogelrn (vogelaren), Zeidlern (zidelaren* ’бортнікі’) і інш. Аднак у нямецкай тапаніміцы яны разглядаюцца як суфіксальныя ўтварэнні на *-n* і таму сюды не адносяцца. Гл.: Bach A. DNK. Bd. II, 1. Heidelberg, 1953. § 220 a. d.

У Цюрынгіі ад заонімаў утвораны два айконімы: *Falken, Heressen* (было *hirzen*, mhd. *hirz* 'алень').

З прычыны таго, што большасць беларускіх айконімаў тыпу *Ганчары, Мазуры, Казлы* суадносіцца з сучаснымі прозвішчамі ці мянушкамі, іх прынята лічыць антрапанімічнымі ўтварэннямі. Што да айконімаў на *-нікі*, то нельга не пагадзіцца з думкай асобных даследчыкаў, што залічэнне іх у шэраг антрапанімічных у значнай меры з'яўляецца ўмоўным[8]. Больш верагодна, што ў іх аснове ляжаць назвы калектыву людзей, тым больш што асобныя з іх не суадносяцца з антрапонімамі: *Забалотнікі* (на Віцебшчыне — *Нійнікі, Пустэльнікі*).

У айконімаў тыпу *Ганчары* (параўн. ням. *Töpfer*) старажытнарускі суфікс *-арь* быў запазычаны з лацінскай мовы (лац. *-arius*) праз нямецкую (ahd. *-ari*, mhd. *-er(n)*). У XVIII—XIX стст. суфікс *-арь* страціў сваю прадуктыўнасць і быў выцеснены другімі, у тым ліку суфіксам *-нік/-ік: Лесарь — Лесник, Медарь — Медник*[9]. На Міншчыне адзначаны 33 айконімы (61 н. п.) на *-нікі* і толькі 8 (10 н. п.) на *-ары*.

Тое, што айконімы, утвораныя ад апелятыўных назваў калектыву людзей, этнонімаў і заонімаў, функцыяніруюць як у блізкароднасных мовах (параўн. у рус.: *Бортники, Дулебы, Кузнецы, Ерши* і інш.[10]), так і ў няроднасных (у ням.), дае падставу сцвярджаць, што яны ёсць і ў беларускай айканіміі. Аднак гэта трэба яшчэ пацвердзіць прыкладамі са старажытных крыніц.

II. Айконімы, утвораныя ад антрапонімаў. Гэты тып прадстаўлены ў беларускай айканіміі шырока. Тут выдзяляюцца дзве вялікія падгрупы назваў: айконімы, утвораныя ад асабовых кананічных імён тыпу *Абрамы, Адамкі, Азаркі* (70 айконімаў — 77 н. п.), і айконімы, утвораныя ад антрапонімаў апелятыўнага паходжання тыпу *Аксаміты, Будзькі, Шапавалы* (454 айконімы — 529 н. п.). Апошнія складаюць самую вялікую групу флексійных назваў, праўда, некаторыя з іх, як адзначалася вышэй, могуць быць утвораны ад апелятываў.

У Цюрынгіі такіх айконімаў няма, наогул у нямецкай айканіміі яны вельмі рэдкія: *Stormarn* (>антр. *Sturmari*)[11].

---

[8] Григорьева Л. Н. Ойконимия белорусского Подвинья: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1978. С. 18.

[9] Железнова Р. В. Из истории личных имен существительных с суффиксом *-арь* в русском литературном языке: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. М., 1974. С. 10—24.

[10] Морозова М. Н. Имена собственные русского языка: Географические названия. Ч. 2. М., 1977. С. 34, 45—46; Мурзаев Э. М. География в названиях. М., 1982. С. 176.

[11] Bach A. DNK. Bd. II, 1. § 220.

Разглядаючы ўсходнеславянскія айконімы з антрапанімічнымі асновамі тыпу *Иваны, Прохоры,* Я. С. Оцін[12] прыходзіць да вываду, што іх плюральныя формы ўтварыліся дзякуючы тапанімізацыі форм множнага ліку асабовых імён. Флексія множнага ліку ўзнікла на антрапанімічнай аснове, а не на тапанімічнай стадыі развіцця падобных айканімічных структур.

Таму сувязь з назвамі тыпу *Мосты, Горки* тут чыста знешняя. Назвы тыпу *Иваны* з'яўляюцца абсалютнымі антрапонімамі ў тапанімічнай функцыі. Прымаючы гэты пункт гледжання, адзначым, што агульная тэндэнцыя айканімізацыі флексіі не магла не адбіцца і на айконімах, утвораных ад апелятыўных антрапонімаў. Так, напрыклад, у в. *Крыўкі* Віцебскай вобласці амаль усе жыхары маюць прозвішча *Крыўко.* У тых, хто ведае гэтых людзей, назва вёскі асацыіруецца з прозвішчам і форма множнага ліку ўспрымаецца як указанне на калектыў людзей з аднолькавым прозвішчам. Для другіх жа носьбітаў беларускай мовы гэтая назва нічым не адрозніваецца ад іншых назваў, аформленых па мадэлі Pluralia tantum, гэта значыць, як назва пасялення[13].

Тапанімізацыі флексіі садзейнічала шырокае ўжыванне форм множнага ліку ў беларускай айканіміі. Так, шэраг айконімаў Міншчыны ў спісках за 1909 г. перадаецца яшчэ ў форме адзіночнага ліку: *Брод, Лисица, Рѣдька*[14], і толькі ў апошні час яны замацаваліся як Pluralia tantum: *Брады, Лісіцы, Рэдзькі*[15]. Аналагічныя прыклады з рускай айканіміі Алтая прыводзіць І. А. Вараб'ёва: айконімы *Хабары, Мормыши, Шахи* ў спісках за 1859 г. падаюцца як *Хабаровское, Мормыш, Шаховское*[16].

Можна пагадзіцца, што ў такіх назвах флексія не з'яўляецца ўказаннем на множнасць, паколькі яе тут няма.

III. А й к о н і м ы, у т в о р а н ы я а д г і д р о н і м а ў. На Міншчыне адзначана два айконімы, утвораныя ад назваў гідронімаў: *Грамніцы* (р. *Грамніца*), *Удранкі* (р. *Удранка*). Больш

---

[12] Отин Е. С. Непереоформленные личные имена в гидронимии Дона // Восточнославянская ономастика: Материалы и исследования. М., 1979. С. 135—136.

[13] Грыгор'ева Л. М. Крытэрыі і прынцыпы структурна-словаўтваральнай класіфікацыі айконімаў беларускага Падзвіння // Беларуская анамастыка. Мн., 1981. С. 76.

[14] Ярмоловичъ В. С. Списокъ населеныхъ мѣстъ Минской губерніи. Минскъ, 1909. С. 18, 107, 176.

[15] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981. С. 38, 155, 234.

[16] Воробьева И. А. Ойконимия Алтая // Русская топонимика Алтая. Томск, 1983. С. 167—168.

такіх назваў на Віцебшчыне: *Абітокі* (р. *Абітока*), *Астравіты* (воз. *Астравіта*), *Бікложы* (р. *Біклажа*) і інш. Пры гэтым не ўсе яны адразу аформіліся па мадэлі Pluralia tantum. Некаторыя напачатку дубліравалі структуру гідроніма: воз. *Варонеч* — н. п. *Варонеч* — зараз *Варонечы,* р. *Ушача* — н. п. *Ушача* — *Ушачы*[17].

Я. С. Оцін адзначае, што ў айканіміі Падоння такіх прыкладаў сотні: р. *Клеток* — н. п. *Клетоки,* р. *Паника* — н. п. *Паники* і інш.[18]

Нямецкія адгідранімічныя айконімы толькі сінхранічна маюць форму множнага ліку назоўнага склону: *Ammern* (р. *die Ammer*), *Öchsen (die Öchse), Geisleden (die Geislede), Mücheln (die Müchel), Schmalkalden (die Schmalkalde), Trusen (die Truse), Zopten (die Zopte), Zoppoten (die Zoppote)* (у Цюрынгіі зафіксавана 8 такіх айконімаў). Ва ўсіх гэтых назвах флексія *-(e)n* — генетычна форма слабага лакатыўнага давальнага склону адзіночнага ліку, якая, як і форма лакатыўнага давальнага склону множнага ліку, садзейнічала станаўленню сучаснага нейтральнага назоўнага склону множнага ліку[19].

**Айконімы-прыметнікі.** Рэдка выкарыстоўваюцца ў беларускай айканіміі ў якасці айконімаў прыметнікі ў назоўным склоне множнага ліку: *Баравыя, Берскія, Вярбіцкія* і інш. (На Міншчыне — 6 айконімаў). Па прынцыпу ўтварэння яны не адрозніваюцца ад айконімаў-назоўнікаў. Сувязь большасці гэтых назваў з прозвішчамі і мянушкамі зусім відавочная: *Вярбіцкія, Жардзецкія, Кухальскія* і інш. Толькі айконімы *Баравыя, Лазавыя, Новыя* і *Ручавыя* маглі ўтварыцца як ад антрапонімаў, так і ад апелятываў, якія абазначалі жыхароў розных месц па якой-небудзь прыкмеце.

У нямецкай айканіміі няма флексійных айконімаў-прыметнікаў, яны і ў неанамастычнай лексіцы не ўжываюцца ў нямецкай мове самастойна, без кантэксту.

Супастаўляльны аналіз айконімаў, утвораных па словаўтваральнай мадэлі Pluralia tantum у беларускай і нямецкай мовах, дазваляе выявіць шэраг агульных рыс і спецыфічных асаблівасцей. Агульнай з'яўляецца тэндэнцыя дэсемантызацыі і структуралізацыі флексіі множнага ліку і ператварэння яе ў чыста та-

---

[17] Грыгор'ева Л. М. Айконімы гідранімічнага паходжання басейна Заходняй Дзвіны: У межах Беларусі // Беларуская анамастыка. Мн., 1977. С. 40.

[18] Отин Е. С. Топонимическая метонимия: Вид связи «гидроним — ойконим» // Перспективы развития восточнославянской ономастики. М., 1980. С. 109—110.

[19] Bach A. DNK. Bd. II, 1. § 112—113.

панімічны фармант. Найбольшая ступень тапанімізацыі флексіі ў абедзвюх мовах назіраецца ў айконімах, утвораных ад гідронімаў і апелятываў.

Семантыка апелятыўнай лексікі, ад якой утвораны беларускія і нямецкія айконімы, у асноўным супадае, аднак айконімы тыпу *Бортнікі, Ваўкі, Швяды* патрабуюць далейшых даследаванняў па высвятленні матываў і прычын паяўлення іх у беларускай айканіміі.

У нямецкай айканіміі плюральныя айконімы антрапанімічнага паходжання вельмі рэдкія, у той час як у беларускай мове гэта самы прадуктыўны тып айконімаў, для якога ў меншай ступені характэрна айканімізацыя формы множнага ліку.

Спецыфічная асаблівасць нямецкай айканіміі — адсутнасць айконімаў-прыметнікаў, што тлумачыцца агульнай уласцівасцю нямецкай мовы: прыметнікі без назоўнікаў не могуць самастойна выразіць катэгорыю множнага ліку.

Большасць флексійных айконімаў нямецкай мовы толькі з сінхранічнага пункту гледжання — плюратывы назоўнага склону. Часцей яны ўзыходзяць да лакатыўнага давальнага множнага ліку, які зараз успрымаецца як назоўны склон, радзей — да слабага давальнага адзіночнага ліку.

Словаўтваральная мадэль Pluralia tantum з'яўляецца адной з самых прадуктыўных для беларускай айканіміі і непрадуктыўнай — для нямецкай.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ
## КРЫНІЦЫ

Bach A. DNK. Bd. II, 1.— Bach A. Deutsche Namenkunde, Band II: Die deutschen Ortsnamen. Teil 1—2. Heidelberg, 1953; DS — Deutsch-Slawische Forschungen zur Namenkunde und Siedlungsgeschichte; ZfSl — Zeitschrift für Slawistik.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

asä.— altsächsisch (старажытнасаксонскі)
ahd.— althochdeutsch (старажытнаверхненямецкі)
mhd.— mittelhochdeutsch (сярэдневерхненямецкі)
mnd.— mittelniederdeutsch (сярэдненіжненямецкі).

*В. П. ЛЕМЦЮГОВА*

# ТАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

## Мінск

*Мінск* (летапісны *Менескъ, Менскъ, Меньскъ*) — адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі. Узнік на аснове старадаўняга драўлянага замка ў месцы зліцця рэк Няміга і Свіслач (раён сучаснай плошчы 8 Сакавіка). Упершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 г.[1]. У ёй апісваецца, як 3 сакавіка трое братоў Яраславічаў (Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад) узялі *Меньск* і перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей захапілі з сабой як ваенную здабычу і пайшлі да Нямігі. Ад гэтай даты і вядзецца адлік гадоў нашаму сталічнаму гораду. На самай жа справе ён намнога старэйшы, бо ў пісьмовыя крыніцы паселішча трапляла не ў дзень свайго нараджэння, а ў сувязі з якой-небудзь важнай гістарычнай падзеяй.

Паводле падання горад заснаваў асілак-вядзьмар *Ме́неск* ці *Мяне́ск*. Спачатку ён пабудаваў на рацэ Свіслач (у месцы ўпадзення ў яе рэчкі Пярэспа) вадзяны млын на «сем колаў», а потым пачаў сяліць вакол яго дружыннікаў. Так пастулова і вырас цэлы горад, які назвалі па імені яго заснавальніка. Шырока бытуе думка, што ў аснове назвы горада ляжыць слова *мена,* бо ў старажытнасці ён знаходзіўся на месцы ажыўленага тавараабмену.

Даследчыкі звязваюць паходжанне назвы *Менск* з рачной назвай *Мень* ці *Мена*[2], з латышскім словам *main* 'балота'[3].

Але ж няма звестак пра існаванне асілка *Ме́неска* ці *Мяне́ска* і пра ставок, які ён будаваў. А месцы гандлю ў перыяд, калі *Менск* набывае вядомасць, называліся не менамі, а таргамі і таржкамі. Апрача таго, *Менск* у эпоху свайго зараджэння не быў месцам ажыўленага гандлю[4].

Няма і прамых доказаў адносна сувязі назвы *Менск* з гідронімам *Мень (Мена)*. Тым не менш існуе шэраг фактаў, якія га-

[1] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 1. С. 166.

[2] Никонов В. А. Краткий топонимический словарь. М., 1966. С. 268; Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 232.

[3] Pokorny E. Zur Urgeschichte der Kelten und Illurier. Halle, 1938. S. 73.

[4] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. С. 232.

вораць на карысць такога паходжання. Перш за ўсё — гэта наяўнасць назваў рэк з асновай *Мен-* на ўсходнеславянскай і заходнеславянскай тэрыторыях. За 16 км ад Мінска працякае ручай *Менка*, які ўпадае ў Пціч. У Чарнігаўскай вобласці ёсць пасёлак *Мена,* размешчаны на рацэ *Мена* (правы прыток Дзясны), а на Ушаччыне — возера *Мена.* Вельмі важным аргументам у падтрымку адгідранімічнай версіі выступае той бясспрэчны факт, што менавіта назва ракі *Мень* (прыток Віслы), якая захавалася да нашага часу, паслужыла асновай для назвы старажытнага польскага горада *Мінск Мазавецкі.*

Дзе ж знаходзіцца рака *Мень,* ці *Мена,* з якой звязаў свой гістарычны лёс *Мінск Літоўскі* (так яго называлі ў адрозненне ад польскага Мінска Мазавецкага)? В. А. Жучкевіч[5] дапускаў, што першапачаткова горад размяшчаўся ў раёне сучаснай вёскі Гарадзішча Мінскага раёна, што знаходзіцца на беразе невялікай рачулкі Менкі пры ўпадзенні ў яе ручая Дунай (зараз не існуе). У гэтым месцы археолагі знайшлі старажытнае гарадзішча плошчай каля аднаго гектара з добра захаванымі штучныміваламі і радыяльнай сеткай вуліц.

На думку ж археолага Э. М. Загарульскага, не варта шукаць сляды ракі Мень (Мена) за межамі сучаснага Мінска. І ў доказ гэтага ён звяртае ўвагу на адзін са старажытных тапонімаў Мінска *Верхмень* (раён сучасных вуліц Грыбаедава, Заслаўскай і Саўгаснай), які вельмі празрыста нагадвае, што тут было вярхоўе ракі Мень.

Як бачым, па меры накаплення фактаў усё большую аргументаванасць набывае версія аб паходжанні назвы *Менск* ад гідроніма *Мень (Мена).* Рака пакуль што не знойдзена і не лакалізавана, але яе існаванне ў мінулым па сутнасці ўжо прадказана наяўнасцю аднакарэнных назваў. Адгідранімічная прырода назвы *Мінск* выразна выступае ў кантэксце групы назваў гарадоў Беларусі на *-ск* з гідранімічнай асновай, якія складаюць спецыфічную асаблівасць беларускіх назваў населеных пунктаў. У вобласці фарміравання беларусаў яны адзначаюцца з IX ст., але асаблівую папулярнасць набываюць у XI—XIV стст. На гэтую тэрыторыю прыпадае больш палавіны гарадоў на *-ск,* што ўпамінаюцца ў летапісах XI ст. Назва кожнага трэцяга горада беларускай этнамоўнай тэрыторыі з ліку тых, што трапілі ў «Спіс рускіх гарадоў» канца XIV ст., заканчваецца на *-ск* і суадносіцца з рачной назвай[6]. Многія з тых старажытных

---

[5] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. С. 233.

[6] Сядоў В. В. Старажытнаруская тапанімія на беларускай тэрыторыі // Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970. С. 20.

тапонімаў дайшлі да нашага часу: *Полацк* — на *Палаце, Друцк* — на *Друці, Пінск* — на *Піне, Слуцк* — на *Случы, Віцебск* — на *Віцьбе, Чачэрск* — на *Чачэры, Сноўск* — на *Снові, Шацк* — на *Шаці*. За межамі Беларусі іх зусім мала. Некалькі такіх назваў адзначана ў паўночна-ўсходняй Польшчы, што мяжуе з Беларуссю і Літвой. На рускай тэрыторыі назвы гарадоў на *-ск (Омск, Орск, Томск)* больш позні́я (пераважна XVII—XIX стст.). А такія тапонімы, як *Архангельск, Новапакроўск, Петрапаўлаўск,* паходзяць не ад назваў рэк, а ад назваў цэркваў і манастыроў.

Яшчэ ў канцы XV ст. («Привелей месту Менскому на право Майдеборское», 1499) назва адзначаецца толькі ў форме *Меньск, Менск*. У XVI ст. з'яўляецца дублетнае напісанне — *Мінск*. У польскай мове форма *Мінск* — вынік гістарычных змен у фанетыцы (*Мень — Мінскі* аналагічна ўтварэнню *Камень — Камінь-скі*). *Мінск* — усечаная форма прыметніка *Мінскі*. Польскі *Мінск Мазавецкі* адзначаецца ў форме *Мінск* у XV ст., прыкладна на стагоддзе раней, чым *Менск Літоўскі*. Па меры ўзмацнення польскага элемента (канец XVI—XVII стст.) усё больш дамінуе варыянт *Мінск,* а ў XVIII ст., калі беларуская мова выйшла з пісьмовага ўжывання, ён замацаваўся канчаткова. У такім выглядзе назва трапіла на польскія карты, а пасля ўз'яднання з Расіяй (1793) была перанесена на карты Расійскай імперыі.

У 1919 г. «Маніфэст Часовага работніча-сялянскага правіцельства Беларусі» абвяшчае аб вяртанні беларускай сталіцы яе спрадвечнай назвы — *Менск*. Праз 20 год рашэннем Другой сесіі Вярхоўнага Савета БССР 25—29 ліпеня 1939 г. *Менск* замяняецца на *Мінск*.

Сёння зноў дыскутуецца пытанне аб мэтазгоднасці вяртання назвы *Менск*. Адзінай думкі наконт гэтага няма ні ў вучоных, ні ў грамадскасці. Хочацца верыць, што будзе знойдзена справядлівае рашэнне.

## Лагойск

*Лагойск* (у летапісах *Логожьск, Логожеск*) — адно са старажытных паселішчаў на тэрыторыі Беларусі, заснаванае ў дагістарычны перыяд. Да XI ст. ніякіх звестак пра яго няма. Упершыню *Логожьск* згадваецца ў летапісе пад 1078 г. у сувязі з паходам князя Усяслава: «...Всеславе пожегъ землю і повоева до Лукомля и до Логожьска на Дрьюжьскъ» [7].

*Логожьск, Логойск* або *Логойско* вядомы як вартавая асада

[7] Полное собрание русских летописей. Т. 1. С. 248.

ў княстве Полацкім (пазней у павеце Мінскім), як дзядзінец старажытнага роду Тышкаў (затым Тышкевічаў). Сёння — гэта гарадскі пасёлак, раённы цэнтр Мінскай вобласці на рацэ Гайна.

Паходжанне назвы звязваецца са словам *лог*[8]. Сапраўды, пасёлак размешчаны ў лагчыне, акаймаванай узвышшам, таму на першы погляд версія здаецца праўдзівай і доказнай. Але ж вернемся да старажытнай формы *Логожьск, Логожеск* (тут корань *логож-*, а не *лог-*). Апрача таго, назва заканчваецца на *-ск,* як і многія іншыя беларускія назвы тыпу *Бабруйск, Мінск, Пінск, Віцебск, Полацк, Слуцк, Чачэрск, Шацк.* Амаль усе яны суадносяцца з назвамі рэк, на якіх размешчаны зараз або размяшчаліся раней. Дык можа і *Лагойск* не з'яўляецца выключэннем з гэтага раду?

І сапраўды, у некалькіх кіламетрах ад *Лагойска* ёсць вёска *Лагаза* (колішні фальварак *Логоза*) на рэчцы *Лагазінка.* Ад кораня *логоз-* зусім заканамерна і старажытная форма *Логожьск (Логожеск),* і сучасная спрошчаная *Лагойск.* Ствараецца ўражанне, што назва ракі другасная ў адносінах да назвы паселішча. На самай справе было інакш. Першапачаткова *Лагаза* была назвай ракі. Але пасля таго, як яна перайшла на паселішча, рака стала ўспрымацца больш дробным, другарадным аб'ектам у параўнанні з населеным пунктам і яе назвалі *Лагазінка.* У назватворчай практыцы такіх прыкладаў шмат (напрыклад, *Бабруйск* ад назвы ракі *Бабруя,* якая пазней стала называцца *Бабруйка*). Доказам прыналежнасці назвы *Лагаза* да класа гідронімаў служыць наяўнасць некалькіх рачных назваў з каранёвай часткай *лагаж-, лагаз-* на ўсходнеславянскай тэрыторыі: *Лагажанка* — прыток Ігуменкі (сучасная Чэрвенка), *Лагазінка* — прыток Гайны на Смаленшчыне, *Лагозва* — прыток Шчары (басейн Нёмана) і рака ў былым Слонімскім павеце[9].

Тое, што паселішча і рака раздзелены некаторай адлегласцю, не можа быць падставай для сумнення наконт правільнасці вытлумачэння назвы. Праходзілі стагоддзі, горад неаднаразова гарэў і па старажытным звычаі аднаўляўся не на старым, а на іншым месцы. Гэта і магло паслужыць прычынай таго, што разышліся некалі суседнія і родпасныя па корані назвы. Урэшце і рака магла змяніць сваё рэчышча. Сённяшняя тапаграфія любой мясцовасці вельмі не падобная на тую, што была ў старажытнасці.

---

[8] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. С. 207.
[9] Słownik geograficzny Królestwa polskiego. Warszawa, 1888. T. 9.

## Клецк

*Клецк* (у летапісах *Клеческ, Кльчскъ, Кльчьскъ*) — старажытнае паселішча над ракой Лань, гняздо князёў Радзівілаў. У летапісах згадваецца пад 1127 і 1142 гг.: «посла князь Мстиславъ браю сваю на Кривиче четырми пути Вячеслава изъ Турова, Андрея изъ Володимера, Всеволодка изъ Гродна и Вячеслава изъ Кльсека»[10]. У XIV ст. Клецк увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага. Зараз — гэта горад, раённы цэнтр Мінскай вобласці.

Паходжанне назвы *Клецк* звязваецца са словам *клець* 'каморка, кладоўка, свіран', 'неапальваемае памяшканне сялянскай хаты', а таксама са словам *клечь* 'бярозавыя парасткі'[11].

Здаецца, бліжэй да ісціны другая версія, але яна да канца не распрацавана. Хутчэй за ўсё тут не прамая сувязь са словам *клечь,* а апасродкаваная — праз гідронім. У такім выпадку трэба дапусціць, што некалі паселішча *Клецк* размяшчалася не на Лані, а на *Клеч(ы)* ці *Клец(ы)*. У Старажытнай Русі горад часта называўся па імені не асноўнай ракі, а прытока, у вусці якога ён размяшчаўся. Рака высахла, згубілася, а назва паселішча перажыла стагоддзі. Магчымасць існавання такога гідроніма пацвярджае сучасная назва ракі *Клец* (па старых дакументах *Клеца*) на Смаленшчыне, якая ўпадае ў возера Каспля. На польскай тэрыторыі адзначаны шэраг водных і паселішчных назваў з гэтай асновай: *Клеча Дольна, Клеча Сярэдняя, Клеча Горна* — вёскі над горным ручаём *Клечайка* ў Вадовіцкім павеце, *Клечаў* — возера і мястэчка над ім у Слупскім павеце, *Клецка* — горад у Гніжнінскім павеце і інш.[12]

Назва *Клецк* магла з'явіцца вынікам усячэння прыметнікаў *Клечаск(ае)* ці *Клецк(ае),* утвораных ад слова з каранёвай часткай *клеч-* або *клец-*. У славянскіх мовах захавалася нямала такіх слоў: параўн.: чэшск. *kleč* 'нізкарослая сасна'; србх. *клѐча̄к* 'зараснік ядлоўцу; хмыз'; бел. абл. *клечанне* 'зялёныя галінкі для ўпрыгожвання хаты на тройцу'; рус. *клеч* 'сцябло лёну, хмелю'; *клеча* 'зеляніна для ўпрыгожвання на царкоўныя святы'; укр. *клечання* 'тое ж, што і рускае'.

---

[10] Полное собрание русских летописей. Т. 1. С. 297.
[11] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. С. 160.
[12] Słownik geograficzny Królestwa polskiego. T. 3.

## Рэчыца

*Рэчыца* (у мясцовым вымаўленні *Рачы́ца*), што ў Гомельскай вобласці, належыць да групы назваў на *-іца*. У сваёй большасці гэта вельмі старажытныя, пераважна рачныя, назвы, тыповыя для тэрыторыі ранняга славянскага засялення.

Гомельская *Рэ́чыца*, ці *Рачы́ца* (націск устанавіць немагчыма), упершыню ўпамінаецца пад 1214 г. Думаецца, што ў сваім першапачатковым варыянце назва мела форму *Рачыца*, якой яе захавала народная памяць. Тым больш, што на тэрыторыі Беларусі яна не адзінкавая. Пад назвай *Рачы́ца* вядомы палі, сенажаці, лясныя ўрочышчы, якія прымыкаюць да малых рэчак у розных раёнах Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей.

Назва *Рачы́ца* паходзіць ад старажытнага слова *рачи́ца* (памяншальная форма ад *рака*), якое абазначала паняцце 'невялікая рэчка, рачулка'. У старажытнасці было шмат памяншальных слоў, утвораных пры дапамозе суфікса *-іц(а)* (*десница* ад *десна*, *ручица* ад *рука*, *вежица* ад *вежа* і інш.). Памяншальнае значэнне ўжо даўно перадаецца ў беларускай мове з дапамогай іншых сродкаў (часцей за ўсё групай суфіксаў з элементам *-к-*: *рачулка, рэчачка, ручка, вежка*). Дэмінутыў на *-іц(а)* зараз толькі зрэдку адзначаецца ў літаратурнай мове, мясцовых дыялектах (*вадзіца, сястрыца, расіца, травіца*) і ў складзе асобных уласных геаграфічных назваў. На тэрыторыі Беларусі назвы рэк *Рэчыца* (*Рачы́ца*) часта сустракаюцца ў басейне Дняпра, што сведчыць пра даўняе засяленне славянамі беларускіх зямель па Дняпры і яго прытоках.

## Ружаны

Паводле легенды, якую апавядаюць мясцовыя жыхары Ружанаў, назва мястэчка (па мясцоваму *Ражана, Ружана*) з'явілася ў часы віленскага канцлера і ваяводы Льва Сапегі, а ў аснове яе — імёны дзвюх яго дачок *Ружы* і *Анны*. У адным касцельным ружанскім дакуменце, датаваным 1850 г., так і значыцца — *Ружанна* праз два «н» [13]. Сапраўды, паселішча з даўніх часоў належала аднаму з багацейшых у Вялікім княстве Літоўскім роду Сапегаў. Толькі імёны дачок Льва Сапегі ніяк не маглі паслужыць асновай для назвы, паколькі іх бацька нарадзіўся ў 1587 г., на цэлае стагоддзе пазней першага згадвання пра Ружаны ў пісьмовых крыніцах (1481 г., магчыма, не самае ранняе) [14].

[13] Ёсць такі гарадок // Маладосць. 1971. № 6. С. 111.

[14] Акты Виленской Археографической комиссии для разбора древних актов. Т. 3. С. 55, 188, 265; Т. 5. С. 142.

Прычым назва адзначаецца ў трох варыянтах: *Рожана, Рожаная, Ружаны*.

Паводле другога падання паселішча назвалі *Ружанамі* з той прычыны, што яго жыхары вырошчвалі прыгожыя ружы. Але ж хіба да таго, як з'явіліся кветнікі з ружамі, паселішча ніяк не называлася? Ды ці настолькі важная і тыповая гэта прыкмета, каб яна магла звярнуць на сябе ўвагу?

Былі спробы звязаць назву *Ружаны* са старарускім прыметнікам *рожаный* 'рагавы' ад *рог* 'кут, востры клін'[15]. Калі для назваў паселішчаў утварэнне па такой прыкмеце ў нейкай ступені характэрна (часцей ўсё ж *Рог, Ражок, Рагі, Ражкі*), то для назваў рэк, азёр, ручаёў такая магчымасць наогул выключаецца. Іншая справа, калі слова *рог*, як мяркуюць некаторыя даследчыкі[16], было сінонімам слова *лес (Рожаная* раўназначна *Лясная)*. Але гэта пакуль што не даказана.

Варты ўвагі той факт, што ў старабеларускіх пісьмовых помніках назва паселішча і ракі адзначаецца ў форме прыметніка — *Рожана, Рожаная, Ружана, Ружаная*. У гэтай жа форме яна захавалася і ў народных паданнях *(Ружанна)*, і ў памяці мясцовых старажылаў *(Ражана, Ружана)*. Гэта наводзіць на думку, што ў яе аснове адбілася нейкая прыкмета.

Значна прасвятляе пытанне наяўнасць у старабеларускай мове прыметніка *рожаный*, а ў старапольскай *rozany* у значэнні 'які мае адносіны да ружы', 'ружовага колеру', 'ружовы'. У старабеларускіх помніках XV—XVII стст. адзначаюцца выразы: *рожаный коуст; рожаный венецъ; рожаная барва на твары; мочивъ во воде рожаной*. Досыць часта ўжываецца ў гэты перыяд і зыходны назоўнік *рожа* 'ружа' (пра кветку). Зараз ён захаваўся толькі ў асобных дыялектах усходнеславянскіх моў.

Зусім верагодна, што рака з гліністым дном і ружовым колерам вады магла атрымаць назву *Рожана, Рожаная* (як *Белая, Жоўтая, Чорная*)[17], якая затым была перанесена на паселішча. *Ружанкай* раку назвалі пазней, калі яна змялела і стала ўспрымацца як другарадны аб'ект у параўнанні з паселішчам.

Адгідранімічная версія падтрымліваецца наяўнасцю шматлікіх назваў водных аб'ектаў з коранем *рож-, руж-* на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Украіны: *Ружаніца* — прыток Вужа, Прыпяці, Дняпра[18], *Рожанка* — прыток Стрыя, Днястра, *Ружа* —

---

[15] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.

[16] Исследования о руссах и славянах. Спб., 1842. С. 59—60.

[17] Топоров В. Н., Трубачёв О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

[18] Словник гідронімів України. Київ, 1979.

лясное возера ў Ляскім павеце, *Ружаніца* або *Ружана* — рэчка ў Макоўскім павеце, *Ружанец* — ручай у Стрыйскім павеце, *Ружаныстак, Ружанасток* — сток у Сакольскім павеце, *Ружава* — прыток Прыпяці, *Ружавец* — прыток Іліі [19]. У шэрагу выпадкаў назіраецца супадзенне назвы ракі і размешчанага на ёй паселішча: *Рожанна* або *Рожанно* — лясніцтва і маёнтак у Быдгодскім павеце над рэчкай *Рожанной, Рожанка Ніжня* і *Рожанка Гурна* — вёскі над ракой *Рожанкой, Ружаніца* або *Ружана* — рэчка, мястэчка і вёска ў Слонімскім павеце [20]. Характэрна і тое, што назвы з коранем *рож-, руж-* утвараюцца з дапамогай тых жа суфіксаў, што і іншыя гідронімы з атрыбутыўнай асновай (параўн.: *Белка, Белаводка, Беліца, Чарніца*) [21].

Форма множнага ліку ўзнікла пад уздзеяннем множналікавай мадэлі, якая вельмі характэрна для беларускай айканіміі. Аналагічным спосабам утвораны назвы вёсак: *Танежычы* — на р. *Тонеж, Грамніцы* — на р. *Грамніца, Удранкі* — на р. *Удранка* і інш.

Як жа растлумачыць наяўнасць варыянтаў з коранем *рож-, руж-*? Назвы з коранем *рож-* адзначаюцца значна раней, чым з коранем *руж-*. Напрыклад, рака *Рожанна* ў польскіх дакументах згадваецца пад 1363 г. Трэба думаць, што гэта агульнаславянская каранёвая аснова. Замена *о* на *у* адбылася значна пазней пад уплывам польскай мовы.

Асобна стаяць назвы *Ружампаль, Ружамполле.* Яны ўзніклі штучна і з'яўляюцца своеасаблівай данінай модзе «прыхарошвання», якая панавала ў свой час у шляхетным асяроддзі. Першая частка гэтых назваў мае пераносны сэнс — 'прыгожы; светлы', другая частка *-поль* (ад грэч. *поліс*) азначае 'горад', а *-полле* — 'поле, зямля'. Вось чаму ў рускамоўных крыніцах яны перадаваліся як *Краснопаль, Краснаполле.*

## Пружаны

Пра паходжанне назвы *Пружаны* створаны тры легенды. Паводле адной з іх імя населенаму пункту дадзена ў гонар княжацкай дачкі *Пружаны.* Паводле другой назва мела форму *Прасяна,* бо некалі тут нібыта добра радзіла проса. Згодна з трэцяй легендай паселішча першапачаткова называлася *Прусаны,* або *Прусяны,* а заснавалі яго прусакі, якія, уцякаючы ад крыжаносцаў, аселі ў лясістых аколіцах вёскі Дабучына.

---

[19] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego. Warszawa, 1915. T. 5.
[20] Там жа.
[21] Топоров В. Н., Трубачёв О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья.

Але малаверагодна, што існавала жаночае імя *Пружана,* бо ні ў старабеларускай, ні ў сучаснай іменаслоўнай практыцы яно не сустракаецца. Старабеларускія пісьмовыя крыніцы не засведчылі і формы *Прусаны, Прусяны, Прасяна.* Але ёсць звесткі, што ў XIII ст. назва мела форму сцягненага прыметніка — *Пружана*[22]. Значыць, можна меркаваць, што ў аснове назвы ляжыць нейкая прыкмета. Ні ў старабеларускай, ні ў старарускай мовах прыметнік *пружаный* не засведчаны. Але ў асобных слоўніках адзначаюцца аднакарэнныя словы: *пружь* 'баразна для вады'[23], *пруженье* 'пруд, запруда, гаць, грэбля', 'штучнае возера', 'яма з напушчанай вадой'[24]. *Пружанай* магла называцца рака, на якой зрабілі запруду, гаць, або грэблю. Такую версію ў пэўнай ступені падтрымлівае наяўнасць на тэрыторыі Беларусі рачной назвы *Пружаніца* (басейн Нёмана), у якой празрыста выступае прыметнікавая аснова (параўн.: *Прудная, Пруднiца* ў басейнах Нёмана, Дняпра, Бярэзіны).

Уяўляецца, што назва *Пружана* першапачатковa ўзнікла як назва ракі, а затым была перанесена на паселішча і падпала пад уздзеянне множналікавых айконімаў.

Зараз рака *Пружана* не існуе, яна магла знікнуць або змяніць назву. Несумненна адно, што ў канцы XIX ст. рака існавала, бо паводле афіцыйных дадзеных у Пружанах у 1890 г. быў пабудаваны паравы млын.

---

[22] Акты Виленской Археографической комиссии для разбора древних актов. Т. 18. С. 322, 412, 1631, 1661.

[23] Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка. Спб., 1898—1903. Т. 3.

[24] Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка. М., 1955. Т. 3. С. 529.

*М. А. ДАРОШКА*

# МЯСЦОВЫЯ ГЕАГРАФІЧНЫЯ АПЕЛЯТЫВЫ Ў МІКРАТАПАНІМІІ ТУРАЎСКАГА ПАЛЕССЯ

Важнасць Палесся як аб'екта лінгвістычнага даследавання зараз ужо пераканаўча абгрунтавана[1] і не выклікае пярэчанняў. Адзінадушна прызнаецца неабходнасць вывучэння мікратапаніміі Палесся як найкаштоўнейшага моўнага і гістарычнага матэрыялу. Аднак збор і вывучэнне яго пакуль што вядуцца маруднымі тэмпамі. Сёння можна назваць толькі дзве спецыяльныя працы па мікратапаніміі Брэсцкага і Мазырскага Палесся В. М. Емельяновіч і Г. А. Івановай.

Дадзены артыкул з'яўляецца працягам гэтай работы на матэрыяле Тураўскага Палесся.

Тураўскае Палессе — тэрыторыя Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (у міжрэччы Прыпяці, Гарыні, Сцвігі і Моўствы). Агульная колькасць зафіксаваных у гэтым рэгіёне мікратапонімаў перавышае 4000 (яны служаць для абазначэння 5200 геаграфічных аб'ектаў). У артыкуле разглядаецца толькі тая частка мікратапаніміі, якая склалася на базе мясцовых геаграфічных апелятываў. Аб актыўнай ролі апошніх у працэсе станаўлення мікратапаніміі Тураўскага Палесся можа сведчыць той факт, што на іх базе ўтворана 1462 найменні, а на базе іншых груп апелятыўнай лексікі — 696.

Геаграфічная тэрміналогія даследуемага рэгіёна вызначаецца разнастайнасцю і знаходзіцца ў цеснай ўзаемасувязі з лексікай мясцовых гаворак. У ёй праяўляецца прамая залежнасць моўнага матэрыялу ад своеасаблівасці ландшафту, рэльефу мясцовасці і г. д.

Тураўскае Палессе характарызуецца раўнінным ландшаф-

---

[1] Толстой Н. И. О лингвистическом изучении Полесья // Полесье. М., 1968; Толстые Н. И. и С. М. О задачах этнолингвистического изучения Полесья // Полесский этнолингвистический сборник. М., 1983; Мартынаў В. У. Уводзіны // Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971; Крывіцкі А. А. Тураўшчына і слоўнік яе гаворкі // Тураўскі слоўнік. Мн., 1982. Т. 1; Купчинский О. А. Географические названия Полесья // Полесье: Материальная культура. Киев, 1988.

там, багаццем лясоў (у паўднёвай частцы), мноствам балот, нізкіх сырых мясцін, рэк, азёр, крыніц і г. д. Гэта знайшло сваё шырокае адлюстраванне ў геаграфічнай тэрміналогіі, якая актыўна фарміруе мясцовую мікратапанімію.

Найбольшая колькасць матывавальных асноў абазначае паняцці 'балота', 'нізкае месца'. Паміж семантыкай гэтых паняццяў на Палессі не існуе выразнай мяжы, паколькі пад нізкімі месцамі падразумяваюцца забалочаныя нізіны.

Апелятыў *балота* ўтварае ў межах Тураўшчыны 72 мікратапонімы — назвы палёў, пашаў, сенажацяў і лясных урочышчаў. Звычайна — гэта двухслоўныя ўтварэнні ў форме дапасавання, у якіх атрыбутыўны кампанент дыферэнцыруе аб'ект. Часцей за ўсё ён указвае на прыналежнасць аб'екта пэўнай асобе: *Бро́слінске боло́то* с. (Руб.), *Ва́йзовое боло́то* с. (Вел.), *Па́нске боло́то* п. (Альш.), *Тата́рске боло́то* с. (Альп.); на месца размяшчэння называемага аб'екта ў адносінах да іншых геаграфічных аб'ектаў: *Бу́рэзьке боло́то* б. (Сямур.), *Ліпе́ньске боло́то* б. (Руб.), *Рычо́ўске боло́то* б. (Стар.), *Вы́лазке боло́то* лес (Руб.), *Зале́ське боло́то* с. (Вільч.), *За Кузее́ю боло́то* б. (Люб.), *Хіжыцке боло́то* б. (Вільч.); на характар расліннасці: *Борове́ боло́то* б. (Хот.), *Вербінске боло́то* б. (Вільч.), *Ветлі́нске боло́то* с. (В. Мал.), *Рого́знэ боло́то* с. (Вел.), *Сіці́цке боло́то* с. (Кар.); на памер: *Вузке́ боло́то* в. (Альш.), *Задо́ўге боло́то* с. (Хільч.), *Шырёке боло́то* в. (Альш.); на месца, дзе водзяцца дзікія звяры і птушкі: *Жураўлёвэ боло́то* б. (Хільч.), *Во́ўчэ боло́то* б., в., с. (Рыд., Рыч., Тур.), *Козі́нэ боло́то* с. (Хот.); на прыкмету па якасці, колеры: *Гніле́ боло́то* б. (Кар.), *Тоўсте́ боло́то* б., лес, с. (Знам., Стар., Хач.), *Горе́лэ боло́то* б. (Кар.), *Сівэ боло́то* с. (Рыч.), *Чо́рнэ боло́то* б. (Кар.).

У аснову мікратапонімаў пакладзены шэраг назваў, якія абазначаюць разнавіднасці балот паводле пэўнай характэрнай адзнакі. Найчасцей — гэта лексемы са значэннем 'дрыгвяністае балота'.

У гэтым сэнсе трапілі ў склад мікратапаніміі тэрміны *грузке́ боло́то*: *Грузі́вец* с. (Бур.), *Грузі́віца* б. (Стар.), *Грузкіе* с. (Бяр.), *Грузо́цка* с. (Кар.), *Грузку́ша* б. (Сямур.); *ба́ба: Баба́н* п. (Сямур.), *Ба́біна* б. (Бор.), *Бабінске* б. (Альп.), *Бабінско* в. (Мач.), *Ба́біны Велікіе* с. (Паг.), *Ба́біны Малые* с. (Паг.), *Бабічэ́* с. (Д.-Гар.), *Ба́бішча* лес (Рыч.); мокрае балота: *ніква: Ніква* б. (Крэмн.), в. (Чэрн.); *па́ка: Па́ка* б. (Азд.), с. (Кар.); *мо́рэ* 'топкае, зыбучае балота, дзе доўгі час стаяць паводкавыя воды': *Мо́рэ* б. і лес (Хач.).

Па сведчанні інфарматараў назвы *Кожу́шына* б. і лес (Азд.), *Велікіе Кожу́шына* п. (Люб., Талм.), *Малые Кожу́шына* п. (Люб.,

Талм.) абазначаюць балота, лес, поле. Мяркуецца, што ў аснове мікратапонімаў ляжыць лексема *кожух* 'твань, дрыгва, зыбкае месца', засведчаная М. І. Талстым [2].

Шэраг мікратапонімаў засведчыў назвы балот, парослых якой-небудзь расліннасцю. Напрыклад, *бель* 'балота, парослае бярэзнікам': *Белькоў* в. і п. (Стар., Сямур.), *Белоўка* с. (Цер.), *Белюха* с. (Д.-Гар.), *Белякоўэ* б. і лес (Турск.), *Белкі Велікіе* б. і лес (Бяр., Рыч.), *Белкі Малые* б. і лес (Бяр., Рыч.), *Белкі Чорные* лес (Бяр.), *Забелье* с. (Стар.); *олёс* 'балота, парослае альхой': *Олёс* с. (Азяр.), б. і лес (Бор.), б. і п. (Сяміг.), б. (Сямур.), *Олесца* б. і с. (Знам.); *чахле* 'непралазнае балота, парослае алешнікам': *Чахле* б. (Азд.), *Чахле Веліке* п. (Кар.), *Чахле Малэ* п. (Кар.); *логузоў, лоўзоў* 'балота, парослае лазой': *Логузоў* б. і в. (Вер.), *Лоўзоў* б. (М. Мал.), п. (Альп.), б. (Лут.).

У складзе мікратапаніміі выяўлены шэраг назваў, якія абазначаюць паняцце 'нізкае забалочанае месца'. Гэта — *бухало: Бухало* ч. с. (Рыч.), *Падбухало* с. (Двар.); *грузкуша: Загрузкуша* в. (Чэрн.); *западня: Западня* п. (Кар.); *калівіца* (ад *кал* 'гразь'): *Калівіца* д-на (В. Мал.); *каліта: Каліта* с. (Хач.), п. (Хільч.), *Подкаліты* п. (Альш.); *лоша: Лоша* лес (Паг.), *Лошычы* с. (Азд.), *лошчына: Лошчына* в. (Кар.), *Ложчына* ч. с. (Альг.); *міжылішча* (ад *іл* 'гразь'): *Міжылішча* с. (Турск.); *морочня: Морочня* к. (Мач.), с. (Руб.); *мочулішча: Мочулішча* с. (Азяр.), *Замочулішча Першае* с. (Сяміг.), *Замочулішча Другіе* с. (Сяміг.); *муцьвіца* [3]: *Муцьвіца* б. і п., с. (Азд., Бяр.); *рудня: Рудня* с. (Хот.); *смуга: Смуга* с. (Мач., Цер.); *топіла: Топіла* с. (Вер.), *Затопіла* с. (М. Мал.), *топельня: Затопельня* в. (Чэрн.).

Ад балота яны адрозніваюцца памерам або меншай ступенню завільготненасці. Усе пералічаныя матывавальныя тэрміны засведчаны ў мясцовых гаворках у якасці апелятываў.

Высокай актыўнасцю ў назватворчым працэсе вызначаецца тэрмін *болонье, оболонье* 'нізкае месца, якое залівaецца вадой у час паводкі'. Ім матывавана 34 мікратапонімы: *Болонье* с. (Альш.), в. (Бор.), с. (Вільч.), в. (Двар.), *Мар'янске Болонье* в. (Вер.), *Верэсніцке Болонье* в. (Вер.), *Плоске болонье* с. (Тур.), *На болоні* п. (Альш.), *Оболонье* в. (Азяр.), с. (Вер., Выс.). У апелятыўнай функцыі *болонье* сустракаецца толькі ў трох населеных пунктах (Боркі, Крэмнае, Чэрнічы). Мікратапонімы ж распаўсюджаны паўсямесна і, як правіла, замацаваны за нізкімі прырэчнымі мясцінамі. Значыць, на аснове паказанняў мікрата-

---

[2] Толстой Н. И. Славянская географическая терминология. М., 1969. С. 185.

[3] Паводле А. М. Прышчэпчык *муцьвіца* — 'балоцістае месца' (Беларуская анамастыка. Мн., 1977. С. 93).

паніміі мы маем магчымасць рэканструяваць ранейшую тэрыторыю бытавання апелятыва *болóнье (оболонье)* у межах Тураўскага Палесся. На Мазыршчыне[4] гэта лексема таксама бытуе ў апелятыўнай функцыі.

Вялікую групу (звыш 20) утвараюць мікратапонімы з асновай *доліна*. Структурна яны ўяўляюць сабой атрыбутыўныя словазлучэнні, у якіх азначальны кампанент часцей за ўсё выражае прыналежнасць якой-небудзь асобе: *Бáбіна доліна* с. (Рыч., Хач.), *Батýліна доліна* с. (Тур.), *Доліна Бáбіна* с. (Паг.), *Додóнова доліна* с. (Двар.), *Клéпкова доліна* с. (Зап.), *Міхальцóва доліна* с. (Стар.), *Потáпова доліна* в. і с. (Альш.). У некалькіх выпадках азначэнне выражана якасным або адносным прыметнікам: *Грузкá доліна* с. (Стар.), *Золотá доліна* с. (Знам.), *Чóрна доліна* с. (Вільч.), *Мурóжна доліна* в. (Лут.); указвае на канфігурацыю: *Крутá доліна* в. (Вел.), *Крывá доліна* с. (Цер.), *Шырóка доліна* с. (Азд.); месцазнаходжанне ў адносінах да іншых аб'ектаў: *Хуторскá доліна* с. (Альг.), *Серэ́дня доліна* с. (Альш.).

Лексема *доліна* вядома ў тураўскіх гаворках у значэнні 'нізкае месца ў лузе, полі, дзе стаіць вада', 'нізіна', 'прадаўгаватая ўпадзіна паміж узвышшамі'.

У значэнні 'нізкае месца, якое заліваецца вадой' трапілі ў склад мікратапаніміі апелятывы *балкí* (*Балкí* с. (Бур., Вер., Вільч.)), *ніз* (*Ніз* п. (Альг., Бяр., Крэмн., Паг., Рыч., Талм.), *Нізы́* в. (Лут.)), *нізóр* (*Нізóр* п. (Альг.)), *нізкодóлье* (*Нізкодóлье* с. (Паг., Чэрн.)), *нізовіна* (*Нізовіна* в. і с. (Рам., Хач.)), *обýрок*[5] (*Обýрок* п. (Лут.), с. (Талм.)), *перэдóл* (*Перэдóл* с. (Крэмн.), *Перэдóл Велікі* п. (Тур.), *Перэдóл Малы́* п. (Тур.), *Перэдóль Веліка* п. (Двар.), *Перэдóль Малá* п. (Двар.), *пододолóч'е* (*Подолóч'е* п. (Вер.)), *роздóл* (*Роздóл* в. (Рам.), п. (Талм., Тур.), *Роздóла* в. і п. (Рыч.)), *яр* (*Яр* с. (Знам.)), *ярнóўка* (*Ярнóўка* в. і п. (Вел.)), *яровіна* (*Яровіна* с. (Хільч.)), *ярочы́шча* (*Ярочы́шча* в. (Азяр.)). На іх базе ўтворана звыш 30 мікратапонімаў.

Лексічнымі асновамі 190 мікратапонімаў (назвы звыш 300 мікрааб'ектаў) з'явіліся апелятывы, якія абазначаюць розныя віды вадаёмаў і іх частак: *рэкá, зарэ́ч'е, зарэчы́чэ, зарэчы́шчэ, узрэ́ч'е, рачы́шчэ, рэ́чка, рэчы́ца; óзеро, озерэ́ц, зазéр'е; лукá, колéно; роў, рóўца, роўчáк, бурчáк; канáва, пры́кановок, бучóк; ездá, я́цель, стрýга, стрýмень, струй; закáлье, перэкáлье, плéсо, плéсца, пля́са; затóн, тóня; глушы́ца, домовýха, забóк, стары́к,*

---

[4] Иванова А. А. Алфавитный словарь микротопонимов Мозырского Полесья. Мозырь, 1988. С. 18.

[5] Паводле Г. А. Івановай ст. бел. *оборок* — 'мокрая сенажаць' (Иванова А. А. Алфавитный словарь микротопонимов Мозырского Полесья. С. 260).

*стáрыца, старухá; загрэ́ба, прóрва; верх, вýсцье, горліца; вілы, перэтóкі, роздзёры, росóхі, стрэ́чэнь, сутóкі; баюра, бýхта, вір, вірóк, загрэ́ба, кáверт, котловáн, коцёл, коцелёц, хорýж, я́ма, я́менец, я́мка, я́мішча; ключ, крыніца, холоднік.*

Большасць мікратапонімаў утворана на базе апелятыва *рэкá* і яго вытворных *рэ́чка, зарэ́чча: Зарэ́чкі* с. (Хач.), *Рэ́чка* с. (Вер.), лес (Вільч.), в. (Кар.), к. (Лут.), *Рэ́чкі* с. (Азд., Цер.), п. (Хач.). Такія назвы маюць сенакосныя ўгоддзі, выпасы, хмызнякі, зрэдку палі, прылеглыя да Прыпяці і Сцвігі.

Лексемы *рэкá, рэ́чка* набылі ў гаворках Тураўшчыны дадатковае значэнне — гэта 'нізіна, даліна, якую косяць': *Мойсéёва рэкá* с. (Цер.), *Негóдзіна рэкá* с. (Цер.), *Остáпова рэкá* с. (Цер.), *Хамішына рэ́чка* с. (Кар.). Атрыбутыўны кампанент характарызуе знешнюю прыкмету аб'екта, назва якога ўтварылася па сумежнасці: *Крывáя рэ́чка* п. (Вільч.), *Серэ́дня рэкá* п. (Рыч.).

Шматразова паўтараецца ў мікратапаніміі Тураўшчыны гідраграфічны тэрмін *óзеро* (па сэнсу супадае з літаратурным): *Крыóзеро* с. (Лут., Талм.), *Чэ́рніч-óзеро* с. і воз. (Вер.), *Коровéцке óзеро* с. (Рам.), *Мáсловэ óзеро* лес (Лут.), *Шчóдрэ óзеро* с. (Руб.), *Козачкóво заóзеро* с. (Хільч.) і вытворныя ад яго *заозéр'е: Заозéр'е* ч. с. (Альш.), с. (Крэмн.), луг (Рам.); *міжозéр'е: Міжозёр* с. (Альп.), *Міжозéр'е* п. і с. (М. Мал.), *Міжызёры* с. (В. Мал., Сям.).

Звыш 10 мікратапонімаў утворана ад дэрыватаў тэрміна *возера — озéрцэ: Озéрца* б. і с. (Мач.), *Озірца* с. (Кар.), *Озéрцэ* б. (Вільч.); *озеры́шча: Озеры́шча* с. (Руб.), в. (Хот.); *озерэ́ц: Заозерэ́ц* п. (Вер.), с. (Люб.), *Под озерэ́ц* с. (Азяр., Знам.), в. (Рыч., Хач.). У мясцовых гаворках *озéрцэ* азначае два паняцці — 'невялікае возера' і 'водная паверхня на балоце'. Тэрмін *озерэ́ц* вядомы ў значэнні 'зарослае возера', *озеры́шча* — у блізкім да яго значэнні 'зарослае, забалочанае возера'. Прыкладна ў тым жа семантычным аб'ёме бытуюць названыя тэрміны ў чарнігаўска-сумскіх гаворках [6].

Назвы-арыенціры акцэнтуюць увагу не на самім аб'екце (у дадзеным выпадку возеры), а на месцы знаходжання сенажаці, урочышча, поля: *За óзером* ч. с. (Азяр.), *За озерцэ́м* с. (Вер.), *За Дóўгім óзером* с. (Хач.), *За Гры́цыковым óзером* с. (Альп.), *За Макарóвом óзером* с. (Азяр.), луг (Вел.), *За Сіверскім óзером* с. (Азяр.), *Колó Гры́цового óзера* с. (Турск.), *Колó óзера* с. (Люб.).

Асаблівасцю гэтай групы мікратапонімаў з'яўляецца тое, што

---

[6] Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. Сумы, 1984. С. 147.

ў якасці тапаасновы досыць часта выступаюць уласныя назвы азёр: *За Доўгім озером* п. (Хач.), *Коло Загацкого озера* с. (Рам.), *Коло Кантролёвого озера* п. (Вер.), *Коло Чэрніч-озера* п. (Люб.), *Поўз Воўчэ озеро* с. (Выс.), *Под рыб'ечым озером* с. (Азяр.), *У Крывозера* п. с. (Люб.). Як правіла, яны служаць назвамі сенажацяў і толькі зрэдку — палёў, якія мяжуюць з азёрамі або прылеглымі да іх сенажацямі.

У складзе мікратапанімії знайшлі адлюстраванне сінанімічныя гідратэрміны, якія абазначаюць рэчышча воднага аб'екта (часцей за ўсё старое): *глушыца* (*Глушыца* с. (Хар.)), *глушэц* (*Глушэц* п. (Сямур.)), *домаха* (*Домаха* с. (Зап.)), *домовуха* (*Домовуха* с. (Паг., Чэрн.)), *рачышчэ* (*Рачышчэ* в. (Бяр., Вер.), *Рэчышчэ* с. (Азд.)), *рэчыца* (*Рэчыца* с. (Альш.), *Рычыца* с. (В. Мал.)), *стара рэка* (*Стара рэка* с. (Лут.)), *старык* (*Старык* с. (Хач)), *старыца* (*Старыца* с. (Вер., Паг., Сяміг.), *За старыцою* с. (Вільч.)), *старуха* (*Старуха* с. (Паг.), *У старусе* с. (Сяміг.)). На даследуемай тэрыторыі лексемы *глушыца, глушэц, домаха, домовуха* страцілі сваю апелятыўную функцыю і ўспрымаюцца як мікратапонімы. Да апелятываў іх можна аднесці на падставе таго, што яны засведчаны на сумежным з Тураўскім — Мазырскім Палессі [7], а таксама на тэрыторыі Чарнігаўска-Сумскога Палесся Украіны [8].

Мікратапанімія зафіксавала некалькі сінонімаў, якія абазначаюць 'заліў з роўным цячэннем і забалочанымі берагамі'. Гэта *закалье: Закалье* с. (Азяр., Вер.), к. (Сяміг.); *затон: Затон* с. (В. Мал., М. Мал.), *Затоны* с. (Бур., Рыд.), *Сітніковы затоны* с. (В. Мал.), *Коло Осіцкого затона* с. (Вел.), *На Дубэньском затоні* с. (Вел.); *тоня: Доўга тоня* с. (Вар., Вер.); *плёсо: Плёсо* с. (Азд., Хач.), *Заплёсье* с. (Паг., Чэрн.), *Заплосоч'е* с. (Цер.); *плёсца: Плёсца* с. (Альш., Стар.), *За плёсцамі* с. (Альш.), *Под плёсца* к. (Сяміг.); *пляса: Пляса* с. (Бяр.). Тэрмін *плёсо* ў мясцовых гаворках вядомы таксама ў значэнні 'шырокае месца на рацэ, возеры, лузе, у полі', а ў суседніх — лунінецкіх гаворках — яго значэнне больш дэталізавана: 'расшыраная частка Прыпяці паміж паваротамі' [9].

У некалькіх мікратапонімах знайшлі адлюстраванне апелятывы, якія абазначаюць 'месца зліцця або разыходжання двух вадаёмаў': *вілы* (*Вілы* к. (Азд., Лут.)), *перэтока* (*Перэтока* в.

[7] Иванова А. А. Микротопонимия Мозырского Полесья. Дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1986 [рукапіс]. С. 33.

[8] Черепанова Е. А. Географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья // Полесский этнолингвистический сборник. М., 1983. С. 183.

[9] Ossowski L. Z poleskiej terminologii topograficznej // III Међународни конгрес слависта: Саопштена и реферати. № 2. Београд, 1939. S. 45.

(Двар.)), *роздзёры* (*Роздзёры* с. (Зап.), п. (Хар., Хач.)), *росо́хі* (*Росо́хі* с. (Азяр., Вільч.)), *стрэ́чэнь* (*Стрэ́чэнь* с. (Д.-Гар.)), *суто́кі* (*Суто́кі* с. (Альш.)), *штаны́* (*Штаны́* с. (Люб.)).

Для 29 аб'ектаў мікрагеаграфіі асновай паслужылі апелятывы *езда́, стру́га, струй, я́цель* у значэнні 'пратока': *Езда́* с. (Альг., Альш., Вел., Зап., Люб., Мач., Цер.), *Заезда́* с. (Бор., Хар.), *За ездо́ю* с. (Вел.); *Стру́га* б. (Азд.), *Ліха́я стру́га* б. (В. Мал., Лут., Цер.); *Струй* с. (Альш.); *Я'цель* с. (Вел., Зап., Турск.), *Яцеле́* п. (Руб.), *Борова́я я́цель* с. (Вел.), *Нізова́я я́цель* с. (Вел.), *Зая́цельe* с. і ч. с. (Бур.), ч. с. (Зап., Мач.).

Шырока пазначылася ў мікратапаніміі лексема *лука* 'паварот ракі, рачное калена', з якой суадносяцца назвы 24 аб'ектаў: *Лука́* в. (Бяр.), ч. с. (Зап.), лес (Руб.), к. (Рыч.), в. (Сямур., Хач.), п. (Хот.), *Залука́* п. (Альп.), в. (Руб.), *Парэдлука́* п. (Альп.), *Залу́ч'е* с. (Знам.), *Лучкі* в. (Альш.), *Грыцаёвы лучкі́* с. (Азд.), *Ма́рковы лучкі́* с. (Азд.), *Созо́новы лучкі́* с. (Азд.), *Сы́човолучкі* с. (Азд.), *Лу́чыца* с. (Стар., Цер.), *У лучэнцэ́* лес і с. (Азяр.). У асобных населеных пунктах (Аздамічы, Альшаны, Бярэжцы) лексема *лука* і яе вытворныя трапілі ў склад мікратапаніміі 'сенажаць, кусты каля рачнога паварота'.

Мікратапанімія Тураўшчыны фіксуе шмат назваў, якія абазначаюць прыродныя паглыбленні на паверхні зямлі, запоўненыя вадой (*я́ма, кана́ва, ка́верт, ка́доўб, вір, віро́к, холоднік, хору́ж, коцёл, бу́хта, роў, роўча́к*).

На базе лексемы *яма* (дэм. *я́мка*) утворана 27 мікратапонімаў: *Емкі* с. (Мач.), *Козіна я́ма* в. (Стар.), *Ко́ўкова я́мка* с. (Вел.), *Ку́чкова я́мка* с. (Вел.), *Пеўгуко́выe я́мы* с. (Сямур.); *Ранцэ́вічова я́мка* с. (Вел.), *Ро́пікова я́мка* с. (Руб.), *Харко́ва я́ма* с. (Руб.), *Хрысці́ніны я́мы* с. (В. Мал.), *Шаюно́ва я́мка* с. (Вел.), *Под'я́м'е* лес (Азд., Мач.), *Я'менец* с. (Азд., Кар.), п. і с. (Хільч.), *Я'міца* п. (Альп., Мач.), *Я'мішча* п. (Азяр., Вер., Хот.), *Ямкі* в. і с. (Мач.), *Я'мнэ* п. і с. (Кар.), с. (Талм.). У розных мясцовых гаворках значэнне апелятыва *я́ма* выступае ў некалькіх варыянтах: 'нізкае месца ў полі, лузе, дзе доўгі час стаіць вада', 'яма на сенажаці, запоўненая вадой; вір', 'яма, якая ўтварылася ў выніку выпрацоўкі торфу, гліны, пяску'.

Другая па колькасці група (18 мікратапонімаў) склалася на базе лексемы *вір* (дэм. *віро́к*): *Віро́к* п. (Хот.), *Жо́ўты віро́к* с. (В. Мал.), *Коло́ віра́* с. (Альп.), *Солёны віро́к* с. (Хільч.), *Заві́ро́ч'е с.* (В. Мал., Сяміг.), *Заві́ркі* с. (Вар.), лес (Знам.), *Заве́р'е* в. (Вер., Лут.), *Заві́р'е* с. (Сяміг.), *Ві́ркі* с. (Д.-Гар.), в. і с. (Крэмн.), п. (М. Мал.), с. (Стар.), *Чыпу́ч-віро́к* п. (Вер.). Апелятыў *вір* у гаворках Тураўшчыны асэнсоўваецца па-рознаму. У адных — гэта невялікая азярына на лузе, балоце, у другіх —

яма, выкручаная вадой у час паводкі, у трэціх — глыбокае месца, адкуль б'юць крыніцы, у чацвёртых — вадаварот у рацэ, возеры [10]. Ёсць выпадкі, калі нават у гаворцы адной вёскі ён бытуе ў двух-трох значэннях. У сувязі з гэтым не заўсёды можна вызначыць, якім значэннем матываваны той ці іншы мікратапонім. Дэмінутыў *вірóк* выкарыстоўваецца ў мікратапаніміі значна часцей, чым зыходная лексема *вір*.

Звыш 10 мікратапонімаў утварае апелятыў *кáверт* 'невялікая глыбокая яма з вадой на сенажаці': *Каверты́* в. (Рыд.), *У кавертóх* с. (Тур.), *Бабічóў кáверт* с., *Бородачóў кáверт* с., *Ерэ́мін кáверт* с., *Ерэ́мін кáверт на кóпах* с., *Королёў кáверт* с., *Котóў кáверт* с., *Мáркоў кáверт* с., *Мотохóў кáверт* с., *Пісаркоў кáверт* с. (Тураў).

Прыкладна столькі ж мікратапонімаў матывавана лексемай *канáва* (дэм. *канáўка*) 'доўгае паглыбленне, запоўненае вадой; роў': *Канáва* лес (Вел.), с. (Рам.), *Забéрская канáва* с. (Вел.), *За канáваю* лес і с. (Азяр.), *Заканáва* с. (Сяміг.), *Прыдáчова канáўка* лес (Вел.), *Рудні́цкая канáва* с. (Сямур.), *Пры́канавок* лес (Азяр.), с. (Бяр., Рыч., Хач., Хільч.).

Каля 10 мікратапонімаў склаліся на базе апелятыва *роў* (дэм. *ровéц, роўчáк*): *Мар'янскі роў* в. (Вер.), *Роўкі* б. (Рам.), *Рóўца* с. (Мач.), *Роўцэ́* п. (Кар.), *Рóўцы* в. (Стар.), с. (Талм.), *Падрóўе* с. (Сяміг.), *Под роў на лес* в. (Мач.), *У Крывого ровá* с. (Вільч.), *Колó роўчакá* в. (Вер.). Тэрмін *роў* (дэм. *роўчáк*) у мясцовых гаворках ужываецца ў двух значэннях: *роў* 'прыроднае паглыбленне, запоўненае вадой', 'старое рэчышча ракі'; *ровéц, роўчáк* 'невялікае прыроднае паглыбленне, запоўненае вадой', 'пратока з імклівым цячэннем' (параўн. укр. *рівчак* 'даліна з патокам', 'старое рэчышча ракі', 'ручай', 'яма') [11]. У мікратапаніміі Тураўшчыны названыя тэрміны выкарыстоўваюцца пераважна ў першым значэнні.

Некалькі мікратапонімаў суадносяцца з апелятывам *коцёл* (дэм. *коцелéц*) 'яма на сенажаці, запоўненая вадой': *Коцёл* с. (Азд., Кар., Лут.), *Коцелéц* с. (Бур.), *Котлы́* с. (Турск.), *За котлóм* лес (Знам.), *За коцёл* лес (Азяр.), *Закоцёл* в. (Двар.), с. (Сяміг.).

Апроч указанага вышэй значэння тэрмін *коцёл* вядомы ў мясцовых гаворках у значэнні 'невялічкае возера круглай формы', 'акно на балоце'.

---

[10] Прыкладна той жа набор значэнняў для лексемы *вір (вірок)* адзначаны М. І. Талстым. Гл.: Толстой Н. И. Славянская географическая терминология. С. 212.

[11] Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. С. 193.

Зрэдку сустракаюцца мікратапонімы, якія ўтварыліся на базе тэрміна *бýхта: Бýхта* с. (Мач.), с. (Цер.), *Бýхта просць* с. (Кар.), *Коло́ Бýхты* в. (Азд.).

У мясцовых гаворках слова *бýхта* шматзначнае: 'яма, выкручаная вадой у час паводкі', 'забалочаная нізіна', 'вір, вадаварот'. Таму аб семантычнай матывацыі мікратапонімаў, што склаліся на яго аснове, нельга гаварыць адназначна. У гаворках Брэсцкага Палесся лексема *бухта*[12] ўжываецца ў значэнні 'частка рэчкі, што ўдаецца ў сушу'.

Адзінкавыя мікратапонімы матываваны лексемамі *кáдоўб* 'яма з вадой' (*Я'ноў кáдоўб* с. (Хач.)), *котловáн* 'яма з вадой круглай формы' (*Борысоў котловáн* с. (Цер.)), *холоднíк* 'яма сярод поля', 'вір, з дна якога б'юць крыніцы' (*Холоднíк* п. (Сяміг.)), параўн. укр. *холодниця*[13] 'поле з крынічнай лагчынкай', *хорýж* 'яма на забалочанай сенажаці, запоўненая вадой; вірок' (*Хорýж,* с. (Тур.), *Хамрукóў хорýж* с. (Двар.), *Хорýжые* с. (Тур.)).

Зрэдку адзначаюцца мікратапонімы, суадносныя з тэрмінамі *жэрэло́* (*Жэрэло́* б. (Азд., Альп., Кар.), с. (Мач., Хот., Цер.)); *прогнóй* (*Прогнóй* б. (Кар.), с. (Хот.)), *провáлье* (*Провáлье* б. (Азяр.), с. (Знам.)), *стрýпень* (*Стрýпень* б. (Азд.), б. (Цер.)), *стры́жэнь* (*Стры́жэнь* б. (Азяр., Лут.), с. (Кар.)).

Семантычную матывацыю ўтваральных лексем адназначна ўстанавіць немагчыма, паколькі яны абазначаюць некалькі рэалій: *жэрэло́* 'невялікае балота', 'прадонне, жэрла крыніцы ў балоце', 'ваданосная жыла ў зямлі', 'струмень вады, крыніца', 'неперасыхаючае месца'; *прогнóй* 'багністая мясціна на балоце', 'месца на балоце, якое не замярзае'; *провáлье* 'багністая мясціна на балоце', 'глыбокае месца ў рацэ, возеры'; *стрýпень* 'незамярзаючае месца на балоце', 'невялікае балота з лесам пасярэдзіне'; *стры́жэнь* 'гнілое месца на балоце', 'моцны струмень у цячэнні ракі, які не замярзае', 'астравок, суша на забалочанай нізіне'. Аднак ясна, што пэўны працэнт іх мае ў сваёй аснове балотную семантыку.

З тымі ж цяжкасцямі даводзіцца сустракацца і пры вызначэнні семантычнай матывацыі мікратапонімаў, суадносных з лексемай *я́звіна: Я'звіна* б. (Хач.), п. (Альг., М. Мал.), *В'я́зміна* б. (Руб.), лес (Хот.), *Уя́звіна* лес (Хар.), *Я'звінкі* п. (Зап.), лес (Мач.), *Язéнска* лес (Сямур.), *Я'зенска градá* лес (Знам., Стар.). У мясцовых гаворках тэрмін *я́звіна* абазначае: 'незамярзаючае

---

12 Емельяновіч В. М. Геаграфічная тэрміналогія як крыніца мікратапанімії // Беларуская анамастыка. Мн., 1985. С. 96.

13 Черепанова Е. М. Микротопонимия Черниговско-Сумского Полесья. Сумы, 1984. С. 291.

месца на балоце', 'балота, парослае лесам або хмызняком', 'глыбокае месца на забалочаным возеры'.

У сучасных гаворках Тураўшчыны многія апелятывы выйшлі з актыўнага ўжытку і ўспрымаюцца носьбітамі гаворак як мікратапонімы. Да такіх адносіцца апелятыў *орліца* (*О'рліца* б. і п. (Вер., Люб.)). Інфарматары старэйшага ўзросту ўжываюць гэта слова ў сэнсе 'балоцістае месца з возерам' [14], для прадстаўнікоў жа маладзейшага пакалення — гэта толькі мікратапонім. Некаторыя старажылы звязваюць з апелятывам *орліца* паходжанне мікратапонімаў *Орлёва* п. (Бор.), *О'рлёво* в. (Рыч.), *Ворлёў* б. і лес (Хач.), *Заорлі* с. (Хач.).

Выпалі з актыўнага ўжытку апелятывы *загрэ́ба, про́рва,* якія абазначаюць 'глыбокае месца на рацэ, возеры'. У мікратапаніміі яны пакінулі сляды ў такіх назвах, як *Загрэ́ба* с. (Знам., Чэрн.), *Загро́бы* с. (Вер., М. Мал.), *Про́рва* в. (Вер., Знам.), *Коло́ Про́рвы* с. (Сяміг.).

Амаль трэцяя частка адапелятыўных мікратапонімаў Тураўшчыны звязана з назвамі ўзвышшаў. На фоне нізіннай мясцовасці выразна выдзяляўся кожны бугарок, кожны пагорак. Узвышанае месца ўспрымалася насельніцтвам Палесся не толькі як арыенцір, але і як участак прыгодны для апрацоўкі зямлі. Аранімічныя тэрміны надзвычай дэталізаваныя: улічаны памер, форма ўзвышша, месца размяшчэння яго на мясцовасці, віды раслiннасці, якая расце ў яго межах і іншыя характэрныя адзнакі. Значэнне 'узвышанае месца' перадаюць тэрміны *гора́, града́, груд, о́строў, бе́рэг, бор* (дэм. *бо́рок*), *буго́р, варва́рына, гвозд, горба́цін, горба́ч, грэ́бень, каза́ргаць, ку́друнка, ку́па, курга́н, на́спа, обу́рок, око́п, со́пка, сухме́ль, цы́пель, шчоло́бок, шчыковіца, шчэкліцко.*

Асаблівай актыўнасцю вылучаецца лексема *града́* (дэм. *гра́дка*), на базе якой утворана звыш 60 мікратапонімаў (назвы 84 мікрааб'ектаў). Апелятыў *града́* 'узвышанае сухое месца прадаўгаватай формы на лузе, у лесе, на балоце' часцей за ўсё замацоўваецца за сенажацямі, палямі, ляснымі ўрочышчамі: *Града́* с. і х. (Альп.), ч. с. (Бяр.), с. (Кар.), п. (Люб., Мач., Руб., Сяміг., Хар., Чэрн.), *Гряда́* в. і с. (Альш.), *Гра́дка* с. (В. Мал.), *Гра́дзішча* с. (Сяміг.), *Градкі́* в. (Паг., Стар., Турск.), лес (Вільч.), п. (Стар., Талм.), *Гра́ды* с. (Рыч.), *Грэдкі́* б. і лес (Мач.), *Грядочкі́* в. (Альш.), *До́ўграда* п. і с. (Руб.), *Загря́ддзе*

---

[14] Параўн. у У. М. Тапарова і А. М. Трубачова балтыйскае orle «возера» (Топоров В. Н., Трубачёв О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962. С. 176).

в. (Альш.), *Заградка* в. (Двар.), *Заграцка* с. (Мач.), *Подградзье* п. і с. (Люб.), в. (Альш.).

У працэсе намінацыі мікрааб'ектаў лексема *града* (дэм. *градка*) надзвычай часта выступае ў спалучэнні з прыналежнымі і адноснымі прыметнікамі: *Выргуцковы градкі* с. (Хот.), *Гінькова градка* с. (Знам.), *Гомоноўска града* с. (Сямур.), *Дземкова градка* с. (В. Мал.), *Еўхімова градка* с. (Вел.), *Курдзіные градкі* с. (Руб.), *Кучкова градка* п. (Вел.), *Оніськова града* с. (Вільч.), *Маркова града* п. (Сяміг.), *Морозовы градкі* лес (Вел.), *Марушчына града* п. (Кар.), *Марцінковые грады* лес (Рам.), *Паўлікова градка* лес (Знам.), *Паўлова града* п. (Сямур.), *Піпова града* лес (Стар.), *Попова града* лес і п. (Рыч.), с. (Стар.), *Попова грэда* б. (Рам.), *Свірыдова града* с. (Паг.), *Халімонава града* с. (Знам.), *Харкова града* п. (Сяміг.), *Цюхаёва града* лес (Альп.).

У якасці атрыбутыва шырока выкарыстоўваюцца мясцовыя назвы расліннага свету (*Верэсова града* п. (Хач.), *В'язёнска града* лес (Сямур.), *Язёньска града* лес (Стар.), *Язіньска града* лес (Знам.), *Дубова града* лес (Кар.), с. (Паг.), *Ліпова града* лес (Знам., Сямур.), с. (Цер.), *Лозова града* с. (Паг.), *Осова града* лес (Азяр.), *Осова градка* п. (В. Мал.), *Хвошчова града* лес (Азяр.), *Чорнічна града* лес (Хот.)); назвы мясцовай фауны (*Воўча града* с. (Альш.), *Козлова градка* с. (Вер.), *Лісіцкіна градка* лес (Мач.)); назвы насякомых (*Пчолна грэда* лес (Сямур.)). У шэрагу выпадкаў атрыбутыў характарызуе аб'ект па колеры (*Бела града* с. (Мач.), *Чорна градка* с. (Мач.)); па памеры (*Доўга града* лес (Сямур.), *Мала градка* с. (Цер.)); служыць арыенцірам у прасторы (*Закалюжная градка* п. (Вел.), *Маякова градка* лес (Знам., Сямур.), *Ніжняя града* лес (Вел.), *Серэдня града* п. (Сямур., Хач.)).

У адрозненне ад Заходняга Палесся[15], дзе лексема *града* рэдка выкарыстоўваецца ў мясцовых гаворках, паступова на ўсход у сумежных лунінецкіх[16], тураўскіх і мазырскіх[17] гаворках яна становіцца досыць прадуктыўнай.

Другое месца (каля 60 мікратапонімаў) сярод назваў узвышаных месц належыць апелятыву *гора* (дэм. *горка*) 'узвышанае сухое месца', 'узвышша з пясчанай глебай' (*Гора* п. (Азд., В. Мал., М. Мал.), ч. с. (В. Мал.), *Горка* в. (Знам., Люб.), лес (Азяр., Знам., Паг.), с. (Цер.), *Горкі* п. (Кар., Мач., Хач.), *Горы*

---

[15] Емельяновіч В. М. Геаграфічная тэрміналогія як крыніца мікратапанімії. С. 88.

[16] Ossowski L. Z poleskiej terminologii topograficznej. S. 46.

[17] Иванова А. А. Алфавитный словарь микротопонимов Мозырского Полесья. С. 96.

лес (Руб.), *Загора́* п. (М. Мал.), *Заго́р'е* п. (Азд., М. Мал., Рыд., Цер.), ч. с. (Цер.), *Заго́рка* п. і ч. с. (Альп.), *За го́ркою* п. (Альг.), *Загоро́ю* ч. с. (В. Мал.), *Заго́рное* с. (Рыд.), *Заго́рына* п. (Бор.), *Коло́ горы́* п. (Сямур.), *Кры́чыч-го́рка* п. (Руб.), *Подгора́* п. (М. Мал.), *Подго́р'е* п. (В. Мал.), *У го́рах* б. (Хот.), *За Бобру́йковою горо́ю* п. (Крэмн.)).

Тэрмін *гора́* часта выступае ў спалучэнні з прыналежнымі і адноснымі прыметнікамі: *Бобру́йкова гора́* п. (Крэмн.), в. (Тур.), *Грэ́ськова гора́* п. (Хот.), *Дзе́дова гора́* лес (Стар.), *Ці́хова гора́* п. (Сяміг.), *Лі́повуе го́ры* п. (Бур.), *Пэнёва́я го́рка* лес (Вел.), *Лыса гора́* г. (Бяр., Рам.), в. (Знам.), п. (Вел.), лес (Руб., Рыч.), *Мохно́ва гора́* п. (Хач.), *Го́ры Сьлепе́цкіе* п. (Паг.).

На базе каранёвой марфемы *-гор-* утварыліся апелятывы, якія абазначаюць не проста 'узвышанае месца', але і ўказваюць на якую-небудзь прыродную прыкмету аб'екта. Многія з іх знайшлі адлюстраванне ў мікратапаніміі: *горова́та, горова́ха* 'пясчанае ўзвышша, паpослае лесам': *Горова́та* п. (Хач.), *Горова́ха* в. (Рыч.), лес (Знам., Стар., Сямур., Хач.); *горы́ца* 'невялікае, круглай формы ўзвышша': *Горы́ца* п. (Рам.), лес (Рыч.); *горча́к, горыно́ў, горы́нск* 'высокае ўзвышша, якое не заліваецца': *На горчаку́* п. і ч. с. (Знам.), *Горыно́ў* п. (Альг.), *Горы́нск* ч. с. (Хар.), г. (Хот.); *горб* 'круглы ўзгорак у выглядзе гарба': *Горба́ха* с. (Вер.), *Горба́цін* с. (Цер.), *Горба́ч* п. і х., с. (Вел.), *Горба́ша* в. (Вел.).

Погляд палешука спыняўся не толькі на ўзвышшах, але і проста на сухіх мясцінах сярод балоцістых масіваў. Адной з распаўсюджаных назваў такіх мясцін з'яўляецца *о́строў* (дэм. *островок*). Многія гаспадарчыя аб'екты, размешчаныя на сухіх астраўках, носяць назвы *О'строў* лес (Кар.), п. (Знам., Люб., Мач., М. Мал., Руб., Цер.), *Острово́к* в. і п. (Д.-Гар., Тур.), с. (Цер.), *Островы́* п. (Стар.), *Остро́ўе* с. (Зап.), *Остроўкі́* в. (Люб.), с. (Цер.), *Остроўске́* б. (Мач.), *Застро́ўе* б. і с. (Мач.), в. (Рыд.), *Застроўчэ́* п. (Цер.), *Кана́ўчыкоў острово́к* б. (Кар.), *Настро́ў* п. (Руб.), *Подостро́ўе* п. (Знам.).

Па меры асваення астравоў пад сельскагаспадарчыя ўчасткі, за імі замацоўваліся імёны, прозвішчы, мянушкі: *Босоко́ўскі островок* с. (Люб.), *Гусако́ў о́строў* лес (Азяр.), *Кі́рышын о́строў* п. (В. Мал.), *Крыжо́ноў острово́к* в. (Цер.), *Лёмін о́строў* лес (Азд.), *Максі́моў о́строў* лес (Цер.), *Не́войтоў о́стровок* б. (Хот.), *Не́мцоў о́строў* п. (В. Мал., Сяміг.), *Остроўкі Кузьмі́нскіе* п. (В. Мал.), *Остроўкі Макаро́ўскіе* п. (В. Мал.), *Па́ўлоў о́строў* лес і с. (Цер.), *Церэмхо́ў острово́к* с. (Рыч.), *Шлёмін о́строў* лес (Кар.), *Трохі́моў острово́к* с. (Хач.), *Мосе́ч-острово́к* п. (В. Мал.),

*Яковіч-астроў* с. (Зап.), *Дземід-астроў перву, Дземід-астроў другі* с. (Рам.).

У многіх азначэннях адлюстраваліся прыродныя адзнакі аб'екта: від расліннасці: *Берэзоў óстроў* с. (В. Мал.), *Дубóву островóк* с. (Стар.), *Осóву óстроў* к. (Вільч.); якасць глебы: *Грузкі óстроў* п. (Стар.), *Мóкроў-остроў* п. (В. Мал.); колер: *Чóрны óстроў* б., п. і с. (Кар.), с. (Талм.); памер: *Малы́ островóк* с. (Хільч.), *О'строў велікі* п. (Альш.), *О'строў малы́* п. (Альш.); размяшчэнне і працягласць у прасторы: *Зáдні óстроў* лес і п. (Стар.), лес (Хач.), *О'строў серэдні* п. (Сяміг.), *Пéрву óстроў, Другі óстроў, Трэйці óстроў* с. (В. Мал.), *Доўгі óстроў* п. (Хот.).

Тэрмін *óстроў* у межах Тураўскага Палесся вядомы і ў значэнні 'узвышанае сухое месца, акружанае вадою'. Гэтым значэннем, на наш погляд, матываваны мікратапонімы *О'строў* в. (Альш.), п. (Бор.), с. (Вар., Вер., Рыд., Чэрн.), ч. с. (Альш., М. Мал., Хач.), *Дамáнскі óстроў* с. (Знам.), *Вóстроў* с. (Руб.), *Гóстроў* с. (Бур.), ч. с. (Вер.), в. (М. Мал.).

Апелятыў *óстроў* 'круглая выспа сярод балот' вядомы ў лунінецкіх [18] і мазырскіх [19] гаворках.

Блізкі па семантыцы тэрмін *цыпель* 'востраў, каса ў рацэ' паслужыў у якасці ўтваральнай асновы адзінкавага мікратапоніма *Цыпель* с. (Сяміг.) (параўн. укр. *циплик* [20] 'маленькі астравок на балоце').

Звыш 30 мікратапонімаў склаліся на базе апелятыва *груд* (дэм. *грудóк, грудзéц*) 'узвышанае, прадаўгаватае месца сярод нізіны, балота, у пойме ракі', 'узвышаная сенажаць': *Груд* с. (В. Мал., М. Мал., Паг.), в. (М. Мал.), *Груд поперэчны* с. (Вел.), *Бáбін груд* п. (Вел.), *Бобкóў груд* с. (Вер.), *Вілімоў груд* с. (Рам.), *Галькóў груд* п. (Двар.), *Кóўкоў груд* лес (Вел.), *Стрэльцóў груд* с. (Цер.), *Я'ндрыкоў груд* с. (Вер.), *Мýроў груд* с. (Талм.), *Солошóў груд* с. (Вел.), *Велікі груд* п. і с. (Сяміг.), *Высóкі груд* с. (Хач., Хільч.), *Груды́ велікіе* с. (Альш.), *Груды́ малые* с. (Альш.), *Воронóўскіе груды́* с. (Альп.), *Грудóк* в. і ч. с. (Кар.), *Пéрву грудóк, Другі грудóк, Трэйці грудóк* лес (Вільч.), *Хорóшы грудóк* лес (Вільч.), *Цітóў грудóк* с. (Хільч.), *Грудкі* в. (Цер.), лес (Вільч.), п. (М. Мал.), с. (Кар.), *Высóкі грудзéц* лес (Бяр.), *Загрýдзье* с. (М. Мал.).

У мясцовых гаворках тэрмін *груд* дыферэнцыруецца па знешняй прыкмеце: у цэнтральнай бязлеснай частцы груд 'узвыша-

---

[18] Ossowski L. Z poleskiej terminologii topograficznej. S. 46.

[19] Иванова А. А. Алфавитный словарь микротопонимов Мозырского Полесья. С. 72.

[20] Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. С. 233.

нае месца, не парослае лесам, хмызняком' (*Груд* с. (Вар., Вер., В. Мал., Сяміг.), *Грудо́к* с. (Альш.)), на паўднёвай і паўночных ускраінах Тураўшчыны груд 'узвышанае месца, парослае лесам, хмызняком' (*Груд* лес (Бяр., Вел., Вільч., Хот.)).

Паводле М. І. Талстога[21] *груд (грудо́к)* па значэнні і паходжанні надзвычай блізкі да палескага тэрміна *града (градка)* 'узвышанае сухое месца прадаўгаватай формы на лузе, балоце, у лесе', 'узвышша, парослае лесам, хмызняком'.

Некалькі мікратапонімаў утворана ад лексемы *бор* (дэм. *бо́рок*): *Бор* п. (Зап., Сямур., Талм., Хач.), *Бо́рок* п. (Кар., Хот., Цер.), *За бо́рком* в. (Вер.). У гаворках Тураўскага Палесся яна служыць для абазначэння 'узвышанага месца з пясчанай глебай'.

Мікратапонімы *Бугóр* лес (Бяр., Рыдч., Рыч.), *За Бугро́м* в. (Рыч.) суадносяцца з апелятывам *бугóр* 'невялікае ўзвышша, пагорак' (параўн. укр.[22] *бугор* 'узвышанае сухое месца сярод балота').

Адзінкавыя мікратапонімы ўтвораны на базе апелятываў *варва́рына* 'узгорак пасярод балота' (*Варва́рына* п. (Бур.)); *верх* 'узвышанае месца сярод балота, нізіны' (*Тры верхі́* п. (Вер.), *Верхле́чнэ* с. (Мач.)); *верэя́, орэя́* 'узвышаная града сярод балота' (*Верэя́* б. і лес (Хач.), *Верэйкі́* б. (Рыд.), *Орэ́йка* лес (Стар.), *Орэя́* лес (Рыч.)); *гвозд*[23], *гво́здзік* 'астравок, узвышша сярод балота, парослыя лесам' (*Гвозд* лес (Вел., Мач., Турск.), б. (Мач., Цер.), *Гво́здзік* лес (Вел.)); *грэ́бень* 'прадаўгаватае ўзвышша на балоце, нізіне' (*Грэ́бень* с. (Цер.)); *ку́дрынка, ку́дрыча* 'узвышша, астравок сярод балота' (*Ку́дрынка* ч. с. (Хільч.), *Ку́дрыча* с. (Альш.)), *ку́па* 'узвышанае, голае месца' (*Купа* в. (Двар., Тур.)); *курга́н* 'узвышша сярод балота, нізіны' (*Курга́н* п. (Кар., Лут.)); *обу́рок* 'узвышаны астравок у полі, на балоце, пароcлы кустамі, лесам' (*Обу́рок* п. (Бяр., Кар., Лут.) параўн. укр. палеск. *оборок*[24] 'лес на ўзвышшы сярод балота', 'астравок на балоце', 'невялікі сасновы лес на сухім месцы пасярод балота'); *субпка* 'узвышша, курган' (*Субпка* п. (Альг.)); *су́хмель* 'прадаўгаватая ўзвышаная града лесу на балоце' (*Га́лісты су́хмель, До́ўгі су́х-*

[21] Толстой Н. И. Славянская географическая терминология. С. 125.

[22] Никончук М. В. Матеріали до лексичного атласу української мови: Правобережне Полісся. Київ, 1979. С. 30.

[23] Паведамленне польскага даследчыка К. Машынскага аб існаванні лексемы *гвозд* у Давыдгарадоцкім р-не (цяпер Столінскім) падмацоўваецца нашымі назіраннямі ў гэтым раёне. Гл.: Moszynski K. Uwagi do 4 zeszyta «Slownika etymołogicznego języka polskiego». F. Slawskiego // Język polski. 1956. XXXVI. S. 204.

[24] Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. С. 145.

*мель, Ста́сёў су́хмель* лес (Руб.)); *шчоло́бок, шчы́ковіца, шчэкліцко* 'невялікая ўзвышаная мясціна' (*Шчоло́бок* с. (Двар., Зап., Тур.) параўн. карпацк. *шчолб*[25] 'вяршыня гары, скала'; *Шчы́ковіца* с. (Тур.), *Шчэкліцко* п. (Сямур.)); *вы́сьпа (ву́сьпа)* 'узвышанае сухое месца сярод балота' (*Барбо́сова вы́сьпа* с. (Хар.), *Рома́нцова вы́сьпа* с. (Хар.), *Коло́ ву́спі* с. (Лут.), *На ву́спі* к. (Кар.)); *на́спа* 'пясчанае ўзвышша, намытае вадою' (*На́спа* с. (Вер.), *Наза́рова на́спа* с. (Зап.), *На́спі* п. (Альг.)); *пэрэ́спа* 'пясчанае ўзвышша нанесенае вадою' (*Пэрэ́спы* с. (Сям., Хар.)); *пры́шчына* 'узвышаная сухая града сярод балота, нізіны' (*Пры́шчына* с. (Вер.), *Пры́шчыны* с. (М. Мал.)); *торо́к* 'сухое месца паміж балотамі' (*Торо́к* в. (Рыч.), лес (Рыч.), *То́рокі* в. (Альш.), *Торочкі* в. і лес (Бяр.)). Лексема *торо́к* з такой жа семантыкай вядома ўкраінскім палескім гаворкам[26].

Да групы мікратапонімаў, матываваных назвамі ўзвышаных месцаў, можна аднесці і мікратапонімы з асновай *-бе́рэг-* (*Бе́рэг* ч. с. (Азд., Вел., Вер., Двар., Паг.), с. (Стар.), *Бэ́рэг* б., в., п. (Рам.), *Бе́рэг над старыко́м* с. (Сямур.), *Кра́сны бе́рэг* п. (Альш.), с. (Вер.), *Кра́сны бе́рэг* лес (Альп., Вел., Руб.), *Круты́ бе́рэг* лес (Азд.), в. (Тур.), *Жуко́ў бе́рэг* с. (Вер.), *Ма́ркоў бе́рэг* в. і п. (Рыч.), *Забарэ́ж'е* п. і ч. с. (Альг.), *Зазабэрэ́ж'ем* п. (Альп.), *Берэ́жнікі* лес (Бяр., Стар.)). Назіранні паказваюць, што мікратапонімы, як і айконімы Палесся з асновай *-бераг-*, часцей за ўсё з'яўляюцца найменнямі аб'ектаў, размешчаных не проста на беразе (як сушы) вадаёма, а на высокім яго беразе.

Шэраг мікратапонімаў, утвораных на базе геаграфічных тэрмінаў з асновай *-гор-, -бор-* і іншых матываваны другаснымі значэннямі. Напрыклад, мікратапонім *Гора́* п. (Азд., В. Мал., М. Мал., Мач.) суадносіцца з апелятывам *гора* 'малаўраджайнае поле на ўзвышшы'; *Горова́ха п.* (Бор., Зап., Хач.) — *горова́ха* 'малаўраджайнае поле на ўзвышшы'; *Горы́шын* с. (Хот., Цер.) — *горы́шын* 'высокае, беднае травастоем месца'; *Бор* п. (Рыч., Сямур.), *Бо́рок* п. (Кар., Цер.) — *бор* 'малаўраджайнае поле на месцы сасновага лесу'; *На бу́бліковi* п. і в. (Альш.) — *бу́блік* 'узвышанае месца з бедным травастоем'. Наслаенне другаснай семантыкі з'яўляецца характэрнай рысай для Беларускага Палесся[27]. Прыродна-геаграфічныя рэаліі, трапляючы ў поле зроку чалавека, ацэньваліся ім перш за ўсё з пункту гледжання практычнага выкарыстання аб'екта: як правіла, 'узвышаныя, пясча-

---

[25] Поспелов Е. М. Географическая терминология в микротопонимии Восточных Карпат // Микротопонимия. М., 1967. С. 25.

[26] Київське Полісся: Етнолінгвістичне досліджэння. Київ. 1989. С. 79.

[27] Выгонная Л. Ц. Земляробчая тэрміналогія // Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1970. С. 36.

ныя ўчасткі' не апрацоўваліся з-за дрэннай, неўрадлівай глебы.

Характар мікратапаніміі Тураўскага Палесся праяўляецца ў шырокім выкарыстанні назваў мясцовай флоры. На іх аснове ўзнікла звыш 700 мікратапонімаў.

Найчасцей у якасці лексічных асноў выступаюць словы са значэннем 'масіў, парослы дрэвамі розных парод або якой-небудзь адной': *лес, бор, дубро́ва, берэ́знік, в'язні́к, оле́шнік, ось-ні́к, хво́йнік.*

У складзе 60 мікратапонімаў паўтарылася лексема *лес* (дэм. *лесо́к*): *Вар'я́ноў лес* лес (Руб.), *Васюшко́ў лес* с. (Хільч.), *Гор-дзе́еў лес* п. (Цер.), *Лес Васюшко́ў* с. (Бяр.), *Па́нскі лес* лес (Лут.), *Па́ўлоў лес* п. (Сяміг.), *Боры́цкі лес* с. (Хот.), *Калі́ноў лес* с. (В. Мал.), *Суні́чны лес* лес (Хар.), *До́бры лес* лес (Сяміг.), *Велі́кі лес* п. (Вільч.), *Велі́кі лес* ч. с. (Руб.), с. (Турск.), *Валі́кі лес* ч. с. (Хот.), *Залесо́ч'е* п. (Д.-Гар.), с. (Люб.), *Зале́сье* п. (Альг.), п. (Вільч.), с. (Мач., Сяміг.), *Зале́ске* б. (Стар.), *Под-ле́сье* п. (Выс., Д.-Гар.), *Нале́с* в. і с. (Кар.), *Чорноле́с* лес (Кар., Цер.), *Лесо́к* в. (Альп.), с. (Люб.), в. (Мач.), п. (Сяміг.), *Лесо́к велі́кі* п. (Талм.), *Лесо́к малы́* п. (Люб.), *Ба́бчын лесо́к* в. (Тур.), *Кова́льчыкоў лесо́к* лес (Бяр.), *Го́роўскі лесо́к* лес (Бяр.), *Велі́кі лесо́к* п. (Люб.), *Подле́скі* п. (Выс., Д.-Гар.), *Под лесо́к* с. (Альш.), *Ле́скі* лес (Бяр.), п. (В. Мал.), с. (Кар.), п. (Руб.), лес (Стар., Сямур.), *Леско́ва* в. і п. (Альп.), с. (Альш.), п. (Руб.), с. (Хот.), *Староле́сіца* лес (Альш.).

Лексема *лес* у мясцовых гаворках абазначае тое ж паняцце, што і ў беларускай літаратурнай мове, а яе дэрыват *лесо́к,* апрача памяншальнага значэння, у асобных гаворках (пераважна ў паўднёвых) ужываецца яшчэ ў сэнсе 'лес з падлескам'.

Сярод мікратапонімаў, матываваных назвамі лясных масіваў з аднароднымі пародамі дрэў або назвамі асобных парод дрэў, пераважаюць 'дуброўныя' і 'баравыя' мікратапонімы (каля 200). Большасць з іх утворана ад апелятываў *дубро́ва* (дэм. *ду́бро́ўка*), *дубро́віца* (*Дубро́ва* в. (Вел., Люб., Сямур.), лес (Вел., Люб.), п. (Люб., Рыч., Сямур., Хільч., Цер.), с. (Азд., Вел., Люб., Мач., Хільч.), ч. с. (Знам., Хот.); *До́ўга дубро́ва* п. (Мач.), *Ра́дзькова дубро́ва* в. і с. (Цер.); *Дубро́вы* п. (Мач.); *До́ўгіе дубро́вы* п. (Вел.); *Ду́броўка* в. (Бяр., Стар., Тур.), лес (Вільч.), п. (Турск., Хач., Хільч.), с. (Альп., Вел., Выс., Д.-Гар.), *Благадано́ва ду́б-роўка* в. (Альш.), *За дубро́ўкою* п. (Азяр.); *Дуброўкі́* п. (Азд.), в. (Альш.); *Под дубро́ўкою* п. (Азяр.); *Дубро́віца* п. (Азд.)).

Апелятыў *дубро́ва* (дэм. *ду́бро́ўка*) абазначае ў мясцовых гаворках 'стары дубовы лес', 'змешаны лес з перавагай дуба', 'прыгожае роўнае месца, парослае рэдкімі старымі дубамі'.

'Прыгожае месца, парослае дубамі' абазначае таксама дэмі-

нутыў *дубро́віца*. Абедзве названыя лексемы з аналагічным значэннем засведчаны ў мазырскіх гаворках [28].

Некалькі мікратапонімаў фіксуюць у сваім складзе апелятывы *дубнік, дубішча* 'дубовы лес' (*Дубні́к* ч. с. (Бур.), лес (Бяр.), п. (М. Мал.), *Дубнікі* в. і п. (Люб.); *Дубішча* лес (Бор.), в. (Вер.), п. (В. Мал., Зап.), с. (Рыч.), *Поддубішча* п. (В. Мал.)).

Звыш 80 мікратапонімаў матывавана апелятывам *бор* (дэм. *бо́рок*): *Бор* в. (Бяр.), лес (Кар., Мач., Стар.), п. (Бяр., Выс., Кар., Люб., Мач., Паг., Рыч.), с. (Талм.), *Бор Варва́рын* п. (Люб.), *Бор сера́дні* в. (Азяр.), *Велікі бор* с. (Хільч.), *Дале́кі бор.* п. (Хільч.), *Кра́сны бор* в. (Хач.), *Малы́ край-бор* с. (Хільч.), *Озера́нскі бор* п. (Паг.), *Слепе́цкі бор* п. (Паг.), *Хвое́нскі бор* лес і п. (Паг.), *Сухі́ бор* лес (Мач.), *По́дбор* п. (Сяміг.); *Бо́рок* в. (Кар.), лес (Цер.), п. (Бор., Кар., Талм., Хот.), с. (Сяміг.), *Ба́бін бо́рок* п. (Мач.), *Во́ўчы бо́рок* с. (Вер.), *Попо́ў бо́рок* лес (Знам.), *Кра́сны бо́рок* п. (М. Мал.), *Под бо́рком* с. (Хільч.), *Под бо́рок* с. (Рыдч.), *Бо́ркі* лес і х. (Вел.), п. (Мач., Хільч., Хот.), *Бо́ркі велі́кіе* п. (Руб.), *Бо́ркі малы́е* п. (Руб.); *Бо́рочок* п. (Знам.), п. (Стар.), п. і с. (Сямур.), *Бо́рочкі* лес (Вел.); *Борове́ч'я* в. (Чэрн.); *Барэцкі* б. (Рыч.); *Бороцка́* лес (Вільч.), *Бо́ркова* п. (Вел.); *Борова́* лес (Вел., Кар., Руб.), п. (Азд., Кар.), с. (Азд., Д.-Гар., Талм.); *Забо́р'е* п. (Вел., Люб., Рам.), *Забо́ркі* п. (Знам.); *Подбо́р'е* лес (Бор., Хач.); *Сера́дбор'е* п. (Кар.), лес (Мач., Цер.); *Подборо́ч'е* в. і п. (Сямур.); *Заборові́ч'е* п. (Сяміг.); *Заборо́ўе* лес (Руб.).

На Тураўшчыне апелятыў *бор* (дэм. *бо́ро́к*) абазначае 'сасновы лес', 'змешаны лес на ўзвышшы'. У паўднёвых гаворках *бор* паўсямесна ўжываецца ў значэнні 'узвышша з супясчанай глебай, на якім раней рос лес'.

Спарадычна адзначаюцца мікратапонімы з асновамі *боровіца* 'невялікае ўзвышша, парослае сасновым лесам', 'поле з супясчанай глебай на месцы былога лесу' (*Боровіца* п. (Сяміг.)), *борошчы́н* 'хваёвы лес на супясчанай градзе' (*Борошчы́н* лес, в., п., с. (Альп.)).

Наступную па колькасці групу (50 адзінак) складаюць мікратапонімы ад апелятываў *берэза́к, бера́знік, бера́зье,* якія абазначаюць паняцце 'бярозавы лес': *Берэза́к* лес (Хач.); *Бера́знік* п. (Азяр., Рыч., Сямур.); *Бера́знік велікі* в. (Хільч.), *Густы́ бера́знік* в. (Бор.), *Вусо́кі бера́знік* п. (Сяміг.), *Малы́ бера́знік* в. (Хільч.), *На бера́зніку* п. (Азяр.), *Бера́знікі* в. (Вер.), б. (Кар.), п. (Азд., Альш., Вер., В. Мал., Стар., Сяміг., Сямур., Турск.,

---

[28] Иванова А. А. Алфавитный словарь микротопонимов Мозырского Полесья. С. 122.

Хільч., Цер.), с. (Азяр., Рам.), *Высокіе берэзнікі* п. (Альг.), *Забераэзнікі* п. (Рам.); *Заберэзье* с. (Бор.), *Забэрэзье* в. і с. (Альп.).

У гаворцы в. Бярэжцы апелятыў *берэзніка* 'балота, парослае бярозамі' выйшаў з ужытку і ўспрымаецца як мікратапонім (*Берэзніка* б. і лес).

Звыш 40 мікратапонімаў матываваны назвамі альховых лясоў: *олешнік, олехоўе, ольхі, олеш'е, олешкі* (*Олешнік* с. (Паг.), *Арцюхоў олешнік* в. (Тур.), *Боўбелеў олешнік* с. (Рыд.), *Подолешнік* п. (Двар.), *Олешнікі* с. (Вер.), п. (Сяміг., Хач.), *Олехоўе* в. (Альг.), *О'льхі*, с. (М. Мал.), *Заолеш'е* с. (Азяр.), *Олешка* с. (Альш.), *Олешкі* лес і п. (Альп.)).

Па семантыцы матывавальнай асновы да гэтай групы цесна прымыкаюць мікратапонімы *Олёс* лес (Азяр., Бор.), б. (Сямур.), *Ніконоў олёс* с. (Бор.), *Олёсца* с. (Знам.). Тэрмін *олёс* у мясцовых гаворках бытуе ў двух значэннях — 'альховы лес' і 'балота, парослае алешнікам'. Таму назвы з гэтай асновай немагчыма строга дыферэнцыраваць па семантычнай матывацыі. Дадзеныя, атрыманыя ад інфарматараў, даюць падставу лічыць, што ў аснове мікратапонімаў Тураўшчыны дамінуе лексема *олёс* у значэнні 'балота, парослае алешнікам'. З такой жа семантыкай яна бытуе і ў суседніх лунінецкіх гаворках [29].

Звыш 30 мікратапонімаў матываваны апелятывамі *оснік* (дэм. *оснічок*), *оснікі, осі, восоўе, осьё, осоўка,* якія абазначаюць паняцце 'асінавы лес' (*Оснік* лес (Хач.), п. (Хільч.), в. (Тур., Чэрн.); *Высокі оснік* с. (Мач.), *Нізкі снічок* с. (Рам.); *Осьнікі* п. (Альг., Альш., Альп.), с. (Азд., Альп., Хільч.); *Задніе оснікі* п. (Хільч.), *Перэдніе оснікі* п. (Хільч.); *О'сі* лес (Альп., Вел.); *Осьё* лес і п. (Вільч.), в. (Стар.); *Осья* п. (Сяміг.); *Осоўка* с. (Мач.), *Осцёц* лес (Азд.); *Восоўе* в. (Стар.), п. (Хач.); *Заснікі* п. (В. Мал.), *Подосніч'е* п. (Альг.), *Осная* с. (Сяміг.), *Осніцка* с. (Рыч.), *Подосніцка* п. і с. (Знам.), с. (Паг.).

Лексема *осоўка* ў мясцовых гаворках абазначае 'човен, выдзеўбаны са ствала асіны'.

У якасці лексічных асноў 25 мікратапонімаў выступаюць назвы 'ліпавых лясоў': *ліпнік* (*Ліпнік* лес (Рыч.)); *ліпкі* (*Ліпкі* б. (Бяр.), п. (Бур., Двар.), лес (Цер.), *Подліпкі* с. (Бур.)); *ліпніка* (*Ліпніка* лес і п. (Бяр.)); *ліпіца* (*Ліпіца* лес і с. (Сяміг.), *Ліпіча* с. (Кар.)); *ліпоч'е* (*Подліпоч'е* лес (Знам.)); *ліпча* (*Ліпча* лес і п. (Хот.)); *ліптоўе* (*Заліптоўе* п. і с. (Азд.)).

Лексічнымі асновамі 18 мікратапонімаў з'явіліся апелятывы, якія абазначаюць 'зараснікі вязу': *в'язнік, в'язоўе, в'язовіца* (*В'язнік* с. (Талм.), *Зав'язнік* п. (Альг.), *Заўязнік* п. (В. Мал.),

---

[29] Ossowski L. Z poleskiej terminologii topograficznej. S. 46.

*В'язоўе* с. (Альш.), *Подв'язоўе* с. (Азд., Альш.), *В'язнікі* лес (Стар.), *В'язінка* лес (Вел.), *В'язінкі* с. (Рыд.), п. (М. Мал.), *В'яжышча* в. (Вер.), *В'язовіца* с. (Паг., Чэрн.), *В'язова* лес (Вел.), *В'язовые* с. (Альш.), *В'язоцка* в. (В. Мал.), с. (Вер.)). Лексема *вяз* у гаворках Тураўшчыны мае міфалагічнае значэнне, у час сёмухі дрэўцы вяза ставілі ў дварах, а галінкамі ўпрыгожвалі вокны.

Звыш 10 мікратапонімаў маюць аснову *-бéрэст-*: *Бéрэст* в. (Цер.), *За берэстáмі* с. (Мач.), *Берэстóк* с. (Рам.), *Барэстóк* п. (Мач.), *Берэсткí* с. (Люб.), *Бэрэ́сцкі* с. (Руб.), *Бэрэстóўка* в. (Выс.), *Берэ́строў* в. (Вер.), *Бэрэстóвэ* п. (Хот.), с. (Хач.), *Барасніќі* в. (Мач.), *Заберэ́сцьве* п. (М. Мал.), с. (Цер.). *Бéрэст* — разнавіднасць вяза [30]. Толькі старажылы размяжоўваюць сінонімы *вяз* і *бéрэст*: *В'яз суковаты, а берэст роўнейшы* (Азд.); *Бэрэст — цвёрдэ дзерэво, цёмнэ, але гладзеньке, не вельмо струповатэ* (Сям.) [31]. Расказваюць, што некалі былі суцэльныя зараснікі берэсту ў паўднёва-заходняй частцы Тураўшчыны.

У 17 выпадках мікратапонімы маюць аснову *-хвой-, -смоль-, -сосн-*: *Хвойнíк* п. (Люб., Сяміг., Чэрн.), *Хвóі* п. (Хач.), *Хвойнíкі* в. (Стар.), п. (Хач.), *Подхвóйкі* п. (В. Мал.), п. і с. (Талм.), *Хвóйца* п. (Цер.), *Хвóйнэ* лес (Хач.), *Хвоёнкі велíкіе* п. (Альг.), *Хвоёнкі малые* п. (Альг.), *Смольнíк* лес (Азяр.), *Соснíк* лес (Рыч.). У якасці іх матывавальных асноў выступаюць назвы сасновага дрэва, сасновага лесу або зарасніку сасны.

Падобна, што значэннем 'сасновы лес' матываваны і мікратапонім *Кальнíк* лес (Хот.), п. (М. Мал.). На Беларускім Палессі апелятыў у гэтым значэнні невядомы. Але ёсць некаторыя ўскосныя звесткі, якія дазваляюць зрабіць такое дапушчэнне. Старажылы в. Хотамель памятаюць, што на месцы сучаснага поля быў сасновы лес (з урочышчам *Кальнíк*). Лес называўся «карабельным» і ішоў толькі на будаўніцтва. У межах Чарнігаўска-Сумскога Палесся яшчэ і сёння бытуе слова *кальнíк* [32] у якасці назвы 'лесу цвёрдай пароды' (маецца на ўвазе граб, дуб, клён, ясень, сасна). Не выключана, што гэтае слова было ўласціва і гаворкам Беларускага Палесся, але з часам выйшла з ужытку і захавалася толькі ў мікратапаніміі.

Некалькі мікратапонімаў засведчылі ў сваім складзе назвы зарасніку *вéтлы* (*вецéльнік, вецёльé, вецелíшча*): *Вецéльнік* в. і с. (Бор.), *Вецёльé* с. (Цер.), *Вéтлы* с. (М. Мал.), *Вéцёлкі* с. (Альш.), *Вецелíшча* с. (Паг.).

---

[30] Энцыклапедыя прыроды Беларусі. Мн., 1983. Т. 1. С. 286.

[31] Тураўскі слоўнік. Т. 1. С. 56.

[32] Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. С. 93.

Зрэдку ў якасці асновы мікратапонімаў адзначаюцца назвы лясных масіваў, парослых *грабом, ёлкой, ясенем, клёном, осокором* 'таполяй': *Грабова* с. (Альш.), *Грабовэ* лес (Хот.); *Е'льнік* лес (Сямур.), *Елінец* с. (Мач); *Есенец* с. (Мач.), *Есенёва* лес (Хот.), *Есеновэ* п. (Мач.), *Заясенец* с. (Вер.), *Под'ясенец* с. (Альш.); *Кленная* лес (Цер.); *Осокор'е* с. (Вер.), *Сокорні* п. (Сяміг.), *Осокороўска* с. (Паг.).

Сустракаюцца мікратапонімы з асновай *-гай-* (дэм. *гаёк*): *Гай* лес (Бор.), *Гаé* лес (Кар.), в. і с. (Талм.), с. (Цер.), *Гаёк* п. (Руб.), ч. с. (Хач.), *Подгаёк* ч. с. (М. Мал.), *Подгаеч'е* с. (Альш.). Апелятыў *гай* бытуе ў двух значэннях: 'густое дробналессе' і 'зараснікі вольхі і бярозы па нізкіх мясцінах'.

Звыш 50 мікратапонімаў утвараюць назвы асобных парод дрэў. На першым месцы па колькасці ўтвораных мікратапонімаў стаіць лексема *дуб* і вытворныя ад яе *дубок, дубец*: *Красны дуб* с. (Бор.), *Жыўцоў дуб* с. (Мач.), *Кульпін дуб* п. (Бор.), *Сенькоў дуб* п. і с. (Сяміг.), *Храпоў дуб* с. (М. Мал.), *Колі дуба* п. (Хільч.), *Под дубом* с. (Паг.), *У дубох* в. (Альг.), *Удуба* в. (Сямур.), п. (Вер.), *Дубы* с. (Альш.), *Дванаццаць дубоў* с. (Зап.), *Коло дванаццаці дубоў* с. (Тур.), *Тры дубы* п. (Руб.), *Задуб'е* п. (М. Мал.), лес (Руб.), *Поддуб'е* с. (Бяр.), *Поддубоч'е* с. (Знам.), *Дубок* с. (В. Мал.), б. і с. (Рам.), *Дубкі* п. (Чэрн.), *Дубкі Еўменову* с. (Хільч.), *Паўлоўскіе дубкі* с. (Хільч.), *Дубцы велікіе* п. (Азд.), *Дубцы малые* п. (Азд.).

Каля 10 мікратапонімаў матывавана апелятывам *берэза* (дэм. *берэзка*), *берэзіна*: *Гостра берэза* в. (Цер.), *Под бэрэзіною* с. (Мач.), *Берозка* с. (В. Мал.), с. (М. Мал.), *Берэзка* с. (Сяміг.), *Под Берозкою* с. (В. Мал.), с. (Паг.), *Берозкі* с. (М. Мал.), *Берэзкі* лес (Руб.).

Прыкладна столькі ж мікратапонімаў суадносіцца з назвамі асобных дрэў хвойнай пароды, матываваных асновамі *ел-, смол-, сосн-, хвой-*: *Еловіна* ч. с. (Азд.), *Коло ёлкі* с. (Мач.), *Под ёлкою* с. (Хільч.); *Смолынь* п. (Рам.), *Смольчынка* п. (Зап.); *Колотая сосна* с. (Хільч.); *Хвойка* п. (Мач.), б. (Рам.), *Подхвоя* п. (Двар.), п. (Сяміг.).

Адзінкавыя мікратапонімы ўтвораны ад апелятываў *вяз* (*В'язок* в. і с. (В. Мал.)), *ветла* (*Вецёлка* с. (Альш.), *Под Вецёлкою* с. (Хільч.); *осіна* (*Осінка* п. (Альг.)); *осокор* 'таполя' (*Сокорэц* п. (Хільч.), *Восокорцэ* с. (Бяр.), *У осокорцох* с. (Лут.)).

Як правіла, мікратапонімы, якія матываваны назвамі асобных парод дрэў, замацаваны за ляснымі ўрочышчамі, або за аб'ектамі, дзе раней рос лес, ці захаваліся асобныя дрэвы пэўных парод.

Досыць часта ў якасці мікратапонімаў выкарыстоўваюцца назвы пладовых дрэў: *вішня, груша, яблыня.* На іх базе ўтворана

каля 30 мікратапонімаў (*Вішанькі* п. (Руб.), *Вішэнькі* ч. в. (Вер.), п. (Рыч., Хач.), *Вішне* п. (Хільч.), *Вішнёў* п. і с. (Талм.), *Вішнёўка* п. і с. (Талм.); *Вар'янова грýша* с. (Руб.), *Под грýшою* п. (Хільч.), *Грýшка* с. (Сяміг.), *Грушкі* с. (Альш., Мач., Руб.), п. (Хільч., Чэрн.), *Под Грушкі* п. (Хільч.), *Груш'é* п. (Альг.), *Грушэўшчы́на* п. (Руб.), *Грушэ́цка* с. (Паг.); *Я'блонька* ч. с. (В. Мал.), *Я'блонькі* лес (Руб.), *Яблунькі* в. (Вер.), *Я'блоньцы* п. (Кар.), *Под'яблонье* п. (Руб.)).

Спарадычна сустракаюцца мікратапонімы, ўтвораныя ад назваў ягад: *суніца* (*Суніца* лес (Руб., Хот.), *Сунічны лес* лес (Хар.)).

Шматлікую групу мікратапонімаў (звыш 100 адзінак) утвараюць агульныя назвы хмызнякоў. Амаль палову мікратапонімаў у гэтай групе складаюць назвы, матываваныя лексемамі *лозá* (дэм. *лóзка*) 'зараснікі вербалозу': *Лозá* в. (Зап.), с. (Люб.), б. і в. (Сямур.), *Бéла лозá* в. (Мач., Хот.), *Дóўга лозá* с. (Двар.), в. (Крэмн., М. Мал.), б. (Рыд.), п. (Тур.), п. і с. (Хільч.), *Подлозá* п. (В. Мал.), *Лóзы* с. (В. Мал., Паг.), *Велікіе лóзы* п. (Двар.), *Малы́е лóзы* п. (Двар.), *Гушчы́ные лóзы* лес (Руб.), *Чóрные лóзы* п. (Двар.), *Міжлóзы* п. (Хач.), *Подлóзы* в. (М. Мал.), *Лóзкі* ч. с. (Азд.), с. (Рыч.), п. (Хільч.). Асобныя мікратапонімы суадносяцца з сінанімічнымі лексемамі *лóзье* і *лоз*: *Чóрнэ лóзье* с. (Паг.), *Залóзье* с. (Альш., Сямур., Талм.), в. (В. Мал., Талм.), *Подзалóзье* в. (В. Мал.), *Лоз* к. (Мач.), *Залóз* с. (Двар., Крэмн.), п. і ч. с. (Альг.), *Подзалóз* в. (Двар.), *Зáлозі* с. (Вільч., В. Мал.), *Залóзіны* в. (Альг.), *Залóзные* с. (Зап.).

Зрэдку адзначаюцца мікратапонімы ад апелятываў *берэлóз*, *берэлóзнік* 'зараснікі вербалозу': *Берэлóз* в. (Бяр.), *Берэлóзнік* в. і к. (Азд.), к. (Лут.).

Лексічнай асновай для шэрагу мікратапонімаў паслужылі назвы альховага зарасніку (хмызняку): *олéшнікі* (*Олéшнікі* к. (Вер., М. Мал.)); *лéшчы* (*Лéшчы* п. (Вел.), *Лéшча* п. (Вер.), *Залéшчы* п. (Азд.), *Залéшчэ* п. (Кар., М. Мал., Талм.), *Залешчэньé* п. (Паг.)); *ляхові́ца* (*Ляхові́ца* с. (Сямур.), *Ляхові́ца велíка* п. (Сямур.), *Ляхові́ца малá* п. (Сямур.)); *ляш'е* (*Ляш'е* к. (Рам.), *Подляш'е* с. (Рам.)); *лéшня* (*Залéшня* лес (Вел.)).

Досыць часта паўтараецца ў складзе мікратапонімаў тэрмін *сілега* 'лаза з сіняватым налётам на чырвонай кары' [33], 'зараснік лазы': *Сілега* в. (Люб.), п. (Руб.), *Сіляга* в. (М. Мал.), с. (Альг., Альш.), ч. с. (В. Мал., М. Мал.), *Сіляга дрýга* п. (В. Мал.), *Заграцка сілега* п. (Альп.), *Под Сілягою* в. (В. Мал.), *Сілягі* с.

[33] Тураўскі слоўнік. Т. 5. С. 34.

(Бор., Вел., Вільч., Мач.), *Сілягі Ільлюка́ Невойто́ўского* с. (Бор.), *Сіляго́ўська* в. (Альш.).

Прыкладна па дзесяць мікратапонімаў утворана на базе лексем *вербá, вéрб'е, вéрбнік* 'зараснікі вярбы': *Вэ́рбы* в. (Кар.), *Вéрб'е* к. (Бяр.), *Завéрб'е* с. (Бяр.), в. і ч. с. (М. Мал.), *Завéрбоч'е* п. (Азд.), *Вéрбнік* к. (Вар.), *Вэ́рбнікі* лес (Вел.), *Варбо́ва* с. (Альп.), *Вербíнске* б. (Стар.), *Вéрбнэ* п. і с. (Азд.), лес (Руб.); *круха́, крушына, крушнíк, крушня́, крушынье* 'зараснікі крушыны': *Круха́* к. (Бор.), лес (Хот.), *Крухо́віца* с. (Альш.), *Под крушыною* с. (Мач.), *Крушнíк* п. і с. (Хільч.), *Крушня́* лес і п. (Вільч.), *Крушынье* с. (Рам.), *Крушыннэ* б. (Рам.), с. (Турск.); *орэ́ш'е, орэ́шнікі, орэхо́ўня* 'зараснікі арэшніку': *Орэ́ш'е* лес і п. (Хач.), с. (Хот.), *Орэ́шнікі* лес (Вел.), *Орэхо́ўня* к. і с. (Вер.), лес і с. (Кар.), *Зарэ́цка орэхо́ўня* к. і с. (Вер.); *рокíта* 'зараснікі ракіты': *Рокíта* в. (Бяр., Зап., Цер.), п. (Паг.), с. (В. Мал., Хільч., Хач.), ч. с. (Кар.), *Под Рокíтою* в. (В. Мал.), *Рокíтнэ* в. (Знам.). У гаворцы в. Верасніца *рокíта* вядома у сэнсе 'нізіна, парослая ракітнікам' (*Рокíта* в.), як і на Чарнігаўска-Сумскім Палессі [34].

Спарадычна адзначаюцца мікратапонімы, матываваныя тэрмінамі *калíна, калíноўка, калíноўнікі,* якія абазначаюць 'зараснікі каліны': *Калíноўка* с. (Вер.), *Калíноўнікі* п. (Хот.), *Под калíною* в. (Хач.), *Калíнова* с. (Альп.), в. (В. Мал.); *едло́вец* 'зараснікі ядлоўцу': *Едло́вец* с. (Руб.), *Едло́ўшчына* с. (Руб.).

Некалькі мікратапонімаў адлюстроўваюць у сваім складзе агульныя назвы 'зараснікаў маладога лесу': *жэ́рдзя* (*Жэ́рдзя* лес і в. (Азд.), *Зажэ́рдзе* п. (Азд.)), *мо́лодзь* (*Мо́лодзі* лес (Руб.), *Молодзíк* лес (Вільч.)), *по́росля* (*По́рослі* лес (Альп.)); 'зараснікаў маладога хмызняку': *зелёне* (*Зелёне* к. (Двар.), *Под Зелёне* п. (Крэмн.)), *кустова́ха, кусто́ўка* (*Кустова́ха* п. (Знам.), *Кусто́ўка* в. (Рыч.)).

Шэраг мікратапонімаў фіксуе назвы лясоў і хмызнякоў па якой-небудзь прыкмеце. Напрыклад, *гу́сцье, гу́шча* 'густы непраходны лес або хмызняк' (*Гу́сцье* лес (Хач.), к. (Д.-Гар.), *Подгу́сцье* лес (Азяр.), *Гу́шча* п. (Рыд.), к. (Бор.)); *мéреч* 'густы забалочаны хмызняк' (*Мéреч* к. (Альш.)); *ха́шч, ха́шча, хашча́га, чашч* 'непраходны хмызняк, нетры' (*Хашч* к. (Альш.), *Ха́шча* в. (Выс.), *Хашча́га* к. (Вер., Рам.); *Чашч* п. (В. Мал.), к. (М. Мал.), *Міха́йлоў чашч* п. (М. Мал.)); *хамза́* 'глухое зарослае месца ў лесе або хмызняку' (*Хамза́* лес (Цер.)); *хамерэ́ча* 'густы лісцевы лес' (*Хамерэ́ча* лес (Бор., Паг.)); *хмуза́* 'гушчар, хмыз' (*Хмуза́* к. (Альг.)); *чага́рнік, ча́горшчы, ча́гошчы* 'забалочаны хмызняк'

[34] Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского Полесья. С. 199.

(параўн. укр. *чагар, чагарник* 'лес паміж палянамі, пералесак'[35]) (*Чагáрнік* к. (Альг., В. Мал.), *Чáгоршчы* к. і с. (Альш.), *Чáгошчы* к. і с. (В. Мал.), *Подчáгошчы* с. (В. Мал.)). Амаль усе гэтыя лексемы ў сучасных гаворках Тураўскага Палесся страчваюць сваю апелятыўную функцыю і ўспрымаюцца як уласныя назвы.

Вялікая група мікратапонімаў утворана ад асноў назваў лясных масіваў, хмызнякоў, асобных дрэў. У пераважнай большасці яны маюць форму субстантываваных прыметнікаў: *берэ́за* (*Берэ́зова* п. і х. (Альп.), *Берэ́знэ* п. (Альг.), лес (Вел.)); *вербá* (*Варбóва* с. (Альп.), *Вербíнске* б. (Стар.), *Вéрбнэ* п. і с. (Азд.)); *дуб* (*Дýбечнэ* с. (Альш.), *Дубóва* с. (Альп., Альш., Двар., Крэмн., Рыч., Турск.), *Дубóве* с. (Альп.), *Дубóцке* с. (Альш.), *Дубóўська* п. (Вер.), с. (Чэрн.), *Дубэньскá* с. (Альш.)); *калíна* (*Калíнова* с. (Альш.), в. (В. Мал.)); *крушына* (*Крушыннэ* б. (Рам.)); *лескí* (*Лескóва* с. (Рыч.); *лозá* (*Лозовáта* с. (Цер.)); *олéшына* (*Олéшнэ* с. (Мач.), *Олéшне* п. (Хільч.), *Ляхово* с. (Альш.), *Лéшне* п. (Хільч.)); *осá* (*Оснáя* с. (Сяміг.)), *сіляга* (*Сілягóўська* в. (Альш.)). Зрэдку адзначаюцца субстантыўныя структуры (тыпу *Дубовéц* с. (Зап.), *Осовéц* лес (Кар.)) і структуры ў форме акалічнасных словазлучэнняў (*На дубеньскóм* в. і п. (Стар.), ***На дубовóй*** с. (Мач.)).

Шматлікія мікратапонімы Тураўшчыны (звыш 70 назваў) адлюстроўваюць мясцовы раслінны свет. Найбольш частотнымі тапаасновамі з'яўляюцца назвы балотных раслін, такія, як *осокá* 'зараснікі асакі': *Осакá* с. (Руб.), *Осóкі* с. (Вер., Вільч., Цер.), п. і с. (Знам.); *осóт* 'азёрны разак': *Осóтне* с. (Альш.); *плешнíк* 'аер': *Плешнíк* д-на (Сямур.), *Чудакóў плешнíк* с. (Сямур.); *рáсенец* 'раска': *Рáсенец* с. (Руб.); *рогóз* 'зараснік рагозу': *Рогозы́* с. (Тур.), *Рогозкí* с. (Двар.), *Зарогóжіч'е* б. (Стар.), *Зарогóжніцке болóто* б. (Вільч.); *рэ́бер* 'балотная расліна з вузкімі лістамі і чатырохкутнай разеткай іх унізе', 'від рагозу': *Рэбéрыха* с. (Талм.); *сíтнік* 'зараснік сітніку': *Сíтнік* с. (Лут.), *Сíтніца* лес (Руб.), б. і п. (Хот.), *Сíтна* с. (Вер.), *Засіцéнье* с. (Альш.); *хвошч* 'зараснік балотнага хвашчу': *Хвошчé* с. (Альш.), *Хвошчэ́* с. (В. Мал.), *Сімогóскіе хвошчé* с. (Альш.), *Захвошчэ́* с. (В. Мал.), *Хвошчóўка* п. (Зап., Хільч.), *Хвошчóвэ* лес (Знам., Сямур.); *кваснíк* 'вадзяны хвошч': *Кваснíк* с. (Альг.); *чэрэ́т* 'зараснік чароту': *Под чэрэ́т* с. (Руб.), *Чэрэты́* с. (Руб.), *Чэрэ́тца* с. (Альп., Хільч.), *Чэрэ́цінка* п. (Стар., Сямур.), *Чэрэ́ціна* с. (Альп.).

Зрэдку ў якасці мікратапонімаў выступаюць назвы імхоў:

---

[35] Никончук М. В. Матеріали до лексичного атласу украïнскоï мови. С. 90.

*мох* (*Мох* лес (Знам.), *Мохы* с. (Руб.), *Замох* с. (Руб.), *Замош'е* лес (Альп., Руб.), *Беломоша* лес (Альш.), *Мохучэ* х. (Вел.)); назвы лясных раслін: *вёрэс* (дэм. *верэсок*) 'зараснік верасу' (*Верэскі* п. і с. (Руб.), *Заверас'е* с. (Хар.)., *Верэсок* с. (Руб.), *Верэсоўка* п. (Паг.), *Веросянка* п. (Хот.)); *папороць* 'зараснік папараці' (*Папоротне* в. (Хільч.)); *проківа* 'зараснік крапівы' (*Прокіўніца* лес (Руб.), *Прокіўная* лес (Сямур.)); назвы лугавых раслін: *буслінец* 'бусельнік' (*Буслінец* с. (Хач.)); *мецёлка, м'яла* 'мятліца' (*Мецёлка* лес (Бяр.), *Мецёлкі* б. і с. (Рыч.), *М'ялы* с. (Азд.)); *муорог* (*Подмуорож'е* с. (Вер.)); назвы палявых раслін: *лебеда* (*Лебедюха* п. (Д.-Гар.)), *сосонка* 'хвошч палявы летні' (*Сосонка* п. (Сяміг., Хач.), *Сусонка* в. і п. (Вел.), *Сосонье* п. (Сямур.), *Надсосонье* п. (Сямур.)).

Мясцовая геаграфічная тэрміналогія — адзін з важнейшых лексічных элементаў, на базе якіх фарміруецца мікратапанімія Тураўскага Палесся. Асабліва часта ў якасці матывавальных асноў выступаюць назвы аб'ектаў воднага і нізіннага рэльефу. Сярод іх прыкметна дамінуюць назвы балот (іх у складзе мікратапонімаў каля 20). Самае агульнае значэнне перадаецца тэрмінам *болото,* які пашыраны на ўсёй даследуемай тэрыторыі. Астатнія абазначаюць балоты паводле нейкай канкрэтнай прыкметы: негатыўнай адзнакі (*баба, грузівец, грузкуша* 'грузкае балота', *кожушына* 'дрыгвяністае балота', *ніква, пака* 'мокрае балота'), разнавіднасці расліннага покрыва (*бель, белька, берэзніка* 'бярозавае балота', *олёс, чахле* 'альховае балота', *логузоў, лоўзоў* 'лазовае балота' *мох, омх, омшарына* 'махавое балота'). Мікратапонімы, матываваныя гэтымі лексемамі, пераважна замацаваны за яснымі ўрочышчамі і сенажацямі. Балотная наменклатура найбольш яскрава адлюстравалася ў мікратапаніміі паўднёвай, найбольш забалочанай частцы Тураўскага Палесся.

У мікратапаніміі паўночнай часткі (пойма Прыпяці) значна шырэй адлюстравалася наменклатура нізіннага рэльефу *(доліна, болонье, нізкодольє, нізовіна, нізор, обурок, рудня, рудзенька, топіла)*. Тут мясцовасць нізінная, але менш забалочаная, з мноствам выпасаў, сенажацяў.

Побач з тэрміналогіяй нізіннага рэльефу ў мікратапаніміі Тураўшчыны шырока адлюстраваліся гідратэрміны *(рэка, озеро, струга, струмень, езда, яцель, баюра, вірок, каверт, хоруж)*. Мікратапонімы, утвораныя на іх базе, называюць сенажаці, размешчаныя ўздоўж рэк і праточных азёр, каля прыродных паглыбленняў, напоўненых вадой.

Мікратапанімія Тураўскага Палесся змяшчае шэраг назваў

узвышшаў: *гора́, бор, бо́рок, града́, груд.* Мясцовыя жыхары шырока выкарыстоўвалі ўзвышаныя ўчасткі для земляробства, у выніку чаго ў працэсе земляробчай практыкі многія тэрміны набылі ўласнае значэнне. У прыватнасці, *гора́→Гора́, горова́ха→→Горова́ха, горы́шын→Горы́шын, бор→Бор, бо́рок→Бо́рок, бугор→Буго́р, бу́блік→Бу́блік.* Прычына такіх семантычных пераасэнсаванняў бачыцца ў блізкасці рэалій, якія абазначаюцца тапаграфічнай і земляробчай тэрміналогіяй[36]. Звычайна назвы з гэтымі асновамі замацаваны за палявымі ўчасткамі, зрэдку — за сенажацямі, што ўзніклі на месцы былога лесу ці хмызняку.

Характэрнай адзнакай даследуемай зоны Палесся з'яўляецца шырокае выкарыстанне ў якасці ўтваральных асноў мікратапонімаў назваў мясцовай флоры. Для старажытнага чалавека на самым раннім этапе яго жыцця лес меў першаступеннае гаспадарчае значэнне. Лес не толькі карміў чалавека сваімі дарамі, але і распрацоўваўся пад раллю і сенажаць. Відаць, для зямельных участкаў лепшымі папярэднікамі былі *дубро́вы, дубнякі́, берэ́знікі, боры́,* таму што іх назвы, як правіла, адлюстроўваюць гэтыя асновы. Мікратапонімы, матываваныя назвамі іншых лясных масіваў і хмызнякоў (такіх, як *алёшнікі, крушы́ннікі, ло́зы, орэ́шнікі*), амаль без выключэння называюць сенажаці.

Многія геаграфічныя тэрміны зафіксаваны толькі ў складзе мікратапонімаў, напрыклад назвы старога рэчышча (возера): *глушы́ца, дома́ха, домову́ха, забо́к.* Разам з тым усе яны засведчаны ў якасці апелятываў на сумежнай тэрыторыі. Гэта дае падставу лічыць, што названыя тэрміны былі характэрны і для тэрыторыі Тураўскага Палесся, але з цягам часу іх выцеснілі з ужытку новыя тэрміны *рэчы́шчэ, стары́к, старуха́, ста́рыца, стара́ рэка́.*

Пераважная большасць геаграфічных тэрмінаў, што ўвайшлі ў склад мікратапаніміі Тураўскага Палесся, маюць агульнабеларускае пашырэнне. Рэгіянальныя тэрміны складаюць адносна невялікі працэнт, але ў асноўным — гэта спецыфічныя выключна для Тураўскага Палесся або больш шырокай палескай зоны тэрміны тыпу *варва́рына, езда́, ка́доўб, ме́реч, мо́рэ, нізо́р, ніква, цы́пель, ча́гошчы, я́цель.*

---

[36] Выгонная Л. Ц. Земляробчая тэрміналогія. С. 36.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

### Жыткавіцкі раён

Азяр. — Азяраны
Бор. — Боркі
Бур. — Буразі
Бяр. — Бярэжцы
Вар. — Вароніна
Вер. — Верасніца

Вільч. — Вільча
Двар. — Дварэц
Зап. — Запясочча
Знам. — Знаменка
Крэмн. — Крэмнае
Люб. — Любавічы
М. Мал. — М. Малешава
Паг. — Пагост
Рыд. — Рыдча
Рыч. — Рычоў
Стар. — Старажоўцы
Сямур. — Сямурадцы
Тур. — Тураў
Хач. — Хачэнь
Хільч. — Хільчыцы
Чэрн. — Чэрнічы

**Столінскі раён**

Азд. — Аздамічы
Альг. — Альгомель
Альп.— Альпень
Альш. — Альшаны
Вел. — Велямічы
Выс. — Высокае
В. Мал. — В. Малешава
Д.-Гар. — Д.-Гарадок
Кар. — Кароцічы
Лут. — Луткі
Мач. — Мачуль
Рам. — Рамель
Руб. — Рубель
Сяміг. — Сямігосцічы
Талм. — Талмачова
Турск. — Турское
Хар. — Харомск
Хот. — Хотамель
Цер. — Цераблічы

**Аб'екты**

Б. — балота
воз. — возера
в. — выпас
г. — гара
д-на — даліна
д-га — дарога
к. — кусты
л. — луг
п. — поле
с. — сенажаць
х. — хутар
ч. г. — частка горада
ч. г. п. — частка гарадскога пасёлка
ч. с. — частка сяла

*Г. А. ІВАНОВА*

# САСТАЎНЫЯ НАЗВЫ ЯК АДЗІНКА НАМІНАЦЫІ Ў МІКРАТАПАНІМІІ МАЗЫРСКАГА ПАЛЕССЯ

Састаўныя мікратапонімы з'яўляюцца характэрнай рысай мікратапанімічнай сістэмы Мазыршчыны. Пераважная колькасць іх выступае ў форме атрыбутыўных словазлучэнняў. Такіх намінатыўных адзінак зафіксавана 1653 (найменні 1794 мікрааб'ектаў), што складае 43,27% усіх запісаных мікратапонімаў. У іншых раёнах Беларусі іх колькасць ніжэй: на Брэстчыне 17,66% [1], на Случчыне 25% [2], Стаўбцоўшчыне 12,4% [3].

Асноўны тып састаўных назваў на Мазыршчыне — гэта двухслоўныя словазлучэнні тыпу *Асінавая града, Белы бярэзнік, Лыса гара, Максімаў круг, Русакова палянка.* Зрэдку адзначаюцца трохслоўныя злучэнні: *Бальшыя Баравыя крыніцы, Вялікія грабовыя ямы, Малыя грабовыя ямы, Рыгора Лінава хата, Сэрэ Каці поле, Старый Зялёный Мох, Сэлішчэ Чірвонага Грішка.* У працэсе функцыянавання некаторыя з іх перабудаваліся ў двухкампанентныя: *Бальшыя Баравыя крыніцы$\geqslant$Баравыя крыніцы, Старый Зялёный Мох$\geqslant$Стары Мох.*

Атрыбутыўны кампанент састаўных мікратапонімаў звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі. У постпазіцыі ён ужываецца зрэдку (усяго зафіксавана дзевяць такіх назваў: *Бель Грыбоўская, Дуброва веліка, Дуброва мала, Сад Віслоўхаў, Свіннікі вялікія, Свіннікі малыя, Селішча Лісоў, Стаўкі бальшыя, Стаўкі малыя*).

У залежнасці ад граматычнай прыкметы кампанентаў выдзяляюцца наступныя тыпы назваў (мадэлей): «якасны прыметнік+назоўнік»; «адносны прыметнік+назоўнік»; «адносна-прыналежны прыметнік+назоўнік».

Па мадэлі «якасны прыметнік+назоўнік» створана 320 мікратапонімаў (назвы 403 аб'ектаў). У большасці выпадкаў атрыбуты ў іх суадносяцца з якаснымі прыметнікамі, якія характары-

---

[1] Емельянович В. М. Микротопонимия северо-западной части Брестской области // Автореф. дис. ... канд. филол. наук. М., 1982. С. 15.

[2] Адамович Е. И. Топонимия и микротопонимия Случчины // Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1956. С. 14.

[3] Прищепчик А. М. Микротопонимия Столбцовщины // Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1970. С. 11.

зуюць аб'екты па якіх-небудзь прыкметах: велічыні, працягласці аб'екта ў прасторы (з прыметнікам *вялікі: Вяліка даліна, Вялікае гала, Вялікі дуб* (усяго 44 аб'екты), з прыметнікам *доўгі: Доўга ніўка, Доўга сножаць, Доўгі Чэрцень* (каля 40 назваў), з прыметнікамі *бліжні, дальні, ніжні, сярэдні: Бліжні палетак, Дальная крыніца, Ніжняя рэчка, Сярэднія палосы*); знешняй прыкмеце аб'екта (з прыметнікамі *белы, жоўты, красны, руды, серы, сівы, чорны: Белае балота, Белае возера, Белая круча, Белы мошок, Жоўтэ болото, Красная горка, Красны бор, Рудая рэчка, Сера суножаць, Сівая груша, Чорна загроба, Чорное лядо, Чорны пень*); уласцівасцях аб'ектаў (прыметнікі *гарэлы, глыбокі, гнілы, голы, густы, грузкі, добры, жывы, кользкі, ліхі, лысы, мокры, паршывы, порожні, пусты, сухі, сыры, цёмны: Гарэла бель, Глубока даліна, Гнілая дуброва, Голы астравок, Грузке болото, Добра доля, Жыва вода, Жывая крынічка, Кользке болото, Ліхі гай, Лыса гара, Мокры лесок, Паршывэ поле, Порожнее гало, Пустэ лядо, Сухі гай, Сыры бор, Цёмны востраў*).

Шмат якія мікратапонімы разглядаемага тыпу складаюць антанімічныя пары *бальшы — малы: Бальшое Асовішча — Малое Асовішча; Бальшое Падчыр'е — Малое Падчыр'е; Бальшыя Асіннікі — Малыя Асіннікі; вялікі — малы: Вялікі Радок — Малы Радок; Вялікае Куп'ё — Малае Куп'ё; Вялікія Граначы — Малыя Граначы; бліжні — дальні: Бліжніе Вечына — Дальніе Вечына*. Прыметнікі ў гэтых выпадках паказваюць на адносныя размеры аднаго аб'екта ў адносінах да другога ці на адлегласць аб'ектаў у іх адносінах да населенага пункта, да якога яны адносяцца ці з якім суседнічаюць. Антанімічныя пары могуць складаць і мікратапонімы, у якіх адзін з атрыбутываў адсутнічае: *Вузкі Нетруд—Нетруд*.

Прыметнікі маюць як поўную, так і сцягнутую (усечаную) форму. Апошнія асабліва характэрны для паўднёвай часткі рэгіёна.

Азначаемы кампанент (назоўнік) састаўнога мікратапоніма ў межах разглядаемага тыпу звычайна выражаны апелятывам, радзей онімам.

У якасці субстантыўнага кампанента шырока выкарыстоўваецца прыродна-геаграфічная лексіка: назвы ўзвышаных месц (*гара, града, круча, остраў*): *Лысая гара, Асінавая града, Белая круча, Вусокі остраў*; назвы балот, забалочаных месц (*балота, бель*): *Бальшое балота, Чыстае балота, Веліка бель*; водных басейнаў (*возера, крыніца, вода, даліна, лужа*): *Бяздоннае возера, Глубокая крыніца, Жыва вода, Сіняя даліна, Чыстая лужа*; лясных масіваў, парод дрэў, раслін (*бор, гай, дуброва, лес, лесок, дуб, мох, мошок*): *Высокі бор, Асінавы гай, Гнілая*

*дуброва, Нізкі лес, Солодкі лесок, Красны дуб, Круглы мох, Белы мошок;* землябочая лексіка: назвы па працэсу распрацоўкі лесу пад раллю (*ляды*): *Пустэ лядо, Цёмнае лядо*; назвы з агульным значэннем 'поле' (*поле, палянка, ніва, ніўка*): *Веліке поле, Доўгая палянка, Бальшая ніва, Старая ніва, Доўга ніўка;* назвы па канфігурацыі ўчастка (*востраў, островок, полоса, рог, ражок*): *Цёмны востраў, Голы островок, Доўга полоса; Новый рог, Харошы рог.*

У ролі субстантыва ў 30 выпадках выступае ўласнае імя — другі мікратапонім: *Бальшая Вераб'ёўка, Бліжнае Краснае, Вялікае Куп'ё, Дальнае Краснае, Бальшыя Язвіна* і інш. У спалучэнні з імі ўступаюць толькі якасныя прыметнікі *бальшой, бліжні, вялікі, дальні, малы.*

Мадэль «адносны прыметнік+назоўнік» прадстаўлена 149 мікратапонімамі (назвы 178 аб'ектаў). Атрыбутыў у форме адноснага прыметніка матываваны назвамі раслін: *Альховы ражок, Арэхавы куст, Асінавая града, Бярозавыя кружкі, Дубовы востраў, Калінавыяградкі, Крушынава града, Малінава града, Омельное болото, Рабінава дарога, Ракітавы градкі;* назвамі жывёл і птушак: *Баброва ахвосце, Белічы гай, Барсукова нора, Буслава гара, Воловы остраў, Воўча бель, Гусіна гало, Заяч'я поросля, Лісіны гай, Медзвежы лесок, Цецерове болото.*

Азначаемае слова, як і ў раней разгледжанай падгрупе, звязана з прыродна-геаграфічнай і землябочай лексікай, а таксама з назвамі аб'ектаў, якія ўзніклі ў выніку дзейнасці чалавека.

Па мадэлі «адносна-прыналежны прыметнік+назоўнік» адзначана 169 мікратапонімаў (назвы 179 аб'ектаў), што складае 10,23% усіх зафіксаваных састаўных назваў. Атрыбутыўныя кампаненты гэтых назваў узыходзяць да онімаў. Запісана 77 назваў аб'ектаў (дарог, лугоў, палёў, сенажацей), азначальны кампанент якіх матываваны ўласнымі назвамі суседніх пасяленняў: *Асавецкая дарога* (в. Асавец), *Бабpоўскае поле* (в. Бабры), *Барбароўская дача* (в. Барбароў), *Васькаўскія дзесяціны* (в. Васькаўка), *Камянецкая гара* (в. Каменка), *Касцюкоўскі старык* (в. Касцюковічы), *Судзібарска канава* (в. Судзібар).

У якасці субстантыва пераважна выступаюць тыя ж групы лексікі, што і ў мікратапонімах ужо разгледжаных мадэлей. У адзінкавых выпадках наменклатурны кампанент выражаны мікратапонімам: *Асавецкая Клёваніца* (поле Клёваніца), *Шастовіцкая Клёваніца* (поле Клёваніца).

Самую значную групу складаюць мікратапонімы з атрыбутывам у форме прыналежнага прыметніка. У межах рэгіёна зафіксавана 1002, такія адзінкі (назвы 1022 мікрааб'ектаў),

што складае 60,65% ад усёй колькасці састаўных назваў, ці 22,26% усіх запісаных назваў. Атрыбутыўныя кампаненты суадносяцца з антрапонімамі і апелятывамі. Мікратапонімы з антрапанімічнай матывацыяй (іх 860) значна пераважаюць над мікратапонімамі з апелятыўнай матывацыяй. Звыш 500 з іх узыходзяць да хрысціянскіх мужчынскіх і жаночых імён у поўнай, усечанай ці дэмінутыўнай форме: *Аверкава балота, Аксёнава палянка, Антошкін хутар; Анісіна балото, Ганніное селішчэ, Дунінэ грібовішча, Еўгіна дарога, Кулініна града, Ледзінэ селішчэ, Маўрін круг, Марціна града, Марынін лес, Настуліное поле, Палажчінае селішчэ;* каталіцкіх мужчынскіх і жаночых імён: *Адолькаў круг, Вітолеў дуб, Оўцехоў язьвінец, Тодараў поцераб, Томошоў город, Хранкава даліна, Язэпава снажатка, Яцкоў круг; Зосіна сцёбка, Рузіна бель, Рункіна гара, Юзіно балото.* Атрыбутыўныя кампаненты суадносяцца з прозвішчамі, матываванымі кананічнымі імёнамі: *Абрамчуковае поле, Васілеўскі круг, Дзенісенковые полянкі, Дорожкоў хутор, Макарчукоўскіе пасекі, Ромашоў роў, Савіцкі калодзезь, Якубенкоў роў.*

Каля 140 мікратапонімаў звязаны з нецаркоўнымі асабовымі імёнамі-мянушкамі і прозвішчамі: *Абчысцін брод, Абуховічаў луг, Баранова поле, Беланоў поцераб, Бічова поляна, Варцабова даліна, Дзятлаў брадок, Кудрысаў рог, Русакова палянка.*

Прыметнікі ў саставе разгледжаных мікратапонімаў аформлены прыналежнымі суфіксамі, часцей за ўсё суфіксамі *-аў-, -оў-, -еў-* у нячленнай і членнай форме: *Аверкава балота, Еўхімава бель; Аснаковыя дубы, Еўтуховае закло.* Удвая менш назваў з прыметнікамі на *-ск-/-цк-*: у нячленнай форме: *Астапаўска ніва, Гайдамацкі алёс;* у членнай форме: *Аўрамаўскае балота, Кузьмінскіе сножаці.* Яшчэ менш мікратапонімаў з прыметнікамі на *-ін-/-ын-*: у нячленнай форме: *Анісіна балота, Копітуліна бель;* у членнай форме: *Абчысцінае поле, Володзіные кошары.*

У якасці атрыбутыва ў некалькіх выпадках зафіксаваны лічэбнікі, што ўказваюць на парадкавы нумар мікрааб'ектаў: *Втарая загроба, Втарое плёсо, Первае плёсо, Первая загроба, Первыя палосы, Першы лес, Трэцяе плёсо.*

На даследаванай тэрыторыі адзначаны дзве назвы ў выглядзе словазлучэнняў, у склад якіх уваходзяць колькасныя лічэбнікі: *Тры калодзезі, Тры шапкі.*

У якасці атрыбутыўнага кампанента іншы раз выступае займеннік: *Свае балота,* дзеепрыметнік: *Побітыя Потапы.*

Значна менш у параўнанні з назвамі ў форме атрыбутыўных

словазлучэнняў мікратапонімаў, у якіх сінтаксічная сувязь паміж кампанентамі рэалізуецца спосабам кіравання. Прыналежны кампанент такіх назваў мае форму роднага склону: *Андрэйчыка роў, Жураўскага бель, Коробана покос, Марыніча поле, Сарокіна луг, Сяргейчыка палянка, Антосевух гара, Дзенісенкавых палянкі, Ельчыкавых палянка, Іёнішыных палянка, Мархвяноўскіх роў.*

Такім чынам, састаўныя назвы ўяўляюць сабой апісальныя характарыстыкі, узнікненне якіх абумоўлена неабходнасцю пазбегнуць мікратапанімічнай аманіміі, ускладняючы адрозненне аднатыпных аб'ектаў. Гэтыя лексікалізаваныя несвабодныя словазлучэнні з'яўляюцца прыкметнай рысай мікратапаніміі Мазырскага Палесся і ў цэлым могуць быць аднесены да прадуктыўных мікратапанімічных утварэнняў. Аднак ступень прадуктыўнасці разгледжаных тыпаў састаўных назваў неаднолькавая. Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца састаўныя назвы з атрыбутывам — якасным прыметнікам. Назвы з кампанентам — прыналежным прыметнікам — на сінхронным зрэзе малапрадуктыўныя.

*Г. М. ПРЫШЧЭПЧЫК*

# АДАНТРАПАНІМІЧНЫЯ МІКРАТАПОНІМЫ

## НА МАТЭРЫЯЛЕ МІКРАТАПАНІМІІ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Мікратапонімы адантрапанімічнага паходжання паводле характару ўтваральнай асновы падзяляюцца на дзве групы: мікратапонімы, утвораныя ад асноў уласных імён праваслаўнага і каталіцкага календара і суадносных з ім прозвішчаў; мікратапонімы, утвораныя ад асноў апелятыўных імён-мянушак і суадносных з імі прозвішчаў.

Мікратапанімічны матэрыял падаецца ў выглядзе слоўніка ў наступным парадку: мікратапонім, від урочышча (скарочана), антрапонім і варыянты форм імені, ад якога ўтвораны мікратапонім [1].

**1. Мікратапонімы, утвораныя на аснове ўласных імён праваслаўнага і каталіцкага календара і суадносных з імі прозвішчаў.**

АЛЕ'ШКАВА л.; ад СМІ Алешка, Аляксей.

АЛЕ'ШКАЎКА п.; *гл.* Алешкава.

АСІ'МАЎКА п.; ад СБП Асімоўскі (Стаўб.) <Осия.

БАРТАШО'ЎШЧЫНА с.; ад УІ Бартош<Бартломей (БА, 37, 38).

БАЎТРЫМО'ЎШЧЫНА п.; ад СМІ Баўтрым+овіч<Бартломей (БА, 37).

ВАЙЦЯХО'ВА п., л.; ад польск. Wojciech<Войтех (БА, 45).

ВЕРМАКО'ЎШЧЫНА п.; ад разм. Вермаковіч (Стаўб.)<Ермаковіч<Ермолай (БА, 74).

ВІКТАРЫ'НА п., с.; ад СЖІ Віктора<Викторина.

ГАРДЗЕ'ЕЎШЧЫНА п., с.; ад УІ Гардзей<Гордий (БА, 52).

ГРЫЦКА'Я п., с., паша; ад УІ Грыц, Грыцко<Григорий (БА, 53).

ГУ'РШЧЫНА п., с.; ад СБП Гур, Гурскі (Стаўб.)<Гурий (БА, 56).

---

[1] Антрапанімічныя адпаведнікі, за выключэннем тых, якія выяўлены на даследуемай тэрыторыі і пададзены з паметай «Стаўб.» (Стаўбцоўскі раён), падаюцца па: Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1966 (БА); Ён жа. Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мн., 1969 (БА, ІІ).

ДАВЫ'ДАЎШЧЫНА п.; ад УІ Давыд (БА, 57), СБП Давыдаў<Давід (БА, 57).

ДЗЯМЯ'НАЎСКІ ПАСЁЛАК *гл.* Дзямянаўшчына.

ДЗЯМЯ'НАЎШЧЫНА частка в. Падлессе; ад УІ Дзямян< Дементиан (БА).

ДЛЯ ВАНДЭ'ЧКІ п.; ад СЖІ Ванда, *памянш.* Вандэчка.

ДЛЯ ГАЛІ'НЫ п.; ад СЖІ Галіна.

Е'СКАЎШЧЫНА п. і частка в. Цеснавая; ад УІ Еско, Есько<Иосиф (БА, 89).

ЗА АЛЕ'ШКАВЫМ п.; *гл.* Алешкава.

ЗА АЛЕ'ШКАЎКАЙ п.; *гл.* Алешкава.

ЗА АСІ'МАЎКАЙ п.; *гл.* Асімаўка.

ЗА ВАЙЦЯХО'ВА п.; *гл.* Вайцяхова.

ЗА ГАРДЗЕ'ЕЎШЧЫНУ п.; *гл.* Гардзееўшчына.

ЗА ЛЯВО'НІХАЙ л.; *гл.* Лявоніха.

ЗА МАР'ЯНО'ВА п.; *гл.* Мар'янова.

ЗА ПА'ЎЛАЎШЧЫНАЙ п.; *гл.* Паўлаўшчына.

ЗЕ'НЬКАЎШЧЫНА п., с., ад СБП Зенька, Зянько<Зенон (БА, 76).

ІВА'НАЎШЧЫНА частка в. Гнецькі; ад УІ Іван<Иоанн (БА, 85).

КАЛЯ МАР'ЯНО'ВА паша; *гл.* Мар'янова.

КАЛЯ ФЕ'НЬКІ п.; ад СБП Фенька, Фянько<Феона (БА, 167).

КАЛЯ Я'СЕЧКІ п.; ад УІ Ясь, Ясечка<Иоанн (БА, 87).

КАСТУСІ'ШЫНА п.; ад імені Кастусь назва жанчыны Кастусіха.

КО'ТРЫНА частка в. Лубень; ад УЖІ Котра<Катрына< Екатерина (БА, 69).

ЛЕВАНО'ВА с.; *гл.* Лявоніха.

ЛЯВО'НІХА п.; ад УІ Лявон<Леонт (БА, 108).

МАКАСЁЎШЧЫНА п. і частка в. Цеснавая; ад УІ Макась (Стаўб.) <Макарий.

МАР'ЯНО'ВА п. і с.; ад УІ Мар'ян, польск. Marjan<Мариан.

МАР'Я'НШЧЫНА п.; *гл.* Мар'янова.

МАТО'ЎШЧЫНА п., л.; ад СБП Мат<Матфей (БА, 118).

МАТРО'НАЎШЧЫНА п.; ад УЖІ Матрона (Стаўб.).

МАЦО'ЎСКАЕ п., л., с.; ад УІ і СБП Мац<Матфей (БА, 117).

МЕ'ЛЬКАЎШЧЫНА п., с.; ад УІ Мелька<Емельян (БА, 73).

МЕЛЯШКЕ'ЎШЧЫНА п.; ад СБП Мялешка<Емельян (БА, 73).

МІ'ЦЬКАВА с., паша; ад УІ Міцька (Стаўб.), СБП Міцько, Міцькоў<Димитрий (БА, 61).

НА МАР'ЯНО'ВА паша; *гл.* Мар'янова.

ПАД АЛЕ'ШКАЎКАЙ п.; *гл.* Алешкава.

ПАД ГАРДЗЕ'ЕЎШЧЫНУ п.; *гл.* Гардзееўшчына.

ПАД ДЗЯНІСЫ' д.; ад УІ Дзяніс<Дионисий (БА, 62).

ПАД ІГНА'СЬКУ п.; ад УІ Ігнат<Игнатий (БА, 79), *памянш.* Ігнаська.

ПАД КАНДРАЦЮКА' п.; ад СБП Кандрацюк<Кондрат (БА, 100).

ПАД СА'КАВІНАЙ п.; *гл.* Сакова.

ПАД СА'НЬКАВА п.; *гл.* Санькава.

ПАД СЫМО'НІХУ п.; *гл.* Сымоніха.

ПАЛО'НАЎКА п.; СМІ Палон<Аполлон (БА, 31).

ПАЛО'НАЎШЧЫНА б., с.; *гл.* Палонаўка.

ПАЛО'НСКІЯ ПАЛІ' б.; *гл.* Палонаўка.

ПА'ЎЛАЎШЧЫНА п., паша; ад УІ Павел (БА, 131).

ПАШКО'ЎШЧЫНА п.; ад УІ Пашко<Павел (БА, 137).

ПЕТРУКО'ЎШЧЫНА б., п.; ад УІ Пятрук<Петр (БА, 136).

ПЕ'ТРЫКАВА п.; ад УІ Петр (БА, 136)<*памянш.* Петрык.

ПЯТРО'ВІЦЫ л.; *гл.* Петрыкава.

ПЯТРУСІ'Х г.; *гл.* Петрыкава.

РАМА'НАЎШЧЫНА п.; ад УІ і СБП Раман<Роман (БА, 141).

СА'КАВІНА п.; *гл.* Сакова.

САКО'ВА с.; ад СБП Сак, Сакаў<Сакердон (БА, 143).

СА'НЬКАВА паша; ад СМІ Санька<Аляксандр.

СЕ'НЬКАВА с.; ад УІ Сенько<Симеон (БА, 149).

СТАНІКО'ЎШЧЫНА п., паша; ад УІ Станько<Станислав (БА, 155).

СЫМО'НІХА л., г., п.; ад УІ Сімон, Сымон<Симеон (БА, 149).

СЯМЁНАЎКІ п., л., с.; ад УІ Сямён<Симеон (БА, 149, 150).

ФЕЛІЦ'ЯНО'ВА п.; ад УІ Феліцыян<Фелициан.

ФРАНЦІ'ШКАВА с.; ад УІ Францішак<Франтишек (БА, 171).

ЦУПРУ'НАЎКА с.; ад УІ Цупрун<Софроний.

Ю'ХНАЎШЧЫНА с.; ад УІ Юхно<Евфимий (БА, 69).

ЯГО'РАЎШЧЫНА п.; ад СМІ Ягор<Георгий (БА, 50).

ЯКУБО'ВА п. і л.; *гл.* Яцкоўшчына.

Я'НАЎШЧЫНА п., с.; ад УІ Ян каталіц.<Иоанн.

ЯНКО'ЎСКАГА п., с.; ад СБП Янкоўскі<Иоанн (БА, 87).

ЯНКО'ЎШЧЫНА п.; *гл.* Янкоўскага.

ЯНЧЭ'ЎШЧЫНА п.; ад СБП Янчэўскі<Иоанн (БА, 87).

ЯСЬКІ' с.; ад УІ Ясь, Ясько<Иоанн (БА, 87).

ЯЦКО′ЎШЧЫНА п., паша; ад УІ Якуб, польск. Jakub (БА, 77), *памянш.* Яцэк, польск. Jacek<Иаков.

Я′ЦЫНАЎШЧЫНА п.; ад УІ Яц, Яцына (БА, 172).

**2. Мікратапонімы, утвораныя на аснове апелятыўных імён-мянушак і суадносных з імі прозвішчаў.**

АБРА′ЗАВА п.; ІМ Абраз (БА, II, 54).

АЖО′ЎШЧЫНА п.; СБП Ажоўскі (Стаўб.).

АСКІНЕЎШЧЫНА п.; СБП Аскіня, Аскін (БА, II, 65).

БАБАЎШЧЫНА п., л.; ІМ Баба.

БАКЦЁЎШЧЫНА п.; ІМ Бакця, СБП Бакцёўскі.

БА′ЛЕВІЧЫ хутары; СБП Балевіч (Стаўб.).

БАРАВІКО′ЎШЧЫНА п., б.; ІМ і СБП Баравік (БА, II, 86).

БАРСУКІ′ п.; ІМ Барсук (БА, II, 89).

БАРСУЧЫ′ХА паша; *гл.* Барсукі.

БАСМАНЫ′ с., паша; ІМ Басман.

БА′ХАВА п., л.; ІМ Бах, СБП Бахаў (БА, II, 93).

БЕРАСНЕЎКА паша; ІМ і СБП Берасень, СБП Берасневіч (БА, II, 101).

БІРУ′ЛЕВА (БІРУ′ЛЕЎШЧЫНА) п.; ІМ і СБП Біруля (БА, II, 104).

БРУІ′ШКІ п.; ІМ і СБП Бруй (Стаўб.).

БРЫХОЦКАЙ п.; СБП Брыхоцкі (Стаўб.).

БУ′БНАВА с.; ІМ Бубен, СБП Бубноў (БА, II, 115).

БУКА′ТЫ п.; ІМ і СБП Буката (БА, II, 119).

БУКАЧО′ЎКА, л.; ІМ Букач (БА, II, 119).

БУЛАШЫ′ частка в. Вічатарова; ІМ і СБП Булаш (БА, II, 120).

БУРЫ′ с.; ІМ Буры (БА, II, 125).

БУРЫ′МШЧЫНА л.; ІМ Бурым, СБП Бурымскі (Стаўб.).

БУТРЫ′ЛЫ п.; ІМ Бутрыла (Стаўб.).

БЫЛІ′НШЧЫНА п.; ІМ Быліна і СБП Былінскі (БА, II, 1929).

БЯРО′ЗАЎКА п.; ІМ Бяроза (БА, II, 133). Магчыма, паходжанне назвы звязана з апелятывам *бяроза.*

ВАЛЬЧЭ′ЎШЧЫНА п., паша; СБП Вальчэўскі (Стаўб.).

ВАНІ′ЛАЎШЧЫНА с.; ІМ Вайніла.

ВАРЛЫ′ГАЎШЧЫНА п.; ІМ Варлыга. Параўн. *варлыга* — гультай, бадзяга (Даль).

ВАРШЫ′ п.; ІМ Ворш.

ВАСАЛО′ЎСКАГА п., л.; параўн польск. wesoły — вясёлы, СБП Васалоўскі (Стаўб.).

ВАЎЧЭ′НСКАЕ п.; *гл.* Волкаўшчына.

ВО′ЙНІНА п.; СБП Война (Стаўб.).

ВО'ЛКАЎШЧЫНА п., л. ІМ Воўк, СБП Воўк і Воўкаў (БА, ІІ, 148).

ВО'ЎКАЎШЧЫНА п., л.; *гл.* Волкаўшчына.

ВЯРБІ'ЦКІХ л.; СБП Вярбіцкі (БА, ІІ, 151).

ГАЛАВАЧЫ'ХА п., паша; СБП Галавач (БА, ІІ, 156).

ГАЛУБО'ЎШЧЫНА п., с.; ІМ, СБП Голуб (БА, ІІ, 178).

ГАМЗЫ' п.; ІМ і СБП Гамза (БА, ІІ, 162).

ГАРАНЫ' частка в. Стары Свержань, дзе жылі Гаранавічы; СБП Гаранавіч (Стаўб.).

ГАРБАЧЭ'ЎШЧЫНА л.; ІМ Гарбач і СБП Гарбачэўскі (БА, ІІ, 164).

ГАРКА'ЎШЧЫНА л.; ІМ і СБП Гаркавы (БА, ІІ, 165).

ГАРКО'ЎШЧЫНА с.; СБП Гаркоўскі (Стаўб.).

ГАРМАНО'ЎШЧЫНА п.; ІМ Герман і СБП Гарманоўскі (Стаўб.).

ГАРМІ'ЗЫ п., л.; СБП Гарміза (Стаўб.).

ГАРЭ'ЛАЎШЧЫНА п.; ІМ Гарэлы і СБП Гарэлаў (БА, ІІ, 168).

ГАЦІ'СКАГА п., л.; СБП Гацiскi (Стаўб.).

ГО'ЛАЎСКА п.; ІМ Голы (БА, ІІ, 178), СБП Голаўскі.

ГО'ЛАЎСКАЕ п.; *гл.* Голаўска.

ГРЫБО'ЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Грыб (БА, ІІ, 184), Грыбоўскі (Стаўб.).

ГРЫ'ЗАЎШЧЫНА паша, л., п., б.; ІМ Грыз(а).

ГРЫМО'СКАЎШЧЫНА п.; ІМ Грымоўск(і).

ГУ'ЛЕЎШЧЫНА п., с., якія належалі селяніну па прозвішчы Гуль.

ГУЛЁЎШЧЫНА п., с.; *гл.* Гулеўшчына.

ДАБРАВО'ЛЬШЧЫНА п.; СБП Дабравóльскі (Стаўб.).

ДАЎГІ'НАВА л.; ІМ Даўгін.

ДАЎНА'РШЧЫНА частка в. Старына; СБП Даўнар (Стаўб.).

ДЗЕ'ДАВІЦЫ п., с.; ІМ Дзед.

ДЗЕ'ДАЎКА п.; *гл.* Дзедавіцы.

ДЗЕ'ДАЎШЧЫНА л.; *гл.* Дзедавіцы.

ДЗЕ'ДАЎШЧЫНЫ п.; *гл.* Дзедавіцы.

ДЗЯГІЛЁЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Дзягіль (БА, ІІ, 201).

ДЗЯРЖЫНО'ВА л., с.; ІМ Дзяржын і СБП Дзяржынскі (Стаўб.).

ДЛЯ ДАЎНА'РЫКА с.; *гл.* Даўнаршчына.

ДРАЧО'ЎКА п.; ІМ Драч і СБП Драчоў (БА, ІІ, 206).

ДРО'ЗДЗІКІ с.; *памянш.* ад СБП Дрозд — Дроздзік; *гл.* Пад Драздом.

ДУБІ′НШЧЫНА л.; ІМ Дубіна (БА, II, 209) і СБП Дубінскі (БА, II, 209).

ДУБІ′ШЧЫНА л.; *гл.* Дубіншчына.

ДУБО′ВІКАВА п.; ІМ і СБП Дубовік (БА, II, 209).

ЁЛАВА с.; ІМ Ёл(а), Ёлаў.

ЖАЎНЕ′РАЎКА п.; ІМ Жаўнер (БА, II, 217).

ЖУ′КАЎШЧЫНА п.; ІМ Жук і СБП Жук, Жукоўскі (БА, II, 220).

ЖУКО′ЎШЧЫНА п.; *гл.* Жукаўшчына.

ЖУРА′ЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Жураў (БА, II, 220).

ЗАБАРЭ′НШЧЫНА п.; СБП Забарэнскі (Стаўб.).

ЗА БЫЛІ′НШЧЫНАЙ п.; *гл.* Быліншчына.

ЗА ВО′ЎКАЎШЧЫНАЙ п.; *гл.* Волкаўшчына.

ЗА ГАРКА′ЎШЧЫНАЙ л.; *гл.* Гаркаўшчына.

ЗА ДАБРАВО′ЛЬШЧЫНАЙ п.; *гл.* Дабравольшчына.

ЗА ДЗЕ′ДАЎКАЙ п.; *гл.* Дзедавіцы.

ЗА ДУБЯНЦО′М п.; ІМ Дубянец (БА, II, 210).

ЗА ЖАЎНЕ′РАЎКАЙ п.; *гл.* Жаўнераўка.

ЗА КАЗЛО′ЎСКАГА п.; *гл.* Казлоўшчына.

ЗА КАРАЛЁВА п.; *гл.* Каралёва.

ЗА КАСЦЮКА′МІ л.; *гл.* Касцюк.

ЗА ЛІХАЧО′ЎКАМІ п.; *гл.* Ліхачоўкі.

ЗА МАЗАЛЁЎШЧЫНАЙ п.; *гл.* Мазалёўшчына.

ЗАМАЛЁЎШЧЫНА *тое ж, што і* Мазалёўшчына.

ЗАСЛА′ЎСКАГА п.; СБП Заслаўскі (Стаўб.).

ЗЛА′КАВА л.; ІМ Злак.

ЗУ′БАРАВА с.; *гл.* Зуберава.

ЗУ′БЕРАВА с.; ІМ Зубер (БА, II, 237).

І′ЗБІНА паша; СБП Ізба.

КАВАЛЁЎШЧЫНА паша, с.; ІМ і СБП Каваль (БА, II, 243), СБП Кавалёў, Кавалеўскі (БА, II, 243).

КАЖУ′ШКІ п.; ІМ і СБП Кажух, Кажушка (БА, II, 246).

КАЗА′ЦКАГА с.; *гл.* Казаччына.

КАЗА′ЧЧЫНА с.; ІМ і СБП Казак (БА, II, 246), СБП Казацкі (Стаўб.).

КАЗЛАЧЫ′ паша; ІМ Казлач.

КАЗЛО′ЎШЧЫНА п., с.; ІМ і СБП Казёл (БА, II, 247) > > СБП Казлоўскі.

КАЛО′МШЧЫНА п., паша; ІМ Калом, Каломскі.

КАЛЯ ВЫСО′ЦКАГА л.; СБП Высоцкі (БА, II, 150).

КАЛЯ ВЫСО′ЦКІХ п.; *гл.* Каля Высоцкага.

КАЛЯ ГАРКА′ЎШЧЫНЫ л.; *гл.* Гаркаўшчына.

КАЛЯ ДАЎНА′РЫКА п.; *гл.* Даўна́ршчына.

КАЛЯ ЖЫБУ'ЛІКА с.; ІМ Жыбуль (БА, II, 221), *памянш.* Жыбулік.

КАЛЯ КУЛЯШО'ВЫХ п.; ІМ і СБП Кулеш, Куляшоў (БА, II, 322).

КАЛЯ ЛАПА'ТАЎКІ с.; *гл.* Каля Лапаты.

КАЛЯ ЛАПА'ТЫ п.; ІМ Лапата (БА, II, 343).

КАЛЯ ЛАЎКЕ'ТАВЫХ п.; ІМ і СБП Лаўкет (БА, II, 346).

КАНКАЛО'ВІЧЫ частка в. Заямнае; СБП Канкаловіч (Стаўб.).

КАПІТА'НСКАЯ с.; ІМ Капітан.

КАРАЖУ'ШАЎШЧЫНА с.; ІМ Каражух.

КАРАЛЁВА п.; ІМ і СБП Кароль (БА, II, 296), СБП Каралёў (БА, II, 269).

КАРАЛЁЎШЧЫНА п.; *гл.* Каралёва.

КАРАЛІ'НА п.; *гл.* Каралёва.

КАРАЛІ'НКА хутары; *гл.* Каралёва.

КАРАНКО'ЎКА с., якая належала Каранкевічу.

КАРПАЧЫ'ХА с.; ІМ і СБП Карпач (БА, II, 270).

КАСЦЮ'К п., л.; ІМ і СБП Касцюк (Стаўб.).

КАСЦЮКІ' л.; *гл.* Касцюк.

КАСЦЮКО'ЎКА лужок; *гл.* Касцюк.

КАТО'ЎШЧЫНА п.; СБП Катоўскі (Стаўб.).

КАШАЛЁЎШЧЫНА л.; ІМ і СБП Кашэль (БА, II, 277).

КЛЕ'ТАЎШЧЫНА п.; ІМ Клета.

КО'РЧАВА с.; ІМ Корч (БА, II, 304).

КРУПЦЫ' п.; СБП Крупец (Стаўб.).

КРУ'ПШЧЫНА л., б., якія належалі памешчыку Крупскаму.

КРЫНО'САЎШЧЫНА частка в. Галавенчыцы, л., п.; ІМ Крынос, СБП Крыносаў (Стаўб.).

КРЫШАЛО'ЎШЧЫНА с.; СБП Крышалоўскі (Стаўб.).

КРЭ'ЙДАЎКА п.; *гл.* Крэйдаўшчына.

КРЭ'ЙДАЎШЧЫНА п.; ІМ Крэйда (БА, II, 316).

КРЭ'НЕЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Крэнь (БА, II, 316).

КУЛІКО'ЎКА с.; ІМ і СБП Кулік, Кулікоўскі (БА, II, 322).

КУЛІКО'ЎСКАЯ п.; *гл.* Кулікоўка.

КУНЁЎШЧЫНА п.; ІМ Куна (БА, II, 324).

ЛАБА'ЗАЎШЧЫНА б.; СБП Лабаза, Лабазаў (БА, II, 334).

ЛАПА'ТАЎКА с.; *гл.* Каля Лапаты.

ЛАПКО'ЎШЧЫНА п.; ІМ Лапа (БА, II, 342), *памянш.* Лапка, СБП Лапко (Стаўб.).

ЛІ'САЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Ліс, СБП Лісаў (БА, II, 353).

ЛІТО'ЎШЧЫНА л.; СБП Літоўскі (БА, II, 354).

ЛІХАЧО'ЎКІ п.; ІМ і СБП Ліхач, Ліхачоў (БА, II, 355).

ЛЫ'САВА п.; ІМ Лысы, СБП Лысаў (БА, II, 363).
ЛЭ'НШЧЫНА с., якая належала графу Лейскаму.
ЛЯ ДЗЕРГАЯ' п.; ІМ і СБП Дзяргай (БА, II, 202).
ЛЯ КАЗА'ЦКІХ с.; *гл.* Казаччына.
ЛЯ КРЭ'МКА с.; ІМ і СБП Крэм, Крэмка (БА, II, 316).
ЛЯ'ХАВА с.; ІМ і СБП Лях, Ляхаў (БА, II, 368).
ЛЯ'ХАВІЦА п.; *гл.* Ляхава.
ЛЯ'ХАЎШЧЫНА с.; *гл.* Ляхава.
ЛЯШЧЫ'НШЧЫНА п.; СБП Ляшчынскі (Стаўб.).
МАЗАЛЁЎШЧЫНА п. і г.; ІМ і СБП Мазоль, Мазалёў (БА, II, 371).
МАРО'ЗАЎКА п., с.; ІМ і СБП Мароз, Марозаў (БА, II, 383).
МАРХАЧО'ВА л.; СБП Мархач (Стаўб.).
МАСЛО'ЎШЧЫНА п., с.; ІМ Масла (БА, II, 384); СБП Маслоўскі (Стаўб.).
МАСЛЯКО'ЎСКІЯ п.; ІМ і СБП Масляк, Маслякоў (БА, II, 385).
МАСЛЯКО'ЎШЧЫНА п.; *гл.* Маслякоўскія.
МІЛАШЭ'ЎШЧЫНА п.; ІМ Мілош (БА, II, 394), СБП Мілашэўскі (Стаўб.).
МУ'ЛЕРАВА паша; ІМ Муляр і СБП Муляроў (БА, II, 399).
МЯДЗВЕ'ДЗЕЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Мядзведзь (БА, II, 403).
МЯСЁНКАВА частка в. Галавенчыцы; СБП Мясёнка (Стаўб.).
НА КРУ'МАНЬШЧЫНЕ с.; СБП Круманъ, Круманскі (Стаўб.).
НА КРУ'ПСКАГА паша; *гл.* Крупшчына.
НА ЛІХАЧЫ' д.; *гл.* Ліхачоўкі.
НА ШУ'БІН д.; ІМ і СБП Шуба (БА, II, 645).
О'ТМЫТ п.; СБП Отмыт (Стаўб.).
ПАД БРУ'СЕМ п.; СБП Брусь (Стаўб.).
ПАД ВАЛАСЕ'ВІЧА п.; ІМ Волас, СБП Валасевіч (БА, II, 147).
ПАД ВАНІ'ЛАЎШЧЫНУ п.; *гл.* Ванілаўшчына.
ПАД ВІДРЫ'ЦКІХ п.; СБП Выдрыцкі (БА, II, 150).
ПАД ВО'ЛКАЎШЧЫНУ п.; *гл.* Волкаўшчына.
ПАД ВЫСО'ЦКІХ п.; *гл.* Каля Высоцкага.
ПАД ГА'ЛІЦКІХ п.; СБП Галіцкі (Стаўб.).
ПАД ГАРБАЧЭ'ЎСКАГА л.; *гл.* Гарбачэўшчына.
ПАД ДЗЕ'ДАВІЦЫ п.; *гл.* Дзедавіцы.
ПАД ДЗЕ'ДАЎКУ п.; *гл.* Дзедавіцы.
ПАД ДЗЕРГАЯ' д.; *гл.* Ля Дзергая.

ПАД ДРАЗДО'М п.; СБП Дрозд.
ПАД ДУБІ'ШЧЫНУ п.; *гл.* Дубіншчына.
ПАД ЖАЎНЕ'РАЎКАЙ п.: *гл.* Жаўнераўка.
ПАД ЖУ'КАЎШЧЫНУ д.; *гл.* Жукаўшчына.
ПАД ЖЫНЕ'ВІЧА п.; СБП Жыневіч (Стаўб.).
ПАД ЖЫ'ХАРА д.; ІМ і СБП Жыхар (БА, II, 224).
ПАД КАБУНА' п. каля хутара селяніна па мянушцы Кабун.
ПАД КАЗАКО'Ў п.; ІМ і СБП Казак (БА, II, 246).
ПАД КАЗЛА' п.; ІМ і СБП Казёл (БА, II, 247).
ПАД КАЗЛОЎСКІХ с.; *гл.* Казлоўшчына.
ПАД КАЛЕ'ГІХУ п.; ІМ Калега (БА, II, 251), жан. Калегіха.
ПАД КАЛО'ДЗЕНСКАГА п.; СБП Калодзенскі (БА, II, 252).
ПАД КАМЕ'ЙШУ д.; СБП Камейша (Стаўб.).
ПАД КАРПАЧЫ'ХУ с.; *гл.* Карпачыха.
ПАД ЛІ'ПНЕМ паша; ІМ і СБП Ліпень (БА, II, 353).
ПАД ЛІТО'ЎШЧЫНУ п.; *гл.* Літоўшчына.
ПАД ЛЯ'ХАВА с.; *гл.* Ляхава.
ПАД МАЗАЛЁЎШЧЫНАЙ п.; *гл.* Мазалёўшчына.
ПАД РУСАКІ' п.; *гл.* Русакоўшчына.
ПАД САРЖА'НА п.; ІМ Саржан (Стаўб.).
ПАД СІНЯКО'ВА б.; *гл.* Сінякова.
ПАД ЧЭ'РНІКА п.; ІМ Чэрнік (БА, II, 618).
ПАД ШЫ'ХЕРА п.; СБП Шыхір (БА, II, 659).
ПАЖАРЫ'ШЧЫНА п.; ІМ Пажар і СБП Пажарскі, Пажарыцкі (БА, II, 425).
ПЕ'РЦЫ л.; ІМ і СБП Перац (Стаўб.).
ПІСКУНО'ЎШЧЫНА л.; ІМ Піскун (БА, II, 447), СБП Піскуноў (Стаўб.).
ПУГАЧО'ЎКА с.; ІМ Пугач і СБП Пугачоў (БА, II, 463).
РА'ЧАВА п.; ІМ і СБП Рач.
РУСАКО'ЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Русак (БА, II, 488).
РЫДАЛІ'НШЧЫНА с.; СБП Рыдалінскі (Стаўб.).
РЭ'ЎТАЎШЧЫНА п.; СБП Рэўт (Стаўб.).
САБАЛЕ'ЎШЧЫНА п., л., с.; ІМ Собаль і СБП Сабалеўскі (БА, II, 527).
САБІ'ЛАЎШЧЫНА п.; СБП Сабіла (БА, II, 494).
СВІ'НШЧЫНА п.; ІМ Свіня (БА, II, 505).
СЕ'РХАВА п.; ІМ Серка<Серха.
СЕ'ЧКАЎШЧЫНА п.; ІМ і СБП Сечка (БА, II, 509).
СІЛЯ'ВІНШЧЫНА п.; СБП Сялява (БА, II, 550), Сілява пры (я)>(і).
СІНЯКО'ВА б.; ІМ Сіняк і СБП Сінякоў (БА, II, 512).
СІНЯКО'ВАЯ п.; *гл.* Сінякова.

СІНЯКО′ЎШЧЫНА п.; *гл.* Сінякова.

СЛІЖО′ЎШЧЫНА п.; ІМ Сліж і СБП Сліжоў (БА, II, 522).

СМЫ′КАЎШЧЫНА с.; ІМ Смык і СБП Смыкоўскі (БА, II, 526).

СУШЧЫ′НСКАЯ с.; ІМ Сушч і СБП Сушчынскі (БА, II, 546).

ТАБАРЭ′НШЧЫНА п.; ІМ Табар (БА, II, 552)>СБП Табарэнскі.

ТАРНО′ЎШЧЫНА п.; СБП Тарноўскі (Стаўб.).

ТРУБІ′ЛАЎКА паша; ІМ Трубіла (БА, II, 563).

ТУ′МАЎШЧЫНА п.; ІМ Тума і СБП Тумоўскі (БА, II, 566).

ТУ′РАВА п.; ІМ і СБП Тур (БА, II, 567).

ТУРЫ′ п.; *гл.* Турава.

У ЛЕ′БЕДЗЕВЕ п.; ІМ Лебедзь, Лебедзеў (БА, II, 347).

ФАРФУ′РАЎШЧЫНА с.; СБП Хархурын>Фарфурын (Стаўб.).

ФАРФУ′РНІЦКІЯ с.; *гл.* Фарфураўшчына.

ХМЕ′ЛІШЧА с.; ІМ і СБП Хмель (БА, II, 585).

ЦЯЛУ′ХАЎШЧЫНА п.; ІМ Цялуха.

ЦЯРЭ′СКАЎШЧЫНА п.; *гл.* Цярэшкава.

ЦЯРЭ′ШКАВА с.; СБП Цярэшка (Стаўб.).

ЧАРНЯ′ЎШЧЫНА п.; ІМ Чарнявы і СБП Чарняўскі (БА, II, 606).

ЧУДО′ЎШЧЫНА с.; ІМ Чуда, СБП Чудаў, Чудоўскі (БА, II, 610).

ЧЭ′РНЕВА п.; СБП Чэрня (БА, II, 618).

ШАБУ′НЕВА п.; ІМ і СБП Шабуня (БА, II, 620).

ШАЛЕ′ЦКАГА п.; СБП Шалецкі (Стаўб.).

ШАМО′ЎШЧЫНА п., якое належала Шудмовічу.

ШЛА′ПАЎШЧЫНА п.; ІМ Шлапа.

ШУРКО′ЎСКАЕ п.; СБП Шурко (БА, II, 648). Магчыма, і ад прозвішча Шыркоўскі, якое сустракаецца на даследуемай тэрыторыі.

ШЭСЦЯЛЁЎЕ с.; СБП Шэсцель (Стаўб.).

ЯВАРО′ЎШЧЫНА п.; ІМ Явар, СБП Явароўскі (Стаўб.).

Адантрапанімічныя мікратапонімы складаюць толькі 12,5% ад агульнай колькасці назваў на Стаўбцоўшчыне. 83,4% адапелятыўных мікратапонімаў і 4,1% утвораны ад уласных геаграфічных назваў. Нізкі працэнт адантрапанімічных мікратапонімаў уражвае тым больш, што мікратапанімія Стаўбцоўшчыны складвалася ў асноўным у перыяд найбольшага росквіту прыватнай уласнасці на зямлю, якая захоўвалася тут значна пазней, чым на іншай тэрыторыі Беларусі, напрыклад ва ўсходніх яе раёнах.

Нашы вывады аб суадноснасці мікратапонімаў адапелятыўнага і адантрапанімічнага паходжання прыходзяць у супярэчнасць з вывадамі некаторых вядучых тапанімістаў. Ф. Міклашыч сцвярджаў, што мясцовыя назвы, утвораныя ад уласных асабовых імён, займаюць галоўнае месца па колькасці ў славянскіх і нямецкіх мовах[2]. Так меркавалі і іншыя даследчыкі: М. Ф. Сумцоў, А. М. Сяліішчаў, К. Дамрот, А. Брукнер, С. Роспанд[3]. А Ю. А. Карпенка, у прыватнасці, адзначаў: «Наогул надзейных падлікаў для славянскай мікратапаніміі пакуль не існуе, аднак ёсць падставы меркаваць, што пераважная большасць мікратапонімаў у славян утворана ад уласных імён — геаграфічных і асабовых»[4]. Іншай думкі прытрымліваліся польскі тапаніміст В. Ташыцкі[5] і чэшскі Ф. Траўнічак[6]. На іх погляд, самую багатую катэгорыю складаюць так званыя ландшафтныя назвы.

Несупадзенні ў вывадах — заканамерная з'ява, якая абумоўлена самымі рознымі прычынамі: спецыфікай матэрыялу даследуемых тэрыторый, неаднолькавасцю іх гістарычнага лёсу, устойлівасцю або няўстойлівасцю традыцый і г. д. Нарэшце, немалаважнае значэнне мае ўлік разраду тапанімічнага матэрыялу, гэта значыць, даследуецца айканімічны, гідранімічны ці мікратапанімічны матэрыял. Так, напрыклад, даследаванне беларускай айканіміі прыводзіць да іншага вываду: пераважная частка айконімаў Міншчыны ўтворана ад антрапонімаў[7]. Магчыма, што несупадзенні ў вывадах менавіта з-за таго, што пры даследаванні не ўлічваюцца асаблівасці тапанімічных узораў або разрадаў.

Асноўная маса мікратапонімаў антрапанімічнага паходжання Стаўбцоўшчыны ўтворана ад імён-мянушак і суадносных з імі прозвішчаў (7% ад агульнай колькасці адантрапанімічных назваў). У якасці лексічнай асновы для іх выкарыстаны самыя розныя агульныя назвы. Гэта назвы раслін (*бяроза, вярба,*

---

[2] Miklosich F. Die Bildung der Orstnamen aus Personennamen im Slawischen ... Heidelberg, 1927. S. 1.

[3] Сумцов Н. Ф. Малороссийская географическая номенклатура // Киевская старина. К., 1886. Т. VII; Селищев А. М. Из старой и новой топонимики // Тр. Моск. ин-та истории, философии, литературы. М., 1939. Т. V; Damroth K. Die älterne Namen Schlesions, ihre Entstehung und Bedeutung. Beuthen, 1986; Brucner A. O nazwach miejscowuch // Rozprawy Wydziału Filologicznego PAU. 1935. T. 64. N 2; Rospond S. Poludniowo-slowiańskie nazwy miejscowe z sufiksem -itj- / Phj PAU. N 25. Kraków, 1937.

[4] Карпенко Ю. А. Свойства и источники микротопонимии // Микротопонимия. М., 1967. С. 20.

[5] Taszycki W. Sląskie nazwy miejscowe. Katowice, 1935. S. 13—14.

[6] Travniček F. Mluvnice spisovné češtiny. Praha, 1948. S. 239.

[7] Лемцюгова В. П. Беларуская айканімія (рукапіс, 1969 г.).

*хмель*) і жывёлін (*барсук, воўк, выдра*); рысаў характару людзей (*васолы*); знешняга выгляду асобы (*галавач, лысы*); фізічных недахопаў (*гамза, гарбач*); прафесій (*конюх, маляр, каваль*), розных відаў вопраткі (*кажушкі, шуба*) і інш.

Уласныя асабовыя назвы, утвораныя на аснове агульных, якія ў наш час ужо не існуюць у мове, служаць крыніцай высвятлення гісторыі лексічнага складу беларускай мовы. Можна прывесці прыклады найменняў з розных сфер лексікі, якія трапілі ў мікратапанімію праз антрапонімы, і якія на сучасным этапе зусім невядомы ў мове.

3% ад агульнай колькасці адантрапанімічных назваў складаюць мікратапонімы, утвораныя на аснове ўласных імён праваслаўнага і каталіцкага календара і суадносных з імі прозвішчаў. У аснову ўтварэння такіх мікратапонімаў пакладзены пераважна мужчынскія хрысціянскія імёны. Жаночых імён у аснове мікратапонімаў зарэгістравана вельмі мала. Прычынай гэтага была бяспраўнасць жанчыны ў мінулым. Жанчына рэдка выступала ў ролі юрыдычнай асобы, бо «абмежаванае эканамічна-гаспадарчае і прававое становішча жанчыны ў грамадстве абумовіла той факт, што ў дзелавых дакументах разглядаемага перыяду ў якасці юрыдычнай асобы звычайна выступаюць асобы мужчынскага полу» [8]. У сувязі з гэтым мікратапонімы, утвораныя ад жаночых імён, маюць больш позняе паходжанне.

Значная частка антрапонімаў, якія ўтвараюць лексічную аснову мікратапонімаў, выступае ў размоўна-бытавой і эмацыянальна-ацэначнай форме: *Букач, Гарбач, Гарміза, Карпач, Касцюк, Масляк, Піскун, Трубіла* і пад. Гэта сведчыць пра народны характар мікратапонімаў, што пацвярджаецца і наяўнасцю шматлікіх мянушак тыпу *Воўк, Тур, Ліса* і пад., якія бытуюць пераважна ў народным асяроддзі, а таксама жывымі сведкамі. Так, поле *Пад Чэрніка,* па сведчанні мясцовых жыхароў, атрымала назву ад прозвішча яго былога ўладальніка Чэрніка, простага земляроба; поле *Пад Саржана* — ад мянушкі селяніна Саржан; частка в. Вічатарова *Булашы* — ад прозвішча яе жыхароў; поле *Жукоўшчына* — ад мянушкі чатырох братоў Жукі і г. д. Значна меншая колькасць мікратапонімаў звязана з прозвішчамі графаў і памешчыкаў. Гэта лес *Мархачова,* які належаў пану Мархачу; лес *Крупшчына,* які належаў памешчыку Крупскаму; сенажаць *Лэншчына,* якая належала графу Ленскаму.

У перыяд уласніцкага землекарыстання кожны, нават самы

[8] Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1966. С. 307.

мізэрны кавалачак зямлі меў сваю назву, і вельмі часта гэта назва давалася па імені ўладальніка ўрочышча. Такі спосаб называння найбольш пераканаўча перадаваў сутнасць дробнаўласніцкай гаспадаркі.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

б. — балота
в. — вёска
л. — лес
п. — поле
с. — сенажаць
ІМ — імя-мянушка
СБП — сучаснае беларускае прозвішча
СЖІ — сучаснае жаночае імя
СМІ — сучаснае мужчынскае імя
УІ — уласнае імя
УЖІ — уласнае жаночае імя

*Г. М. МЕЗЕНКА*

# ТЫПЫ УРБАНОНІМАЎ ВІЦЕБСКА

Урбананімія IX—XIV стст. беларускай тэрыторыі была састаўной часткай старажытнарускай урбананіміі, аднак разам з тым у ёй выяўляюцца некаторыя своеасаблівасці. Вывучэнне лексічных узаемасувязей рускага і беларускага народаў ва урбананімнай падсістэме дае магчымасць глыбей зразумець асаблівасці урбананіміі як кожнай мовы ў прыватнасці, так і тое агульнае, што іх аб'ядноўвае.

Урбананімія Віцебска (летапіснага Видбеска, Видебска, Витепеска, Витьбеска), названага ад р. Віцьба, на беразе якой ён узнік, па дадзеных археалагічных даследаванняў існаваўшага як паселішча крывічоў з IX ст., пакуль не даследавалася.

Больш за тысячу гадоў будаваўся горад. Стагоддзямі фарміраваліся яго вуліцы. Спачатку горад складаўся з участкаў, забудаваных жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. Сядзібы, якія цесна прылягалі адна да другой, раздзяляліся драўляным плотам. Шырыня вуліц з цяжкасцю дазваляла раз'ехацца дзвюм павозкам. Многія вуліцы мелі драўляны насціл з добра падагнаных бярвёнаў. Да канца XVIII ст. планіроўка і забудова горада нікім не рэгулявалася. Сетка вуліц была падпарадкавана прыродным умовам — рэльефу мясцовасці і контурам воднага басейна.

Спроба рэгулявання планіроўкі адносіцца да канца XVIII ст. Першы праектны план быў зацверджаны рускім урадам у 1778 г. Але з-за няправільнай распрацоўкі ён аказаўся практычна неажыццявімым. Праз 20 год быў зацверджаны новы праект, усе элементы якога былі ажыццёўлены на працягу наступных чатырох дзесяцігоддзяў.

У 1904 г. на карце горада налічвалася 350 назваў вуліц, завулкаў, плошчаў і інш. У цяперашнім Віцебску 736 вуліц працягласцю каля 320 кіламетраў. Назвы іх не вывучаны. У гэтым даследаванні робіцца спроба разгледзець структурна-граматычныя тыпы назваў геаграфічных аб'ектаў г. Віцебска, вызначыць ступень прадуктыўнасці кожнага тыпу, устанавіць іх групы па матывіроўцы.

Назвы вуліц, завулкаў, плошчаў і інш. Віцебска пабудаваны па некалькіх структурна-граматычных тыпах. Самымі распаўсюджанымі сярод іх з'яўляюцца словазлучэнні. Іх налічваецца 452 (59,8%). На падставе граматычнай характарыстыкі кампанентаў, якія ўваходзяць у іх склад, можна вылучыць некалькі падтыпаў. Асноўны з іх — падтып, які ўключае спалучэнне парадкавага лічэбніка і прыметніка ў форме Н. скл.: *1-я Полацкая вул., 2-я Полацкая вул.* І гэтак да 15-ці і г. д. Носячы аднолькавыя назвы, вуліцы, завулкі і інш. адрозніваюцца толькі нумарамі. Падобных назваў налічваецца 281 (38,1%). У 1904 г. іх было 63 (18,0%). Гэты падтып назваў, які быў шматлікім і прадуктыўным на працягу першай трэці XX ст., у наш час не з'яўляецца прадуктыўным.

Другім па колькасці адзінак (123—16,1%) з'яўляецца падтып «парадкавы лічэбнік+назоўнік (антрапонім) у форме Р. скл. адз. л.»: *вул. 1-я Куйбышава, 2-я Куйбышава* і г. д.

Дваццаццю дзвюма адзінкамі прадстаўлены трэці тып — «парадкавы лічэбнік+складаны прыметнік»: *1-я — 3-я Нова-Суражская, 1-я — 9-я Чырвонабрыгадная* і г. д.

Своеасаблівым падтыпам урбанонімаў з'яўляецца спалучэнне парадкавага лічэбніка з назоўнікам *лінія* ў форме Н. скл. Лініяй лічылася не ўся вуліца, а толькі кожны з яе бакоў. Упершыню лініі -вуліцы былі праведзены ў XVIII ст. на Васільеўскім востраве ў г. Пецярбурзе. Іх было 27. У Віцебску такія назвы з'явіліся некалькі пазней. Вядома, што ў 1904 г. у горадзе было толькі чатыры лініі, у цяперашні час іх 13 (1,7%). Як бачым, значнага распаўсюджання гэты тып назваў вуліц у Віцебску, як і ў іншых гарадах Беларусі, не атрымаў.

Яшчэ менш адзінак (9) саставілі пяты падтып — «прыметнік+назоўнік у форме Р. скл.»: *вул. Савецкай Арміі, вул. Парыжскай Камуны* і інш.

Адзінкавымі з'яўляюцца злучэнні: «састаўны парадкавы лічэбнік+назоўнік у форме Р. скл.»: *вул. 39-й Арміі;* «агульны назоўнік+уласны назоўнік у форме Р. скл.»: *вул. Камісара Крылова;* «прыметнік+назоўнік у форме Н. скл.»: *вул. Новы Быт,* якія з'явіліся ў асноўным пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Такім чынам, пераважная большасць урбанонімаў-словазлучэнняў — гэта словазлучэнні з першым кампанентам — парадкавым лічэбнікам (436 — 59,8%).

На думку М. М. Марозавай, якая даследавала назвы вуліц Масквы, вялікі працэнт састаўных назваў тлумачыцца шэрагам абставін: асаблівасцямі геаграфічнага аб'екта, які патрабуе ўказання шэрагу адзнак для вылучэння яго сярод іншых аднародных аб'ектаў; шматслоўнасцю ўтварэння, якое лягло ў асно-

ву назвы; парадкам увядзення ў эксплуатацыю будаўнічых аб'ектаў або іх размяшчэннем [1].

На наш погляд, наўрад ці варта наяўнасць такой вялікай колькасці урбанонімаў-словазлучэнняў з першым кампанентам парадкавым лічэбнікам звязваць толькі з парадкам увядзення ў эксплуатацыю будаўнічых аб'ектаў. Пяць—шэсць вуліц з аднолькавай назвай, якія адрозніваюцца толькі нумарамі,— гэта ж ужо цэлы ансамбль. Трэба мець на ўвазе і такую прывабную асаблівасць падобных назваў вуліц, як прастата і дакладнасць. Нарэшце, гісторыі Віцебска вядомы факт, калі назва вуліцы без парадкавага лічэбніка ў сваёй мадэлі замянялася назвай з парадкавым лічэбнікам. Так, вуліца, якая мела назву *Вялікая Пакроўская,* у 1923 г. атрымала назву *1-й Жарэса.*

Па сваіх матывіроўках першы тып назваў часткова супадае з другім, часткова — з трэцім.

На другім месцы па ўжыванні знаходзяцца урбанонімы-прыметнікі. Сярод іх самым распаўсюджаным з'яўляецца падтып «назвы-поўныя прыметнікі» — 138 (18,8%). У якасці урбанонімаў выкарыстоўваюцца прыметнікі, якія ўтвораны ў большасці выпадкаў ад асноў назоўнікаў пры дапамозе суфікса *-н-* і яго морфаў *-іўн-, -ільн-, -альн-: вул. Горная, вул. Індустрыяльная* і інш. У назвах вуліц суфікс *-н-* і яго морфы выяўляюць чыста урбанімічнае значэнне. Гэта можа быць назва, звязаная з месцазнаходжаннем (*вул. Усходняя, завул. Крайні),* характарам глебы (*завул.* і *вул. Пясочныя),* асаблівасцямі ландшафту (*завул. Ручайны, вул. Рачная),* прызначэннем (*завул. Сплаўны),* назвамі заводаў і фабрык (*вул. Фабрычная),* збудаваннямі (*завул. Клубны),* аб'ектамі, да якіх яны прылягаюць або раней прылягалі (*завул. Лясны).* Некаторыя назвы вуліц з суфіксам *-н-* і яго вытворнымі звязаны з прафесіяй іх жыхароў: *вул.* і *завул. Ганчарныя.*

Суфікс *-н-* і яго вытворныя ўдзельнічалі ў фарміраванні новага тыпу сімвалічных назваў, якія былі звязаны з ідэямі і рэаліямі сацыялістычнага грамадства: *вул. Рэвалюцыйная, вул. Камунальная, вул. Калектыўная.*

Нязначна адрозніваецца па прадуктыўнасці пры ўтварэнні прыметнікаў-назваў вуліц суфікс *-ск-* і яго вытворныя *-енск-, -іцк-: вул. Веліжская, вул. Сенненская, вул. Бальшавіцкая.*

Матывіроўка урбанонімаў з суфіксам *-ск-* і яго вытворнымі, якая часткова супадае з матывіроўкай урбанонімаў, аформле-

---

[1] Морозова М. Н. Словообразовательные типы названий географических объектов Москвы: По данным справочника 1964 г. «Улицы Москвы» // Микротопонимия. М., 1967. С. 76.

ных суфіксам *-н-* і яго вытворнымі, значна адрозніваецца. Гэта перш за ўсё прыметнікі-найменні па назвах населеных пунктаў. Пры гэтым частка назваў дадзена па тых гарадах і паселішчах, у напрамку да якіх яны вядуць: *вул. Маскоўская, вул. Шумілінская,*— а дзве назвы дадзены ў гонар сталіц былых саюзных рэспублік: *вул. Рыжская, вул. Кіеўская.* У гонар рэспублікі, у склад якой уваходзіць Віцебск, названа *вуліца Беларуская. Цірaспальская набярэжная* атрымала сваю назву па населеным пункце Ціраспаль, які ўвайшоў у склад горада.

Два урбанонімы атрымалі назвы па гідранімічных аб'ектах: *вул. Дзвінская, Лучоская набярэжная.*

Адрозненне матывіроўкі урбанонімаў-прыметнікаў з суфіксам *-ск-* заключаецца ў наяўнасці асобных назваў у гонар асобы: *завул. Стаханаўскі.* Паяўленне назваў ад уласных імёнаў У. А. Ніканаў звязвае з перыядам феадалізму. На яго думку, «калі кожны кавалачак зямлі стаў чыёй-небудзь уласнасцю, натуральна, што імя ўладальніка аказалася галоўнай адрознівальнай прыкметай» [2].

Разнастайная група прыметнікаў па штучна створаных аб'ектах: гэта назвы па заводах (*вул. Заводская*) і па месцах, да якіх яны прылягалі (*вул. Сельская*).

Значны слой урбанонімаў з суфіксам *-ск-* і яго вытворнымі — сімвалічныя назвы ідэалагічнага характару: *вул. Савецкая, вул. Камсамольская.*

Назвы-прыметнікі, матываваныя абрэвіятурамі, адзінкавыя: *вул.* і *завул. Мопраўскія* (ад МОПР), што, на думку даследчыкаў, тлумачыцца трыма прычынамі: па-першае, малазразумеласцю сэнсу назвы-абрэвіятуры; па-другое, тым, што назвы-абрэвіятуры не нясуць у сабе выразна выяўленай адзнакі, якая заўжды кладзецца ў аснову геаграфічных назваў, паколькі яна затушоўваецца ў сувязі з малазразумеласцю назвы; па-трэцяе, тым, што ў назвах-абрэвіятурах няма эмацыянальных адносін да аб'екта, які азначаецца [3]. Таксама адзінкавыя і назвы-прыметнікі, якія звязаны з працоўнымі людзьмі, з іх прафесіямі або з месцам, дзе яны жылі: *вул. Ямская.*

У якасці урбанонімаў ужываюцца таксама і адносныя прыметнікі з суфіксам *-ов-(-ав-).* Па матывіроўцы яны бліжэй да урбанонімаў-прыметнікаў з суфіксам *-н-,* аднак па прадуктыўнасці значна ўступаюць як названым, так і прыметнікам з суфіксам *-ск-*. Параўнайце: з суфіксам *-н-* — 45,3% у адносінах

---

[2] Никонов В. А. Введение в топонимику. М., 1965. С. 30.

[3] Лопухина С. Н. Названия улиц Большой Москвы, образованные от аббревиатур // Микротопонимия. М., 1967. С. 97.

да ўсіх назваў-поўных прыметнікаў; з суфіксам *-ск-* — 33,8%; з суфіксам *-ов-(-ав-)* — 12,2%. Галоўная асаблівасць гэтых урбанонімаў-прыметнікаў заключаецца ў тым, што па матывіроўцы яны больш або менш выразна распадаюцца на дзве групы: па-першае, гэта найменні па штучна створаных мікратапанімічных аб'ектах, сярод якіх вылучаюцца найменні па назвах заводаў і фабрык: *вул.* і *завул. Дывановыя, вул. Керамзітавая,* па былых казённых дварах: *вул.* і *завул. Парахавыя,* па старых збудаваннях: *вул. Замкавая;* па-другое, найменні па характары мясцовасці: *вул. Берагавая,* па драўнінных пасадках: *завул. Сасновы, завул. Вішнёвы.*

Назвы па месцазнаходжанні (*завул. Вуглавы*) і па населеным пункце, які ўвайшоў у склад горада, адзінкавыя: *вул. Пасялковая.*

2,7% ад усіх назваў вуліц, завулкаў, плошчаў і інш. г. Віцебска прыходзіцца на складаныя прыметнікі. Дзевяць з іх утвораны змешаным спосабам (асноваскладанне + адначасовая суфіксацыя другой часткі): *завул. Першамайскі.* Астатнія — вынік словаскладання: *вул. Нова-Трактарная, вул. Сярэдне-Набярэжная* і інш. Што датычыцца іх матывіроўкі, то тут сустракаюцца перш за ўсё сімвалічныя найменні, якія звязаны з ідэямі і рэаліямі новага грамадства (*вул. Чырвонабрыгадная*), найменні па назвах гарадоў (*Велікалуцкі тракт*), найменні, якія паўтараюць назвы суседніх вуліц. Апошняя група найменняў падзяляецца на чатыры падгрупы: а) найменні, якія падкрэсліваюць час узнікнення вуліцы: *вул. Нова-Уланаўская*[4], *завул. Стара-Астровенскі* і інш. Пры гэтым складаных назваў, у склад якіх уваходзіць марфема *нов-*, налічваецца 6, а назваў з марфемай *стар-* — толькі 2. Колькасная неадпаведнасць іх выклікана тым, што марфема *нов-*, па-першае, паўтарае назву з марфемай *стар-* у складзе (*вул. Нова-Уланаўская* паўтарае назву *Стара-Уланаўская*), а па-другое, паўтарае назвы, у складзе якіх марфемы *стар-* няма: *вул. Нова-Трактарная* паўтарае назву *Трактарная,* якая ў 1967 г. была перайменавана ў *вул. В. Харужай* (*вул. Стара-Трактарная* ніколі не існавала) і г. д.; б) найменні, якія падкрэсліваюць месцазнаходжанне: *вул. Ніжне-Набярэжная, вул. Сярэдне-Набярэжная;* в) найменні, якія падкрэсліваюць велічыню вуліцы: *вул. Мала-Набярэжная;* г) найменні, якія падкрэсліваюць значэнне мікрааб'екта, размешчанага на ёй: *вул. Успенска-Набярэжная* (па Успенскім саборы).

---

[4] Такая арфаграфія (напісанне праз злучок) яшчэ болей падкрэслівае паўторнасць назвы.

Не цяжка адзначыць, што гэтыя назвы складаюць цэлыя блокі і з мадэлямі, якія ўключаюць парадкавыя лічэбнікі, утвараюць буйныя ансамблі. Параўн.: *вул. Набярэжная, завул. Набярэжны, вул. Ніжне-Набярэжная, вул. Сярэдне-Набярэжная, вул. Мала-Набярэжная, вул. Успенска-Набярэжная, вул. Шчарбакова-Набярэжная, завул. 1-ы Набярэжны, завул. 2-і Набярэжны.*

Толькі 0,9% прыходзіцца на урбанонімы-невытворныя прыметнікі. Яны адрозніваюцца тым, што называюць вуліцу, завулак і інш. па прыкмеце, якая непасрэдна закладзена ў іх аснове. Гэта можа быць прыкмета па колеры, па часе, па велічыні, па прасторы: *вул. Зялёная, вул.* і *завул. Новыя, вул. Шырокая, завул. Высокі* і інш.

Адзінкавы ў сучасным Віцебску урбанонім-кароткі прыналежны прыметнік з суфіксам *-еў,* які ўтварыўся ад антрапанімічнай асновы: *Гапееў пас.* Гэты шматлікі ў XVIII—XIX стст. тып урбанімаў[5], які ўяўляў сабою назвы, дадзеныя па землеўладальніках і домаўладальніках, у цяперашні час страціў прадуктыўнасць у сувязі са зменамі сацыяльнай структуры грамадства.

Супастаўленне колькасці урбанонімаў-прыметнікаў у 1979 і ў 1904 г. у Віцебску сведчыць пра тое, што вага гэтай формы рэзка знізілася. Так, калі ў1904 г. поўныя прыметнікі ў назвах вуліц, завулкаў і інш. складалі 86,5%, у 1928 г.— 82,0, то ў 1979 г.— толькі 18,7%; калі кароткія прыметнікі ў 1904 г. складалі 9,1%, то ў 1979 г.— 0,1%. Як бачым, працэс гэты з цягам часу паскараецца. Аднак для розных відаў прыметнікаў ён неаднолькавы. Хутчэй за ўсіх адступіла форма з суфіксам *-ск-*, якая ў 1904 г. складала пераважную большасць назваў. У цяперашні час яна ўступіла першынство форме з суфіксам *-н-*. Амаль зусім выйшла з ужывання кароткая форма прыналежных прыметнікаў.

Паралельна з гэтым працэсам адбываўся другі працэс — буйны рост найменняў у форме Р. скл. назоўніка. Упершыню падобныя назвы вуліц узніклі ў пачатку XIX ст., але асаблівага распаўсюджання не атрымалі. Гэта былі народныя па паходжанні, са складаным саставам найменні, якія ўключалі па 2—3 і больш словы. Яны не былі яшчэ назвамі-прысвячэннямі, а служылі толькі арыенцірамі: *вул. ад Крыжа, вул. ад Білеўскага рова, Набярэжная ракі Віцьбы, завулак другой лініі, Ніколь-*

---

[5] У 1904 г. у Віцебску было 32 (з 350) найменні вуліц, якія ўтварыліся ад уласных імён з дапамогай суфіксаў *-аў, -еў, -ін: завул. Бібкін, 2-гі, 3-ці Івашэкаў, Кракелеў, Мамонаў, Табакоў, Валковічаў, Жураўлёў* і інш.

*ская ад ракі да Верхне-Пятроўскай, ад Стара-Манастырскай да пераезду.*

З цягам часу назвы-арыенціры ўступілі сваё месца назвам-прысвячэнням, якія адыгрываюць усё больш значную ролю ў найменні вуліц пачынаючы з 1917 г.[6]

Аднак трэба адзначыць, што найменні-прысвячэнні ў форме Р. скл. былі вядомыя ў Віцебску значна раней, але не ў назвах вуліц, а іншых урбананімічных аб'ектаў. Пра гэта сведчаць назвы чатырох віцебскіх касцёлаў і цэркваў: *касцёл св. Антонія, касцёл св. Варвары, царква св. Іаана, царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы.*

У паслярэвалюцыйны час па гэтай мадэлі ўтвараюцца назвы вуліц, завулкаў, плошчаў і інш. як адантрапанімічныя, так і сімвалічныя. 28 студзеня 1919 г. *Афіцэрская вул.* была перайменавана ў *вул. Урыцкага, Саборная плошча — у плошчу Свабоды.* У 1928 г. агульная колькасць вуліц у горадзе амаль не змянілася ў параўнанні з 1904 г., але найменні-прысвячэнні ў форме Р. скл. занялі больш моцныя пазіцыі: іх налічвалася ўжо 22: *вул. Леніна* (былая *Смаленская*), *вул. Калініна* (былая *Магілёўская*), *Клары Цэткін* (былая *Верхне-Пятроўская*), *Луначарскага* (былая *Верхне-Набярэжная*) і інш.

У 1979 г. з 736 назваў вуліц форму Р. скл. назоўніка маюць 129 — 17,4%. Гэты тып назваў знаходзіцца на трэцім месцы па ўжыванні пасля назваў-словазлучэнняў і назваў-прыметнікаў. Найменні, утвораныя ад назоўнікаў у Р. скл., падзяляюцца на дзве групы ў залежнасці ад формы ліку. Назваў-назоўнікаў у форме Р. скл. адз. л. налічваецца 122, а ў форме Р. скл. мн. л.— 7. Першыя з іх у сваю чаргу распадаюцца на дзве колькасна несуадносныя падгрупы: а) утвораныя ад назоўнікаў (антрапонімаў — прозвішчаў або псеўданімаў) — 115 урбанонімаў; б) утвораныя ад агульных назоўнікаў — 7. Трэба адзначыць, што ў першай падгрупе назваў-урбанонімаў, утвораных ад антрапонімаў — мужчынскіх прозвішчаў — значна больш (106 адзінак), чым назваў, утвораных ад антрапонімаў — жаночых прозвішчаў (9).

Па ўтварэнні сярод урбанонімаў, утвораных ад мужчынскіх прозвішчаў, вылучаецца 37 назваў ад прозвішчаў на *-аў-(-еў)* тыпу *вул. Кірава, вул. Тургенева;* 18 назваў ад прозвішчаў на *-скі, -оўскі, -інскі* тыпу *завул. Валадарскага, вул. Янушкоўскага, пл. Дзяржынскага* і інш.; 17 назваў ад прозвішчаў на *-ін(-ын): вул. Шубіна, вул. Мічурына;* 16 назваў ад скланяль-

---

[6] У 1904 г. назвы-прысвячэнні ў форме Р. скл. у найменнях вуліц яшчэ не сустракаліся.

ных прозвішчаў (псеўданімаў), якія канчаюцца зычнымі: *вул. Шрадэра, праезд Гогаля, вул. Я. Коласа* і інш.; 7 назваў ад нескланяльных прозвішчаў на галосны: *вул. Лазо;* 5 назваў ад складаных прозвішчаў (псеўданімаў) на *-ав: вул. Дабралюбава, вул. Ламаносава* і інш.; 4 назвы ад прозвішчаў (псеўданімаў) на *-і(-ы), -ой: завул.* і *вул. М. Горкага, вул. Будзённага, вул. Л. Талстога;* 2 назвы ад прозвішчаў на *-а*: *вул. Я. Купалы, вул. Глінкі.*

Назвы, утвораныя ад жаночых прозвішчаў, па ўтварэнні падзяляюцца на: а) утвораныя ад прозвішчаў на *-ская* (3): *наб., завул., вул. Крупскай;* б) утвораныя ад нескланяльных прозвішчаў на зычны (3): *вул.* і *завул. Р. Люксембург, вул. Е. Лось;* в) утвораныя ад прозвішчаў на *-ава-: вул. Вінаградавай;* г) утвораныя ад прозвішчаў на *-ая: вул. В. Харужай.*

Пералічаныя назвы, утвораныя ад антрапонімаў у форме Р. скл. адз. л., звязаны з імёнамі:

1) заснавальнікаў навуковага камунізму: *вул. К. Маркса, Энгельса, Леніна;*

2) кіраўнікоў міжнароднага рэвалюцыйнага руху і дзеячаў зарубежных краін: *вул. Бебеля, вул. Дзімітрава,* вул. *Жарэса, вул. Р. Люксембург;*

3) рэвалюцыянераў-дэмакратаў: *вул. Герцэна, вул. Чарнышэўскага;*

4) дзекабрыстаў: *вул. Бестужава, вул. Гарбачэўскага;*

5) рэвалюцыянераў-бальшавікоў: *вул. Баўмана, Бабушкіна, Дзяржынскага, Варэйкіса* і інш.;

6) рускіх палкаводцаў і герояў грамадзянскай вайны: *вул. Кутузава, Суворава, Чапаева, Будзённага, Катоўскага, Шчорса, пр. Фрунзе;*

7) герояў Вялікай Айчыннай вайны, яе маршалаў, палкаводцаў, Герояў Савецкага Саюза і радавых абаронцаў Радзімы: *пр. Генерала Люднікава, пр.* і *пл. Чарняхоўскага, вул. Азіна, вул.* і *завул. Заслонава, вул. Шмырова, В. Харужай, А. Гараўца, Матросава, Бумагіна* і інш.;

8) герояў, якія праславіліся ў мірны час: а) удзельнікаў трансарктычнага пералёту: *вул. Чкалава, вул. Байдукова;* б) пакарыцеляў космасу: *вул. Ю. Гагарына, Г. Цітова, Церашковай;* в) Герояў Сацыялістычнай Працы: *вул. Вінаградавай, Смятаніна;*

9) дзеячаў культуры: а) пісьменнікаў і паэтаў: *вул. Л. Талстога, Пушкіна, М. Астроўскага, Я. Коласа, завул. Я. Купалы* і інш.; б) літаратурных і музычных крытыкаў, асветнікаў: *вул. Дабралюбава, Бялінскага, Г. Скарыны;* в) мастакоў: *вул.* і

*завул. Рэпіна, вул. Сярова;* г) кампазітараў: *вул. Чайкоўскага, вул. Глінкі;*

10) дзеячаў навукі: *вул. Ламаносава, вул. Мічурына* і інш.;

11) гістарычных асоб: *вул. С. Разіна, Пугачова, Б. Хмяльніцкага.*

Пошукі матывіроўкі урбанонімаў гэтай групы часта аказваюцца вельмі складанымі. Гэта звязана з тым, што сучаснае ўспрыманне некаторых з іх у сувязі з адыходам у мінулае катэгорыі землеўладальнікаў і домаўладальнікаў зусім не адпавядае іх наяўнаму паходжанню. А. В. Суперанская ў якасці прыклада прыводзіць такія назвы вуліц Масквы, як *Суворайская вул., Петрашэўская вул.,* якія ўспрымаюцца як названыя ў гонар Суворава і петрашэўцаў, а на самай справе дадзеныя па домаўладальніках, і іншыя выпадкі [7].

Думаецца, што ў якасці крытэрыя, пры дапамозе якога ёсць магчымасць адкласіфікаваць назвы ў гонар дзеячаў ад назваў, якія некалі даваліся па домаўладальніках і землеўладальніках, можна назваць, па-першае, мадэль урбаноніма: большасць назваў, дадзеных у гонар дзеячаў, уяўляюць сабою поўны прыметнік, а назвы ў форме кароткага прыметніка ў пераважнай большасці выпадкаў дадзены па домаўладальніках і землеўладальніках, і наадварот: форма Р. скл.— часцей за ўсё паказчык назвы ў гонар дзеяча; па-другое, час з'яўлення наймення: назвы-прысвячэнні ў форме Р. скл. у гонар праслаўленых дзеячаў сталі прадуктыўнымі толькі пасля 1917 г.

Гэта складанасць у класіфікацыі прозвішчных назваў-прысвячэнняў у форме Р. скл. выклікала да жыцця мадэлі, у склад якіх, акрамя прозвішча, уваходзіць імя ў ініцыяльнай форме або званне. У Віцебску (першых з іх 20, а другіх — 3) яны пачалі з'яўляцца ў другой палове 50-х гадоў XX ст.: *вул. Ю. Гагарына, Г. Цітова, Е. Лось, Акадэміка Паўлава, Камісара Крылова, пр. Генерала Люднікава.*

Урбанонімы, якія ўтварыліся ад агульных назоўнікаў Р. скл. адз. л. — простыя найменні, 6 з якіх сімвалічныя: *вул., завул., пл. Свабоды, вул. Міру, вул. Працы* — а адно дадзена па гідроніме — *набярэжная Віцьбы.*

Што датычыцца групы назваў-назоўнікаў у форме Р. скл. мн. л., то ў ёй суадносіны назваў, утвораных ад антрапонімаў, і назваў, утвораных ад агульных назоўнікаў, адваротныя: пераважаюць назвы, утвораныя ад агульных назоўнікаў (іх налічваецца 6), і маецца толькі адзін урбанонім, які атрымаў назву

---

[7] Суперанская А. В. Наименования и переименования в городах // Изучение географических названий. М., 1966. С. 88.

ад антрапоніма — *вул. Свечкіных.* З боку структуры назвы-назоўнікі ў форме Р. скл. мн. л.— адносна малады тып найменняў: у Віцебску такія назвы пачалі з'яўляцца ў канцы 20-х гадоў (*вул. Металістаў* — 1927 г.). Узнікшыя ад назваў прафесій, сумеснай дзейнасці, яны набылі чыста сімвалічны характар: *вул. Швейнікаў, вул. Будаўнікоў, завул. Энергетыкаў, вул. Энтузіястаў, вул. Дзекабрыстаў.* З'яўленне іх выклікана экстралінгвістычнымі прычынамі, зменамі ў сацыяльна-палітычным жыцці грамадства і звязана з больш значнай роляй калектыву.

Урбанонімаў-назоўнікаў у форме Н. скл. вельмі мала. Гэта *вул. Слабодка, пас. Тара-камбінат.* Тыпы непрадуктыўныя, новых утварэнняў не даюць.

Такім чынам, ва урбананіміі Віцебска вылучаюцца наступныя структурна-граматычныя тыпы рознай ступені прадуктыўнасці:

| Тыпы і падтыпы | Прыклад назвы вуліцы | % |
|---|---|---|
| **Урбанонімы-словазлучэнні:** | | 59,8 |
| Парадк. ліч.+прым. у Н. скл. | *15-я Полацкая* | 38,1 |
| Парадк. ліч.+улас. наз. у Р. скл. адз. л. | *1-я вул. Фрунзе* | 16,1 |
| Парадк. ліч.+склад. прым. | *3-я Першамайская* | 2,5 |
| Парадк. ліч.+наз. *лінія* | *7-я лінія* | 1,7 |
| Прым.+наз. у Р. скл. | *Савецкай Арміі* | 0,5 |
| Агульны наз.+улас. наз. у Р. скл. адз. л. | *Камісара Крылова* | 0,4 |
| Саст. парадк. ліч.+наз. у Р. скл. | *26-га Чэрвеня* | 0,4 |
| Прым.+наз. у Н. скл. | *Новы Быт* | 0,1 |
| **Урбанонімы-прыметнікі:** | | 22,6 |
| Суф. прым. | *Горная* | 18,8 |
| Складаныя прым. | *Чырвонабрыгадная* | 2,7 |
| Невытворныя прым. | *Зялёная* | 0,9 |
| Кароткія прым. | *Гапееў пас.* | 0,1 |
| **Урбанонімы-назоўнікі ў Р. скл.** | | 17,4 |
| Наз. у Р. скл. адз. л. | *Бумагіна* | 16,5 |
| (у тым ліку з ініцыяламі) | *Е. Лось* | 1,3 |
| Наз. у Р. скл. мн. л. | *Швейнікаў* | 0,9 |
| **Урбанонімы-субстантываваныя прыметнікі** | *парк Мазурына* | 0,1 |

*Г. У. АРАШОНКАВА*

# ПРЫМЕТНІКІ АД МНОЖНАЛІКАВЫХ АЙКОНІМАЎ НА *-ІЧЫ(-ЫЧЫ), -ІЦЫ(-ЫЦЫ)*

Сучасная моўная практыка пастаянна сутыкаецца з цяжкасцямі пры ўтварэнні прыметнікаў ад айканімічных асноў. Часцей за ўсё прыходзіцца задумвацца пры выбары неабходнага суфікса, правільнага акцэнтнага афармлення прыметнікавай формы, паколькі амаль заўсёды мы маем справу з непажаданай варыянтнасцю, паралельнымі, сінанімічнымі формамі, якія часам нельга суаднесці з адпаведным айконімам.

Утварэнню адайканімічных прыметнікаў у беларускай мове пакуль што прысвечана толькі некалькі артыкулаў. Адзінкавыя разрозненыя прыклады і асобныя заўвагі можна знайсці ў «Граматыцы беларускай мовы» (ч. 1, 1962), «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985) і ў іншых працах, у якіх даследуецца іменнае словаўтварэнне [1].

У артыкуле зроблена спроба прааналізаваць існуючыя ў беларускай мове словаўтваральныя мадэлі ад множналікавых айконімаў на *-ічы(-ычы), -іцы(-ыцы)* і вызначыць найбольш тыповыя і правільныя з граматычнага пункту гледжання, на якія пажадана арыентавацца ў практычнай дзейнасці.

У якасці зыходнага выкарыстаны матэрыял, сабраны шляхам анкетавання з абавязковым захаваннем мясцовага вымаўлення, а таксама матэрыялы, пачэрпнутыя з прац Я. Н. Рапановіча [2], які імкнуўся звесці ўтварэнне адайканімічных прыметнікаў да пэўных мадэлей, г. зн. спрабаваў правесці работу па нармалізацыі адайканімічных прыметнікаў.

---

[1] Гарпініч У. А. Утварэнне прыметнікаў ад тапонімаў у беларускай мове // Пытанні беларускай тапанімікі: Мат-лы 1-й беларус. канф., 1—3 сн. 1965 г. Мн., 1970; Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў // Беларуская анамастыка. Мн., 1977.

[2] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977; Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Мн., 1980. Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981; Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Мн., 1982; Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мн., 1983; Ён жа. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986.

З акцэнталагічнага боку айконімы на *-ічы(-ычы)* дзеляцца на дзве групы: айконімы з націскам на аснове (*Ананічы, Ванілавічы, Ганцавічы, Губічы, Сілічы, Раванічы, Багушэвічы, Міхалевічы, Якубовічы, Славічы*) і айконімы з націскам на канчатку (*Бабічы, Думічы, Кузьмічы, Крывічы, Смалічы*).

Найбольшую распаўсюджанасць, практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі, ад айконімаў з націскам на аснове мае мадэль з суфіксам *-ск-*, у рамках якой вылучаецца дзве разнавіднасці ўтварэння:

1) суфікс *-ск* далучаецца да поўнай асновы, група *чск*, якая паяўляецца на стыку марфем, відазмяняецца ў *цк: Агарэвічы — агарэвіцкі, Азарычы — азарыцкі, Аздамічы — аздаміцкі, Алексічы — алексіцкі, Асіповічы — асіповіцкі, Бабровічы — бабровіцкі, Бацэвічы — бацэвіцкі, Будзінічы — будзініцкі, Бярозавічы — бярозавіцкі, Варонічы — вароніцкі, Вашчынічы — вашчыніцкі, Выжлавічы — выжлавіцкі, Гарбавічы — гарбавіцкі, Гулевічы — гулевіцкі, Дзедавічы—дзедавіцкі, Дашэвічы—дашэвіцкі, Дзёрнавічы — дзёрнавіцкі, Дзяніскавічы — дзяніскавіцкі, Жылічы — жыліцкі, Зіновічы — зіновіцкі, Ігнатавічы — ігнатавіцкі, Камлявічы — камлявіцкі, Карпінічы — карпініцкі, Конкавічы — конкавіцкі, Кульшычы — кульшыцкі, Ламавічы — ламавіцкі, Майсеевічы — майсеевіцкі, Манькавічы — манькавіцкі, Макарычы — макарыцкі, Маркавічы — маркавіцкі, Мікулічы — мікуліцкі, Несцеравічы — несцеравіцкі, Нягневічы — нягневіцкі, Падкраічы — падкраіцкі, Ракавічы — ракавіцкі, Равяцічы — равяціцкі, Савічы — савіцкі, Сігневічы — сігневіцкі, Сухінічы — сухініцкі, Сякерычы — сякерыцкі, Тынявічы — танявіцкі, Тумінічы — тумініцкі, Фалічы — фаліцкі, Харкавічы — харкавіцкі, Юшавічы — юшавіцкі, Ялуцавічы — ялуцавіцкі, Яруцічы — яруціцкі, Ярэмічы — ярэміцкі* і інш.;

2) суфікс *-ск-* далучаецца да часткі асновы (без тапафарманта *-ічы*): *Асмолавічы — асмолаўскі* (Мсціслаўскі р-н), *Балобанавічы — балобанаўскі, Кунцавічы — кунцаўскі* (Баранавіцкі р-н), *Вайнілавічы—вайнілаўскі, Курылавічы—курылаўскі, Ланцавічы — ланцаўскі, Міцькавічы — міцькаўскі* (Мастоўскі р-н), *Валосавічы — валосаўскі* (Акцябрскі р-н), *Ванілавічы — ванілаўскі, Еськавічы — еськаўскі, Селавічы — селаўскі* (Нясвіжскі р-н), *Глухавічы — глухаўскі* (Брагінскі р-н), *Данілавічы — данілаўскі, Шыткавічы — шыткаўскі* (Дзяржынскі р-н), *Дзёткавічы — дзёткаўскі, Татарнавічы — татарнаўскі* (Драгічынскі р-н), *Дружылавічы — дружылаўскі, Панцавічы — панцаўскі, Тышкавічы — тышкаўскі* (Іванаўскі р-н), *Зенькавічы — зенькаўскі* (Уздзенскі р-н), *Клімавічы — клімаўскі* (Клімавіцкі р-н), *Леўкавічы — леўкаўскі, Мышкавічы — мышкаўскі*

(Кіраўскі р-н), *Марóзавічы — марóзаўскі* (Буда-Кашалёўскі р-н), *Нарýтавічы — нарýтаўскі* (Бярозаўскі р-н), *Пáставічы — пáстаўскі* (Старадарожскі р-н), *Тýльгавічы — тýльгаўскі* (Хойніцкі р-н).

Адзначана некалькі выпадкаў, калі ад аднаго і таго ж айконіма ўтвараюцца дублетныя прыметнікавыя формы, напрыклад: *Гінцавічы — гінцаўскі* і *гінцавіцкі* (Баранавіцкі р-н), *Глядáвічы — глядáўскі* і *глядáвіцкі* (Старадарожскі р-н), *Дзятлавічы — дзятлаўскі* і *дзятлавіцкі* (Лунінецкі р-н), *Мáркавічы — мáркаўскі* і *мáркавіцкі* (Гомельскі р-н), *Мядзéневічы — мядзéнеўскі* і *мядзéневіцкі* (Баранавіцкі р-н), *Пятрáвічы — пятрáўскі* і *пятрáвіцкі* (Кармянскі р-н), *Сéнькавічы — сéнькаўскі* і *сéнькавіцкі* (Івацэвіцкі р-н).

Як паказвае матэрыял, па другой разнавіднасці ўтвораны прыметнікі ад айконімаў, у якіх фарманту *-ічы(-ычы)* папярэднічае суфікс *-ав-*, а націск прыходзіцца на каранёвую частку айканімічнай асновы.

Сустрэлася некалькі прыметнікаў, утвораных ад айканімічнай асновы, якая не мае суфікса *-ав-*, шляхам адпадзення фарманта *-ічы (-ычы)* і далучэння суфікса *-ск-*: *Пакалю́бічы — пакалю́бскі, Цярэ́нічы — цярэ́нскі* (Гомельскі р-н).

У прыметніках, утвораных ад айконімаў на *-ічы(-ычы)*, захоўваецца звычайна націск утвараючай асновы, напрыклад: *Нóркавічы — нóркавіцкі, Стáнкавічы — стáнкавіцкі, Чáнавічы — чáнавіцкі, Кýльшычы — кýльшыцкі, Мікýлічы — мікýліцкі, Сякéрычы — сякéрыцкі, Качанóвічы — качанóвіцкі, Пачаéвічы — пачаéвіцкі, Грынявічы — грынявіцкі, Крывічы — крывіцкі, Ракавічы — ракавіцкі, Цераблічы — цераблíцкі* і г. д.

Калі ў айконімах націск прыходзіцца на апошні галосны фарманта *-ічы́*, на практыцы прыметнікі ўтвараюцца шляхам далучэння да поўнай айканімічнай асновы суфікса *-ск-* або суфікса *-оўск-*:

1) суфікс *-ск-* далучаецца да асновы на *-ічы*. Націск пераходзіць на галосны *і* фарманта *-ічы: Крывічы́ — крывíцкі* (Зэльвенскі, Мядзельскі, Салігорскі р-ны), *Кузьмічы́ — кузьмíцкі* (Ваўкавыскі, Гродзенскі, Іўеўскі, Вілейскі, Любанскі, Мядзельскі р-ны), *Насавічы́ — насавíцкі* (Воранаўскі р-н), *Канаплічы́ — канаплíцкі* (Валожынскі р-н);

2) суфікс *-оўск-* далучаецца да асновы. Націск пераходзіць на галосны *о* суфікса *-оўск: Бабічы́ — бабічóўскі* (Астравецкі, Клецкі р-ны), *Баўцічы́ — баўцічóўскі* (Карэліцкі р-н), *Галавічы́ — галавічóўскі* (Горацкі р-н), *Гумнічы́ — гумнічóўскі, Касічы́ — касічóўскі* (Вілейскі р-н), *Дунічы́ — дунічóўскі* (Іўеўскі р-н), *Ільічы́ — ільічóўскі* (Брагінскі р-н), *Савічы́ — савічóўскі*

(Валожынскі р-н), *Смалічы́ — смалічо́ўскі* (Капыльскі, Клецкі, Нясвіжскі р-ны), *Хамічы́ — хамічо́ўскі* (Міёрскі, Калінкавіцкі, Валожынскі, Дзяржынскі р-ны).

Ад айконімаў на *-іцы(-ыцы)* прыметнікі ўтвараюцца шляхам далучэння суфікса *-ск-* да поўнай асновы. Група зычных *цск* на стыку марфем відазмяняецца ў *цк*, націск захоўваецца на тым жа складзе, што і ў айконіме: *Васільчыцы — васільчыцкі, Гало́ўчыцы — гало́ўчыцкі, Гічыцы — гічыцкі, Даўжаніцы — даўжаніцкі, Кня́жыцы — кня́жыцкі, Маладзе́льчыцы — маладзе́льчыцкі, Пле́шчыцы — пле́шчыцкі, Ракашы́цы — ракашы́цкі, Сульжы́цы — сульжы́цкі, Сухо́ўчыцы — сухо́ўчыцкі, Ша́пчыцы — ша́пчыцкі, Язаві́цы —язаві́цкі, Я'нчыцы — я́нчыцкі.*

Прааналізаваны матэрыял сведчыць пра тое, што дамінуючым суфіксам пры ўтварэнні прыметнікаў ад айконімаў на *-ічы(-ычы), -іцы(-ыцы)* з'яўляецца просты суфікс *-ск-*. Такой жа думкі прытрымліваецца У. А. Гарпініч[3], а таксама Я. Н. Рапановіч, якія ў сваіх слоўніках да айконімаў на *-ічы(-ычы), -іцы(-ыцы)* падае прыметнікі з суфіксам *-ск-*, за выключэннем прыметнікаў ад айконімаў на *-ічы́*.

Што датычыцца прыметнікавых форм з суфіксам *-аўск-* тыпу *міцькаўскі* (ад *Міцькавічы*), *ту́льгаўскі* (ад *Ту́льгавічы*) і пад., адзначым, што яны з'яўляюцца мясцовымі і, відаць, утварыліся пад уплывам назоўнікаў, якія абазначаюць асобу па месцы яе жыхарства, напрыклад: *Ма́ркавічы — ма́ркаўцы — ма́ркаўскі, Шы́ткавічы — шы́ткаўцы — шы́ткаўскі, Карцэ́вічы — карцо́ўцы — карцо́ўскі* і г. д.

Утварэнне прыметнікаў па гэтай мадэлі з'яўляецца парушэннем нормы. Правільнымі трэба лічыць формы *шы́ткавіцкі, карцэ́віцкі, ванілавіцкі.*

Адносна ўтварэння прыметнікаў ад айконімаў на *-ічы́* можна выказаць меркаванне, што такія прыметнікі, як *крывіцкі, смаліцкі, кузьміцкі,* з'яўляюцца традыцыйнымі і суадносяцца з прозвішчамі *Крывіцкі, Смаліцкі, Кузьміцкі,* якія ўтварыліся або на базе айконімаў *Крывічы́, Смалічы́, Кузьмічы́,* або на базе імён (напр. ад *Кузьма*), або на базе апелятываў (напр. ад *крывы*).

Але ў прыметніках *крывіцкі, кузьміцкі, канапліцкі, насавіцкі, смаліцкі* ад *Крывічы́, Кузьмічы́, Канапл ічы́, Насавічы́, Смалічы́,* якія даў Я. Н. Рапановіч, зыходная аснова айконімаў зацямняецца. Параўн. *крывіцкі←Крывічы* і *крывіцкі←Крывічы́, смаліцкі←Смаліца* і *смаліцкі←Смалічы́.* Таму больш мэтазгод-

---

[3] Гарпініч У. А. Утварэнне прыметнікаў ад тапонімаў у беларускай мове. С. 84.

ным было б утвараць прыметнікі ад айконімаў на *-ічы* пры дапамозе складанага суфікса *-оўск-: Галавічы — галавічоўскі, Савічы — савічоўскі, Крывічы — крывічоўскі, Кузьмічы — кузьмічоўскі, Смалічы — смалічоўскі, Насавічы — насавічоўскі, Канаплічы — канаплічоўскі* і г. д.

Ва ўтвораных па такой мадэлі прыметніках, па-першае, не зацямняецца зыходная аснова айконіма, і, па-другое, невялікая па колькасці група айконімаў на *-ічы* далучаецца па акцэнталагічнай прыкмеце і множналікавай форме да значнага па колькасці класа множналікавых айконімаў апелятыўнага паходжання з націскам на канчатку тыпу *Бабры, Бараны, Дразды, Жукі, Салаўі, Кавалі, Камякі, Каўтуны, Лагуны, Мігуны, Навікі, Пекары, Плавы, Сліжы, Хвасты, Шаптуны* і г. д., ад якіх прыметнікі ўтвараюцца далучэннем да асновы айконіма суфікса *-оўск-: баброўскі, бараноўскі, драздоўскі, жукоўскі, салаўёўскі, кавалёўскі, камякоўскі, каўтуноўскі, лагуноўскі, мігуноўскі, навікоўскі, пекароўскі, плавоўскі, шаптуноўскі* і г. д.

## ПЫТАННІ ТАПАНІМІЧНАЙ ПРАКТЫКІ

*І. Я. ЯШКІН*

# АБ НАПІСАННІ НАЗВАЎ АЗЁР І БАЛОТ БЕЛАРУСІ

На тэрыторыі БССР налічваецца каля 10 800 азёр і зарэгістравана 6925 балот[1]. Вядома, што ў сувязі з меліярацыяй гэтых прыродных аб'ектаў стала значна менш. Інтэнсіўнае гаспадарчае і культурнае будаўніцтва на Беларусі шырэй уводзіць у моўны зварот насельніцтва назвы азёр і балот. У сувязі з гэтым паўстае пытанне пра іх правільнае напісанне. Знікненне аб'ектаў ці набыццё некаторымі з іх іншай народнагаспадарчай функцыі патрабуюць сталых сістэматызаваных даведнікаў па назвах азёр, балот, рэк[2], як і населеных пунктаў[3]. Да гэтага трэба дадаць, што ў наяўных даведніках, спісах і г. д. ведамаснага прызначэння, а таксама на картах існуе неаднастайнасць, варыянтнасць. Да таго ж на працягу гісторыі напісанне назваў балот і азёр было падпарадкавана правапісу старабеларускай мовы, а таксама правапісам польскай, рускай, нямецкай, англійскай, французскай і лацінскай моў. Пра гэта сведчаць матэрыялы гістарычных актаў, а таксама шматлікія карты і атласы, якія захоўваюцца у аддзеле картаграфіі публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбурзе. Шмат такіх матэрыялаў захоўваецца і ў Польшчы[4].

Ва ўсіх матэрыялах назвы азёраў і балот, рэк і паселішчаў звычайна перадаваліся ў мове пераемніка блізка да мясцовага вымаўлення: *młyn na Pisczani* (1681 г.) — воз. *Пяшчань* (сучаснае дыялектнае *Пішча́нь*). Такое ж напісанне назвы правага прытоку р. Сож знаходзім і ў «Аповесці мінулых гадоў» (984) *Пищань* (там жа і варыянт: *Песщань*). Параўн. іншыя напісан-

[1] БелСЭ. Мн., 1969. Т. 1. С. 199; Мн., 1970. Т. 2. С. 10.

[2] Параўн.: Словнік гідронімів Україні. Київ, 1979. 780 с.

[3] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977. 504 с.

[4] Bucsek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVIII wieku. Ossolineum, 1963; Ён жа. The history of Polish cartography from the 15th to the 18th century. Ossolineum, 1966.

ні ў Прыдняпроўі: *Proniq* (1681 г.) — р. *Проня, Rygalina* (1777 г.) — р. *Рагáліна, Риста* (1851 г.) — р. *Растá, Mohilow ou Muhilew* (1655 г., 1831 г.) — *Магілёў, Rohaczow ou Rogatchew* (1665 г., 1831 г.) — *Рагачоў*.

Адзначаецца ў старых матэрыялах і варыянтнасць, асаблівасці, якія цяпер не фіксуюцца, напрыклад: *Угорокь* (1792 г.) — сучасная в. *Узгóрск, Uloski* (1773 г.) — в. *Улýкі, Doskow* (1770 г.) — в. *Доўск, Ustanne* (1681 г.) — в. *Устáннае*.

Жыццёвая практыка настойліва патрабуе упарадкаванага напісання назваў азёр, балот і інш. адпаведна правілам беларускай літаратурнай мовы, дзеля таго, каб у «рамках нацыянальнага алфавіта максімальна наблізіць іх» [5] да мясцовага гучання. Мясцовая ці этымалагічна адноўленая форма з'яўляецца самай правільнай назвай на грунце нацыянальнай транслітэрацыі [6], што пацвярджаецца і міжнароднай практыкай. Гэту думку горача падтрымліваў вядомы географ і тапаніміст В. А. Жучкевіч [7].

На наш погляд, пры падыходзе да правільнага напісання назваў азёр і балот неабходна ўлічваць наступныя моманты:

1. Кожная назва павінна мець націск (апрача аднаскладовых), які ўдакладняецца на месцы. Адзначаюцца ўсе варыянты і ў якасці афіцыйнага прапануецца самы пашыраны цяпер або традыцыйны, які адпавядае правілам беларускай літаратурнай мовы. Аднак назва павінна арганічна ўваходзіць у сістэму апелятываў, утвораных ад мясцовых тэрмінаў тыпу *возера, балота, чарцёж, алёс*. На аснове вымаўлення такой агульнавядомай лексікі частка назваў можа быць лёгка транслітэравана на беларускую мову, напрыклад: *Волчье Болото — Вóўчае Балóта, Ливье — Ліўе, Купье — Кýп'е, Обида — Абíда*. Зусім не цяжка будзе перадаць беларускімі графемамі і назвы тыпу *Астяроб — Асцяроб, Лясивец — Лясівец, Рабиновка — Рабінаўка, Храпка — Хрáпка*, якія трапляюцца ў розных ведамасных даведніках.

Частка ж назваў можа мець некалькі варыянтаў, што запатрабуе абавязковага ўдакладнення на месцы, напрыклад: *Зеленец* — ад *зелянéц, зялéнец* або *зéленец*?; аналагічна і *Березуха, Коробцы, Ломаш, Чаротовое* і г. д.

2. На аснове апелятываў, мясцовых геаграфічных тэрмінаў, ведання структуры мікратапонімаў можна прапанаваць больш правільнае напісанне назваў азёр і балот, чым тое, што заната-

[5] Мурзаев Э. М. Топонимика — популярная. М., 1973. С. 61.

[6] Подольская Н. В. Словарь русской ономастической терминологии. М., 1978. С. 152.

[7] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 7.

вана ў існуючых ведамасных даведніках. Напрыклад: *Лязасек — Ля Засе́к, Каля-Нівок за Током — Каля́ Нівак за То́кам, Бабин-Шмат — Ба́бін Шма́т, Роиста — Ройст, Подкняжский Мох — Пад Кня́жацкі Мо́х, Острова-Дулебы — Астравы́ Дуле́бы, Вельке Луг-Окнище — Вялікі Лу́г-Во́кнішча, Подревучее-Мошки — Пад Раву́чыя Машкі, Лесной-Лужень — Лясны́ Лужэ́нь, Падзигуменщина — Пад Загуме́ншчына, Подлипай — Пад Ліпай.* Трэба адзначыць, што неабходна і гэтыя назвы праверыць на месцы наконт націску і злітнага напісання.

3. Рэгулярныя асаблівасці пэўных дыялектных зон на тэрыторыі Беларусі, якія трапілі ў найменні сучасных ведамасных даведнікаў, трэба замяніць літаратурнымі адпаведнікамі. Так, напісанні з *у* ў суседстве з губнымі трэба замяніць на *ы* тыпу *Вудзержка* — *Вы́дзержка,* на *о* — *Вулька* — *Во́лька,* на *е* — *Завіднювка* — *Завіднеўка,* на *а* — *Иванувка* — *Іва́наўка.* Напісанні з *і* ў закрытых складах — на *е*, напрыклад: *Дзидково* — *Дзе́дкава, Князивки* — *Кня́зеўкі, Жданивка* — *Жда́неўка.* Вымаўленне гука *і* блізкага да гука *ы*(*і*[ы]) перадаецца ў літаратурнай форме праз *і*, менавіта: *Ковбык* — *Ко́ўбік, Лозытя* — *Лазіца, Кунахы* — *Кунахі.* Адсутнасць падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы ў мясцовых гаворках неабходна перадаваць у літаратурнай транслітэрацыі праз падоўжанае напісанне, напрыклад: *Замоше* — *Замо́шша, Заполье* — *Запо́лле.* Аглушэнне зычных у канцы слова і ў пазіцыі пасля галоснай перад зычнай не характэрна для пісьмовай літаратурнай мовы, тут пішуцца звонкія тыпу *Староду́п* — *Старад́уб, Мисканавье* — *Міжкана́ўе, Лашки* — *Лажкі, Луп-Камочышча* — *Луб-Камо́чышча.* Напісанні, якія ўзніклі фанетычна, не павінны таксама адлюстроўвацца на пісьме, напрыклад: *Аллёс* (як галлё) — *Алёс, Поликлинника* (як асіннік) — *Паліклініка.*

Таксама лёгка транслітэруюцца адпрыметнікавыя назвы формы Pluralia tantum з фармантам *-е* на месцы *-і, -ы.* Гэта традыцыйная асаблівасць адлюстравана ў ведамасных даведніках. Часам такія формы прыводзяцца як варыянты на картах і ў даведніках. Напрыклад: *Боброве* — *Бабро́вае, Березовске* — *Бяро́заўскае, Борове* — *Баравое, Бородениче* — *Баро́дзінічы, Бяла* — *Бе́лае, Бялоглове* — *Белагало́вае, Вельке* — *Вялікае, Видзске* — *Відзскае, Гале* — *Га́лі, Границе* — *Гра́нічы, Задолче* — *Задо́лчы, Заруде* — *Зару́ды, Имшице* — *Імшыцы, Лихомоче* — *Ліхамо́чы, Минкевиче* — *Мінке́вічы, Оболе* — *Або́лі, Озерайце* — *Азяра́йцы, Поддубича* — *Падду́бічы, Подомше* — *Падо́мшы, Падхвое* — *Падхво́і, Росане* — *Раса́ны, Руховиче* — *Ру́хавічы, Смердзячэ* — *Сме́рдзячы, Смоличе* — *Смо́лічы, Станьковиче* — *Станько́вічы, Стеблевиче* — *Сцябле́вічы* (?), *Ходыниче* —*Хады́-*

*нічы*. Да гэтай зоны адносяцца і назвы з суфіксам *-іча: Семеховича — Семяхо́вічы*.

4. Неабходна ўдакладніць на месцы ка́лькі тыпу *Пруд Девичий* ці *Са́жалка Пане́нская (Дзяво́чая); Среднее* і *Сярэ́дняе, Тёмная Насыпь* ці *Цёмны На́сып, Женское* ці *Жаночае* або *Ба́бскае, Блядо, Блядко* і г. д.

5. Пераважна ў заходняй частцы Беларусі шмат назваў балот і азёр, якія былі афіцыйна аформлены паводле польскага правапісу з фармантам *-щызна*. У апелятыўнай лексіцы на гэтай тэрыторыі ўжываецца суфікс *-шчына*. Апрача таго, як сведчаць даследчыкі, суфікс *-шчына* зафіксаваны ў беларускай тапаніміі толькі ў пачатку XIX ст. [8] У XVII—XVIII стст. суфіксы *-шчына* і *-шчызна* ўжываліся паралельна. Цяпер гэты суфікс пашыраны ў заходніх і паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі. Фармант *-шчызна* з'яўляецца варыянтам *-шчына* і «абавязаны польскаму ўплыву» [9]. «Ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх раёнах паслядоўна ўжываецца суфікс *-шчына*» [10]. Адсюль вынікае, што адзіна правільным напісаннем трэба лічыць напісанне з суфіксам *-шчына* тыпу *Драбовщизна — Драбайшчы́на, Закревщизна — Закрэ́йшчына, Крулевщизна — Круляўшчы́на, Прусовщизна — Прусайшчы́на, Сорковщизна — Саркайшчы́на, Хмелевщизна — Хме́лейшчына, Хмеляўшчы́на* ці *Хмелейшчына́* (?).

6. Варыянты, сінонімы назваў азёр і балот, якія прыводзяцца ў ведамасных даведніках, павінны быць пададзены пасля афіцыйнай назвы ў дужках, з націскам і беларускімі графемамі. Напрыклад: *Драссы (Дрисса) — Драсы (Дрыса), Ситнянское (Ситницкое, Ситно) — Сітнянскае (Сітніцкае, Сітно), Большое Ореховое (Орехи) — Вялікае Арэ́хавае (Арэ́хі)*. Дапушчальна, відаць, афіцыйным рабіць і другі варыянт, калі ён лаканічны, мілагучны і адпавядае традыцыям і сістэме беларускай літаратурнай мовы.

Зыходзячы з мясцовай традыцыі і ўлічваючы правапісную сістэму беларускай літаратурнай мовы, варта было б даваць зразумелы варыянт ці кальку ў якасці асноўнай назвы, а вядомы незразумелы варыянт ці кальку падаваць як другасныя, напрыклад: замест *Антозеро — Качы́нае во́зера (Антозеро)*, замест *Думбля — Бало́та (Думбля)*, замест польскай калькі *Уро́да — Прыгажо́сць*, замест *Самаровка — Самаро́ўка* (з мясцовага *Самарі́ўка* ўтворана польская калька *Самару́вка*). Цікава параўнаць з прыкладамі ранейшай практыкі, напрыклад: *Grud-*

[8] Лемтюгова В. П. Топонимия Минщины / Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1966. С. 6.
[9] Лемцюгова В. П. Беларуская айканімія. Мн., 1970. С. 102—108.
[10] Там жа. С. 108.

*zinowska Sloboda alias Zariecze* (1750 г.) — цяпер толькі вёска *Грудзінаўка, Prudziszcze alias Kamiąnka* — цяпер толькі вёска *Ка́менка*.

7. Дадаткова павінны быць вывучаны «цёмныя» назвы, якія не дазваляюць зразумець іх унутраны змест адразу, тыпу *Абокрытеле* (мо *Абакрыцелі*?), *Ивесь, Идолта, Измок* (вар. Немок), *Кезьня, Колдря* (мо *Ко́ўдра*?), *Кошо, Мегвора, Медатка, Нары Рог, Нёгро, Оконо* (мо *Ако́ннае*?), *Окрагте, Оп, Обстерно, Подлите, Райувка* (мо *Раёўка*?), *Титра* (мо *Цы́тра* 'доўгае, вузкае возера'?).

Такім чынам, як бачым, нашай грамадскасці патрэбны даведнік усіх гідронімаў Беларусі, каб пазбегнуць памылак пры напісанні іх на беларускай і рускай мовах. У такім выпадку дакладны матэрыял дасць магчымасць зрабіць аб'ектыўныя вывады і даследчыку.

# У ТАПАНІМІЧНУЮ СКАРБОНКУ

*М. А. ДАРОШКА*

## МІКРАТАПОНІМЫ ВЁСКІ ВЕРАСНІЦА

Вёска Верасніца, дзе запісаны мікратапонімы, знаходзіцца ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці ў басейне р. Прыпяць. Паводле В. А. Жучкевіча [1], назва вёскі ўзыходзіць да слова *верас* (лясная расліна). У XIV ст. яна засведчана ў форме *Верасніцкае* [2].

Спрадвечны занятак жыхароў Верасніцы — земляробства. Тут вельмі ўрадлівая глеба. Рэльеф — раўнінны, бязлесны. Яшчэ і зараз добра праглядваюцца нізы, даліны, балотцы, якія вясной і восенню запаўняюцца вадою (асабліва ў пойме Прыпяці).

Пашы, сенажаці, лугі размешчаны на грудах і грудках, градах (паўночная частка), якія спрадвечна заліваюцца вадой з Прыпяці.

Шматлікія дробныя балоты спецыяльных назваў не атрымалі, балотам лічылася толькі непраходнае, тарфяное *Болото*, з якога цягнуліся шматлікія рэчкі *(доліны)*, якія жывілі ўрадлівыя палі вадой.

Гаворка в. Верасніца належыць да ўсходнепалескай зоны паўднёва-заходніх гаворак беларускай мовы.

БАЛКІ′ *мн.* Возера і сенажаць пад лесам каля Прыпяці.

БЕ′РЭГ *м.* Частка вёскі на беразе балоцістай рэчкі, якая разліваецца вясной і восенню.

БЕРЭ′ЗНІКІ *мн.* Поле і паша. *Раней росло багато берэзніку.*

БЕРЭ′СТРОЎ *м.* Паша па суседству з ровам.

БОБКО′Ў ГРУД. Сенажаць. *Колісь дзед Бобко вуцерэбіў Груд, цяпер там сено робім.*

БОЛО′НЬЕ *н.* Выган, які заліваецца вадой.

БОЛО′НЬЕ МАР′Я′НСКЕ. Паша ўздоўж паўночнай часткі вёскі.

БОЛО′ТО *н.* Сенажаць на месцы балота.

БО′НДЗІН ОГОРО′Д. Поле на месцы агарода чалавека па мянушцы Бонда.

---

[1] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 47.

[2] Грушевский А. Пинское Полесье: Исторические очерки: XIV—XVI вв. Киев, 1903. Ч. 2. С. 192.

БО'НДОЎСКІ ПРО'ЦЕРЭБ. Сенажаць, якую расцерабіў чалавек па мянушцы Бонда. *Бондоўскі Процерэб — за рэкою.*

БРУ'СОВО *н.* Поле. Прадаўгаватая, узвышаная палянка сярод алешніку. *Того олешніку ужэ нема, а полянка і цепер бу брус лежыць серэд долін.*

БУ'РАЗЬКЕ *н.* Поле і сенажаць каля в. Буразь. *На Буразьком пан жыў, поле добрэе там.*

БУРГУ'Н *м.* Возера і сенажаць.

БУ'ТНЁВО *н.* Поле.

ВЕЛІ'КА ОЗЬНІ'НА. Поле. *На Велікой Озьніні людзке поле, а на Малой — калхознэ.*

ВЕЛІ'КІЕ ГУ'МНА. Паўднёвая частка вёскі. Да Вялікай Айчыннай вайны на гэтым месцы стаялі сялянскія гумны, пасля вайны тут пасяліліся людзі. *На Малых Гумнах у войну хаваліса людзі, а на Велікіх стоялі корову.*

ВІШЭНЬКІ' *мн.* Паўднёвая частка вёскі. *Росказваюць, шо там було нешчотне вішэнь, отсюль і Вішэнькі.*

ВО'ЛЬНІНА *ж.* Паша і сенажаць. Адкрытая, роўная, без кустарніку мясціна, якая заліваецца водамі Прыпяці.

ВОРО'НІНА *ж.* Паша на месцы высахлай р. Вароніна. *Раней була рэка, цяпер доліна, пасом корову.*

ВО'РОНЬЕ *н.* Паша на ўскрайку вёскі перад Прыпяццю, заліваецца вадой. *Воронье залітэ водою, хоць пароход пускай.*

ВО'ЎЧЫ БО'РОК. Паша, зарослая кустарнікам. *У Воўчым Борку водзілосо багато воўкоў.*

ВО'ЎЧЭ *н.* Сенажаць на месцы лесу, дзе вадзіліся ваўкі.

ВУ'СЦЕ *н.* Возера і сенажаць. Возера ўпадае ў Прыпяць. Сенажаць названа па возеры.

В'ЯЖЫ'ШЧА *мн.* Выган. *Кажуць, шчо стояў в'яз тут.*

В'ЯЗО'ЦКА *ж.* Сенажаць, града ўздоўж Прыпяці, на якой расло шмат вязаў.

ГЛЯ'ДРОВІШЧА *мн.* Выган. Сухое, узвышанае месца сярод балоцістых далін. *Глядровішча добрэ проглядваюцца з хаты, там і короў пасуць.*

ГОРБА'ХА *ж.* Возера і сенажаць.

ГО'СТРОЎ *м.* Частка вёскі. *На Гострові раней була цэркоў, а весною кругом вода, да хорошэ було, людзі на лотках прыежджаюць.*

ДО'ЎГА ТО'НЯ. Возера і сенажаць. Вялікае, глыбокае возера, якое ўпадае ў Прыпяць. Сенажаць названа па возеры.

ДО'ЎЖЫЦА *мн.* Поле ўздоўж дарогі. *Колісь було несколько доўгіх полосок, а цепер Доўжыца — велізарнэ поле.*

Е'ЗА *мн.* Сенажаць на балоце каля запруды, прызначанай

для лоўлі рыбы. Мясцовыя жыхары называюць такія запруды езамі.

ЖУКО'Ў БЕ'РЭГ. Луг. Узвышанае месца на беразе Прыпяці.

ЖЫЛАНО'Ў РОГ. Поле. *Вуцерэбіў Жылан колісь рожок, а цепер еке поле, от і пошло — Жыланоў Рог.*

ЗАБО'К *м.* Сенажаць перад вялікім масівам Орэхоўня.

ЗАБРО'ДЗЬЕ *н.* Поле за бродам.

ЗА ВАГАНО'М. Сенажаць за воз. Ваган.

ЗАВЕ'Р'Е *н.* Паша. *За віркoм геты попас — от і Завер'е.*

ЗАВІ'РКІ *мн.* Сенажаць. *Завіркі зовуць так тому, шо там два віркі глубокіе.*

ЗАГА'ЦЬЕ *н.* Поле за гаццю.

ЗАКА'ЛЬЕ *н.* Сенажаць за воз. Закалье.

ЗАЛЮ'БЕНЬКА *ж.* Сенажаць за воз. Любенька.

ЗА ОЗЕРЦЭ'М. Сенажаць на балоце за невялікім возерам.

ЗАОЗЕРЭ'Ц *м.* Поле за возерам.

ЗА ПОДА'МІ. Поле, па суседству з якім некалі стаялі стагі. *Гл.* Поды.

ЗА РОЎЧАКО'М. Паша за раўчаком.

ЗАРЭКА' *ж.* і ЗАРЭ'Ч'Е *н.* Агульная назва вялікага масіву (сенажацей, лугоў, зараснікаў кустоў) за Прыпяццю.

ЗАРЭ'ЦКА ОРЭХО'ЎНЯ. Сенажаць.

ЗАРЭ'Ч'Е *гл.* Зарэка.

ЗАРЭЧЫ'ШЧЭ *н.* Сенажаць за старым рэчышчам.

ЗАСУ'ШНА *ж.* Сенажаць у нізкім месцы, якое косіцца толькі тады, калі высахне вада.

ЗАХРЭ'СЦЬЕ *н.* Поле за крыжам *(храстом).*

ЗАЯ'СЕНЕЦ *м.* Сенажаць.

ЗЕБЕ'НЬ *ж.* Сенажаць уздоўж воз. Зебень.

КАЛІ'НОЎКА *ж.* Сенажаць, на месцы якой былі заракнікі каліны. *Каліноўку росцерэбілі, а раней калін було морэ.*

КАНТРО'ЛЁВО БОЛО'ТО. Балота, сенажаць перад вялікім Болотом. *Кантроль запаліў торф на болоці, отсюль і озеро, і болото.*

КВА'СНІ *мн.* Паша ў нізкім, забалочаным месцы. *У Квасьнях не вулезці: і корові, і чоловеку.*

КНЯЖЭ' *мн.* Поле на высокай палянцы.

КОВАЛЁЎКА *ж.* Сенажаць, якую расцерабіў чалавек па мянушцы Коваль.

КОЗЕ'ЛЕЦ *м.* Частка вёскі. *На Козельцы раней було болото і цепер увосень там не вулезці.*

КОЗЛО'ВА ГРАДА'. Сенажаць, якую расцерабіў чалавек па мянушцы Казёл.

КОЛО′ КАНТРО′ЛЁВОГО О′ЗЕРА. Поле, сумежнае з *Кантролёвым Болотом.*

КОНОНАЎКІ′ *мн.* Паша, прылеглая да трох невялікіх азёр.

КО′ПКОВО *н.* Паша побач з Олешнікамі.

КО′ШМАНОЎ ПРО′ЦЕРЭБ. Сенажаць за Прыпяццю. *Шчэ Кошмана Петра дзед вуцерэбіў геты оснік, а зовуць і цепер Кошманоў Процерэб, хоця вон і колхозны.*

КРА′СНОЎСКІЕ *мн.* Сенажаць.

КРА′СНЫ БЕ′РЭГ. Луг па-над Прыпяццю. *На Красном Берэзі добрэ сено грэбці, там і покупацца можна.*

КРУ′ГЛА *ж.* Поле круглай формы.

КУ′НДАРОЎКА *ж.* Частка вёскі. *Кундароўка е не толькі ў Верэсніцы, а і ў Малешові, Турові, Хільчыцах.*

КУТО′К *м.* Частка вёскі у месцы перасячэння дзвюх рэчак.

ЛАГУЗО′Ў *м.* Паша на балоце, зарослая лазняком.

ЛЕ′ШЧА *мн.* Поле на месцы зараснікаў ляшчыны.

ЛІША′НЦОЎ ПРО′ЦЕРЭБ. Сенажаць за Прыпяццю, якую расцерабіў чалавек па родавай мянушцы Лішанцоў.

ЛУЖО′К *м.* Частка вёскі на *Мар'янцы* на месцы ранейшага лугу. *Лужок тожэ застроіўса послі войны.*

ЛУКОЧЭРЭ′ВА *ж.* Сенажаць каля Прыпяці. *На Лукочэрэві рэка вугібаецца, бу чэрэво вуставіла.*

ЛУК'Я′НОВО *н.* Сенажаць, якая належала мясцоваму жыхару па імені Лук'ян.

ЛЯ′ДО *н.* Поле на высокім месцы. *У Лядзі колісь рос лес, его вусеклі і розробілі поле.*

МАЛА′ ОЗЬНІ′НА. Поле. *Гл.* Вѐліка Озьніна.

МА′ЛЕШОЎСКЕ *н.* Сенажаць паблізу в. Малое Малешава.

МАЛЫ′Е ГУ′МНА. Частка вёскі. *Гл.* Велікіе Гу́мна.

МАР'Я′НКА *ж.* Частка вёскі перад *Селом. Колісь Мар'янка була отдзельным селом, зваласа Марыямполь.*

МАР′Я′НСКЕ БОЛО′НЬЕ. Паша, выган, якія прылягаюць да паўночнай часткі *Мар'янкі.*

МІ′ЛКА *ж.* Сенажаць уздоўж старога русла Прыпяці, якое носіць назву Мілка.

МІ′СТРЫЦА *ж.* Сенажаць вакол воз. Містрыца.

МІХАЛЕ′ *мн.* Поле, якое належала мясцоваму жыхару па імені Міхал.

МО′СІКОВА *ж.* Сенажаць за Прыпяццю, якая належала чалавеку па мянушцы Мосікоў.

МОСЦІ′ШЧА *мн.* Паша за невялікімі мастамі праз грузкія даліны. *Ек подсохне, то і ў Мосцішчах можно пасці.*

НА′СПА *ж.* Сенажаць і старык. *У Наспі плохе сено, ведомо, насыпаны песок.*

НО′ВІНА *мн.* Сенажаць на месцы раскарчаванага хмызняку. Мясц. *новіна* — новы участак, распрацаваны ў лесе.

НОВОХА′ *ж.* Сенажаць на пясчанай насыпной градзе паміж новым і старым руслам Прыпяці.

О′БОД *м.* Сенажаць на круглай узвышанай паляне сярод кустоў.

ОБОЛО′НЬЕ *н.* Паша і сенажаць каля Прыпяці, якія заліваюцца вадой. Мясц. *оболонье* — заліўны луг без зараснікаў.

ОВЕ′ЧЭ *н.* Паша паблізу вёскі, дзе раней паслі авечак. *Дзень круцяць товар у Овечом.*

ОЛЕ′ШНІКІ *мн.* Сенажаць і паша, якія знаходзяцца на грудах і ў далінах сярод вялікіх зараснікаў алешніку.

О′РЛІЦА *ж.* Балота асушанае і сенажаць. *Под Тоўмачоў Орліца, там сено робілі.*

ОРЭХО′ЎНЯ *ж.* Сенажаць паміж азёрамі і Прыпяццю. *Смородзіны рвалі ў Орэхоўні, колісь орэшніку було.*

ОСО′КІ *мн.* Сенажаць у нізкім забалочаным месцы, дзе расце асака.

ОСОКОР′Е′ *н.* Сенажаць на высокай градзе, дзе расло шмат таполяў (мясц. *осокор*). *У Осокор'е остаўса одзін осокор.*

О′СТРОЎ *м.* Сенажаць, кусты каля Прыпяці.

ОЎРА′МОЎСКІ ПРО′ЦЕРЭБ. Сенажаць, расцярэбленая чалавекам па родавай мянушцы Оўрамоў. *Оўрамовух Процерэб — з векоў людзі косяць.*

ПАСТУХО′ВА *ж.* Поле сярод пашаў.

ПЕННЫ′Е *мн.* Сенажаць на высокім беразе воз. *Пенные.*

ПЕРЭЦЕ′ЛЬЕ *н.* Поле каля р. *Вороніна.*

ПЕТУШО′К *м.* Поле.

ПОДМУРО′Ж′Е *н.* Сенажаць і возера каля Прыпяці. *У Подмурож'і мурогу вукосіў попонку.*

ПОДОЛО′Ч′Е *н.* Поле на роўным месцы.

ПОДЫ′ *мн.* Поле, на якім стаялі стагі. Мясц. *под* — паддонне стога. *Поды — там на помосці, рощі стояла необмолочана пашня ў стогах.*

ПОКО′СКА *ж.* Сенажаць на вузкай доўгай палянцы.

ПОПО′ВА *ж.* Сенажаць, якая належала папу.

ПОЎЧЭ′НСКЕ *н.* Сенажаць па суседству з в. Поўчын.

ПРО′РВА *ж.* Паша каля рэчкі, якая ўпадае ў Прыпяць. Назва пашы па рэчцы. Мясц. *прорва* — глыбокае месца ў рацэ або возеры.

ПРЫ′ШЧЫНА *мн.* Сенажаць і зараснікі кустоў на высокіх грудах.

РАЧЫ′ШЧЭ *н.* Поле і паша каля старога рэчышча.

РОЖО′К *м.* Сенажаць каля возера.

РОЎЧА′К *м.* Паша абапал раўчака на Болоны.

РУ′ДЗЕНЬКА ВЕЛІ′КА. Сенажаць каля воз. Доўгая Тоня. *На Рудзеньцы мо руду добувалі, а мо назва от рудое воды.*

РУ′ДЗЕНЬКА МАЛА′. Сенажаць. *Гл.* Ру́дзенька Велі́ка.

РУ′ДНЯ *ж.* Вялікая сенажаць перад *Ру́дзенькою.*

РЫГО′РОЎ ПРО′ЦЕРЭБ. Сенажаць на высокім груду, якую расцерабіў селянін па імені Рыгор.

РЫДЗЕ′ЦКОВА *ж.* Сенажаць селяніна па прозвішчы Рыдзецкоў.

РЫЧО′ЎСЬКА *ж.* Сенажаць і кусты в. Рычоў. *Рычоўська цепер не наш сенокос.*

РЭ′ЧКА *ж.* Сенажаць уздоўж даліны на *Во́льніні,* у межах якой раней працякала рэчка.

РЭЧЫ′ШЧЭ МАР'Я′НСКЕ. Сенажаць і кусты каля рэчышча, якое злучана з Прыпяццю і Прорвай.

СА′ВІН ВУ′ГОЛ. Поле, якое вуглом упіраецца ў непраходныя зараснікі кустоў.

САДО′К *м.* Высокае поле, перад якім расце калгасны сад.

СВІ′НІКІ *мн.* Поле на месцы пашы. *На Свініках раней свіньє пасцілі, а цепер поле там.*

СЕ′ЛІШЧА ВЕЛІ′КІЕ. Поле, на якім раней былі сядзібы.

СЕ′ЛІШЧА МАЛЫ′Е. Поле. *Гл.* Селішча Велікіе.

СЕЛО′ *н.* Старая частка вёскі. *Село — гэто цепер цэнтр.*

СЕМЕ′НІКІ *мн.* Поле на высокім узгорку.

СЕМЕ′НОЎ ПРО′ЦЕРЭБ. Сенажаць, якую расцерабіў селянін Сямён.

СЕМЕ′НЧА *ж.* Возера і сенажаць каля Прыпяці.

СЕМЕ′НЬКЕВІЧЫ *мн.* Поле на пясчаным узгорку.

СЕРЭ′ДНІЦА *ж.* Поле і паша паміж в. Верасніца і в. М. Малешава.

СІ′ТНА *ж.* Забалочаная сенажаць, на якой расце шмат сітніку. *Сітна — то така нізка доліна з сітніком.*

СТА′РЫЦА *ж.* Сенажаць і старыца каля Прыпяці.

СЦЕПАНКО′ВА *ж.* Сенажаць, якую расцерабіў селянін па мянушцы Сцепанко. *Сенокос гэты належаў шчэ Сцепанковому дзеду.*

ТОПІ′ЛА *мн.* Забалочаная сенажаць, дзе доўгі час стаіць вада. *У Топілах — мокрота, росце плюшнік, рэбрэй.*

ТРЫ ВЕРХІ′. Поле і сенажаць на месцы трох палянак на *Боло́ці* сярод кустоў.

УДОВЕ′ДЗЬКОВО *н.* Сенажаць, якую расцерабіў селянін па мянушцы Удоведзько.

У ДОРО′ГАХ. Паша і поле паміж дарог.

У ДУ′БА. Поле, дзе стаяў вялікі дуб.

У СТОЎПА′. Сенажаць, перад якой стаяў слуп (мясц. *стоўп*).

ХІЛЕ′Ц *м.* Поле пад в. Любавічы.

ЦВЕ′ЁВА *ж.* Поле, якое расцерабіў селянін па родавай мянушцы Цвеёў.

ЦВЕ′ЁЎСКА *ж.* Сенажаць, якая належала *Цвеёвум.*

ЧЫПУ′Ч-ВІРО′К *м.* Поле, пасярэдзіне якога — вір з вельмі халоднай цёмнага колеру вадой.

ШТАНЫ′ *мн.* Поле на *Болоці,* якое мае форму штаноў.

ШЫ′Я *ж.* Частка вёскі паміж *Селóм* і *Козéльцэм. Шыя — непроходнэ болото було, заросшэе вусокім олешніком.*

ЯБЛУНЬКІ′ *мн.* Выган і паша, на якіх раслі дзікія яблыні.

Я′МІШЧА *мн.* Поле за *Мар'янкай. На гетом полі яму булі.*

Я′НДРЫКОЎ ГРУД. Сенажаць. *Шчэ мо колісь Яндрыкового Груда вуцерэбіў Яндрык.*

*З. М. ЗАІКА*

# З МІКРАТАПАНІМІІ СТОЛІНШЧЫНЫ

Матэрыялы запісаны ў г. Століне, г. п. Рэчыца, вв. Бераж-ное, Дубай, Манькавічы, Струга, Белавуша, Першамайск, Бухлічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці [1], якія ўваходзяць у зону сярэднепагарынскіх гаворак [2].

АДА'МОВА КРЫНІ'ЦА. Крыніца на хутары Перлавіцы. Ст.

БА'БІНЭ БОЛО'ТО *н.* Нізкае месца. Маньк.

БА'БКА *ж.* Поле. Бухл.

БАГНОВА'ХА *ж.* Поле, дзе некалі рос багон. Рэч.

БАРАНЫ' *мн.* Частка вёскі. Бел.

БЕ'ЛАЯ ВО'ДА. Лес і сенажаць. Маньк.

БЛІ'ЖНІЯ ГО'РКІ. Змешаны лес на ўзгорках. Струга.

БОБО'ВІЦКО *н.* Сенажаць. Рэч.

БОБО'ВІШЧЭ *н.* Возера і прымыкаючыя да яго поле і сенажаць. Назва ўрочышча дубліруе назву возера, на якім расце бабоўнік. Бер.

БОДАКЫ' *мн.* Урочышча, раней быў хутар. Перш.

БОРОВУ'ХА *ж.* Урочышча. Бухл.

БОЯ'РСКІ БОР. Лес і дарога. Струга

БРОВА'РЫ *мн.* Урочышча. Маньк.

БРОДО'К *м.* Пераправа праз р. Гарынь. Ст.

БРУ'СОВЭ *н.* Сенажаць у лесе. Бер.

БУ'ХЛА *ж.* Сенажаць. Бухл.

БУ'ХТА *ж.* Канава. Маньк.

БЭРЭ'ЗНІК *м.* Урочышча. Дубай

БЯРЭ'ЗНІК *м.* Поле, вакол якога расце беразняк. Рэч.

ВІ'ГОН *м.* Старая дарога, якая вяла да чыгункі. Па ёй звычайна гналі кароў на пашу.

---

[1] Інфарматары: А. Х. Якімава, 1923 г. н., Т. Х. Мельнік, 1925 г. н.— г. п. Рэчыца; В. К. Субат, 1919 г. н., П. С. Субат, 1918 г. н., А. А. Ракала, 1924 г. н.— г. Столін; Т. К. Савіцкая, 1923 г. н., І. А. Малей, 1932 г. н.— в. Дубай; В. М. Дзмітрук, 1937 г. н., В. П. Дзмітрук, 1921 г. н.— в. Беражное; В. І. Бруцкі, 1917 г. н.— в. Струга; М. М. Грыцух, 1925 г. н.— в. Манькавічы; С. Х. Карповіч, 1922 г. н.— в. Бухлічы.

[2] Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Мн., 1983. С. 12.

ВІ′КОРОВІЧСКІ БОР. Частка лесу, якая прымыкае да сенажаці в. Вікаравічы. Струга

ВІ′ЛЫ *мн.* Сенажаць каля р. Гарынь, дзе яна раздвойваецца. Рэч.

ВО′ВЧЭ ГО′РЛО. Пратока, якая ўпадае ў час паводкі ў р. Гарынь. Струга

ВУ′ЗКА КОЛЕ′ЙКА. Месца, дзе некалі пралягала вузкакалейка. Ст., Маньк.

ВЫ′ГАН *м.* Паша. Дубай

ВЫ′ДРЫНА Я′МКА. Возера. Бер.

ВЫ′ДЫРОК *м.* Поле на месцы разробленага лесу. *Посадылі бульбу на Выдырку.* Перш.

ВЫРЫ′ *мн.* Сенажаць каля р. Гарынь, дзе пракапаная канава злучае рукавы ракі. Ст.

ВЫ′ШКА *ж.* Частка лесу вакол вышкі. Рэч.

ВЭЛІ′КА БАГНОВА′ХА. Поле. Рэч.

ВЭЛІ′КІ ЛУГ. Урочышча. Бухл.

ВЭЛІ′КОЕ *н.* Поле. Бухл.

ВЭЛІ′КЭ БОЛОТО. Сенажаць. Раней было балота. Струга

ВЭ′РХІ *мн.* Поле на ўзвышшы. Струга

ВЭСЁЛЫ ДУБ. Урочышча. Ст.

ВЭ′СЛІНЫ *мн.* Сенажаць. Ст.

ГА′РБОРОВА БУ′ХТА. Сенажаць. Ст.

ГАЧКІ′ *мн.* Поле. Дубай

ГАШЧУКО′ВА ДА′ЧА. Урочышча, у якім размешчаны паляўнічы стан. Ст.

ГЛОДІНА′ ГОРА′. Узвышша, парослае рэдкім лесам. Ст.

ГЛУБО′КЭ *н.* Возера. Бер.

ГЛУБО′КЭ МІ′СЦЭ. Затоны на р. Гарынь. Ст.

ГНІ′ЛІЦА *ж.* Поле ў нізіне, дзе ў дажджлівую пару года стаіць вада. Ст.

ГНІЛЫ′Е В′ЮНЫ′. Выгарэлае балота, запоўненае вадой. Бер.

ГНІЛЭ′ О′ЗЭРО. Возера, якое ніколі не замярзае. Бел.

ГО′ЛЛІ *мн.* Лес. Раней было поле. Струга

ГОЛУ′БАЧ *м.* Поле. Бухл.

ГО′ЛЫ ДУБ. Урочышча. Ст.

ГОРБА′ТЫ МОСТ. Пераправа праз р. Гарынь. Ст.

ГО′РКІ *мн.* Лес, у асноўным бярозавы, на высокім месцы. Бер.

ГОРОВА′ *ж.* Канава. Маньк.

ГОРОВА′ХА *ж.* Лес, былая партызанская база. Струга

ГОРШЧА′ЕВА ДОЛІ′НА. Балота. Бер.

ГО′РЫ *мн.* Сенажаць. Бер.

ГО′РЫЦА *ж.* Урочышча на горцы. Ст.
ГРА′ДКА *ж.* Поле. Перш.
ГРАДКІ′ *мн.* Урочышча, дзе расце алешнік. Ст.
ГРА′ДОЧ *м.* Сенажаць. Струга
ГРАЗЬ *ж.* Частка лесу. Бел.
ГРАНІ′ЦА *ж.* Урочышча каля граніцы з Украінай. Рэч., Ст., Бухл.
ГРУЖО′ДЫ *мн.* Урочышча. Ст.
ГРЫБО′К *м.* Частка лесу. Бел.
ГУ′МНІШЧА *мн.* Урочышча. Рэч.
ГУ′ШЧА *ж.* Лес, раней часткова было поле. Струга
ДАВЫ′ДКОВО *н.* Урочышча, раней быў хутар. Рэч.
ДА′ЛЬНІЯ ГО′РКІ. Лес змешаны. Струга
ДЁГТЯНКА *ж.* Поле. Маньк.
ДО′ВГЭ *н.* Возера, з якога выцякае ручай у напрамку да Віроў, да р. Гарынь. Бел.
ДО′ВЖЫК *м.* Возера, якое мае прадаўгаватую форму. Бер.
ДУБІ′НА *ж.* Малады лес. Бер.
ДУБКІ′ *мн.* Сенажаць. Рэч.
ДУ′БНІК *м.* Лес. Маньк.
ДУ′БНІК *м.* Малады лес. Ст.
ДУБРО′ВА *ж.* Поле. Некалі быў лес. Бер.
ДУБЫ′ *мн.* Сенажаць. Маньк.
ДУБЫ′ *мн.* Стары лес. Бер.
ДУ′ПЛІШЧЭ *н.* Возера, урочышча. Бел.
ДУРМА′НОВА ДЯ′ЛКА. Урочышча. Дубай
ДЭНІСОВ РОГ. Урочышча. Ст.
ДЭСЯ′ТКІ *мн.* Сенажаць. Ст.
ЖАРЫ′ *мн.* Поле. Ст.
ЖУ′КОВО *н.* Сенажаць. Ст.
ЖУКЫ′ *мн.* Урочышча. Раней быў хутар. Перш.
ЖУРАВІ′НЭ *н.* Асушанае балота. Струга
ЖЫДО′ВКА *ж.* Сенажаць. Раней было балота. Бер.
ЖЫДЫ′ *мн.* Урочышча. Ст.
ЗАБІ′СТРІЦА *ж.* Канава. Раней было рэчышча р. Гарынь. Ст.
ЗАБІ′СТРІЦА *ж.* Луг і поле. Рэч.
ЗАБОЛО′ТТЕ *н.* Поле. Рэч.
ЗАБОЛУ′ТТЕ *н.* Выган і сенажаць. Дубай
ЗА′БРУД *м.* Урочышча. Рэч.
ЗАВІГО′ННЕ *н.* Поле. Ст.
ЗА′ЙЦОВА СМЭРТЬ. Скрыжаванне дарог у лесе. Ст.
ЗАКО′ТА *ж.* Сенажаць. Маньк.

ЗА′МКОВЭ *н.* Возера, якое замыкаецца навокал невялікага вострава. Бер.

ЗАПУ′ДА *ж.* Сенажаць і поле. Бер.

ЗАПУ′ДЫ *мн.* Даліна і невялікія азёрцы. Ст.

ЗАРІ′ЧКА *ж.* Сенажаць. Бухл.

ЗАРО′В *м.* Сенажаць. Бухл.

ЗАРУ′БІН РОГ. Сенажаць. Рэч.

ЗАХО′ДНІ ГРАДІ′. Сенажаць. Перш.

ЗАЦІ′ШШЭ *н.* Лес і паляна. Ст.

ЗАЧЭРЭ′ТТЕ *н.* Сенажаць. Маньк.

ЗВЯЗДА′ *ж.* Урочышча. Рэч., Ст.

ЗОЛОТА′ *ж.* Частка хвойнага лесу. Бер.

ЗОЛОТЭ′ ДНО. Бухта р. Гарынь, дзе зімуе вялікая колькасць рыбы. Ст.

ЗЭЛЕНКО′ВСКЭ *н.* Балота. Бер.

ЗЭЛІ′КА *ж.* Поле, былая сенажаць. Бер.

І′ВНІК *м.* Калгасны сад. Раней была няўдобіца. Бер.

КАДО′ЎБ *м.* Крыніца. Выдаўбленая ў дубе і ўкапаная ў зямлю кадушка. Ст.

КАЛЕ′КІ *мн.* Раней быў хутар, на якім жылі два гарбатыя браты. Бер.

КАЛІ′НОВ КУСТ. Сенажаць сярод балота. Бер.

КАМЕ′ННЭ *н.* Урочышча, у якім вялікі камень «вырас» з зямлі. Струга

КА′МЭНЬ *м.* Скрыжаванне дарог, на якім ляжыць вялікі валун. Бер.

КАНАВЫ′ *мн.* Частка маладога лесу, у якім ёсць канавы. Ст.

КНЯ′ЖЭСКА ДОРО′ГА. Старая дарога ва ўрочышчы Стасіно. Ст.

КО′БАК *м.* Урочышча. Дубай

КО′БРА *ж.* Возера. Ст.

КОВАЛЮ′ВШЧЫНА *ж.* Поле. Рэч.

КО′ЗАК *м.* Сенажаць. Бер.

КОЗЁЛ *м.* Поле. Ст.

КОЛО′ДЯНКА *ж.* Возера. Рэч.

КОМАРО′ВА БУ′ХТА. Бухта на р. Гарынь. Ст.

КОНЭ′Ц ПО′ЛЯ. Урочышча. Струга

КО′ПАНЭЦ *м.* Выкапаны паўкругам рукаў р. Гарынь. Ст.

КОСА′ *ж.* Урочышча і сенажаць над самай Гарынню. Ст.

КОСАЧЭ′В *м.* Лес. Рэч.

КО′СТУСЕВ ХУ′ТОР. Урочышча. Дубай

КО′ТОВ ПО′ТЭРЭБ. Сенажаць. Рэч.

КО′ТОВА *ж.* Урочышча. Ст.

КО′ШЫН *м.* Урочышча. Ст.

КРА'СНА ГО'РКА. Узвышша, парослае ажыннікам. Рэч.

КРАСНЭ' *н.* Сенажаць. Бер.

КРІВА' РЭ'ЧА. Невялікае возера. Ст.

КРІ'ЧЭК *м.* Узгорак, парослы лесам. Струга

КРУЖО'К *н.* Возера. Ст.

КРЫВЫ' МОСТ *м.* Урочышча, у якім ёсць невялікі масток праз канаву. Бер.

КРЫВЫ' РОГ. Сенажаць на хутары Потэрэбы. Дубай

КРЫВЭ' *н.* Возера. Ст.

КРЭСТЫ' *мн.* Паляна ў лесе, на якой стаяць два крыжы. У 1944 г. на гэтым месцы ўзарвалася міна, і адразу пасля вайны у час навальніцы на гэтым жа месцы маланкай забіла камбайнера. Ст.

КУ'КРЫ *мн.* Лес. Раней было поле. Струга

КУ'ПЧА *ж.* Поле. Дубай

КЭРЭ'НСКОГО РОГ. Частка ракі. Бер.

ЛЕМІШЭ'ВСКЭ *н.* Урочышча. Ст.

ЛЭБЭ'НЬ *н.* Возера. Бер.

ЛЕСНІЧУ'ВКА *ж.* Сенажаць і поле. Рэч.

ЛЭ'ШЧА *ж.* Поле і сенажаць на беразе р. Гарынь. Бер.

ЛЕЛІКАВА ВОЛОКА'. Частка р. Гарынь, да якой прымыкае сенажаць. Бер.

ЛЕ'ТЧЫКОВ РОГ *м.* Урочышча. Бер.

ЛІ'ПА *ж.* Урочышча. Дубай

ЛІСО'К *м.* Поле. Бухл.

ЛОЗКІ' *мн.* Луг і балота, на якім расце нізкі алешнік. Бер.

ЛУ'КЭ *н.* Забалочаная сенажаць. Раней быў хутар. Бер.

ЛЫСУ'ХА *ж.* Урочышча на неўрадлівай зямлі. Дубай

ЛЫ'СЫ ГО'РЫ *мн.* Узгорак, парослы рэдкім лесам. Ст., Маньк.

ЛЭБЭЖО'В (СА'ВЧІНА ГРА'ДКА) *м.* Высокае месца сярод балота, на якім растуць высокія дрэвы. Бер.

ЛЯ'ДО *н.* Урочышча, раней было топкае балота. Бер.

ЛЯДЭ'Ц *м.* Урочышча. Бухл.

МАКА'РЫХА *ж.* Поле. Ст.

МАЛА'Я БАГНАВА'ХА. Поле. Рэч.

МАНІ'СОВШЧЫНА *ж.* Урочышча. Бухл.

МАРТЫНЫ' *мн.* Урочышча. Раней быў хутар. Перш.

МАРХА'Й *м.* Сенажаць і месца на р. Гарынь. Рэч.

МІЖНА'СЫП'Е *н.* Сенажаць. Рэч.

МІЖЫ'РЫЧКА *ж.* Сенажаць. Ст.

МО'КРА ДЭЛЯ'НКА. Балота, парослае лесам. Ст.

МОЛОДНЯ'К *м.* Малады лес. Ст.

МО'РГІ *мн.* Поле. Бер.

МОРО′ЧНА *ж.* Сенажаць на месцы асушанага балота. Бер., Ст.

МОХ *м.* Урочышча. Дубай

МЭДВЭДІ′ *мн.* Урочышча. Раней быў хутар. Перш.

МЭДВЭ′Ж′Е *н.* Урочышча. Ст.

МЭСА′РОВЭ *н.* Сенажаць. Бер.

НІ′ВКА *ж.* Урочышча. Ст.

НІЗ *м.* Поле. Бухл.

НІКІ′ТЫНІНА КУ′ПЧА. Поле і сенажаць. Дубай.

НОВІНЫ′ *мн.* Дзялянка поля, распрацаваная ў лесе. Рэч.

НО′ВЫ БОР *м.* Урочышча. Раней быў хутар. Струга

НО′РЫ *мн.* Урочышча. Рэч.

НЫ′РЧА *ж.* Возера паміж Прыпяццю і Гарынню. Ст.

ОБЛУ′КВІ *мн.* Урочышча. Ст.

ОЛЬХО′ВЭ *н.* Сенажаць і затон, дзе сплаўляюць лес. Ст.

ОМХ *м.* Паша. Ст.

ОНІ′СЬЕ *н.* Урочышча. Бер.

О′НІШЧА *мн.* Сенажаць. Ст.

О′СНІКІ *мн.* Балоцістая сенажаць. Струга

ОСО′ВЫ ЛУГ. Сенажаць. Перш.

ОСО′ВЭ *н.* Урочышча. Раней было поле. Струга

ОСО′ТНЭЕ *н.* Сенажаць. Бухл.

ОСТРОВКІ′ *мн.* Топкае балота. Перш.

ОСЭРЭ′ДОК *м.* Поле. Ст.

ОРЭ′ЛЕЦ *м.* Сенажаць. Бер.

ОРЭ′Ш′Е *н.* Луг, парослы арэшнікам і лазою. Бер.

ОХРО′НКА *ж.* Урочышча. Рэч.

ПА′ВЛІКОВЭ *н.* Паша. Раней было поле, якое належала кавалю Паўліку. Бер.

ПА′ДАВІЦА *ж.* Змешаны лес. Бер.

ПА′СЭКА *ж.* Урочышча. Рэч.

ПІ′НСКІ ШЛЯХ. Старая дарога. Ст.

ПЛО′ТНІЦКІ ХУ′ТОР. Урочышча. Дубай

ПЛЭ′СО *н.* Месца на р. Гарынь. Ст.

ПЛЯЦЫ′ *мн.* Частка Століна пазнейшай забудовы. Ст.

ПОГО′НЯ *ж.* Урочышча. Бухл.

ПОДО′МШЭ *н.* Поле. Ст.

ПОЛОВЭ′Ц *м.* Урочышча. Маньк.

ПОПА′С *м.* Луг. Маньк.

ПОПКО′ВА ДОЛІ′НА. Сенажаць. Дубай

ПОПКО′ВА ДЯ′ЛКА *ж.* Сенажаць. Дубай

ПОПО′ВЫ ЛО′ЗЫ *мн.* Балота, на якім растуць журавіны. Раней гэтая зямля належала царкве. Бер.

ПОПО′ВЭ *н.* Возера. Рэч.

ПОПУВШЧЫ′НА *мн.* Поле. Рэч.
ПОПЭРЭ′ЧНЯ *ж.* Поле. Ст.
ПО′СТРОВ *м.* Поле. Бер.
ПОТЭРЭ′БЫ *мн.* Урочышча. Дубай
ПРОДО′ВЖЫ *мн.* Некалькі азёр, якія злучаюцца паміж сабою доўгімі канавамі. Рэч.
ПРОХО′ДЫ *мн.* Лес. Рэч.
ПРУСО′ВА ДЯ′ЛКА. Сенажаць. Дубай
ПРЫДА′ТКІ *мн.* Сенажаць. Ст.
ПРЫ′СТАНЬ *ж.* Месца на р. Гарынь. Ст.
ПУД′Е′ЛЬНІК *н.* Поле. Ст.
ПУДКАЛІ′НЫ *мн.* Поле. Рэч.
ПУДЛА′ВШЧЫНА *ж.* Поле. Бер.
ПУДЛЯДЭ′Ц *м.* Поле. Бухл.
ПУДМОСТЭ′Ч′Е *н.* Лес і поле. Рэч.
ПЭ′РЛОВІЦЫ *мн.* Сухое балота. Ст.
ПЭРЭ′КАЛЕ *н.* Поле. Бухл.
ПЭРЭМІ′ЛЛЕ *н.* Месца на р. Гарынь. Маньк.
ПЭРЭРЭ′З *м.* Месца на р. Гарынь, дзе вясной яна сама празэзала новае русла. Бер.
ПЭРЭЧЭРЭ′ТТЕ *н.* Затон на рацэ. Ст.
ПЭТЭ′ЛЬСКА ГРА′ДКА. Урочышча. Раней быў хутар. Ст.
ПЭ′ЧЫ *мн.* Урочышча. Ст.
РАБЭІ′ХА *ж.* Камяністае поле. Ст.
РІ′ПІШЧА *мн.* Урочышча. Рэч.
РОВЭ′Ц *м.* Невялікае возера. Ст.
РОГІ′ *мн.* Месца на р. Гарынь, дзе яна ўтварае два затоны і ідзе далей. Ст.
РОГІ′ *мн.* Сенажаць. Рэч.
РОГІ′ *мн.* Урочышча. Дубай
РУБЭ′ЛЬЦЫ *мн.* Урочышча. Раней быў хутар. Дубай, Перш.
РЫ′ЖЫ ГО′РЫ. Лес. Раней было поле. Струга
РЭ′ЗЫ *мн.* Змешаны лес. Ст.
РЭ′ЧЫШЧА *н.* Два возеры, якія ўтварыліся са старога рэчышча р. Гарынь. Бер.
САД *м.* Поле. Некалі на гэтым месцы быў сад князя Радзівіла. Ст.
САДО′К *м.* Поле і сенажаць. Раней быў хутар. Перш.
СА′ЎЧЫНА ГРА′ДКА. Сенажаць сярод балота. Бер.
САХАЛІ′Н *м.* Аддаленая частка вёскі. Бел.
СЕМІ′ЖА *н.* Возера. Струга
СІ′ТЬКОВ РОГ *м.* Лес і поле. Рэч.
СІ′ТЬКОВА НІВА. Урочышча. Раней быў хутар. Рэч.
СОКІ′РА *ж.* Частка вёскі. Бел.

СОМО′ВЭ *н.* Возера ў лесе. Бер.

СОХУ′ТНЯ *ж.* Сенажаць. Рэч.

СТАРУ′ХА *ж.* Старое рэчышча р. Гарынь. Бер.

СТА′РЫЦА *ж.* Старое рэчышча р. Гарынь. Цяпер ад яго засталася затока. Рэч.

СТА′СІН *м.* Урочышча. Маньк., Бел.

СТРУ′МЭНЬ *ж.* Канава. Бер.

СТРЭ′ЛКА *ж.* Зарослая канава. Дубай

СЭМЭ′НКОВОЕ *н.* Урочышча. Раней быў хутар. Бер.

СЭРГЕ′ЙКІ *мн.* Сенажаць сярод балота. Бер.

СЭРЭ′ДНЯ *ж.* Старая дарога, якая праходзіла праз палі. Ст.

СЭРЭ′ДНЯ ДУБРО′ВА. Поле. Раней была сенажаць. Дубай

ТАТА′РСКА ГРА′ДКА. Урочышча, дзе некалі стаялі татарскія войскі. Рэч.

ТІ′МНЭЕ *н.* Лес. Бер.

ТО′ВШЧА *ж.* Лес і балота. Маньк.

ТОКА′РНЯ *ж.* Урочышча. Рэч.

ТОКА′РНЯ *ж.* Кар'ер. Ст.

ТОПІ′ЛА *н.* Поле, якое заўжды ў мокры год затаплялася. Ст.

ТРЫ СОСНЫ′. Паляна ў лесе. Струга

ТЫ′ЛЬЧІНЭ *н.* Возера. Ст.

У КОНЦЫ′ ВІ′ГОНА. Поле. Ст.

УЗБО′ТА *ж.* Сенажаць. Струга

УНУ′ТРЭННЕ *н.* Возера. Маньк.

У′ШЧЫМЛЕ *н.* Поле. Бер.

ХВО′ЙНІК *м.* Хваёвы лес. Ст., Дуб., Маньк.

ХВОШЧ *н.* Поле сярод лесу. Бер., Дубай

ХВОШЧОВА′ХА *ж.* Урочышча. Рэч.

ХВУ′ТНІЦА *ж.* Луг і поле. Рэч.

ХМЭЛІ′ННЭ *н.* Урочышча. Некалі быў хутар. Дубай

ХО′БОТ *м.* Дубай

ХО′ЦІМЛЕ *н.* Урочышча. Струга

ЦВІ′ЛІН *м.* Старое рэчышча р. Гарынь. Цяпер канава. Бер.

ЦЫГА′НКА *ж.* Поле на месцы лесу, у якім размяшчаўся цыганскі табар. Бер.

ЦЫГА′НСКІ БОРО′К. Лес. Бер.

ЦЭГЕ′ЛЬНЯ *ж.* Урочышча. Ст.

ЦЯГА′ЙЛОВ ХУТОР. Урочышча. Раней быў хутар. Дубай

ЧОРНО′ВСКАЯ *ж.* Лес сярод балота. Дубай

ЧЕРНЯ′ТЫНА *ж.* Поле. Раней была сенажаць. Дубай

ЧМЭЛІ′ *ж.* Урочышча. Раней быў хутар. Перш.

ЧЭРЭПА′ХА *ж.* Поле на грудку. Бер.

ЧЭРЭ′ТЦЭ *н.* Поле. Бер.

ЧЭРЭ′ЧЕНКА *ж.* Сенажаць. Ст.

ЧЭ′ХІ *мн.* Поле. Раней было балота, на якім жылі хутаранцы па прозвішчы Чэх. Бер.

ЧОХІ′НЬ *ж.* Сенажаць. Раней было балота. Бер.

ШЛЯ′ХТА *ж.* Частка вёскі, дзе жыла шляхта. Бел.

ШНУРЫ′ *мн.* Урочышча. Раней быў хутар. Перш.

ШПІГУНО′В РОГ. Урочышча. Ст.

ШТАНЫ′ *мн.* Урочышча. Ст.

ШУ′ЛЬЦОВА Я′МКА. Возера. Бер.

ШУМКО′ВЭ *н.* Урочышча. Бел.

ШЧУ′ЧЧЭ *н.* Возера. Бел.

ЯСЭНУВЭ′Ц *ж.* Балота. Дубай

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Бел. — в. Белавуша
Бер. — в. Беражное
Бухл. — в. Бухлічы
Маньк. — в. Манькавічы
Перш. — в. Першамайск
Рэч. — г. п. Рэчыца
Ст. — г. Столін

*Ф. Д. КЛІМЧУК*

# З МІКРАТАПАНІМІІ ВЁСАК БЕЛАЯ ДУБРОВА І МАХНАВІЧЫ

**Мікратапонімы в. Белая Дуброва Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці.**

БЕ′ЛЫ КА′МЕНЬ. Урочышча. Паводле падання, тут знаходзіўся белы камень, які спрыяў атрыманню вялікага ўраджаю; гаварылі, што белагрудаўцы (мясцовыя жыхары) яго выкапалі і ў сваёй белагрудаўскай зямлі захавалі.

БІРЁЗЫВЫЙ МОСТ. Мост праз раку; лес навокал.

БІРЯГІ′ *мн.* Луг.

БЛА′НКА *ж.* Лес.

БЛІ′ННІК *м.* Балота.

БЫЛЬША′Я КЛЯУСІ′ХА. Луг.

ГА′ЛНАЕ БАЛО′ТА. Балота ў лесе.

ГАРАДО′К *м.* Узвышаная частка вёскі.

ГАЎРІ′ЛІНА БАЛО′ТА. Балота.

ГЫРБА′ТЫ МОСТ. Мост праз раку; лес навокал.

ДА′ЧКІ БЛІ′ЖНІЯ. Луг.

ДА′ЧКІ ДА′ЛЬНІЯ. Луг.

ДЗЕГЦЯВО′Е БАЛО′ТА. Сенажаць, балота.

ДЗЕ′ДНАЕ БАЛО′ТА. Балота.

ДО′МІКІ *мн.* Новая частка вёскі.

ЖАЎЛАЧКІ′ *мн.* Лес.

ЗАВІ′ДАЎКА *ж.* Поле.

ЗАМАХАВА′ЦКАЕ ПО′ЛЕ. Поле.

КАЗІ′НА *н.* Луг.

КАЗІ′НАЎКА *ж.* Вуліца, жыхары якой трымалі шмат коз.

КАЗІ′НКА *ж.* Вуліца; *гл.* Казінаўка.

КАЗЛО′ЎШЧЫНА *ж.* Лес і поле.

КАНДРАШЫ′ *мн.* Кустарнік і поле.

КАНЧА′НІЕ *н.* Частка вёскі.

КАЦЕ′ЛКА ДРУГА′Я. Луг.

КАЦЕ′ЛКА ПЕ′РВАЯ. Луг.

КАЦЕ′ЛКІ *мн.* Луг.

КЛЮ′ЧА *ж.* Луг.

КРАСАКО′ЎКА *ж.* Частка вёскі.

КРЕ'СЦІ *мн.* Лясок.
КРУГ *м.* Поле, кустарнік.
КУЗУМІРО'Ў РУЧЭ'Й. Роў.
КУ'РСАВА *ж.* Луг.
КУТУРЁВА БАЛО'ТА. Балота і сухадол.
ЛАБАКО'Ў ЛАЖО'К. Балота.
ЛАГІ' *мн.* Поле.
ЛАЖО'К *м.* Балота.
ЛУГ *м.* Луг.
МАХІО'НАВЫ КАНДРАШЫ'. Кусты, поле; *гл.* Кандрашы.
НО'ВАЕ ПАЛО'СЫ. Поле.
НО'ВЫЙ ПАСЁЛАК. Частка вёскі.
НО'ХАНАВА ПА'СЕКА. Кустарнік і луг.
ПАЖЭ'ЖНЯ *ж.* Луг.
ПАНІЗО'ЎКА *ж.* Частка вёскі.
ПА'НСКІЙ ЛУГ. Луг.
ПАСЯРЁДАК *м.* Частка вёскі.
ПАХВІ'НКІН ЛАЖО'К. Кустарнік, сенажаць.
ПЕНЬКАМО'ЧЧА *н.* Сасоннік, дзе раней мачылі пяньку.
ПІРЯБО'ІНА *ж.* Луг.
ПІРЯВО'З *м.* Луг.
ПО'ЛЫСЫ *мн.* Поле.
ПРІЛЁПАЎКА *ж.* Поле.
ПРО'ГЛЕНЬ *ж.* Месца, дзе знаходзілася калгасная ферма.
ПРУДЗІ'ШЧА *н.* Лес каля ракі.
ПЫДНЯБЁСАВА *н.* Лес.
П'Я'НАЯ ВУ'ЛІЦА. Вуліца, на якой некалі жылі плотнікі.
РАСКО'СЫ *мн.* Лес і лужок.
САСО'ННІК *м.* Лес.
САХО'НАВА БАЛО'ТА. Сенажаць.
САХО'НАВЫ КУСТЫ'. Кустарнік.
СЕ'НЬКІНА ЛУКА'. Луг.
СЛАБАДА' *ж.* Частка вёскі.
СТАРО'СЦІН ВУ'ГАЛ. Луг.
СТРЕ'ЛКА *ж.* Лес і луг.
ХРЕ'СЬЦІ *мн.* Лясок.
ХУТЫРЯ'НСКАЕ БАЛО'ТА. Балота.
ЦЕХНАВЕ'ШЧЫНА *ж.* Лес.
ЧУКІ'ЛІНЫ КАНДРАШЫ'. Кусты і поле; *гл.* Кандрашы.
ШКВА'РАВЫ КАНДРАШЫ'. Кусты і поле; *гл.* Кандрашы.

**Мікратапонімы в. Махнавічы Мазырскага раёна Гомельскай вобласці.**

ГЛІ'ННЭ *н.* Лес і поле.
ДЗЕРБІ'НКІ *мн.* Лес і поле.

ЗА'БОЛОЦЬЕ *н.* Частка вёскі.
ЗДО'РЫК *м.* Месца, дзе ў вайну закопвалі сала.
ЗЕЛЁНЫ МОХ. Лес і поле.
КАБЗАРЫ'ХА *ж.* Лес і поле.
КАМЧА'ТКА *ж.* Частка вёскі.
КАЧУ'РА *ж.* Лес.
КРА'СНЭ *н.* Лес.
КУРГА'НКІ *мн.* Урочышча з курганамі.
ЛЕДНА'Я *ж.* Лес і поле.
ЛІЦІ'ХА *ж.* Лес.
ЛУКАШО'ВЫЕ КРУГІ'. Лес і поле.
НА ПЕРСЦЫ'. Урочышча; *гл.* Персцец.
НО'ВАЯ ВУ'ЛІЦА. Частка вёскі.
ПАДЛЯ'ВІЧЫ *мн.* Лес і поле.
ПАЛЕ'ТОК *м.* Поле.
ПАЧАРЦЕ'НЬЕ *н.* Лес і поле.
ПЕРСЦЕ'Ц *м.* Урочышча з курганамі.
САЛАМ'Я'НКІ *мн.* Лес і поле.
СЕРАШО'ЎКА *ж.* Частка вёскі.
СО'ЛАМ'Е *н.* Лес і поле.
ТХАРЫ'НЕЦ *м.* Лес, раней быў хутар.
ЦЕРАБУ'НЬСКІ ЛЕСО'К. Лес.
Я'ЗВІНА *ж.* Лес.
Я'ЗВІНЫ *мн.* Лес.
Я'МНІШЧА *н.* Лес.

*Н. М. ЛЯВОНЧЫК*

# МІКРАТАПОНІМЫ ВЁСКІ ЗААЗЕР'Е

Вёска Заазер'е знаходзіцца ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці. У мінулым — гэта зусім невялікае, з семнаццаці хат, паселішча на беразе безыменнага возера. Зараз у вёсцы 40 двароў. Ёсць васьмігадовая школа, магазін, жывёлагадоўчая ферма. З трох бакоў да вёскі падступае спрадвечны бор уперамежку з бярэзнікамі, паміж якімі знаходзяцца большыя або меншыя палі — даўнейшыя надзелы, што належалі сялянам. З чацвёртага боку вёскі пачынаецца вялікае балота, што цягнецца да Маладзечна і Вілейкі.

У сувязі з меліярацыйнымі работамі шмат у чым змяніўся навакольны ландшафт. Назаўсёды зніклі гаючыя, сцюдзёныя крыніцы, прапалі зараснікі лазы і вольхі, дзе можна было схавацца ў цянёк ад спякотлівага сонца. Асушана таксама і возера, сёння пра яго існаванне сведчыць толькі назва вёскі.

АКО'ПЫ *мн.* Поле за вёскай. У гады Вялікай Айчыннай вайны на гэтым месцы былі акопы. З часам яны зараслі травой, бярозкамі і сасонкамі-самасейкамі. У 60—70-х гадах кусты выкарчавалі, зямлю зраўнялі бульдозерам і з'явілася поле, якое назвалі Акопамі. *Акопаў даўно німа, а вот поля завецца Акопамі.*

АМША'РЫНА *ж.* Нізкае забалочанае месца ў Ляўкоўскім лесе. *Летам у Амшарыня вады пашці што німа.*

АСЕ'ЛІЦА *ж.* Поле за агародамі, дзе раней былі сенажаці вяскоўцаў.

АСТА'ПАЎ ХУ'ТАР. Лес на месцы сядзібы селяніна Астапа.

АЭРАДРО'М *м.* Поле на тым месцы, дзе быў аэрадром для сельскагаспадарчых самалётаў.

БАРАВАЯ *ж.; гл.* Баравая дарога.

БАРАВА'Я ДАРО'ГА (БАРАВА'Я). Дарога на чыгуначную станцыю Уша праз бор.

БАРА'КІ *мн.* Малады сасоннік уперамежку з бярэзнікамі ля Трыгузеўскага лесу. Даўней на гэтым месцы сапраўды былі нейкія баракі.

БАРСУ'ЧЧА *н.* Балота з сенакосам у лесе пад Вілейкай.

БЕ'ЛЫЯ ЛУ'ЖЫ. Участак дарогі з Заазер'я ў Пушчу, дзе пасля дажджоў стаіць чыстая вада.

БОʹХАНАВА *н.* Журавінавыя і брусні́чныя мясціны ў Пушчы.

БРОД *м.* Неглыбокае месца ў рэчцы з цвёрдым дном, якое служыць у якасці броду. *Праз Ушу на Гарбацца ёсь масток для лехкавых машын, а скаціну пераганяюць бродам.*

ВАЎКАЎНЯʹ *ж.* Частка густога лесу каля Пасек, дзе былі пасткі для лоўлі ваўкоў.

ВІШНЯКІʹ *мн.* Урочышча па дарозе на Вязынь. Некалі тут знаходзілася сядзіба чалавека па прозвішчы Вішняк.

ВЫʹГАНЧЫК *м.* Зараснік арэшніку на месцы, дзе раней быў невялікі выган.

ВІЛЕʹЙСКІ ГАСЦІʹНЕЦ. Бітая дарога на Вілейку праз Тукайлаў лес для пешаходаў і машын.

ГАНАВІʹЦЫ *мн.* Сенакос за Ляўкоўскім лесам.

ГАРАʹ *ж.* Участак дарогі Вязынь — Маладзечна на тым месцы, дзе раней была пясчаная гара.

ГАРБАʹТКА *ж.* Сенакос на балоце каля р. Уша.

ГАРЫʹЦА *ж.* Частка поля за р. Альхімаўка. Раней тут сапраўды было ўзвышанае месца з вялікімі валунамі. Зараз поле роўнае, камяні звезены да алешніку.

ГАСЦІʹНЕЦ *м.* Старая дарога з в. Заазерʼе на Маладзечна.

ГОʹРКІ *мн.* Лес і поле на ўзгорках пад в. Рашаткі. *Ля Завозяр скрось месца роўная, ля Рашаткоў пагуркі нівялікія з лесам і полям. Вот і кажуць людзі Горкі.*

ГРАНІʹЦА *ж.* Дарога, што аддзяляла надзелы зямлі ад лесу. *Граніцу пакідалі німалую, кап маглі слабодна разьмінуцца на падводах.*

ГРЭʹБЛЯ *ж.* Участак дарогі на Маладзечна ад лесу да маста праз р. Уша. Раней тут была грэбля.

ДАНІʹЛІШЫН БЯРЭʹЗНІК *м.* Бярэзнік каля хутара, які належаў сялянцы Данілісе.

ДОʹЎГАЯ ВЕРАЦЯЯʹ. Пясчаная града сярод балота. У складзе мікратапоніма захавалася слова *верацяя* ʼпрадаўгаватае ўзвышша сярод балотаʼ, якое ў мясцовай гаворцы выйшла з ужытку, аднак досыць шырока вядома ў іншых беларускіх гаворках.

ДРУГАʹЯ ЛЕСНІЧОʹЎКА. Участак лесу пад Вілейкай за другой прасекай. *Гл.* Першая лесні́чоўка.

ДУʹРАЎСКАЯ ГАРАʹ. Крутая гара за в. Сядзіца каля тарфянога балота. *Сама цяжэй праехаць сь сенам праз Дураўскую гару, бо яна пяшчаная.*

ЕʹЛЬНІК *м.* Выган у другім канцы вёскі. *Елкі цяпер на выганя ні растуць, а Ельнікам празвалі.*

ЖЫДОʹЎСКАЕ ПОʹЛЕ. Лес і поле па дарозе на Маладзечна.

ЗАБАЛО'ЦЦЕ *н.* Частка в. Сядзіца, якая знаходзіцца за балотам. *Забалоцьцям завуць той канец Сядзіцы, што за канавай.*

ЗАБАЛО'ЦКІЯ *мн.* Людзі, якія жывуць за балотам. *Забалоцкія яшчэ ня выгналі скаціну на выган.*

ЗА'ГАРАТКА *ж.* Месца ў лесе. Спачатку гэта быў загароджаны кусок поля, на якім сеялі збожжа, садзілі бульбу. Цяпер месца зарасло соснамі і бярозамі. *У Юстыніным леся ёсь месца, якоя завуць Загаратка.*

ЗА ДАНІ'ЛІШЫНЫМ. Участак поля за Данілішыным бярэзнікам.

ЗА МЯШКІ'НЦАВЫМ. Участак Ляўкоўскага лесу, які пачынаецца за Мяшкінцавым бярэзнікам. Мяшкінец — прозвішча польскага асадніка.

ЗА НЕ'СЦЕРАВЫМ (НЕ'СЦЕРКАВЫМ). Участак лесу за Несцеравым (Несцеркавым) хутарам.

ЗА ЯВО'РСКІМ. Участак лесу, за якім раней была сядзіба асадніка Яворскага.

ЗЯЛЁНЫ ГАРАДО'К. Частка в. Заазер'е, дзе захаваліся панскія прысады з таполяў і лістоўніц. Гарадком назвалі па той прычыне, што хаты тут пабудаваны ў 60-я гады і адрозніваюцца па планіроўцы ад хат старажылаў.

КАБЫ'ЛЬЛЯ ЛОГ. Баравіковыя мясціны каля Пасек.

КАЛО'ДДЗЕ *н.* Сенажаць паміж Акопамі і Хутарамі.

КАПЦЫ' *мн.* Лес. Вакол лесу былі пастаўлены межавыя знакі — капцы.

КАРЧМА' *ж.* Месца каля крыжавых дарог, дзе раней знаходзілася карчма. Цяпер у Карчме пабудавалі магазін.

КЛІНО'К *м.* Лужок паміж дзвюма сядзібамі, які мае форму кліна.

КРУГЛЯКІ' *мн.* Поле ля в. Трыгузі. *Круглякамі гэта поле завуць, муся, таму, што некалі жылі тут дзьве сям'і (брат і сястра), а на іх казалі Кругляκі.*

КУРГАНЫ' *мн.* Сенакос за в. Сядзіца з узвышанымі і нізіннымі мясцінамі.

ЛАТЫ'ГАЛЬСКАЯ ДАРО'ГА. Дарога на в. Латыгаль.

ЛЯ ГАРЭ'ШНІКУ. Кавалак сенажаці, дзе рос куст арэшніку.

МАСТЫ' *мн.* Забалочаная дарога з мастамі і кладкамі ад чыгуначнай станцыі Уша да в. Сядзіца і в. Заазер'е, а таксама лес і нізкія мясціны каля гэтай дарогі. *Восеньню на Масты на машыня ні праехаць.*

МАЧУ'ЛЫ *мн.* Сенакос ля Дураўскай гары. Даўней тут была сажалка, дзе мачылі пяньку.

МЯШКІ'НЦАЎ БЯРЭ'ЗНІК. Бярэзнік, які належаў раней асадніку Мяшкінцу.

НЕ'СЦЕРАЎ (НЕСЦЕРКАЎ) ХУТАР. Лес, які належаў раней селяніну Несцеру (Несцерку).

ПАГУЛЯ'НКА *ж.* Лес, дзе раней былі хутары пад такой назвай.

ПАД БЯРО'ЗАЙ. Поле каля сасонніку, дзе раней расла вялікая бяроза. *Бярозу сьпілавалі, калі насыпалі дарогу на Латыгаль, а поля начай не завецца, як Пад бярозай.*

ПАД ХУТАРА'МІ. Поле перад лесам — даўнейшымі хутарамі.

ПА'ЛЬМА *н.* Участак вялікага лесу пад Вілейкай.

ПА'СБІШЧА *н.* Лес, балота і поле, дзе пасвілі жывёлу.

ПА'СЕКІ (ТУКА'ЙЛАВА ПО'ЛЕ) *мн.* Малады бярэзнік і сасоннік, а таксама поле пры іх. Калісьці тут быў вялікі бор, які мясцовыя жыхары высеклі пад раллю і назвалі яе Пасекі. Зараз на гэтым полі падняўся пасаджаны малады лес, а ранейшая назва Пасекі засталася. *Гл.* Тукайлава поле.

ПЕ'РШАЯ ЛЕСНІЧО'ЎКА. Участак лесу пад Вілейкай за першай прасекай, дзе раней была леснічоўка. *Гл.* Другая леснічоўка.

ПРАГО'Н *м.* Дарога між гародамі, па якой праганяюць жывёлу на пашу.

ПУ'ШЧА *ж.* Вялікі лес пад Вілейкай.

ПЧАЛЬНІ'К *м.* Лес, дзе стаялі саўгасныя вуллі з пчоламі.

РАСЦЯРО'БЫ *мн.* Поле на месцы распрацаванага лесу.

РАШАТКО'ЎСКАЯ ДАРО'ГА. Дарога праз Пасекі у в. Рашаткі.

РУСА'НАВА *н.* Альшэўнік каля дарогі на Латыгаль, які раней належаў селяніну па імені Русан.

САД *м.*; *гл.* Саўхозны сад.

САЎХО'ЗНЫ САД (САД). Сад саўгаса «Вілія» у в. Заазер'е.

СІРО'ТАВА *н.* Надзел зямлі на Пасеках, які належаў асадніку Сіротаву.

СІ'ТНІКІ *мн.* Урочышча ў лесе пад Трыгузямі. Раней там быў хутар пад такой назвай.

СКРЫ'НКА *ж.* Участак поля каля Хутароў. Раней на гэтым полі быў лес, які па сваіх памерах нагадваў скрынку (квадрат).

СКУРАТЫ' *мн.* Поле па дарозе на Латыгаль. Даўней на гэтым месцы былі палоскі хмызнякоў, а паміж імі кавалкі зямлі. Магчыма, назва Скураты мае сувязь са словам *скурат,* што ў дадзеным выпадку значыць 'невялікі ўчастак зямлі'. Зараз хмызнякоў ужо няма, але назва засталася.

СМО'ЛЬНІЦА *ж.* Гразкае месца ля в. Кутляні. Даўней тут бралі смалу.

СЦЕ'НКА *ж.* Загуменная дарога.

СЯДЗІ'БЫ *мн.* Поле каля маяка. Даўней тут сапраўды былі

сядзібы (хутары). З часам жыхары гэтых сядзіб пераехалі жыць у вёску. Мясцовасць зраўнялі і стала яна звацца Сядзібамі.

ТРАХІ'МАЎ ЛЕС. Лес, які належаў селяніну Трахіму.

ТРЫГУ'ЗЕЎСКАЯ ДАРОГА. Дарога на в. Трыгузі.

ТРЫГУ'ЗЕЎСКІ ЛЕС. Лес ля в. Трыгузі.

ТУКА'ЙЛАВА ПО'ЛЕ. Другая назва поля Пасекі. Названа па прозвішчы яго ранейшага ўладальніка. *На Тукайлавым полі грэчку жжалі. Гл.* Пасекі.

ТУКА'ЙЛАВА ХА'ТА. Урочышча ў Тукайлавым лесе. У даўнія часы памешчык па прозвішчы Тукайла за добрую службу даў у лесе парабку Ляксандру невялікі зямельны надзел. Сяляне празвалі парабка Тукайлам, а яго сядзібу Тукайлавай хатай.

ТУКА'ЙЛАЎ *м.; гл.* Тукайлаў лес.

ТУКА'ЙЛАЎ ЛЕС (ТУКА'ЙЛАЎ). Лес, які належаў памешчыку Тукайлу.

УЗЛО'ЖКІ *мн.* Частка выгана, якая выходзіць за гумны.

УЛЯ'НЧЫН БЯРЭ'ЗНІК. Бярэзнік, які належаў сялянцы Уляне.

ФРАНЦУ'ЗСКАЯ ГАРА'. Узгорак з парослым на ім хвойнікам каля Трыгузеўскай дарогі. Старажылы сведчаць, што тут пахаваны астанкі французаў — удзельнікаў Айчыннай вайны 1812 года.

ХРУШЧО'ВА *н.* Журавінавыя мясціны ў Пушчы.

ХУТАРЫ' *мн.* Агульная назва вялікага ляснога масіву і пасадак з прылягаючымі да іх палямі. Даўней гэты лясны масіў і палі (надзелы) належалі сялянам. Кожны надзел меў назву па імені ўладальніка.

ЦІМАХВЕ'ЕВА АСЕ'ЛІЦА. Аселіца, якая належала селяніну Цімахвею.

ШТАНЫ' *мн.* Поле, якое знаходзіцца паміж двума бярэзнікамі, а трэці клінам уразаецца ў яго.

ШЫ'ЛАЎШЧЫНА *н.* Частка поля ў Пасбішчы, акружаная з усіх бакоў лесам.

ЮЛЯ'СЬКАЎ ЛЕС. Лес, які належаў селяніну Юляську.

П. А. МІХАЙЛАЎ

# З МІКРАТАПАНІМІІ ПАНЯМОННЯ

У гэтым артыкуле падаюцца мікратапонімы в. Морына і в. Крывічы Іўеўскага раёна і г. п. Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці [1]. Матэрыял быў сабраны намі ў 1977 г. у час дыялекталагічнай экспедыцыі па выяўленні традыцыйных ачагоў ганчарнай вытворчасці на тэрыторыі Гродзеншчыны і запісах ганчарскай лексікі.

АБАЛО′НЬ *ж.* Сенажаць. Морына.

АДЗЕ′ЛАК *м.* Поле. Крывічы.

АДО′ХІНІ *мн.* Сенажаць. Крывічы.

АДРЫ′НІШЧА *н.* Сенажаць. Морына.

АЛЁС *м.* Сенажаць. Крывічы.

АЛЦАВЫ′Я *мн.* Луг. Крывічы.

АСАВЕ′Ц *м.* Поле. Крывічы.

АСО′КІ *мн.* Поле. Крывічы.

АЎСЯ′НІКІ *мн.* Сенажаць. Морына.

БА′ЙКАЎШЧЫНА *ж.* Частка вёскі. Морына.

БЕ′ЛАЁ *н.* Поле. Крывічы.

БРО′ДЗІШЧА *н.* Сенажаць. Мір.

ВАЛО′ДЗЕРАВО *н.* Сенажаць. Мір.

ВЕ′РХНІЯ *мн.* Сенажаць. Морына.

ВО′ПЛАВО *н.* Луг. Крывічы.

ВОЎЧАБАЛО′ЦКА *ж.* Дарога; даўней звалі Во́ўчэ Бало́то. Мір.

ВЫ′МАКЛІ *мн.* Паша. Мір.

ГАРАБ′Ё *н.* Поле. Морына.

ГАРАНЯ′ *ж.* Частка вёскі. Морына.

ГАРА′ЧКІ *мн.* Лес і сенажаць. Мір.

ГАРЫ′ЛІКІ *мн.* Частка вёскі. Крывічы.

ГАЎСЯ′НІКІ *мн.* Поле. Крывічы.

ДВОР *м.* Частка вёскі і поле (былая панская зямля). Морына.

ДЗЯМЯ′НАЎШЧЫНА *ж.* Частка вёскі. Крывічы.

ДО′ЎГІ ЛУГ. Паша. Мір.

[1] Мікратапонімы г. п. Мір запісаны намі ад У. Е. Раптоўскага, 1900 г. н.

ЖУКО'Ў БАРО'К. Лес і сенажаць. *Жукóў Барóк з вякóў пакóў так завецца.* Мір.

ЗА ГО'РКАЮ. Частка вёскі. Крывічы.

ЗАДВО'РЫШЧА *н.* Поле. Крывічы.

ЗАКАРЧО'МЦЫ *мн.* Частка вёскі; там некалі стаяла карчма. Морына.

ЗА ЛЕСНІКО'М. Лес. Морына.

ЗА РЭ'ЧКАЮ. Сенажаць. Мір.

ЗАТРО'ЙЦА *ж.* Частка пасёлка. Мір.

ЗБІШЧА' *ж.* Раней было поле, зараз расце лес, ёсць участкі непрыгоднай зямлі. Мір.

ЗЛО'ТНІКАВА ГО'РКА. Поле. Мір.

ЗРЭ'МНАЕ *н.* Сенажаць. Крывічы.

КА'ДАЎБІШЧА *мн.* Поле. Морына.

КАЛО'ДЗЕРЫШЧА *мн.* Даліна. Мір.

КА'ЛЯ ЛАМАВІ'СТАГА БАЛО'ТА. Лес. Морына.

КА'ЛЯ ПРАГО'НА. Поле. Морына.

КА'ЛЯ ЧО'РНАГА БРО'ДА. Лес. Морына.

КАПЛА'НШЧЫНА *ж.* Сенажаць. Морына.

КАРО'ТКІ ЛУГ. Паша. Мір.

КАСАВУ'ШКА *ж.* Палявая дарога. Мір.

КЛАТКІ' *мн.* Поле. Крывічы.

КНІЖЫ'БЕРАЖКІ *мн.* Сенажаць. Морына.

КО'НСКА ГАРА'. Курган за могілкамі. Мір.

КРАПІВА' *ж.* Сенажаць. Крывічы.

КРЫНІ'ЧНАЯ *ж.* Сенажаць. Мір.

КУ'ПЧА *ж.* Сенажаць. Морына.

ЛАМАВІ'ТАЕ БАЛО'ТА. Балота. Морына.

ЛЕ'МНІК *м.* Поле, сенажаць і лес. Мір.

ЛІ'ПКІ *мн.* Поле. Крывічы.

ЛІ'ПНІКІ *мн.* Поле. Крывічы.

ЛУГ *м.* Агульная назва заліўных лугоў уздоўж Нёмана. Крывічы, Морына.

ЛУКА' *м.* Сенажаць. Крывічы.

МАСТЫ'Р *м.* Паша па-над Нёманам. Крывічы.

МАШЭ'ЧКІ *мн.* Поле і лес. Мір.

МІЗА'РА *ж.* Татарскія могілкі. Мір.

МІРА'НКА *ж.* Рака. Мір.

МІРА'НСКА ДАРО'ГА. Дарога да р. Міранка. Мір.

НА'ВОЗЫ *мн.* Поле. Морына.

НАВО'ІШЧА *мн.* Поле. Крывічы.

НАКРУ'ГЛЕНЦЫ *мн.* Луг. Крывічы.

НА ЛАШЧЫ'НЦЫ. Поле. Крывічы.

НА МАРДАСО'ВАЙ. Сенажаць. Морына.

